# ЗМЕСТ Крыніца

# Мікола ГУСОЎСКІ



*Што наканована будзе! Гаспод непадкупны. Прыйдзе і помста і кара на ўсякую погань.*

*ЦЫТАТНІК*

**ПЕСЬНЯ ПРА ЗУБРА**

ГОЛАС З ЭПОХІ АДРАДЖЭННЯ

ПАЭМА ЖЫЦЦЯ

АЎТОГРАФ ПАЭТА





# ПЕСЬНЯ ПРА ЗУБРА

***Міколы Гусавяніна***

**1**

**Будучы ў Рыме, зь вялізным натоўпам пасполу,**
**Бачыў аднойчы я гульні, што ўсе з захапленьнем віталі:**
**Жорсткую бойку быкоў, гледачам на пацеху.**
**Лётныя стрэлаў раі ды бліскучыя дзіды**
**Ранілі целы жывёлаў і боль ім чынілі нясьцерпны,**
**Аж вар'явалі ахвяры, іх лютасьць, як пена, ўськівала...**
**Тут вось, пакуль я глядзеў на быкоў ашалелых,**
**Спуджаных болем ды пляскам далоняў з трыбунаў,**
**З нашых сказаў хтось: "Зусім як на ловах зубровых".**
**Я пагадзіўся, усьлед і пачаў успаміны**
**Ходаньняў, дзіўна падобных, із волатам-зьверам.**
**Як у той прыказцы, мне-ж мой язык і пашкодзіў:**
**Ўсьлед атрымаў я загад без адмовы й адкладу**
**Выліць у верш мой спамін пра зубровыя ловы.**
**Бачыце, я — між паэтаў прыпадкам выбраны —**
**Песьню складаю аб нашым зьвяры невядомым,**
**Дзівам зь вякоў захаваным пад зоркай паўночнай...**
**Ён, што абвешчаны ў сьвеце крывавым забойцам,**
**Часта ў мяне выклікаў смак жуды ці агіды,**
**Мне так нясвомы, і сорам прызнацца, што скуру**
**Часам уцёкамі я ратаваў, ажно людзі**
**Ўсьлед мне плявалі, бо ў нас баязьліўцаў ня любяць.**

## ЦЫТАТНІК

*Мікола Гусоўскі стварыў упершыню гістарычна дакладны і паэтычна праўдзівы вобраз Беларусі, напісаў пра яе своеасаблівы першы энцыклапедычны нарыс. "Песня пра зубра" — каштоўны самародак славянскай паэзіі, у якім народная вобразна-паэтычная стыхія, шматвяковая мудрасць беларускага народа, яго этыка і эстэтыка былі аплодненыя і ўзбагачаныя лепшымі дасягненнямі сусветнай паэзіі, еўрапейскай гуманістычнай думкі.*

**Вячаслаў Чамярыцкі**

*Некаторыя польскія аўтары яшчэ ў XIX стагодзьдзі выказвалі дапушчэньне, што Гусавянін паходзіў з Польшчы, з-пад Кракава. Але гісторык польскае літаратуры Ю. Каленбах у 1922 годзе зьвярнуў увагу на тое што польскае паходжаньне запярэчвае ў паэме сам паэта. Ён кажа, што рос пры бацьку на лясных прыднепроўскіх прасторах краю, які тады называўся Літвою. а цяпер Беларусяй.*

*Зь "Песьні" відаць, што напісанае ў ёй было паэтам глыбака перажытае ды выяўнае ад маленства. Вось чаму Ю Каленбах дайшоў да пераканаьня, што паходзіў Гусавянін напэўна ня з Польшчы, але зь Вялікага Княства Літоўскага ды зь ягоных беларускіх земляў, а не з Аўкштоты ці Жамойці.*

**Вітаўт Тумаш**

## ГОЛАС З ЭПОХІ АДРАДЖЭННЯ

**"Песня пра зубра" Міколы Гусоўскага — найвыдатнейшы ўзор старажытнага пісьменства Беларусі на лацінскай мове, якая доўгі час, побач са стара-беларускай і царкоўнаславянскай, выконвала на нашых землях функцыі літаратурнай.**

**Напісана паэма на пачатку 20-х гадоў XVI ст. па вяртанні паэта з Рыма, куды ён ездзіў у складзе дыпламатычнай місіі. Упершыню апублікаваная ў складзе зборніка твораў М. Гусоўскага ў 1523 г. у Кракаўскай друкарні Ераніма Віетара пры дапамозе каралевы Боны Сфорца, спрыянні яе сакратара Людовіка Альфія і гнезненскага каноніка Карла Антонія Банонскага.**

**Шлях паэмы да сучаснага чытача быў не просты. Як высветліў аўтарытэтны навуковец В.І. Дарашкевіч, паўнавартаснае адкрыццё творчасці М. Гусоўскага адбылося толькі ў XIX ст., пасля перавыдання "Песні пра зубра" Я. Пельчарам у 1894 г.**

**Галоўная ідэя твора не ў грамадскай сферы, як часцей за ўсё бывае, а ў сферы эстэтыкі. Для паэта на першым месцы творчы эксперымент, асваенне новай, зададзенай звонку тэмы. Як прызнаецца ён сам, штуршком да абрання ў якасці аб'екта творчасці велічнай постаці зубра паслужылі знешнія абставіны**

*Паэт усведамляў, якая адказная місія яму даручаная: першаму ад імя свайго народа сказаць перад "адукаванай Еўропай" сваё паэтычнае слова, пасеяць гэтае "першае семя на добрае племя" І ён яго пасеяў.*

**Язэп Семяжон**

*Гусоўскі належыць да ліку тых рэдкіх, абраных небам несмяротных, якія даюць нашчадкам, усім наступным пакаленням самае важнае самаадчуванне, што і мы — вартыя, бо і мы далі свету! А такое адчуванне неад'емна павінна быць у народа, бо нішто так не жывіць неабходную нацыі самапавагу, як усведамленне велічы свайго гістарычнага шляху*

**Ніл Гілевіч**

*"Песня пра зубра" належыць да тых твораў паэзіі, якія прынята называць паэмамі жыцця. У кожнага пісьменніка можа быць толькі адзін такі твор, часам ён бывае адзіным, і тым не менш імя аўтара назаўжды застаецца ў пантэоне роднай літаратуры. Гусоўскі пісаў паэму свайго жыцця па заказу, пісаў спяшаючыся, пісаў на чужыне і на чужой мове, але ствараў ён яе ўсё маладое жыццё і не на чужыне, а ў родным краі, разам са сваім народам вось чаму народ аказаўся адрасатам і ўладальнікам гэтага твора.*

**Уладзімір Калеснік**

Тут, з ганаровым заданьнем, ды з вялікаю мо небясьпекай,
Змушаны буду я выявіць зручнасьць са зброяй
Гэтак нязвычнай руцэ, муштраванай на луку.
Ўзяў, дрыжучы, я пяро і баюся пад гэтым цяжарам
Ці мо палегчы, няўдольнасьць засьветчыўшы гэтым,
Ці можа дзёрскасьцяй страх патаптаць і скарыцца
Волі вялікага мужа, каму забавязаны ўсім я.
З гэтаю думкай буджу я крыніцу натхненьня:
Рынь і паймкні жыцьцядайнай вадою айчыны,
Піць дай пасеву майму на някра́неным полі!
Бо-ж на зямлі Італійскай, даўней нам нязнанай,
Мне загадалі тварыць маю песьню, з пакорай
Я пагадзіўся і вось пільна ўзяўся за працу,
Нат без надзеі, што ўсё будзе ў ёй дасканалым.
Ўсё-ж запытацца хачу я, і болей нічога,
Як, чытачу мой, даць рады зь пяром няслухмяным?
Ведаў дасюль я-ж адно лёт аперанах стрэлаў,
З гэтых бачын устае уваччу вобраз бою,
Стычкі сьмяротныя, рой дзідаў імклівых, гудлівых...
З лукам мне радзіць лягчэй, а табе із пяром наравістым.
Роўнымі быць мо маглі-б мы з табой у майстэрсьцьве.
Што-ж, як ня ўсё мне ўдасца, дык права за вамі:
Рвеце бязьлітасна сказ чужаземца-няўмекі:
Ёсьць падабенства ў пяра і страла у абодвух
Роўныя джалы й калі іх напоіш атрутай,
Ранкі даволі малой, каб паранены зьгінуў.

Вейкі стулю й быццам бачу іх стойбішча знову:
Ельнік правечны і ён, паміж елкаў схаваны.
Грозны, пануры, як бор, як бароў небясьпека.
А зараве, зарыкае і ў верш уварвецца
Рэхам раскоцістым гром, вось і гармонія песьні.
Хай яна поўніць радкі, аж прыгледземся пільна

2

Пушчаў далёкай Літвы тут нязнанаму дзіву.
Целам сваім маналітным ён гэткі вялізны,
Што, калі з ранай сьмяротнай падзе на калены й сканае,

— парада ці загад плоцкага біскупа Эразма напісаць маляўнічы аповед пра паляванне на рэдкага звера-асілка, з тым, каб пазней даслаць гэты тэкст, разам з чучалам, у падарунак папу рымскаму Льву X.

Паэта прывабіла магчымасць, па сутнасці, шчаслівы шанц, паспрабаваць творчыя сілы ў асваенні новай тэмы. М. Гусоўскі, аднак, не абмежаваўся сухім выкананнем пісьменніцкага абавязку. Кіруючыся законамі творчасці, — магчымасцямі сюжэтных хадоў, кампазіцыйных элементаў, мастацкіх дэталяў, – давяраючы сваёй паэтычнай інтуіцыі, ён здолеў на высокім мастацкім узроўні апець прыгажосць Бацькаўшчыны, яе веліч, паказаць гераічнае мінулае свайго народа, уславіць мужных ваяроў і мудрых гаспадароў краіны. Адказваючы арыгінальнай мастацкай формай на эстэтычныя запатрабаванні часу, М. Гусоўскі бліскуча выканаў уласную духоўную місію.

Топіка "Песні пра зубра" надзвычай багатая: блізкая да натуралістычнай перадача паводзінаў зубра перамяжоўваецца з арыгінальнымі пейзажнымі замалёўкамі, апісаннямі бароў, рэк, пушчаў, сцэнамі палявання на звера, дэталёвымі расказамі пра падрыхтоўку пасткі, аповедамі пра народныя звычаі (каларытная сцэна выпрабавання ведзьмы вадой і інш.).

Паэтыка "Песні пра зубра" сінкрэтычная: формы прыгодніцкага жанру (лясныя прыгоды) арганічна спалучаныя з элементамі эпікі, пейзажнай лірыкі. У асобных радках гучыць гумар, сям-там — сатыра і сарказм. Сярод найважнейшых мастацка-кампазіцыйных кампанентаў паэмы — гістарычнае паданне пра Вітаўта, публіцыс-





Трох паляўнічых маглі-б сесьці на йлбе між рагамі.
А параўнаць паспытацца ягоную шыю ці пысу —
Дык параўнаньняў, баюся, такіх і ня знойдзеш.
Жмут барады рыжым вехцем тырчыць з гарлавіны,
Поўныя злосьці застыглай і полымя вочы,
Грыва калматая з плечаў магутных спадае,
Лоб і грудзіну й калены цалкам накрывае.
Возьмем калі-ж параўноўваць малое зь вялікім
Ды як падыйдзе мясцовае ў нас параўнаньне,
Гэта казёл барадаты з распасьвеным целам.
Вось ён які, наш бізон, што ў нас зубрам завецца!
Поўсьці прысмажанай ён, чорнай з бурым, як быццам
Водбліск закалкі ад горна мінулых стагодзьдзяў
Дзіўна, ды ў кнігах пісалі аб ім недакладна,
Я-ж не павінен уявай псаваць тут натуру.
Дзе-ж гэта бачыў хто рожкі ў зубравых храпах?
З выгляду зубар ня праўдзіць свае апісаньні,
Што прыпісаць усю моц намагаліся пысе.
Не, не такі прыгажун мой, бароў нашых слава!
З кнігаў вучыў я славянскіх наш сьвет старавечны,
З граматаў рускіх, пісаных скрозь літарай грэцкай.
Вязь абэцадля народ наш для собскай карысьці
Ўзяў бо у Грэкаў, ды роднае гутаркі гукі
Ў літары ўліўшы чужыя, сабою застаўся.
Кожны-ж народ із глыбокай сваёй даўніною,
Хто-б ён ня быў, а на ім старавечча адбітак...
Ды, як наш зубар, зьвяра мо няма ўжо на сьвеце,
Толькі пад зоркай паўночы іх лёс захаваў нам.
Пліні пакінуў свае апісаньні й зубра, і тура:
"Ў пушчах правечных паўночы вядуцца быкі" — нам ён кажа, —
(Зубрам завуць іх у нас), — старавечныя сьветчаць:
"Стварэў дзічэйшых няма, чымся гэты выраслы
Вольна на травах урочышчаў цар над зьвярыма".
Людзі ў роднай зямлі запэўняюць, што ў сьвеце
Слава аб ім не прайшла, што нідзе ён ня знаны.
"Люты, дзікі, да бізона падобны грывасты"
Пліні нам піша, а больш вам хто іншы раскажа.
Ня сумляваюся, будуць папрокі: "Дзівосныя казкі!"
Што-ж, ці адзін ня дасьць веры ў вялізазнасьць зьвера...
Хто хваляваньняў у пушчах паўночных ня зьведаў,

*Мне цікава, якую Гусоўскі меў дзяржаўна палітычную свядомасць, як, вольны ад нашых цяперашніх ідэалагічных догмаў, ставіўся, прыкладам, да адносінаў паміж Княствам і Масковіяй. Зразумела, што асаблівага піетэту не было "Быццам нявольнік які, маскавіт яго (Вітаўта) зваў уладыкам. " Да трох суседзяў-супернікаў Княства — "татарына, турка, маскавіта"*

*Гусоўскі, як, мабыць, таксама іншыя ягоныя суайчыннікі, ставіўся роўна, з пачуццём гонару і адказнасці за сваю радзіму*

**Пётра Садоўскі**

*Ідэя еднасці еўрапейскіх народаў, услаўленне свабоднай і дзейснай чалавечай асобы, антываенны пафас праблема ўзаемаадносін чалавека і прыроды, развенчванне міфа аб "ілірыйскім дзікунстве" ўсходніх славян і літоўцаў усё гэта ўзвышае асобу М. Гусоўскага да маштабу народных, нацыянальных паэтаў эпохі Адраджэння.*

**Леанід Шчамялёў**

*Living: Markdown italic*

*Рознабаковасць, шчодрасць таленту робяць нашага земляка тыповым прадстаўніком таго бурнага, супярэчлівага часу, які прынята называць Рэнесансам, які знаходзіўся на зломе дзвюх вялікіх эпох Сярэднявечча і Новага часу*

*У антычнай Эладзе сем гарадоў спрачаліся за права лічыцца радзімай Гамера. І нам невядома*

тычная прамова-заклік ("Спынім забойствы!..), малітва да Дзевы Марыі.

Вобразная матрыца паэмы параўнальна сціслая. Вобразы статычныя, бо аўтар яшчэ не ведае дынамікі характару, ён рэалізоўвае схему аб'ёмнасці — шматстайнасці характарыстык і ацэнак.

Найбольш каларытны вобраз князя Вітаўта. У абмалёўцы М. Гусоўскага гэты валадар Вялікага Княства Літоўскага выступае як прадбачлівы дзяржаўны дзеяч, мужны ваяр, што сваім прыкладам натхняе падначаленых, рыхтуе абаронцаў Айчыны. Князь шануе мужнасць, не любіць баязліўцаў. Ён пільна сочыць за выкананнем законаў ("звычаёвага права"), строга судзіць злачынцаў, хабарнікаў, клятваадступнікаў. Вітаўт у інтэрпрэтаванні М. Гусоўскага — набожны хрысціянін, які ваяўніча руйнуе паганскія капішчы, узводзіць бажніцы і закладае манастыры. Дзяржава пры ім дасягае найвышэйшай магутнасці, што дало падставы паэту ўслед за сучаснікамі назваць эпоху яго княжання "залатой парою". Справядлівая захопленасць дзейнасцю Вітаўта суправаджаецца аднак аўтарскай зададзенасцю, запраграмаванасцю. Схематызм вядзе да спрашчэння, а ў паасобных момантах да памылак, як, напрыклад, пры вырашэнні праблемы Вітаўтавага стаўлення да паганскай культуры, дзе ідэалагема паэта перамагае гістарычную праўду.

Героіка-эпічная ўстаўка пра дзеі Вітаўта мела выразна публіцыстычны падтэкст. Праз гэты прыём паэт стварае ўзор, ідэал валадара Вялікага Княства, які ў любых абставінах бароніць Айчыну, народ і паэтаў. М Гусоўскі як бы

*дакладна, дзе менавіта нарадзіўся наш песняр. Гэта, магчыма, і добра, таму што яго радзіма — уся Беларусь.*

**Юры Хадыка**

*Паэма "Песня пра зубра", якую па сіле эмацыянальнага ўздзеяння і паэтычнай бездакорнасці можна паставіць упоравень з найлепшымі ўзорамі сусветнай паэзіі і без якой ужо нельга сёння ўявіць беларускую літаратуру, стала сапраўдным помнікам нашай гісторыі.*

**Янка Сіпакоў**

*Міколу Гусоўскага часам беспадстаўна прыпісваюць да жамойцкае, украінскае або польскае літаратуры, не ўлічваючы відавочных сведчанняў яго беларускага паходжання ў самой паэме. Зубр, на якога ў маладосці паляваў паэт, не вадзіўся ў стэпах Украіны, а рака яго маленства, Дняпро, як вядома, не працякае ні ў Польшчы, ні ў Жамойці. Апрача таго, ідэал паэта — Вітаўт — у палякаў ніколі асабліва не шанаваўся. І, нарэшце, самае галоўнае — беларуская ментальнасць, якою прасякнуты твор і якая фіксуецца на ўсіх узроўнях ягонае будовы.*

**Алесь Жлутка**

**Той не паверыць, і хай супярэчыць, бо праўда —**
**Як ты раскажаш. Спрачацца-ж і дурань патрапіць.**

**3**

**Шмат мог сказаць аб зуброх кожны ў нас паляўнічы.**
**Што-ж да мяне — паляваць я ўжо, хіба, ня буду:**
**Час хваляваньняў мінуў і жыве толькі памяць**
**Сумнага сэрца... Вяртаюся думкай туды я,**
**Ўдзень і ўначы пасткі памяці зноў расстаўляю,**
**Сочачы пільна за кожным каштоўным імгненьнем,**
**Згубленым некалі, сяньня-ж, нажаль, незваротным.**
**Што з тых спамінаў: Вярнуць даўніну немагчыма.**
**Гонішся сьледам за згубленым часам, сьмяротны,**
**І не здагоніш — забіты... Няхай сабе й гіне,**
**Часу бурліваму волі сваёй не накінеш...**
**Што-ж я чакаю? Пара ўжо за працу мне брацца.**
**Вусьцішна ўсё-ткі: начытыкаў чым ты задзівіш?**
**Зьведалі ўсё яны, столькі згарнулі бачынаў!**
**Хай сабе спраўдзяць па кнігах, які зь сябе зубар,**
**Але ды будзе вядомы й мой ім дадатак:**
**Тайніцу крыюць бары й напішу я пра справы,**
**Што не знайсьці вам ні ў кнігах, ні ў граматах даўных.**
**Навет і Паўлюс Дыякан, у Дзеяньнях тых Лянгабардзкіх,**
**Нам аб памерах зубровага цела ня кажа,**
**Піша адно, што на скуры забітага зьвера**
**Спалі — там дзесьці — пятнаццаць ажно паляўнічых!**
**Не захапляўся ніколі ні скураю я, ні рагамі,**
**Як разьбіралі на ловах у пушчы здабычу...**
**Я паляўнічыя сьцежкі разьведаў з маленства,**
**Зьведаў цяжары жыцьця, яго працу й турботы,**
**Собіла мне бо — із Рэчы Пасполітай родам —**
**Край мой гушчарны, ня ў прыклад паэтам даўнейшым,**
**Крокам наважным з канца ў канец перамераць.**
**Змалку вучыўся я ў бацькі майго — зьвералоўцы —**
**Сьцішнай хадою прасочваць лясныя гушчары,**
**Зоркасьцяй вока у логаве зьвера высочваць...**
**Кемлівасьць, нюх — паляваньне бязь іх — гэты кпіны:**
**Ступіш ізь ветрам, а зьвер ужо счуяў, схаваўся.**

**апелюе да сэрца і розуму свайго сучасніка — караля і вялікага князя Жыгімонта, каб ён арганізаваў супраціў іншаземным захопнікам ("дакуль нам баяцца турка!"). У прысвячэнні Боне ён да таго ж адкрыта просіць, каб яна "нараіла свайму яснавяльможнаму мужу" заўжды, нават падчас войнаў і забурэнняў, дбаць пра таленты — вучоных, мастакоў, паэтаў, бо дзяржава "абапіраецца больш на мужнасць духу, чым на сілу цела".**

**Што да вобраза зубра, то тут справядліва гаварыць пра сапраўднае мастацкае адкрыццё паэта. Элементы псіхалагізму, якія дасягаецца праз узнаўленне светаадчування звера-асілка, нутраныя маналогі, далі падставы асобным літаратуразнаўцам (У. Калеснік) бачыць у вобразе зубра, гаспадара пушчаў, — сімвал Беларусі, духоўнай і фізічнай моцы народа. Такі падыход цалкам дапушчальны, але з агаворкай, што гэтае ператварэнне вобраза зубра ў сімвал адбылося незалежна ад аўтарскай волі.**

**"Песня пра зубра" адметная і тым, што ў ёй напоўніцу прагучала грамадзянская пазіцыя аўтара. У вядомым публіцыстычным адступленні "Спынім забойствы!.." паэт уздымае свой голас супраць братазабойчых войнаў, шляхоцкіх звадак, тыраніі, сацыяльнага эгаізму, спачувае долі працоўнага люду. У малітве да Дзевы Марыі, заключным паэтычным акордзе, універсальныя матывы яшчэ больш узмацняюцца: М. Гусоўскі просіць Божую Маці абараніць чалавечы род ад бедаў і няшчасцяў, варожых нападаў, палону, не дапусціць, каб прыпынілася праца чалавека-творцы.**

**Іван САВЕРЧАНКА**





**Колькі-ж ён поту сагнаў зь мяне ўзімку, у сьцюжу,**
**Дзіды з пляча прымушаючы кідаць з разгону:**
**Колькі я сконаў зьлічыў, зграй браханьня начуўся**
**Дзіцем яшчэ, брыдучы сьледам лоўчага-бацькі:**
**Сьцяміў усё: скуль выходзіць мядзьведзь із сям'ёю,**
**Як і калі йдзе вяпрук на папас у дуброву,**
**Пасткі як трэба стаўляць на ласёў палахлівых,**
**Каб ён пятлі не заўважыў і ў сетку ускочыў.**
**Бачыў і чуў, як ад стрэлаў трымцела паветра,**
**Цяжка, з бурчаньнем на сьнег асядала здабыча,**
**Бачыў, як коньнік мільгае ў гушчары, як пырскі**
**Зыркай крыві і яго й гурбы сьнегу чырвеняць.**
**Вось-жа-ж у гэткіх прыгодах у нашай старонцы**
**Часта быў зь іншымі роўны я ў справах лавецкіх:**
**Рэкі лясныя, Дняпра паўнаводнага стрыжань**
**Конна з буланым адольваў у гоне за зьверам.**
**Што-ж, прызнаюся: ахвотна ў баку-б я застаўся,**
**Ды адставаць ад сяброў у нас ганьбай лічылі.**
**Колькі нягод паспытаць давялося мне ў пушчах літоўскіх,**
**А без хвальбы гавару, быў я і спрытны і лоўкі.**
**Творчасьць ляснога майстэрства, мой плод недасьпелы,**
**Ты, чытачу мой, сарві з кроны ягонай нястройнай.**
**Мэта мая — цябе ўзяць на прыроды улоньне,**
**Зь ёй пазнаёміць, і з норавам дзікага зьвера.**

**4**

**Хай хіжаком не раўня, ўсіх іх наш зубар люцейшы,**
**Але людзей не кране, як яго не зачэпяць:**
**Толькі няспынна глядзіць, рух найменшы цікуе,**
**Пільна на варце стаіць і сябе, і сямейкі.**
**Створаў сьмялейшых няма ў гушчарох нашых родных.**
**Бачыш часьценька — пасецца спакойна, а вочы**
**Сочаць усё, касавурацца ўправа і ўлева.**
**Ты аж замёр, зьвералоўца, ты шчэз між кустамі,**
**Дзе там: Ён бачыць: Міргнеш і прыкмеціць адразу!**
**Шоргат слабенькі, няўзнак трэсьне сучок пад нагою,**
**Вушы свае нашатырыць, уміг страпянецца!**
**Калі не зазьзяе твой меч і ня бліскае дзіда,**

# ПАЭМА ЖЫЦЦЯ

**Народы свету па-рознаму адкрываюць і ўшаноўваюць нацыянальныя скарбы — творы, якія старажытныя грэкі называлі помнікамі ці паэмамі жыцця. Вяртанне з нябыту неўміручых здабыткаў чалавечага генію нярэдка абумоўлівала зрухі ў гістарычным мысленні цэлых народаў і нацыянальным самаўсведамленні свайго ўкладу ў сусветную культуру. Адносна нядаўна адгорнута новая яркая старонка летапісу шматвяковага культурнага жыцця беларускага народа: стаў вядомы гуманіст-патрыёт, адзін з найвялікшых славянскіх паэтаў-лацiністаў эпохі Адраджэння Мікола Гусоўскі (паміж 1470—1480 — пасля 1533) — аўтар выдатнай паэмы "Песня пра зубра" ("Песня пра выгляд, дзікасць зубра і паляванне на яго").**

**Толькі праз чатыры стагоддзі творца атрымаў еўрапейскую славу і прызнанне, і яго мара злучыць жыццё са сваім народам здзейснілася. Побач з імем Францыска Скарыны імя Міколы Гусоўскага ЮНЕСКА ўключыла ў каляндар міжнародных дат вялікіх дзеячаў славянскай культуры, 500-гадовы юбілей якога адзначаўся ў 1980 годзе ва ўсім свеце.**

**Паэма Гусоўскага, напісаная элегічным двувершам, быццам высвеціла неруш лацінскага пласта нашай старажытнай**

Сьмела мінай у яго на ваччу — не зачэпіць,
Толькі ўтаропіцца тупа й стаіць нярухома,
Вокам праводзіць цябе, аж пакуль не схаваўся.
Розна бывала... Здаралася зь ім сутыкнуцца:
Спыніць хаду, гляне скоса — і болей нічога.
Але як собіць на самку зь цялём напароцца,
Ледзь зварухнешся, ухопіш за зброю з гарачкі,
Ўвомірг разьярыцца й бор агалосіць рыканьнем,
Знакам шалёнага гневу: як сьмееш трывожыць!
Ды як адбой ты заб'еш і прабуеш уцёкаў,
Выйдзеш зь бяды непамяты, ўздагон ён ня рыне!
Люба сачыць зубранят: скачуць, малечча, дурэюць,
Маці й падлеткаў сваёй жвавай гульнёю лякаюць.
Зубар ён кемлівы зьвер, хай сабе вось і цяляты:
Зь першага кроку ва ўсім маці яны пераймаюць,
Бегаюць сьледам, заўжды пасьвяцца побач старэйшых,
Скачуць праз выкратні, пні, дробныя рожкі прабуюць,
Як напаткаюць зьвяра, зглядзяць карча ў бураломе,
I у гульні й барацьбе целы з маленства гартуюць.
Бо-ж і спачыну, як трэ, хіба ніколі ня знаюць.
Хай волат наш трывалкі, намаганьняў вялікіх
Зьверу каштуе пыніць сваё ймкненьне да руху.
Ўсьцешна глядзець, як ляціць ён у бегу імклівым
Рэдкім узьлесьсем або балацянай сьцяжынай,
Зь месца ірве, як падкінены нечаю пращчай,
І у імгненьне, ўсё цела назад павярнуўшы,
Ловіць нагамі памёт, што яшчэ ў паветры,
Ды разьбівае яго, каб сьлядоў не пакінуць.
Але нічым не зраўнаць гэтак частыя ў статку
Бойкі быкоў за саміцаў у гульнях бяскроўных.
Сьвята Вэнэры спраўляюць зубры ў лістападзе
Кожнае восені, часта вясельлі трываюць
Тыдзень ці больш. І у часе такой насалоды
Чуецца толькі, як скрозь, заклікальна й пяшчотна
Пушча рыкае, а ў подыху кволым паветра
Лістам трапёткім шасьцяць векавыя дубровы...
Хто гэта бачыў і чуў будзе сьветчыць напэўна:
Музыка нашых лясоў саладзей, чымся лера,
З поклічам ейным ня ў лік нат грымотныя трубы,
Хорам-жа-ж гукаў лясных строга й стройна кіруе

літаратуры, што дало магчымасць дапоўніць разуменне працэсу развіцця беларускай літаратуры, шматмоўнай культуры ўсходнеславянскага свету.

Нашчадкі не ведаюць дакладна ні гадоў жыцця, ні месца нараджэння, ні месца пахавання Міколы Гусоўскага. Не акрэслены пакуль што куток беларускай зямлі, які даў свету геніяльнага паэта, бо паселішчаў і рэчак з назвамі Усава, Гусаў, Уса на Беларусі было нямала. Але, несумненна, паэт з Гусава — выхадзец з беларускіх зямель Вялікага Княства Літоўскага. Гусоўскі — чалавек з дэмакратычных слаёў, знаўца народных звычаяў, легендаў. Прымха "жывіся глушцом — станеш мудрацом", звычаі выпрабавання "ведзьмы" вадой і інш., адзначаныя паэтам, запісаны ў XVII—XIX стагоддзях фальклярыстамі і этнографамі на Гродзеншчыне, хоць былі вядомыя і ў іншых абласцях Беларусі. Зварот Гусоўскага на схіле гадоў да першапачатковага вымаўлення свайго прозвішча таксама ўскосна пацвярджае яго беларускае паходжанне. "Г" у вымаўленні Гусоўскага прыглушанае, не ўзрыўное: "Hussovianus, Hussowski, Ussovius", а не "Gussovianus". Такое вымаўленне адпавядае фанетычнаму ладу старабеларускай мовы.

Пра сваё дзяцінства і юнацтва, што прайшлі на Беларусі, паэт гаворыць: "Спадзеючыся на каня, рэкі, глыбокую плынь Дняпра пераплываў, калі звер уцякаў цераз воды"[1]. Некаторыя беларускія даследчыкі на падставе гэтай фразы робяць выснову, што Гусоўскі нарадзіўся менавіта на Магілёўшчыне. Але ў пагоні за





Голас нястрымнай крыві, мне за ўсё наймілейшы:
Як доўга зубар жыве, не скажу, бо ня знаю,
Хто-ж вядзе ўлік даўгавечнасьці гэткага зьвера?
Пішуць аднак, быццам недзе, памечаны ў статку
Быў правадыр двухсоттодні, прыкметны із грывы
Чорнай, як ноч, зь сівізною бялявай на чолцы.
Гэткай прыкметаю нібы назвалі ўвесь статак.
Калі паданьні даўнейшыя праўдзяць дакладна,
Вока згубіў у сутычцы ён, быў аднавокі.
Гэта магчыма. Ці-ж з правам сумлеўным бо дужы
Бой ці адзін пачынае, а спрэчкі прычына
Аж праз гады толькі робіцца яснай, хай шрамаў
Уладалюбы ня могуць пазбыцца да скону...
Я не скажу й колькі год, няпрызнаны, у статку
Зубар той жыў, але ў гэных народных паданьнях
Ёсьць напаміны занадта ўжо доўгага часу:
Выдумкай погалас часта вушам дагаджае.
Я-ж тутка права ня маю пісаць, што ня знаю:
Тым, для каго я пішу, да душы толькі праўда.

5

Шлях, мой чытач, быў намечаны загадзя намі.
Шлях у лясы, што хінуцца пад падыхам ветру,
На лугавіны расьцьвілыя, дзе на прывольлі
Мірна пасуцца зьвяры, карыстаючы з права.
Стойбішча дружна бароняць зубры, і старожа
Пільна глядзіць, каб у статку быў добры парадак.
Дужы зь нядужым уладай дзяліцца ня будзе,
Моц бо й дазнаньне адны могуць даць панаваньне.
Ўсюды, у статку зубровым, загоне, дарозе,
Пэўне-ж, адольвае ў бойцы сьмяротнай дужэйшы
І бяз трывогаў ні ймгненьня ў барох ня мінае.
Смыль панаваньня злабу скрозь крывавую родзіць,
Кожны таму паядынак, а кончыцца сьмерцяй.
Той, хто слабога пабіў, дастае ўзнагароду,
Ну а пабіты, калі не сканаў, невясёлы
Разам із жонкай са статку ідуць у выгнаньне.
Зубар, што статак пакінуў, адгэтуль баіцца

зверам паляўнічаму, як піша паэт, нярэдка даводзілася аб'язджаць вялікія тэрыторыі. "Песня пра зубра" стваралася для шырокага еўрапейскага чытача, эстэтычны густ якога быў выхаваны на ўзорах антычнай літаратуры. Згадваннем Дняпра, апетага яшчэ антычнымі і старажытнарускімі пісьменнікамі, паэт імкнуўся паказаць чытачу веліч і старажытнасць роднай зямлі. Невыпадкова Гусоўскі ўжывае антычную назву ракі — Барысфен. Многія падзеі, апісаныя ў "Песні пра зубра", узяты з жыцця Белавежскай пушчы.

Мікола Гусоўскі, відаць, нарадзіўся ў сям'і збяднелага баярына[2] — велікакняжацкага паляўнічага. Сам паэт адзначаў, што рана пачаў памагаць бацьку на паляванні, меў магчымасць бываць на ўскраінах княства, а жыццё яго, звязанае з лукам, канём, народнай мудрасцю і небяспекай, праходзіла ў працоўных, але шчаслівых буднях:

*Змалку ад бацькі вучыўся ў бясконцых абходах*
*Крокам нячутным ступаць,*
*каб нішто не шурхнула...*
*Колькі патоў ён, бывала,*
*зганяў з мяне ў зімнюю сцюжу,*
*Коп'і шыбаць прымушаючы*
*з бегу наводмаш!*
*Колькі нагледзеўся смерці, наслухаўся енку*
*У пушчах, пакуль мяне, сына,*
*вучыў палясоўшчык*[3]

Незабыўныя ўражанні дзяцінства і юнацтва мелі выключна важнае значэнне для станаўлення Гусоўскага як мастака.

Літаратуры яго адкрыў Эразм Вітэліус, сакратар вялікакняжацкай канцылярыі, які стаў сябрам і мецэнатам будучага паэта. Вітэліус ведаў Беларусь, збіраў творы яе багатай пісьменнасці, пабываў

Нават рагаціны, ў статку-ж заўжды быў спакойны.
Часам ня грэбуюць статкі й самотнікам-зубрам,
Гэткіх прыймаюць чароды блізу без замінкі.
Калі-ж у бойцы лясной памірае сужонак,
Вернасьць сяброў нечаканая сьмерць парушае:
Ўдоваў выгнаных узноўкі у статак прыймаюць.
Княжы наказ, што бароніць і маці, і нашчадзь,
Множыць тым самым багацьце ды скарбы краіны.

6

Знае народ, што лясы нашы — скарб неацэнны,
Ён не зьмяняе яго нат на золата. Морам
Чэргі чужых караблёў па яго да нас цягнуць,
Дзівы вязуць нам багатых заморскіх тавараў.
Шчодрая вільгаць з прыродных у лесе жаролаў
Цёплым дажджом палівае ўраджайныя нівы,
Рэкі у сьвет спрытна лес наш сплаўляюць плытамі,
Што, як масты, заляглі паміж землямі Княства.
Глебы багатыя працы цяжкое ня просяць,
Толькі ў жніво скрозь пярэсьціцца жнеямі нівы,
Статкі ў суцэньню узьлесьсяў пасуцца на волі,
А у лугох — табуны скакуноў хутканогіх.
Дар нашыхніваў, лясоў прадаем мы за мора
Іншым краём і, няхай мы раўня па багацьці,
Цэнім заморскае менш, чымся родныя пушчы.
Княства Вялікае нашае — край дабрадзейны,
Больш, чым красу ў сваім моры зялёным хавае.
Ён і складніца жывіцы й смалы карабельнай,
Скуркаў куніцы, і мёду, і воску й дзічыны.
Так што чужынцы-купцы трасянуць калітою
Могуць цяжкой, ня скупіцца на торжышчах нашых.
Знойдуць усё: і сасну карабельную й дубу
Стырты й драніцу на дахі чужым багацеям
Тамка, дзе лесу няма. Нашы пушчы на дзіва
Борзда растуць. Не знайсьці гэткіх волатаў-соснаў
Пэўне нідзе. Шчодра нас надарыла прырода!
Водарацць пахамі краскаў лясныя узьлесьсі —
Месца ўлюбёнае вёскаў на гульні ды йгрышчы,

у Міры, Слоніме і іншых гарадах і мястэчках (яго дзённік 1499—1508).

Першапачатковую адукацыю Гусоўскі атрымаў у адной з кафедральных ці царкоўна-прыходскіх школ на Беларусі, а потым паглыбляў веды ў Вільні, Польшчы і Італіі. Не выключана, што вучыўся ён у Кракаўскім і Балонскім універсітэтах. У альбоме студэнтаў Кракаўскага універсітэта за 1483 г. сустракаецца імя “Nicolaus Andree de Ossov, st.”, упісанае без грашовага ўзносу. У дакументах Балонскага універсітэта пазначаны “Dominus Nicolaus Albinus Polonus Lithuanus”, які быў магістрам рыторыкі і стаў доктарам філасофскіх навук у 1519—1520 гг. Гэтаму “пану” было дазволена бясплатна трымаць экзамен на ступень доктара навук (01.03.1520). Бясспрэчна адно: Гусоўскі стаў чалавекам высокай культуры.

Вялікую ролю ў гэтым, як мы ўжо адзначалі, адыграў Эразм Вітэліус, на свой час фігура вельмі каларытная. Фаварыт вялікага князя Аляксандра, Вітэліус хутка зрабіў бліскучую кар‘еру ад канцылярыста да біскупа, спрактыкаванага палітыка. Яго дыпламатычныя здольнасці высока цанілі ў заходнееўрапейскіх краінах, а таксама ў Ватыкане, куды ён тройчы (у 1501, 1505 і 1518—1522 гг.) накіроўваўся на чале пасольскіх місій Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага.

Гусоўскі суправаджаў Вітэліуса ў трэцім пасольскім падарожжы, спачатку ў Аўгсбург, а потым у Рым. Пра гэта ў “Песні пра зубра” сказана: ”Не так даўно мы ў Італію прыбылі, дагэтуль мною не бачаную”. Паслы павінны былі ўгаварыць папу Льва X





Бортнікі нашыя дзюплі дзяўбуць у камлішчах
Дрэваў старых і ўжо маюць вульлі неўзабаве.
Вёснамі — птушкі лясной не палічыш у пушчы,
Б‘юць яе стрэламі ў нас, а часамі й мушкетам
Тых пявуноў, аб якіх яшчэ Пліні нам піша,
Ў пушчы бязь ліку. У нас тут іх клічуць глушцамі.
Птушка важкая, вагою гуся перавысіць,
Пах асаблівы глушцоваму мясу ўласьцівы.
Большай уцехі нямаш, чымся бачыць, як певень,
Трапна падбіты, падскочыць... і падае долу!
Зь цягі нясе паляўнічы дзьве нібы здабычы:
Страву для цела, адлі і спажыву для духу.
Дзе ні паткнешся — майструюць ці сеткі, ці пасткі:
Гэтай ня зловіш — у гэную трапіць дзічына.
Лесу закон скрозь адзін для здабытчыка-лоўцы:
Гэткім прырода наш край надарыла багацьцем,
Што лішкі тутка даюць нам свабоду здабычы:
Ёсьць у ашчадных удосьць і птушыны і зьвера,
Процьма марнуецца. Бачыў я сам нерастоўі
Поўныя дохлае рыбы, што сетку мінула.
Горш із даглядам: дзічэюць сады год па годзе,
Збожжа ня родзіць на нівах, нязжатых улетку...
Наша айчына — краіна загадкаў і дзіваў:
Можа так Бог загадаў, каб усё было вольна,
Мо з чараўнічае моцы расьце ўсё, каб зьгінуць?
Часта з трывогаю думаеш: чым растлумачыць
Сілу, што своймая зёлам паўночным ды словам,
Песьняў уплывам магутным? І часам здаецца
Гэта ўсё казкаю мне чараўніцы Мэдэі...
Словы мае найшчырэйшая праўда. Я знаю,
Жорстка карае Хрыстовая вера паганых,
Тайна зьвязаных із моцамі зла чарадзеяў.
Як іх даюць, з памагатымі, на катаваньне!
Хопіць таго, каб пайшлі пагалоскі ў народзе:
“Ён, бач, вядзьмар і ціхцом із нячыстым вядзецца!”
Схопяць у міг бедалагу, павяжуць і рукі, і ногі
Й кінуць з высокага берагу ў вір галавою:
Бачаць, што топіцца, — што-ж, вінавайца — бязьвінны,
А як ня топіцца, лічаць, што вінны напэўна!
Гэткія кары ці раз назіраў я: ў прадоньні

стварыць кааліцыю хрысціянскіх дзяржаў супраць Турцыі і Крымскага ханства, якія пагражалі еўрапейскай бяспецы. Гусоўскі прыбыў у Рым з вялікай надзеяй паслужыць радзіме справай, і такі выпадак урэшце надарыўся. Выконваючы заказ Вітэліуса па просьбе папы Льва X Медычы, які хацеў пачуць праўдзівае паэтычнае слова пра паляванне на зуброў, паэт стварыў у 1522 г. у Рыме шэдэўр славянскай культуры — “Песню пра зубра”, твор, які абессмяроціў яго імя. Відавочна, што яшчэ да прыезду ў Італію Гусоўскі быў добра вядомы свайму мецэнату як паэт. Інакш Вітэліус не даў бы яму такога адказнага і нялёгкага, але пачэснага наказу Льва X — высокаадукаванага і тонкага знаўцы паэзіі, мастацтва, аматара палявання.

Рымскі перыяд творчасці Гусоўскага быў найбольш плённы, таму ён і вызначальны ў фарміраванні паэтычнага бачання свету пісьменнікам. На жыццё паэта ў Італіі даследчыкі звярталі недастаткова ўвагі і, як вынік, — не знаходзілі ключа да сакрэтаў творчай лабараторыі паэта.

У Італіі Гусоўскі, паводле некаторых звестак, прабыў з 1518 г. да пачатку восені 1523 г. У яго было дастаткова часу, каб спазнаць краіну, яе мову і мастацтва. У гэтай “калысцы Адраджэння”, цэнтры самай высокай і перадавой на той час культуры, канчаткова сфарміравалася творчая індывідуальнасць Гусоўскага. У Рыме ён быў на хвалі творчага ўздыму і напісаў найлепшыя свае творы.

Але гэта былі гады канфліктных адносін яго пратэктара з некаторымі прадстаўнікамі шляхецкіх, дзяржаўных

Б'ецца ахвяра зьвязаная з хваляй, прабуе
Рынуць у вір з галавою, а натаўпы прагна
Ходаньне гэтае сочаць, клянуць, гарлапаняць:
Бачачы гэткае, я камянеў ад уразы
Мрсьцілася, быццам вада — не вада, як заўсёды.
Суне вось хваля, здаецца — канцы... праглынула...
Не, не кранула, ўцякае... жыве йшчэ ахвяра!
Справядлівейшы агонь: і чарадзея, і ведзьму
Ён пажарэ ўсё адно, як агідных зладзеяў..
Мо што да словаў маіх вы займелі сумлевы?
Верце: Ў Ліцьве адбываецца гэткае яўна.
Я толькі праўды трымаюся, хай, як вядома,
Нат у звычайныя выдумкі, бабскія казкі,
Верыць гатовыя часта й разумныя людзі.
Кіньма-жа-ж казкамі трызьніць, спрабуем цяжару
Трошкі лягчэйшага: знойдзем бароў насалоду.
Шчодра табе, чалавеча, адкрыла прырода
Сьвету прывабнасьць, а дзе-ж твая будзе падзяка?
Першапачатная гожасьць і траваў і дрэваў,
Раткі лясной зьвярыны, баравая дзічына,
Ўсё захапляе а цешыць мужоў добрародных,
Пасьля паходаў прыбылых увосені ў пушчу
Папалявáць, адпачыць ад вайсковых цяжараў.
Праца й спачын тут  найлепшая страва для духу,
Цела гартуе яна і старэчую немач
Аж на даўгія гады адганяе і гэтым
Спраўнасьць захоўвае й век падаўжае сьмяротным.
Гэта дазнаньнем пацьверджана: сунецца старасьць,
Цела-ж здаровае, слых няпрыглушаны, вуха
Ловіць найменшыя шэляхі, добрае й вока
Мэту бясьхібна здалёку ужо прыкмячае.
Практыкай лепшай для вока ці лекам для вуха
Ловы лічу я із іхнай няспыннай старожай.
Вуха і зрок — памагатыя нам у прыгодзе,
Калі, прыкмеціўшы лоўчага, зубар злаўчыцца,
Каб вас адолець, ня спрытам, дык моцай сваёю.
Ён, што з прыроды напорысты, кемлівы, грозны,
Ўзагрудкі пойдзе й нічога ўжо вас не ўратуе...
Зжыўшыся зь лесам, дасьветчыўшы сам усё гэта,
Я ўваскрашаю гэтак вобраз праўдзівы, і знаю,

колаў Польшчы. "Сенатарскі" кароль і вялікі князь Жыгімонт I, які шукаў палітычнай падтрымкі ў радавітай знаці, вызваліў Вітэліуса ў 1521 г. ад абавязкаў пасла і адмовіўся ад ідэі стварыць ваенна-палітычны блок дзяржаў супраць Турцыі.

Разумеючы, пад які здрадніцкі ўдар становяцца Польшча і Вялікае Княства Літоўскае, вопытны дыпламат і яго сакратар Гусоўскі засталіся ў Рыме на сваю рызыку, заручыўшыся падтрымкай Льва X. У вершы "Суцяшэнне" Гусоўскі па-сяброўску падбадзёрваў мецэната: "Хлусня іх бяссільная, праўда ў тваім сэрцы. Рым на цябе глядзіць і подзвігі твае ўслаўляе". Паэт раіў яму не звяртаць увагі на лжывыя абвінавачванні. Дарэчы, пасля раптоўнай смерці Вітэліуса ў верасні 1522 г. Жыгімонт I мусіў прызнаць, што паслы служылі яму "сумленна і слаўна".

Самастойнасць мыслення, яркая індывідуальнасць мужнай асобы, якая ставіць грамадскае вышэй за асабістае насуперак эгаізму многіх італьянскіх гуманістаў Адраджэння, — характэрныя рысы творчасці Гусоўскага рымскага перыяду. Ён шмат разважаў пра сутнасць жыцця і прызначэнне літаратуры.

У 1522 годзе па Рыме і некаторых мясцінах Апенінскага паўвострава распаўзлася чума. Людзі ў адчаі звярталіся з малітвамі да Хрыста, да язычніцкіх багоў. Тады ж нейкі грэк Спартанус пры вялікім натоўпе прынёс у ахвяру антычным багам чорнага быка (паводле звычаяў старажытных рымлян). Гусоўскага гэта вельмі ўразіла: была зняважана яго хрысціянская набожнасць. Ён, іншаземец, не мог





Што для каго  гэта праўда, а хто не дасьць веры.
Хай будзе й гэтак... Я песьню на суд справядлівы
Гэтта стаўляю. Няхай яе згодна із правам
Тыя асудзяць, што працаю сталай у Музы
Ўменьне займеў лепш цаніць і пісаць, чымся тутка
Сам я, і ў часе кароткім, і сьпехам, накідаў.

7

Вецер падзьмуў і залівісты брэх у гушчарах
Чутны мацней. Колькі шчырае жарсьці ў нас будзяць
Водгукі ловаў: Як сэрца трапеча, пачуўшы
Шум у вяршалінах дрэваў: Плыве ён, як хваля,
Раз — ападае, раз — зноўкі узносіць у неба.
Злое рыканьне чуваць, нечы віск... Што за ліха?
Гэта ўзьнялі мядзьведзя у бярлозе, ці хтосьці
Раніў стралой вяпрука... Не пабачыў  ня скажаш,
Як атрыманыя раны й магутнага зубра
Могуць разьюшыць, і зьвер, вар'яцеючы, глуха
Ровам гушчары ўстрасае, разьзявіўшы ляпу.
Гнеў у вар'ята яго абярнуў, ён  жахлівы!
Зрок, спадылба, злосна кідае іскры наўкола!
Аж камянееш з жуды, калі горлам прадонным
Хрыпла рыкаючы, гойсае ён паміж дрэваў,
Хочачы растрыбушыць вас — страшэнная зьява!
Варта яму аказацца — й турботаў бязь ліку
Ўраз у цябе: і трывога, і жуда, і наважнасьць!
Ці-ж апануеш ты ўсё гэта ў буры пачуцьцяў,
Ці зразумее цябе, хто іх сам не дасьветчыў!
Праца нялёгкая ў нас, ды ці хто параўнае
Нашыя клопаты з важкай бядою айчыны?
Як тутка лекі знайсьці, яе немачы сходаць?
Думкі, адлі, павяртаюць да ўдачаў лавецкіх,
Больш бо здароўя для цела у іх, чымся ў леках.
Кожны сьпяшаецца справамі ловаў заняцца,
Сьцегны свае натаміць нясупыннай хадою.
Як-жа-ж у змрочных барох гэткай працы цурацца,
Злую нуду ня гнаць прочкі здаровай разьмінкай?
Выкпіўшы ўсіх эскуляпаў, лавец гэтым самым

змірыцца з адраджэннем паганскіх звычаяў у Рыме — горадзе, які павінен быў быць узорам хрысціянскай дабрачыннасці і культуры. Гусоўскі, як і выдатныя нямецкія гуманісты Ульрых фон Гутэн, Себасцян Брант, Іаган Рэйхлін, асуджае дысгармонію ў хрысціянскім свеце, заклікае чытача вучыцца думаць і ў вершы "На ахвярапрынашэнне чорнага быка" перасцерагае народы Заходняй Еўропы: "Туркам затое няцяжка над гэтым хаосам павіснуць пагрозай".

Жамчужынай лацінамоўнай славянскай літаратуры ранняга гуманізму з'яўляецца сапфічны верш Гусоўскага "Да св. Себасцяна". У ім яскрава выказаны пачуцці чалавечага жалю, гневу і асуджэння. Разам з просьбай да св. Себасцяна папярэдзіць распаўсюджанне заразы, у звонкіх радках памянёнага верша чуцён моцны голас пратэсту гуманіста супраць слабай асветы, бяссілля цывілізацыі, якая на той стадыі свайго развіцця яшчэ не здолела супрацьстаяць стыхійнай трагедыі.

Матэрыяльна не забяспечаны, высакародны безабаронны вандроўнік, ён не знайшоў сталага прытулку ў Італіі. Новаму папу Адрыяну VI, ваяўнічаму каталіку, не было справы ні да задум свайго папярэдніка, ні да лёсу Гусоўскага. Паводле біёграфа Адрыяна VI Паўла Евія, "усякі..., хто выявіў сябе ў навуцы, мастацтве і дабрачыннасці, не дапускаўся да папскага трона". І ці мог вольналюбівы паэт, што скіроўваў "ядавітыя стрэлы" сваёй паэзіі супроць вяльмож і ўладароў свету, быць зразуметым у асяроддзі Ватыкана? Праяснена прагучалі ў

Чуе сябе юнаком, дай, нарэшце, мікстуры
Сродак у нас не адзіны, аж чэрава пухне
Й вусьцішна нават, што лопне ад зельля зьнячэўку!
Сівер паўночны — драбніца для моцнага духам,
Лоўца зацяты дасьць рады й турбоце й нягодам.
Непераборлівы, нат і бяз ласых прысмакаў
Ён і здаровы й пад'еўшы, аж думаеш часам
Ці не аддаць перавагі жыцьцю зьвералоўцы?
Часу нястача пыніць мне гэтта развагі,
Усёткі апіс паляваньня на грознага зьвера
Я папярэджу паданьнем народу паўночнага краю:
Зубар — змагар, браць яго трэба ўзагрудкі, сілай,
Не ашуканствам: стралою здалёк, ці мушкетам.
Вераць спрадвек бо ў народзе: ён пушчу пакіне,
Калі ў сутычцы ўжываеш ня моц ты, а хітрасьць.
Пэўне паданьням старым хай якога народу
Свомае ўсё растлумачваць таёмнаю сілай,
Праўды-ж у казках ня шмат, я лічу, бо каб нават
Гэткае штосьці й было гэта выпадак толькі.
Я, адкідаючы домыслы, тое пяру давяраю,
Што давялося самому дасьветчыць ці бачыць.
Мне ці-ж баяцца казаць аб трафеях Дыяны
Або аднэй із паплечніцаў ловаў багіні!
Мо прыгадаць тутка трэба і лук Апалёна,
Стрэлы у цёплай крыві пранізанага зьвера!
Ўсё усхваляюць Юпітара або Юнону,
Я-ж паважаю Ісуса і Госпада Бога,
Сэнсу ня бачу у блытаньні праўды із басьняй.
Мець я хацеў-бы дазвол, хай сабе і ў скароце,
Праўду ўсім тым расказаць, хто высочвае дзівы
Ды старадаўных памылкаў многа паўтарае.
Праўда — ўнутры. Пэўне Плоцкі наш біскуп Эразмус
Тых не пахваліць, хто Госпада Бога зьніжае.
Ён толькі тое у хорам сьвяты дапушчае,
Што і прыстойна, і ў згодзе із станам сьвятарскім.
Я, служка верны ягоны, вось тутка й прабую
Словы ўжываць, што майму Спадару да спадобы.
Гэта прычына, чаму ў маю песьню трапляе
Штосьці з рэлігіі нашай. Вы ў ёй ня шукайце
Ні асалодаў жыцьцёвых, ані весялосьці —

паэме горкія словы: “Голас адсюль ты нясі, Гусавіяне, да няўклюдных звяроў”. Адначасова расло пачуццё абурэння і барацьбы, бо якая ж карысць “распаўсюджваць скаргі ў лясах”?

У 1523 г. Гусоўскі спыніўся ў Кракаве, маючы цвёрды намер надрукаваць “Песню”. Бясспрэчна, выданне “Песні пра зубра”, твора, гуманістычна-сацыяльнага, было справай нялёгкай. Толькі дзякуючы дапамозе і падтрымцы каралеўскага сакратара, гнёзненскага каноніка Карла Антонія Банонскага[4] і сакратара каралевы Боны Сфорца Людовіка Альфія і яе самой — ён у гэтым жа годзе ў кастрычніку месяцы выдае ў друкарні Іераніма Віетара паэтычны зборнік “Песня пра зубра”. Зборнік складаўся з празаічнага прысвячэння, аднайменнай паэмы і адзінаццаці вершаў, напісаных пераважна ў рымскі перыяд.

Жыццёвы і паэтычны запал Гусоўскага быў вялікі. Паэт жыў непагасным жаданнем актыўнай дзейнасці. Выхаваны на лепшых традыцыях еўрапейскай культуры, павагі да людзей творчай працы, Гусоўскі не мог спакойна ўспрымаць абыякавасць дзяржаўных колаў Польшчы да культурнай справы ў краіне. Прытрымліваючыся ідэі маральна-этычнага ўдасканалення грамадства, паэт адводзіў значную ролю ў гэтым навуцы і мастацтву. Свае погляды ён смела і праўдзіва выклаў у прысвячэнні да “Песні пра зубра”, адрасаваным каралеве Боне. Паэт заклікаў каралеву ўзяць на сябе агульнадзяржаўнае апякунства над таленавітымі і спрактыкаванымі ў навуцы і





Лёд і сьнягі закавалі крыніцу натхненьня,
Краскаў нямашака на гэткім няўробленым полі.

8

Ўлетку ў сутычках усобіцаў собскіх па шыю,
Нашыя ратнікі маюць узімку спачынак
І ўзнагароду: зьвярыныя ловы у пушчы.
Ці ня ў Літвы пераняў Марс стары ейны звычай
Нат спачываючы, меч гартаваць на марозе?
Войны й сутычкі! Яны у мяне выклікаюць
Гнеў і пакуты. Адны, год па годзе, сам-на-сам,
Йдзем ваяваць мы за ўсіх, за сьвятое братэрства.
Вораг наш край аблажыў, каб ушчэнт, із карэньнем
Зьнішчыць і нас, і Хрыстовае Ймя у краіне.
Злодзей-чужак уварваўся у нашыя межы,
Весьціць нахабна, што йдзе ён ня дзеля здабычы,
Божым іменьнем адно і ад Божага йменьня
Топіць людзей у крыві ды выпальвае сёлы...
Там, дзе Арда пабыла — скрозь адны папялішчы,
Ды груганьнё і сабакі зьдзічэлыя. Лепей
Тутка-ж сканаць, чымся жыць пад пятой пераможцы
Доляй нявольніка, век пад ярмом і ў пакутах. .
Караю Божаю нехрысьцяў нам не спалохаць:
Вера й парадкі чужыя у іх у пагардзе.
Пынячы горды грудзіма сваймі, як заставай,
Мы падупалі, мячы нашы целы пасеклі,
Кроў наша льлецца ракой, пераймаючы поступ
Зграяў варожых, тымчасам шчыты нашы ў шчырбах
Скрозь ад няшчадных удараў, бо ворага зброя
Над галавою ня нашай адно, і ахвяры
Нашы па тое адно, каб сябром даць нагоду
Сілы сабраць ды ўлучыцца у бой із Ардою.
Нашых суседзяў бяда шчэ як сьлед не кранула,
Певень чырвоны іх стрэхаў стральчастых ня кратаў,
Іхныя дні ціхамірна мінаюць і сяньня,
Толькі таму, што наш край палымнее ў пажарах.
Ім — памагчы-б нам, яны-ж выступаюць у згодзе
Шчыльнай з чужынцам у словах і чынах, мяркуюць

мастацтве людзьмі, маючы на ўвазе і сваю асобу. Бона Сфорца стала апякункаю кракаўскага гуртка шляхецкіх паэтаў. Аднак самога Гусоўскага, чалавека невысокага сацыяльнага паходжання, яна абышла ўвагай.

Галоўнае ў “Песні пра зубра” — папулярызацыя гісторыі і культуры Беларусі і Літвы на сусветнай арэне, ідэя саюзу еўрапейскіх народаў перад пагрозай турэцка-татарскай небяспекі, услаўленне дзейнай, свабоднай і мужнай асобы, ідэя нацыянальнага патрыятызму і антываенны пафас, рэнесансна-ўтапічная канцэпцыя гарманічных узаемадачыненняў чалавека, грамадства і прыроды, міждзяржаўных адносін — ставіць Гусоўскага побач з Францыскам Скарынай і іншымі выдатнымі дзеячамі эпохі Адраджэння.

Напісаная ўдалечыні ад радзімы, у Еўропе і для Еўропы, “Песня пра зубра”, дзякуючы таленту, натхненню і багатаму жыццёваму вопыту паэта, стала песняй яго сэрца і гімнам Бацькаўшчыне, мужнаму і дзейнаму чалавеку, пазнанню прыроды

*Нашы лясы – гэта нашых даброт і багацця*
*Невычарпальны калодзеж; з яго напаўняем*
*Лайбы і стругі заморскіх купцоў,*
*што прывозяць*
*Недзе з-за свету да нас на таргі*
*свой набытак...*
*Рэкі ад самых вытокаў да вусцяў шырокіх*
*Поўны плытоў а плыты на шляхах*
*нашых водных –*
*Гэта масты паміж рознымі*
*землямі княства.*

Зубр у паэме — гэта ўвасабленне вобраза роднага краю, сімвал яго былой магутнасці.

Абвяргаючы пашыраны ў той час на Захадзе міф пра

Вомірг на нашым загіне узьняцца, пыхліўцы!
Можа шалёныя усёткі усім, што тут гінуць
Некалі лекі й прапішуць, ды будзе запозна!
Мае хто вочы пабачыць, а вушы пачуе:
Недзе грыміць, пяруны ды маланкі ўжо блізка!
Прага захопаў, міні варагоў стараною,
Сьмягнуць калі-ж, хай міжсобку грызуцца зацята!
Хай скрозь насякне зямля іхнай чорнай крывёю
Нашы сьнягі напіліся ўжо нашай чырвонай!
Смага падбояў для іх-жа самых нарыхтуе
Путы грымлівыя й ім і нашчадкам навечна!
Што канавана — будзе! Гаспод непадкупны:
Прыйдзе і помста і кара на ўсякую погань.
Час ахінуцца, ачуцца! Няхай яшчэ зводдаль
Бура грыміць, але чорная, грозная хмара
Борзда імкне... І нашэсьце падобнае сьмерці.
Розумам жах небясьпекі, як сам не пабачыў,
Сьцяміць няможна, ды заўтрашні дзень пад пагрозай..
Ты-ж, наш суседзе, адкажаш, калі твае месты
Й сёлы пачнуць разьлягацца і плачам і стогнам,
Каяцца будзеш: дзе-ж нашыя моц і адвага
Гэтта былі? Як маглі мы сваёю ахвотай
Шлях адчыніць пагарджаным усімі паганцам?
Ім, што палон і нялюдзкую долю рыхтуюць
Нам, і суседзям, і нават далёкім народам!
Як-жа-ж маглі мы наклікаць навалу, якое
Хопіць і дзецям, і ўнукам і праўнукам нашым!

9

Што-ж распачаць, наракаць нам? Усё разумеем..
Ціха у пушчы. Няхай-жа-ж пачуецца зноўку
Гусаўца голас аб нашых вялізных жывёлах!
Як меркавалася, пойдзем у нетры лясныя,
Там, згодна правілаў нашых адвечных лавецкіх,
Складзена сьценка із сьцятых таўшчэзазных дрэваў,
Што углыбкі адыходзіць на дзесяць-пятнаццаць
Міляў італьскіх, із мноствам драбнейшых адсекаў
Тых, што ў сярэдзіну трапяць, сьцяна абкружае,

"ілірыйскую дзікасць" усходніх славян і літоўцаў, Гусоўскі паказаў чытачу свой край як еўрапейскі фарпост барацьбы з золатаардынцамі, тэўтонамі і туркамі:

*Войны! Злачынная справа – вайна выклікае*
*Гнеў мой, слёзы, і боль. Без падтрымкі, бясконца*
*Войны вядзём мы за ўвесь безудзельны свяшчэнны*
*Брацкі саюз хрысціянства з навалай з усходу.*

Гусоўскага хвалююць вечныя тэмы літаратуры — вайны і міру, жыцця і смерці, любові і нянавісці, якія прачытваюцца ім па-свойму, арыгінальна. Ён выкрывае сепаратысцкую палітыку каранаваных уладароў свету:

*Спынім забойствы! Сумленне, і розум, гонар*
*Уладна загадваюць кніжніку: як са званіцы,*
*Бі ў сваё звонкае слова, узбройвай народы*
*Супраць разбою. Бясконца купае губіць*
*Марс збраяносны людзей у крывавых купальнях.*

.................................................................

*Гонар, сумленне зямных уладарцаў, здаецца,*
*Спяць бесправбудна. Усе іх учынкі і справы*
*Людзям на гора, дзяржаве ж – на шкоду і страты*

Гусоўскі першы ў славянскай літаратуры ўбачыў і адлюстраваў крызіс сацыяльна-палітычнага ладу Вялікага Княства Літоўскага. (...)

Наватарства і самабытнасць паэмы Гусоўскага, яго дэмакратызм яскрава выявіліся і ў эстэтычным прачытанні "кнігі Прыроды". Не наогул краявіды, а выразныя, нацыянальна-адметныя куткі роднай прыроды ажываюць пад пяром творцы, несучы часам своеасаблівы "сацыяльны" падтэкст. ("Народ наш лясныя багацці ацэньвае вышай за чырвонае золата", "заморскія рэчы цэнім менш,





І бязупынна старожа глядзіць, каб праходы
Былі зачынены й зьвер з агарожы ня выйшаў.
Лёгка увойдзеш, а выйсьці ня выйдзеш: пілнуюць.
Зьвер патрапляе ў загон безь вялікіх турботаў,
Нат ня прыкмеціць, што выхады ўраз завалілі
Моцнай завалай. На пасьбішчы, быццам, спакойна,
Мы-ж, паляўнічыя, зьвера з загону цікуем.
Ён ужо ў пастцы, і мы паляваць пачынаем.
Страх — нам нішто, хай навокала скрозь небясьпека.
Сябра дзесь побач, а прыйдзе бяда і нямашка.
Верны слуга спадару у сутычцы ня помач,
Клічу ў сумятні ні бацька, ні сын не пачуюць!
Собскую справу сваймі ты бароніш рукамі,
Кон свой трымаеш у іх-жа, а выпусьціш зьгінеш.
Важыш жыцьцё бо, а схібіш пра літасьць забудзься.
Існасьць загаду ўсім ясная наступ наперад,
Перамагчы-ж, па магчымасьці, трэба бяскроўна.
Выручыць конь хутканогі, адскочыць ад сьмерці,
Толькі ў гэтым ратунак і ў гэтым надзея!
З намі наш князь, ён кідаецца ў гушчу змаганьня:
Хто-ж бы даў послух нясьмелым, пайшоў з баязьліўцам!
Як перад боем з татарамі зброя асілка
Мужнасьць у воях распальвае знак перамогі,
Так і на ловах літоўскіх адвага старэйшых
Іхнай удачы у ходаньні й славе ня шкодзіць.
Чую: няўзнак зноў пяро маё з простай дарогі
Гэтта зыйшло, каб табе, войча наш Жыгімонце,
Славу аддаць, прыгадаць дасягненьні у справах
Важных у хаце й важнейшых мо йшчэ паза хатай.
Гэта ня проста, мне ў гэтым ніхто не паможа,
Тут бо, за межамі пушчаў, маўчыць твая слава,
Тутка нялёгка цябе усхваляваць, дык дазволю
Усё-ж прыгадаць твае ходаньні з ворагам хай-бы..
Нам-бы — ціхога жыцьця, ну а словаў ніхто не шкадуе.

10

Вось ён стаіць у гушчары, варожыць, што будзе!
Долі чакае... Яго й апяем мы у песьні.

чым родныя пушчы" і г.д.) Паэт імкнуўся маляваць прыроду, зыходзячы з свайго вопыту паляўнічага і з яе "ўласных высноў" — прынцыпаў, якімі кіраваліся, дарэчы, італьянскія мысліцелі, такія, як П. Пампанацы і інш. (...)

Асновай мастацкага мадэлявання свету служыць паэту нацыянальная жыццёвая стыхія. Гледзячы на рэчаіснасць вачыма "ляснога чалавека", чалавека з народа, прыўздымаючыся над яго перажыткамі, Гусоўскі ў вышэйшай ступені аказаўся прыдатным для здзяйснення высакароднай справы — папулярызацыі гісторыі і культуры беларускага краю ў Заходняй Еўропе. Безумоўна, народнасць паэтычнага бачання і дэмакратызм паэта-навалацініста павінны намі разглядацца гістарычна. Але варта яшчэ раз падкрэсліць, што Гусоўскі па сацыяльным становішчы быў вельмі блізкі да народных нізоў, добра ведаў іх патрэбы, іх вусную творчасць. (...)

Стаўленне Гусоўскага да звычаяў, фальклору беларускага народа рацыяналістычнае і беражлівае: гэта святая святых, тое, што адрознівае адзін народ ад другога. Міфалагізаванае светаўспрыманне і засваенне рэчаіснасці простым беларускім "людам" паэт тлумачыць неадукаванасцю народа і моцнымі перажыткамі паганства ў краі ("такую сілу травы, словы і песні заўжды маюць пад паўночным марозам..."). 

Гусоўскі рашуча выступіў супраць тых, хто лічыў, што вучоная лацінская паэзія па сваймў характару несумяшчальная з творчасцю народа. Залатыя зерні прыказак, прымавак, выслоўяў скрозь рассыпаны па старонках яго паэмы. Ён, такім чынам, паклаў

Часта у вершы апісваюць цэлыя статкі,
Мы-ж на адным ім увагу із вамі запынім,
Сілаў ня стане сказаць аб усіх бо, ні часу!
Збаю, але аб адным, што бяды не пачуўшы,
Ў пастцы, ў мяне на ваччу, апынуўся зьнячэўку:
Выхад старожа замкнула і рынулі стрэлы.
Імі увомірг апераны, ён ірвануўся
Й трапіў на дзіды, што лоўцы сыпнулі з засады,
Шыю, бакі пранізалі. Напасьнікаў зрокам
Палячы, волат зароў, разьдзімаючы храпы,
І як віхор закруціўся, падскочыў, паймчаўся.
Коньнікі зь гіканьнем мкнуць наўздагон, пераймаюць,
Тупат да зораў шугае, а зубар, як бура
Йрве праз паляну, наперадзе — сьценка, з разгону
Хоча яе пераскочыць, на жаль, завысока!
Стаў, як укопаны. . Як ратавацца? А ў цела
Зноўку убілася з сыканьнем нечая дзіда.
Лютасьць кіпіць, палымнее пагляд і бруіцца
Зыркая кроў із глыбокай гарачае раны...
Дзе-ж варагі? Ён шукае, гатовы змагацца,
Зьмяць іх, раструшыць, і першыя ўдары кіруе
Ў зграю сабак стогалосых, дзярэ, раськідае,
Потым — імкне на людзей із жахлівым рыканьнем.
Людзі — у россып, насьлепа кіруючы коні.
Хрыпам, рыканьнем, галёканьнем поўніцца пушча:
Лоўцам скакаць напрасткі няма сэнсу й надзеі,
Можна адно ратавацца, адскочыўшы набак:
Гнеў і разьбег паўз лаўцоў яго мо перакіне,
Велічы-ж гэткай нялёгка зьвярнуцца у бегу!
Конны ланцуг замыкаецца. Зьвер мітусіцца:
Цяжка разгон паўстрымаць, пачынаючы наступ.
Целам важкім налятае ён бурна, падскокам,
Бачыш — угрэўся, сапе, а калматая грыва
Б'ецца на ветры, і ўвесь ён — нястрымнае ймкненьне!
Доўга яшчэ зьвер із ровам бушуе ў загоне,
Сочыць, на кім-бы памсьціцца, гарачку спатоліць,
Зрок яго люты спаліць вокал мог-бы ўсё чыста
Й прыкладам гэтта праўдзівым пацьверджу я зараз:
Нехта з мушкетам, вядома, ня простага роду,
Стрэліць дазволіў сабе ў зьвярыну і пацэліў.

пачатак збіранню скарбаў народнай мудрасці беларусаў і практычна рашаў праблему ўзаемаадносін літаратуры і фальклору.

Галоўнае ж, Гусоўскі змог падняцца над саслоўным, каставым мысленнем і сцвердзіў сябе як выразнік перадавых грамадска-палітычных і эстэтычных поглядаў

Творчы метад паэта і галоўны крытэрый эстэтычнай ацэнкі “Песні пра зубра” — рэнесансны рэалізм. Своеасаблівасць яго ў Гусоўскага абумоўлена творчым засваеннем сусветнай, у першую чаргу італьянскай (Бакачыо, Леанарда да Вінчы, Пампанацы, Дантэ, Петрарка, новая паэтыка і гістарыяграфія), *антычнай* (Платон, Арыстоцель, Сенека, Эпікур, Вергілій, Авідзій, Цыцэрон, Пліній Старэйшы), *хрысціянска-сярэдневяковай* (Павел Дыякан, Аўрэлій Аўгусцін, старажытнаруская эстэтыка і інш.), *нацыянальнай культурна-літаратурнай* (Скарына, Ян з Вісліцы, беларуска-літоўскія летапісы; юрыдычныя дакументы, звычайнае права і інш.) і *фальклорнай* традыцый.

Узбагачэнне літаратуры эпохі Адраджэння ідэямі, вобразамі, міфамі і здабыткамі духоўнай велічы розных народаў і эпох было адметнай з'явай у еўрапейскай цывілізацыі. Новая культура фарміравалася на аснове гуманістычнага светапогляду і выпрацоўкі новалацінскай і нацыянальнай літаратурных моў. Усё гэта сімвалізавала збліжэнне і ўзаемадзеянне культур лаціна-раманскай і грэка-візантыйскай арыентацыі, культур Захаду і Усходу. Калі раней замкнутыя літаратурныя сістэмы, тыповыя для сярэднявечча, амаль закрэслівалі творчую інды-





Гольлем схаваны, бач, песьціў дурніца надзею
Выцалець неяк і толькі сачыў із трывогай
Скуль спадзявацца нападу... Зайгралі сабакі:
Блізка напасьнік: Аж, ломячы з трэскам ламачча,
Сьнег раськідаючы, ў хмарах бялявае пары
Зьвер аказаўся зьнянацку, абкружаны зграяй,
І затрымаўся, сабаку адкінуў ды зрокам
Поўным шалёнай злабы утаропіўся ў хвойнік, дзе ў жаху
Бедны стралец здрыгануўся: няйначай, прыкмеціў!
Хай ад яго быў наш зубар даволі далёка,
Страх чалавека уразіў: бядак із мушкетам
Так, як стаяў, і сканаў з аднаго перапуду:
Дзіву даваліся людзі з канцоў баязьліўцы,
Труп небаракі застыглы знайшоўшы назаўтра.
Чулі яны, што забіць можа зрок Базыліска,
Ды вось памёр-жа-ж бяздольны, някранены зьверам
Гэты юнак, баязьлівага нораву й сэрца:
Сам я быў сьветкам здарэньня, яшчэ не забыўся
Нават напісу, што нехта зрабіў на магіле:
“Тут пахаваны Лаўрук, што забіты ня зубрам,
Выглядам толькі ягоным. Ці-ж лёс вінаваціць?”

11

Бачыў я шмат, ды найболып мяне ўсё-ж уражалі
Зьвера падскокі — о, гэтая лютасьць дзікая:
А як ня можа знайсьці, што-б скрышыць ці разьдзерці,
Храпы свае разьдзімаючы, ловіць павэтра,
Нюхам сваім найтанчэйшым уцягвае пахі!
Ўсё, што жывое, ці мае адзнакі жывога,
Топча, прабуе на рогі узьняць, пакалечыць,
Вінных шукае, хто важыўся раніць асілка.
Скокі ў два-тры дастае неклямягу-ахвяру,
Дзікім рыўком падкідае ўгару, прабівае,
А недабітага, хай гэта конь або коньнік,
Зноўкі на рогі бярэ ды камечыць няшчадна,
Ажно пакуль небараку ушчэнт не раздушыць.
Кроў застывае, як гэткую бачыш расправу:
Стаў конь дыбка, ашалелы, з распораным брухам,

відуальнасць пісьменнікаў, то цяпер ужо развіццё нацыянальных літаратур адбываецца на ўзроўні творчасці выдатных дзеячаў, талентаў і геніяў.

Гэтая заканамернасць яскрава прагледжваецца на прыкладзе дзейнасці вялікіх фігур Гусоўскага і Скарыны.

Гусоўскі стаў першаадкрывальнікам жанру лірыка-эпічнай паэмы ў літаратуры Усходняй Еўропы, стваральнікам мастацкага стылю ў літаратуры Беларусі і адным з заснавальнікаў яе эстэтычнай навукі. (...)

Паэтычны слоўнік паэмы просты, свежы, метафарычны і дакладны ў выбары слова. Дасканала валодаючы тэхнікай лацінскага вершаскладання, Гусоўскі стварыў сваю індывідуалізаваную стылістыку паэтычнай мовы “Песні пра зубра”. На жаль, моўны набытак “Песні пра зубра”, як і ўсёй творчасці паэта, не знайшоў пакуль што належнага адлюстравання ні ў лацінскіх слоўніках, ні ў працах даследчыкаў яго творчасці, ні ў перакладчыкаў.

Гусоўскі свабодна размаўляў і пісаў на латыні, а “думаў”, безумоўна, на роднай мове, таму вымаўленне, яе глыбока прыхаваныя водгукі чуюцца ў некаторых выразах “Песні пра зубра” (“...ad Italiam... venimus” — “прыбылі ў Італію”; “certamina per nemus” — “міжусобіцы праз пушчу”).

Ацаніць ролю мастацкай спадчыны Гусоўскага і, асабліва, “Песні пра зубра” ў далейшым развіцці айчыннага літаратурнага працэсу можна толькі на аснове прынцыпаў агульнага тыпалагічнага параўнання творчых метадаў і

Коньнік завіс у страменьні, крывёю заліты, —
Вось наляцеў, абярнуў абаіх і спад насту
Зь мешанкі кроў адно льлецца цурком неўзабаве.
Як на мярлог медзьвядзя, на дзіка́ ён нарвецца,
Ўвомірг пайрве, аж шмацьцё разьляціцца па дрэвах!
Часам трапляліся нам і казлы ў гушчарах —
Лютага зубра ахвяры на сьцежцы вузенткай.
Тыя, хто бачыў ягоную сілу, мне сьветкі:
Хай ён з разгону з аленьнем зударыцца часам,
Скрозь адаб'е ўсё нутро і вантробы, і сэрца
Параськідае вакол па лапчастых ялінах.
Цяжка ўявіць, не пабачыўшы, гэткую зьяву:
Птушкі драпежныя ймкнуцца на баёвішча з граем,
Дзёрзка дзяруць на шматкі яшчэ цёплыя часткі
Цела павіслай дзесь высака ў гольлі ахвяры...
Няверагодна, а бачыў: конь, зьліты крывёю,
Б'ецца, канаючы, коньнік-жа ўдоль галавою
Недзе вісіць угары. . А бывала й такое:
Ўзьняў ён на рогі каня, але гэтак, што коньнік
Проста зь сядла шугануў на сасну, цалюсенькі!
Прыкладаў стане, ці мала іх ведае пушча,
Лішнія-ж словы зьніжаюць давер да расказу.
Той, хто зубровую лютасьць ня бачыў, няздольны
Сьветчаньням верыць, як прэ ён, раве, ашалелы,
Быццам бурлівая хваля ў часы навальніцы,
Як ад грымотнага рыку страсаецца пушча,
Аж пад нагамі зямля і ўздыхае, і стогне:
Але хай сьцяміць, што помстаю гнеў не спатоліць,
Будзе храпсьці перарывіста, голаў пахіліць,
І па рагох кроплі сьвежай крыві забруяцца
Проста у гурбы... Ня знаю, ці знойдуцца словы,
Каб апісаць нам належна жахлівую бойку.
Ён, быццам ветру зудары і дужы, і спрытны,
Ўвомірг зьмяняецца ў сьмерч, гураган, і, вядома,
Скон будзе доляй таго, каго бура засьпее.
Сьнег палымнее й дыміцца на месцы забойства,
А на кустох ды на дрэваў сукох чырванеюць
Рэшткі ахвяры й зусюль крывяжэрныя птушкі
Плоймай лятуць за сваім дабрадзеем рагатым.
Ён-жа-ж, што кінуў ахвяру быў, зноў падыходзіць,

ўзораў творчасці пісьменнікаў. Калі з гэтага пункту гледжання аналізаваць літаратуру, то можна прасачыць некалькі ліній уплыву і засваення "ўрокаў" Гусоўскага.

Рэнесансная рэалістычная школа паэзіі, стылістыкі і патрыятычнага гуманізму паэта была вядома пісьменнікам Беларусі, Літвы і Польшчы XVI ст Яна ўздзейнічала на іх пасталенне, на росквіт *мастацка-лацінскай* (М. Літвін, Я. Радван, С. Будны, А. Валан, П. Раізій, І. Пельгрымоўскі, М.К. Сарбеўскі), *станаўленне ўласна беларускай* (Ф. Скарына, А. Рымша і інш.) і *польскай* (А. Маджэўскі, С. Кляновіч, Я. Каханоўскі, Я. Ласіцкі, Ул. Сыракомля, А. Міцкевіч) літаратур, *на развіццё гістарыяграфіі,* прысвечанай Вялікаму Княству Літоўскаму (С. Герберштэйн, М. Стрыйкоўскі, М. Кромер, А. Ґваньіні), і, такім чынам, на павышэнне цікавасці да гэтай дзяржавы ў Заходняй Еўропе.

Творчасць паэта плённа ўплывала на развіццё такіх літаратурных жанраў, як лірыка-эпічная, гістарычная і сатырычная паэма, палемічна-публіцыстычны трактат, нарматыўная паэтыка, элегія, эпіграма.

Гусоўскі сваёй творчасцю паскорыў засваенне гуманістычнай арыентацыі ў мастацкай культуры ўсходніх славян. Гэтая тэндэнцыя была падхоплена рэнесанснай і барочнай паэзіяй на роднай і лацінскай мовах.

Смелая крытыка паэтам маралі і феадальнай палітыкі пануючых класаў, якія давялі краіну да цяжкага эканамічнага і палітычнага становішча,





Ўспора рагамі яе, пераверне, зноў кіне...
Скончыў, забіў, але ўсёткі у смак не памсьціўся:
Цела ў шматох, растаптаныя косьці, ды злосна
Гэтую мешанку пора ды трэ ён рагамі,
Коньнікі-ж зьвера прабуюць узноўкі разьярыць
І ў вабцугі ўзяць: галёкаюць, дзідамі колюць...
Гэта бядой паграждае ці рэдчас, хай кажны
Й спрытны, бо кон падвядзе і загіне
Нат найспрытнейшы. Найлепш у сядле раўніною
Гнацца з ганьнём за зьверам, ды іншая справа
Пушчаю ймкнуцца, дзе ўсё можа трапіцца часам:
Там і калоды гнілыя і выкратні й ямы,
Норы барсучыя, пні, прыхаваныя сьнегам,
Коўзкая лужына — бачыш, і конь спатыкнуўся,
Гольле зламанае, лапы даўгія хваінаў,
Ўсё гэта пасткі, з каня бо зьляціш, і загінеш:
Зубр не змарудзіць, імгненьне пайрве на часьціны
Цела бяздушнае й высака ў гольле закіне.
Цудам адважны-ж ад зьвера ўхінецца, адскочыць,
Той налятае узноўкі, ажно і заколе.
Каб апісаць мог я тутка, адкінуўшы дробязь,
Толькі важнейшыя рысы лясное пачвары,
Хто яго ведае, стала-б мне словаў ды часу
І як даўгая была-б мая гэтта паэма!
Судзячы ўсё апісанае, гэтыя ловы
Зь лікам вялізным забітых былі-б мо шаленствам,
Змыць што ня лёгка было-б пачынальніку й славай,
Толькі-ж усё гэта мела карэнь у княжэньні
Вітаўта, князя вялікай Літоўскай дзяржавы.
Тымі гадамі, калі моц слабела айчыны,
Трэ было ўздыму, вось князь наш бязьмежныя пушчы
Ў стан баявы й абярнуў, дзе-б нарошчваць сілы.
Часам спакойным, прадбачачы прышлыя войны,
Вояў сваіх рыхтаваў ён на ловах зьвярыных,
Чым прымушаў забываць пра нястачы й нягоды!
Ён міратворца й баёў заразом пачынальнік,
Будучы князем, сваёю аголенай зброяй
Ставіў запын варагом і блізкі́м і далёкім.
Нават татарын, схіліўшыся ніцма, слухмяна
Лук свой зламаны яму аддаваў, зразумеўшы,

палымяная грамадзянскасць "Песні пра зубра" зрабілі прыкметны ўплыў на развіццё сацыяльна-палітычнай думкі Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы (трактаты: "Пра звычаі татар, літвінаў і маскавіцян" Міхалона Літвіна, "Аб выпраўленні Рэчы Паспалітай" Анджэя Фрыча Маджэўскага).

У гэтым плане цікавасць выклікае паэма Яна Радвана "Радзівіліяда" (Вільня, 1588), якая напісана пад уздзеяннем "Песні пра зубра" (апяванне прыроды і звычаяў краю, зубра, стварэнне вобразаў Вітаўта і параненага юнака, які вярнуўся з вайны і заклікае заспаных і лянівых вяльможаў падумаць пра цяжкі лёс радзімы).

Але найбольш плённа вялікая традыцыя Гусоўскага ў апяванні роднай прыроды і шырокім паказе побыту сваіх суайчыннікаў увасобілася на новым якасным узроўні толькі ў эпапеі А. Міцкевіча "Пан Тадэвуш", хоць лінію яе гістарычнага станаўлення можна правесці праз вышэйпамянёную "Радзівіліяду" Я. Радвана і паэму С. Кляновіча "Чырвоная Русь".

Паэт жа, адарваны ад радзімы, разбіты хваробаю, дажываў свае дні ў беднасці. Не знайшлося апекуна, роўнага Вітэліусу. Цяжкія гэтыя акалічнасці не маглі не ўплываць на яго. Таму і творы яго, напісаныя ў кракаўскі перыяд, саступаюць рымскім.

Але Гусоўскі да канца жыцця імкнуўся развіваць свае ідэйна-эстэтычныя прынцыпы (прапаведзь міру, дружбы і яднання народаў, абарона прыгонных сялян, ідэя самапазнання і ўдасканалення асобы і гра-

Што, хай зьбіраў ён калым на прасторах літоўскіх,
Сам-жа-ж агіднай літоўскай здабычай рабіўся.
З тымі лічыўся князь толькі, каго, ўпадабаўшы,
Сам выбіраў, нат Ардой кіраваў, захацеўшы.
Князю і ўсходні сусед слаў лісты з прапановаю згоды,
Хай і з багацьця ды моцы Маскоўскія знаныя землі.
Турак, і той, прысылаў яму часта гасьцінцы
З думкай таёмнай яго задабрыць, ну і помсты
Князя літоўскага неяк ня выклікаць часам, —
Трох, што трымалі ўвесь сьвет у трымценьні ды жаху,
Прад Ліцьвіном пахіляліся моўчкі з пакорай.

12

Слаўнае гэта прызнаньне ня вырасла ў пушчы:
Шырыўся пошчак аб ім і ўсьцяж і усюдых,
Станам ваяцкім было тады кожнае поле,
Дні супакою — спачынкам між войнаў кароткім.
Конскія ў коле сусьцігі, стральба на дакладнасьць,
Скрозь, дзе ні глянеш — спаборніцтвы, лукаў трымценьне:
Моцы адзнака, і пэўнай рукі, і адвагі.
Лучнік, спакойна пацэліўшы ў клін жураўліны,
Правадыру у крыло патрапляў, не даткнуўшы
Цела птушынага. Ў небе, на дрэве, у хвалях
Птушка — найлепшая мэта для стрэлаў, і білі
Ў пушчах яе, балатох, а тады ў падарунак
Князю давалі, ад сэрца, не для ўзнагароды.
Ў ловах нястомных жыццё людзі мелі за гонар.
Зь першай парошай чароды лавецкія князя
Зьвера сьціскалі у пушчы і, поўнячы нетры
Гоманам, крыкамі, гналі пад стрэлы ды дзіды.
Спрытна высочваць зьвяра у мярлогу лічылі
Справай штодзённай, а вы́рыне з логава, густа
Стрэламі ўкрыты ды рыне на сьмелага з рыкам,
Лоўкім ударам падняць яго трэба й асядзе.
Гульні былі й прыямнейшыя — гонкі на спрытнасьць,
Слаўная справа, калі мо за сотняю стадый
Мэта стаўлялася: конна пакрыўшы адлегласьць,
Перамажы ў хутчыні ды ва ўменьні, спаборнік!

мадства). Сведчаннем гэтаму стала яго паэма “Новая і славутая перамога над туркамі ў ліпені месяцы”, якая была створана па гарачых слядах падзей усяго за адзін дзень. Напісаная чалавекам хворым, фізічна надламаным, спакутаваным ад неўладкаванасці жыцця, паэма здзіўляе сілай мастацкага асэнсавання народнага подзвігу. Паэт ганарыцца тым, што перамога над туркамі пад Цэрамбоўлем (2 ліпеня 1524 г.) была здабытая народным апалчэннем. Лепшыя мясціны гэтага твора прадаўжаюць ідэйна-эстэтычную лінію “Песні пра зубра”. Паэт у абурэнні: “Сорам людзям сказаць усю праўду пра наша бяссілле” (г. зн. Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы). І з яго вуснаў злятае ціхая радасць: “Воін літоўскі харугвы пераможныя панёс у пагоні”.

Гэты твор Гусоўскага зрабіў прыкметны ўплыў на развіццё жанру гераічнай паэмы ў літаратурах Беларусі, Польшчы і Літвы (Я. Радван, М. Стрыйкоўскі, А. Рымша).

Працягам творчасці стала паэма “Жыццё і подзвігі св. Гіяцынта” (1525). У прысвячэнні да яе ваяводзе кракаўскаму Хрыстафору з Шыдлоўца, “таму, хто першы прыйшоў на дапамогу” паэт гаворыць пра неабходнасць “адкрыцця” спраў славутых людзей мінулага. Ставячы гэтую паэму ў кантэкст беларускай літаратуры XVI ст., скажам, што Гусоўскі імкнуўся адрадзіць у ёй жанр жыція, прапаведаваў хрысціянска-гуманістычны подзвіг як служэнне народу і выступаў





Толькі ў грамадах вось гэткія ўцехі бываюць!
Зь месца імкнуць скакуны чарадой, табунамі,
Ў лёце чуваць адно тупат ды коняў хрыпеньне,
Вось, вось дапялі парэдніх, зраўняліся ў гоне!
Зрок гаспадарскі злавіўшы, скакун падстаўляе
Пану сьпіну і з налёту ў імгненьне мяняюць
Коньнікі месцы на конях, адно із'лятаюць
Плоймай птушын калчаны у пёрах стрэлаў, крыж-на-крыж!
Цёмнаю ночай ізноў выдумляліся гульні,
Дзе пасароміць бы мог баязьліўца адважны.
Ўсім пераможцам давалі заўжды ўзнагароды,
Ну а хто сьхібіў, заслужваў і сорам і кпіны.
Часам ішлі аб заклад, што было шмат цяжэйшым:
Рэкі адолець шырокія ўплынь, хай чакаюць
Гушчы чаротаў плыўца, і віры, і глыбіні,
Б'ецца рака белагрываю хваляй у строму,
Рвецца з шаленствам дзікім і драпежным на бераг.
Звычай у коньнікаў быў свае лукі ды стрэлы
Ўкручваць у клунак з адзежай і гэтак сухімі
Потым выносіць на бераг... Вось рынулі коні,
Пырханьне чуеш адно, бачыш вушы ды храпы,
А на стырне, упіліўшыся ў грывы, мільгаюць
Конных галовы. Свабоднаю левай рукою
Кожны грабе, памагае каню выбірацца.
Ўсім нагароды давалі: вышэйшыя — лепшым,
Рэшце-ж, як хто заслужыў. Ня міналі нікога.

13

Выпрабаваныя доляй ня раз і ня двойчы
Воі мастоў ня шукалі, а рэкаў запыны
Перамагалі на конях, сухою выносячы зброю:
Княства для прышлых рыхтуючы войнаў, карысна
Гэтак адным рыхтаваньнем ды працай патрапіць
Боязі й жахі змагчы, із нястачамі зжыцца.
Князь, ваяўнік найгартоўнейшы, большага шчасьця
Нат не шукаў, чымся ўсьцяж гартаваць свае войска.
Годнасьцяй першай лічылася ў князя адвага.
Сочачы пільна, знаходзіў ён сам адважнейшых,

супраць антымастацкіх тэндэнцый пратэстантаў (Лютэра).

Нягледзячы на цяжкую хваробу (паралюш ног) і складаныя жыццёвыя варункі, паэт не страціў веры ў жыццё. Гэта відаць і з невялікай ацалелай эпісталярнай спадчыны Гусоўскага. У лісце ад 11 лютага 1531 г. ён пісаў з Пултуска свайму новаму апекуну, біскупу перамышльскаму Яну Карнкоўскаму: “Пасля таго, як мне было парэкамендавана служыць найпаважанаму і яснавяльможнаму пану, я з жаданнем і часцей пісаў бы, каб выказаць падзяку. Але, сапраўды, мне не ўдаецца знайсці патрэбнага матэрыялу. Пішу адны толькі нявартыя рэчы, якія не маюць значэння для інтарэсаў найпаважанага пана, заўсёды занятага вялікімі справамі”. Гусоўскі не ўяўляў свайго жыцця без творчай працы, без гусінага пёрка, быў сапраўдным служкай паэтычнай музы. ( ..)

Лёс творчай спадчыны паэта складаны і цяжкі, як пакутлівай была гісторыя яго Бацькаўшчыны, якой польскі шавінізм і рускі царызм не раз адмаўлялі ў праве на сваё месца пад сонцам.

Неспрыяльныя былі ўмовы для развіцця беларускай навукі і вывучэння лацінскага пісьменства ўсходнеславянскіх народаў. Быў нават час, калі польскія буржуазныя літаратуразнаўчыя школы і Ф. Скарыну прылічвалі да дзеячаў польскай культуры “на ўсходніх крэсах”.

Разам з тым існавала памылковая думка аб тоеснасці праваслаўнага веравызнання ўсходніх славян з іх на-

I на аглядах адразу й абдорваў шчодра,
А баязьліўцаў, няхай і з багатага роду,
Не шанаваў і была іхнай доляй няслава.
Вось як судзіў ён, суровы, але справядлівы,
Тонкім чуцьцём прыкмячаючы праўды адзнаку!
Злая мана перад ім пасьцілалася ніцма,
Сам абвяшчаў ён прысуд, вінавайцы-ж, як кажуць,
Тутка-ж з пакорай праступствы свае прызнавалі,
Кары ды сьмерці прасілі вяроўкі на шыю
Ведалі добра бо літасьці тут ім ня будзе.
Горай за ўсё ілжасьветкаў князь меў у пагардзе,
Іх аддаваў на жахлівыя ён катаваньні —
Суд справядлівы ня сьмейце ашукваць княжы!
Поглядам лютым усьлед выкрываў вінавайцу,
Аж прызнаваўся ў мане парушальнік прысягі.
Жорсткі прысуд быў удзелам засуджаных, іх бо,
Ў скуры зашыўшы зьвярыныя, кідалі проста
Злоснай ганьні ваўкадаваў, што іх трыбушылі.
Жорсткая кара чакала за хабар і судзьдзяў.
Недзе было, што гасьцінцам судзьдзю падкупілі,
Й княжы наказ абмінуць нешчасьліўца наважыў.
Выкрыты быў ён, жахліва пасьля катаваны
I, як навука для іншых, пайрваны на часткі.
Кожную сквапнасьць князь нішчыў з карэньнем, і гэтым
Сёньня і заўтра заслужана славіцца будзе.
Справаў бліскучых цімала заладзіў ён, гэта
Кажнаму ясна, як зь песьні маёй, паміж іншым.

14

Меў селянін адзін клопат гараць сваю ніву,
Сэрцы-ж сялянскія князь гартаваў паляваньнем.
Зьвер здабываўся ўсяляк, і найлепшай здабычай
Тая была, калі зьвера ў стан прыганялі
Без пакалечаньняў, ранаў, блізу што бяз шкоды.
Гэта лічылася скрозь дасягненьнем найвышшым,
Ну, а зь нядбайных маглі і спагнаць па загаду.
Трэба сказаць, што сяляне стараліся добра,
Ўсе даручэньні выконвалі пільна, адважна,

цыянальнай прыналежнасцю.

Запозненасць глыбоканавуковай і мастацтвазнаўчай цікавасці да асобы Гусоўскага як прадстаўніка лацінскай усходнееўрапейскай літаратурнай школы тлумачыцца і пэўнай недаацэнкай, якая мела месца ў савецкай навуцы, гістарычнай ролі лацінскай культуры ў развіцці нацыянальных літаратур. Таму і вершаваныя пераклады “Песні пра зубра” з лацінскай на ўсходнеславянскія і літоўскую мовы з’явіліся ў друку зусім нядаўна, у 60-я гады XX стагоддзя. А вобраз Гусоўскага ў мастацтве толькі пачынае набываць сваю сілу і гістарычную дакладнасць.

Спадчына Гусоўскага была амаль забытая ў Заходняй Еўропе і Польшчы аж да XIX ст. Малая вядомасць тут у XVII—XVIII стагоддзях імя Гусоўскага тлумачыцца тым, што яго галоўны твор — “Песня пра зубра” па сваёй ідэйнай накіраванасці не адпавядаў экспансіяністцкай ідэалогіі польскай шляхты. Але варта адзначыць, што роля першаадкрывальніка літаратурнага імя Гусоўскага належыць дзеячам польскай культуры. У кракаўскіх друкарнях Віетара і Унглера былі надрукаваныя ў 1523—1533 гг. асноўныя творы паэта. У Польшчы ў XIX ст. з’явіліся і першыя даследаванні, прысвечаныя яго жыццю і творчасці. Першая высокая ацэнка “Песні пра зубра” належыць паэту, перакладчыку паэмы на польскую мову Яну Каспровічу, які Гусоўскага як паэта паставіў побач з Адамам Міцкевічам. “Хоць Гусоўскі і





Нат і зуброў пакладалі да ног валадарскіх.
Што так бывала заўжды, я усёткі ня веру,
Цьвердзяць старыя, адлі, быццам гэта ўсё праўда.
Але пра кемнасьць народную ў ста́ўленьні пасткаў,
Трэба сказаць бяз сумлеву, што гэта — мастацтва!
Сьценку з падвойных бярвеньняў, падобную кліну,
Ў пушчы стаўлялі, рассоўвалі шырака перад,
Потым звужалі патроху, а ў сьценцы засовы
Спрытна хавалі пад гольлем ялін і травою,
Каб небясьпекі ня вычуў як зьвер асьцярожны.
Ў сьвітцы чырвонай лавец-заклікайла ўдоўж кліну
Раптам імчыць, меч захціць над яго галавою.
Зубр гэта бачыць, крывёй наліваюцца вочы,
Ды парушальнік спакою ўжо зьгінуў, расстаяў:
Ёсьцека ла́зы бо ў сьценцы, лавец і схаваўся.
Зьвер, разагнаўшыся ў гоне, тымчасам трапляе
Проста у пастку: засовы ўвомірг дарогу
Пыняць яму і наперадзе й ззаду — злавілі!
Бегма бягуць із схаванкаў лаўцы, абкружаюць
З крыкам пачвару, пятлю закідаюць на шыю,
Сьцягваюць шчыльна раменьне, а заднія ногі
Путамі моцнымі вяжуць, хаду запыняюць.
Непераможаны зброяй, атрадамі вояў ня ўзяты,
Тутка таймуецца зьвяр адно зьменлівым конам…
Цела магутнага зубра скруціўшы вяроўкай,
Цягнуць яго, як гару й дзікім жахам працяты,
Пеніцца люты асілак, але паддаецца,
Йдзе, дрыжучы, паўз натоўпы людзкія ў няволю.
Зьвера, у табар прыгнаўшы, разьвязваюць, гоняць
Потым у чыстае поле, каб мэтай жывою
Коньнікам княжым ён быў — беце стрэламі й дзідай,
Ды набывайце каштоўнае гэтак дазнаньне!
Як запэўняюць, ня толькі на стрэлах і дзідах
Клалі знакі, але мэту жывую знакамі
Густа пярэсьцілі й той, хто дакладна пацэліў,
Узнагароджваўся ўсьлед як найлепш, бо за князя
Вітаўта тых адзначалі, хто цела жывёлы
Дзідай умеў пранізаць і глыбока й дакладна.
Вітаўта княжаньня час, я мяркую, названы
Найпрыгажэйшым ня толькі з прычыны ваяцкіх

стаіць у адным радзе з Паўлам з Кросна, Янам з Вісліцы, Андрэем Кшыцкім, Янам Дантышкам, Клеменсам Яніцкім, — пісаў ён у 1913 г., — аднак сярод іх не мае сабе роўных”. Тым не менш у 1953 годзе польскі даследчык К. Гурскі, як бы падсумоўваючы вынікі даследаванняў творчасці Гусоўскага ў Польшчы, справядліва адзначыў на навуковай сесіі АН ПНР, што “Песня пра зубра” не была дагэтуль па-сапраўднаму ацэненая польскім літаратуразнаўствам.

Уключэнне паэзіі Міколы Гусоўскага ў гісторыю ўсходнееўрапейскага літаратурнага працэсу прыводзіць да наступных высноў.

У Беларусі, Літве і Польшчы (XV—XVI ст.,), дзе ў асноўным жыў і працаваў паэт, нацыі і нацыянальная свядомасць як сацыяльна-палітычная катэгорыя не скλаліся, а толькі зараджаліся

Паэтычная творчасць Гусоўскага, увабраўшы лепшыя рысы літаратуры італьянскага Адраджэння, абуджае нацыянальную самасвядомасць славян і па свайму духу яскрава сведчыць аб тым, што ён быў вялікім паэтам-гуманістам, патрыётам Беларусі і шматнацыянальных дзяржаў — Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы, ад імя якіх выступаў. Яго спадчына па шырыні закранутых праблем з‘яўляецца агульным дасягненнем і вынікам развіцця народаў у складзе памянёных дзяржаў.

Характэрнай асаблівасцю большасці сучасных работ пра Міколу Гусоўскага ў славянскім і літоўскім літаратуразнаўстве

Княжых удачаў, але мо й таму, што над грошы,
Ўдачы ды славу стаўляў Вітаўт духа багацьце,
Глыбака верыў у праўду Ўсямоцнага Бога...
Першы з народамі Княства прыняўшы хрышчэньне,
Веры старое усе асудзіўшы памылкі,
Зманных паганскіх бажкоў ён спаліў і паставіў
Храмы Богу Ўсявышняму. Быўшы пабожным,
Шчодра й сьвятарства дарыў ён майном і зямлёю.
Славу пяяць адлі Вітаўту слаўнаму годзе!
Хай неахвотна, ягоныя дзеі мінаю
Тут я, бо зноў захапіўся, а трэба трымацца
Пільна згаданае тэмы — Паўночнай краіны,
Дый пра зуброў быў-бы час ужо скончыць спаміны,
Ходзячы ўкола бо, ўшчэнт я ад іх адхіліўся,
А, паміж намі, час быў-бы вярнуцца да ловаў!
Крыкам, пагоняй загнаны і стомлены зубар
Здаўся, зьнясілеў нарэшце, астыгла і зьнікла
Лютасьць, маўляў зразумеў зьвер, што скон ужо блізка.
Ўвесь упацеў ён і дыхае цяжка, із хрыпам,
Ногі ўжо ледзьве трымаюць і цела абмякла,
Вось-вось, глядзі, спатыкаецца, ўпадзе і сканае,
Гасьне злаба уваччу, што яго паланіла...
Коньнікі коні вядуць у гушчар, не марудзяць.
Вось сьмелым крокам, як звычай ім кажа, выходзіць
Сьцяг юнакоў скончыць зьвера ва ўпор, вока ў вока
Ўдарам клінкоў, і стаяць із дзіўнюю адвагай
Тварам да сьмерці хлапцы із надзеяй на славу.
Вось узьняліся клінкі, расьсякаюць паветра:
Кожны заве да сябе спахмурнелага зьвера,
Ён-жа-ж, зьнясілены ўшчэнт, усё-ж ірвануўся
Сьлепа на постаць лаўца й той адскочыў за дрэва.
Зубр разьвярнуўся, нацэліўся й раптам з разгону,
Быццам маланка ў магутнае дрэва ударыў.
Гольле ляціць у бакі, з трэскам сыплюцца трэскі,
Сьмерцяй лаўцом пагражае камель надламаны.
Пільна, малойчык, глядзі, уважай, бо нязважным
Гэтае месца наўрад ці на схоў надаецца:
Трапіла бачыць мне: сьмелы адзін паляўнічы
Меч упусьціў, калі зьвер набліжаўся падскокам
Проста на дрэва, дзе той, скамянеўшы, стаіўся,

з'яўляецца тое, што даследчыкі часам аднабакова далучалі паэтычную творчасць Гусоўскага толькі да сваіх нацыянальных культур. Асталася недастаткова раскрытай эстэтычная праграма паэта-гуманіста, бо не ўлічвалася роля ўсходнеславянскага рэгіёна ў фарміраванні новалацінскай літаратуры Польшчы, а праблема гістарычнага асэнсавання лацінскай літаратуры Беларусі нават не ўзнімалася.

З'яўленне вялікага паэта-лацініста Міколы Гусоўскага ў культуры Вялікага Княства Літоўскага было з'явай заканамернай.

Узнікненне рэнесанснай беларускай літаратуры на лацінскай мове абумоўленае спецыфічнымі асаблівасцямі Адраджэння на Беларусі, якое сінтэзавала ў сваім станаўленні мясцовую, грэка-візантыйскую і заходнееўрапейскую культурныя плыні.

Асэнсаванне двуадзінага характару шматмоўнага культурна-літаратурнага працэсу агульнаеўрапейскага Адраджэння як адраджэння нацыянальных моў і літаратур і класічнай латыні, новалацінскага мастацтва з'яўляецца надзвычай важным. Пробліскі новай мастацкай літаратуры з прынцыпамі асваення жыцця, якасна адрознымі ад сярэднявечных, звязаны ва ўсходніх славян з новалацінскай традыцыяй і ў значнай ступені з "Песняй пра зубра" Гусоўскага.

Агульны характар адукаванасці ў Вялікім Княстве Літоўскім і ў Польшчы знаходзіўся ў першай палове XVI ст. пераважна пад лацінскім





І каб сам лёс ня прыйшоў бедаку з дапамогай,
Гэны юнак пэўне трапіў-бы сьмерці ў вабдымкі.
Шчасьцем, аднак, было гэтае дрэва сасною,
Шапкай вялізнаю сьнегу прыкрытаю, вось-жа
Як здрыгануўся камель, страсянулася й гольле
Й белая сьнежная хмара згары сыпанула.
Сьмелы лавец зьнік на ймгненьне, ды зараз
Рынуў нацёкі паўз белую ймглу ратавацца:
Моцна ўжо-ж кпілі сябры зь юнака і зь нягоды,
Быццам ад сьмерці ўцякаць — гэта сорам і ганьба,
Як і ў змаганьні да хуткай імкнуць перамогі.
Грымнуў удар і ўпіліся рогі у дрэва,
Ўзяўшы ў абоймы камель... Ды стрывала карэньне
Хвоі-асілка у пушчы ўрадлівым суглінку.
А як сасна баравая быць пэўным яе немагчыма,
Хто за ёй стоіцца, зь ёю-ж пасполу і рыне.
Гэнае й буры зь вятрамі ня вывярнуць, гэта-ж
Гіне парой пад імпэтным зубровым ударам.
Ну-ж і відовішча: Мкнецца сасну перакінуць
Зубар, здрыгаецца, кружыць, бадзе, у шаленсьцьве
Сьлепне й розьніцы болей ня робіць між дрэвам
І чалавекам, рагамі камель разьбівае,
Быццам ён — вораг, і пэўне-ж мяркуе: забіты!
Нат не разрозьніш у мітусе пары ды сьнегу,
Дзе паляўнічы, дзе зубар шалёны — абодвы,
Ёсьць аднак розьніца ў лютасьці кожнага зьвера:
Шмат зь іх і ў бойцы захоўваюць зрок непамыльны.

15

Ўсе яшчэ, думаю, ў памяці маюць здарэньне
Што тут было за гадоў караля Аляксандра.
Гэта няшчасьце магло-б патапіць каралеўства
Ў горкіх сьлязах, ды Бог зьлітаваўся — гора мінула:
Ў пушчы памост збудаваны быў моцны ў чатыры,
А можа ў болей падпоры сачыць паляваньне.
Ў коле магнацтва ды фрэйлін сама каралева
Тамка сядзела, ўнізе-ж ледзь трывала юнацтва,
Каб найхутчэй паказаць свае спрыт ды адвагу

уплывам. Навучанне ўсходнеславянскай, у тым ліку беларускай, моладзі ва універсітэтах Цэнтральнай і Заходняй Еўропы, дзе выкладанне вялося на латыні, у многім вызначала светапогляд і аблічча тагачаснай інтэлігенцыі, нараджэнне якой было абумоўленае эканамічным і культурным пад'ёмам гарадоў і росквітам мецэнацтва ў Вялікім Княстве Літоўскім і Польшчы.

Культура Вялікага Княства творча асэнсоўвала сучасныя ёй перадавыя заходнееўрапейскія традыцыі і ў сярэдзіне XVI ст. ужо здольная была нарадзіць дзеячаў і паэтаў еўрапейскага тыпу, маштабу і значэння. Самыя буйныя з іх — Францыск Скарына і Мікола Гусоўскі.

Гусоўскі, а за ім і дзеячы лацінскай усходнееўрапейскай школы XVI—XVIII ст. М. Літвін, Я. Радван, С. Будны, А. Валан, А. Ратунд, Б. Гіяцынт, Х. Кабылінскі, К. Варшавіцкі, А. Ляховіч, П. Раізій, К. Завіша, Ф. Градоўскі, Д. Набароўскі, Я. Бенет, І. Пельгрымоўскі, В Агрыпа, С. Рысінскі, С. Полацкі, М. К. Сарбеўскі, Ф. Пракаповіч, Г. Скаварада, М. Кміціч, М. Карыцкі — ставілі сабе галоўнай мэтай уключыць гісторыю і культуру сваіх народаў у летапіс гуманістычнай культуры Еўропы. Гэтыя задачы былі на той час надзённыя і наватарскія.

У беларускай культуры XVI ст. Скарына і Гусоўскі засведчылі якасна новую заканамернасць — паслабленне ўплыву візантыйскіх, паўднёваславянскіх традыцый і арыентацыю яе — пры адначасовым развіцці сувязей

Ў бойцы з магутным і дзіка разьюшаным зьверам.
Жэўжык Амур, на старой затаіўшыся хвоі,
Лук нацягнуў і насьлепа пацэліў у сэрца.
Што-ж, забаўляйся, свавольнік, гуляй у ахвоту,
Толькі-ж не сяньня, ня ў пушчы: Юнак-паляўнічы
Прыпадабацца каханай сваёй захацеўшы,
Зробіць мо рыцарскі гэст і напэўна загіне
Тут празь цябе нечаканай, бяздумнаю сьмерцяй!
Вось і зубры паказаліся з лоўчых ганьнёю.
Ўсе на памосьце замерлі і зь месца ўзьняліся.
Колерам зыркай вясёлкі блiснулі апраткі,
Золатам тканы вузор па чырвоным і белым.
Ледзь гэта зыркасьць у вочы дзікія шугнула
Правадыра, ён прыстаў і ўпіліўся паглядам
У варагоў. I загасла увомірг цікавасьць,
Бо не скажу, каб відовішчам цешыцца гэткім
Тыя маглі, што злабою зьвяроў ня кіруюць,
Гэта нязвычна. Тут тупат пачуўся здалёку
I паміж дрэваў, падскокам, праймчаўся, як вецер
Статак зубровы, цаляючы ў гурт паляўнічых.
Раптам на луг, у няпамяці гневу, ўварваўся
Зубар-асілак, жахлівай крывавячы ранай.
Ён прыпыніўся, затрос галавою, прыкмеціў
Зыркасьць страеў на памосьце й пачаў прыглядацца,
Быццам пазнаць намагаўся асобныя твары:
Цешыцца сьмерцяй маёю зыйшліся? Чакайце-ж,
Вось пакажу я вам сьмерць, што й вякі не забудуць!
Тутка зароў ён, дзьмучы у магутныя храпы
(Гэта сыгнал небясьпекі для кожнага ў статку),
Скочыў, ударыў рагамі і выбіў падпору.
Мост затрашчэў і каб воляю кону ударыў
Зубар яшчэ, усё-б рынула, шчодрай крывёю
Зьліўшы зямлю ды хварбуючы стромыя рогі.
Не, не магу я ўявіць нат, ушчэнт скамянеўшы,
Што-б нарабіць мог зьвер гэтта ўсьпененай пысай!

16

Быў ён загнаны ўсёткі й паранены. Чэзьне
Гневу шаленства у ім, хай мо лютасьць ня згасла:

Сьцёбае злосна хвастом, ажно сьвішча паветра,
Зь ляпы-ж вужакай віецца язык вялізарны
Ды вырываецца хмараю пара із храпаў.
(Моц непаўстрымную сьцюжа бадзёрыла пэўне,
Але-ж ужо, хай мароз, і яна занікае).
Дыхае важка, трымціць зьвер, бо гнеўная лютасьць
Бродзіць шчэ ўсёткі пад скурай, у чэраве сьпеклым,
Пеністым потам кіпіць, ды прыглядзься і бачна:
Згоднасьці ў рухах нямаш, а ўздыхне і на грыве
Космы падскочаць, адразу-ж іх вырве са злосьцяй,
Б'е капытамі па бруху, рве, тузае цела.
Ліст скалынецца пажоўклы на гольлі дубовым
Рыне на дрэва, націсьне, паломіць на трэскі,
Сьцень мільгане, шугане між галінамі птушка
Топча, бадзе тое месца, за сьценем нясецца...
Тысячы розных нягодаў, прыгод, успамінаў
Раптам вяртаюць цябе ў дні твае маладосьці!
Чую я хібу у складзе сваім, раз-па-разе
Сказ мой драблю і ў адцягваньне быццам, гуляю,
Словам пустым захапляюся... Будзь-жа-ж цярплівы
I пачакай абурацца, чытач мой, — разьвязка
Блізка ўжо: лоўчы за дубам, а зубр наступае.
Вось ён ля дрэва, ўпрытык паляўнічы і зубар,
Ані паўкроку ў бакі, дык трымайся, бо сьхібіш
Зразу-ж цябе, безбароннага, рогам дастане.
Круцяцца, нібы ў танку, й паляўнічы і зубар,
Скачуць з абодвух старонаў навокала дубу.
Лоўчы мяркуе клінком пад лапатку патрапіць,
Зьвер языком яго ўчэпістым мацае, ловіць.
Ну, а ня дай Бог, падчэпіць за полы і годзе,
Скон непазьбеглы: памне, забадае, загубіць.
Каб як ад гнуткай зьмяі языка адкаснуцца,
Спрытны лавец коле зьвера кароткім ударам
Захад адзіны, дзе й стрэлы клінку саступаюць
Бачыць лавец, што з часінаю кожнай слабеюць
Ногі пад зубрам, падцяненасьць цела зьнікае.
Зноўкі, адлі, страпянуўся, бадзе зьвер хавайся!
Чуеш, як духам гарачым цябе прыпякае з-за дубу,
Бі! I клінок яшчэ раз патрапляе бясьхібна.
Важка, ахутаны парай, асеў зьвер, канае.

**з Польшчай і Расіяй — на антычныя і перадавыя заходнееўрапейскія. Калі Францыск Скарына стаў сцяганосцам нацыянальнай традыцыі ў культуры беларускага і іншых усходнеславянскіх народаў, заснавальнікам усходнеславянскага кнігадрукавання, дык Мікола Гусоўскі выступіў як заснавальнік мастацкай рэнесанснай рэалістычнай традыцыі ў беларускай і ўсходнеславянскай паэзіі і адзін з стваральнікаў мастацка-літаратурнага пласта ва Усходняй Еўропе.**

**Новалацінскае прыгожае пісьменства, найбольш яркім прадстаўніком якога ў XVI ст. стаўся Гусоўскі, з'яўляецца ў нашым літаратуразнаўстве тым важным звяном, якое дае магчымасць асэнсаваць своеасаблівасці Рэнесансу, барока і Асветніцтва на Беларусі, гістарычнага развіцця беларускай культуры і літаратуры, філасофскай думкі.**

**Новае адкрыццё паэтычнай спадчыны Міколы Гусоўскага стала сапраўднай падзеяй у навуковым і культурным жыцці нашай краіны, святам еднасці, гістарычнай памяці славян.**

**Віктар ДАРАШКЕВІЧ**

---

[1] Паасобныя фрагменты паэмы і вершаў Гусоўскага даём у сваім перакладзе.

[2] Баяры, альбо бояры ў Вялікім Княстве Літоўскім — гэта служылыя, заможныя сяляне, якія да саслоўя шляхты не адносіліся, але службовыя абавязкі якой часткова падзялялі (ваенная павіннасць, язда ганцамі, удзел у паляванні і інш.).

[3] Пераклад Язэпа Семяжона.

[4] У вершы "Да высокашаноўнага Карла Антонія Банонскага" Гусоўскі называе сябе "адданым старым сябрам" каралеўскага сакратара.





# АЎТОГРАФ ПАЭТА

**Творчая спадчына Міколы Гусоўскага належыць адразу некалькім народам: беларускаму, польскаму, літоўскаму, украінскаму. Немагчыма сёння ўявіць гісторыю беларускай літаратуры без "Паэмы пра зубра". Але немагчыма і "прыпісаць" М. Гусоўскага да якой-небудзь адной нацыянальнай літаратуры, нават калі мы дакладна будзем ведаць, дзе паэт нарадзіўся. Зрэшты, уся шматмоўная літаратура Вялікага Княства Літоўскага XVI—XVIII стст. з'яўляецца агульнай спадчынай некалькіх народаў, своеасаблівым феноменам у еўрапейскай культуры.**

**Прыкры абавязак дзяліцца нашым класікам з суседзямі кампенсуецца аднак магчымасцю выкарыстоўваць іхнія здабыткі ў вывучэнні біяграфіі і творчасці паэта, магчымасцю аб'яднаць намаганні літаратуразнаўцаў розных краін. Беларускія філолагі В. Дарашкевіч, Я. Парэцкі, У. Калеснік, якія ў 70 – 80-я гг. XX ст. унеслі важкі ўклад у даследаванне творчасці М. Гусоўскага, абапіраліся на працы польскіх вучоных XIX – першай палавіны XX**

Недзе ўжо іншы раве й каб з ахвяраю скончыць,
Трэ праявіць літасьцівасьць — дабіць не чакаўшы,
Спрытным, апошнім ударам, наблізіўшы гэтым разьвязку.

17

Рог затрубіў. Пераможца у коле сяброўскім.
Жарты, уцеха. Ля ног зьвер, ужо ўтаймаваны.
Ў пушчы хаваецца іншы ды я не прабую
Рынуць пагоняй за гэным, бо час падганяе.
Годзе забойстваў! Разбуджаны розум трывогу
Кажа ўладарна мне ўзьняць, разьвітацца з разбоем.
Дось ужо Марсу ў крыві тапіць сьвет хрысьціянскі,
Веры асновы ўстрасаючы скрозь і усюдых.
Сяньня хісткая яна, нат на полі змаганьня,
Губяць яе варагі, ці свой меч расьсякае,
Даўшы чужынцам на зьдзек, на загін. Застаецца
Толькі ўсяго, што на літасьць нябёс спадзявацца.
Ды, патануўшы ў злачынствах, ці нам даваць веры
Ў хуткую зьмену, ратунак, — ня сьмеем нат думаць!
Сьпіць бо сумленьне зямлі ўладароў непрабудна,
Іхныя ўчынкі, на жаль, не клапоты аб сьвеце.
Рупіць балей ім за ўсё, каб мячы баявыя
Лепш нагайстрыць, як мага больш пазносіць галоваў.
Бойкі, напады, міжсобіцы, братазабойствы
Вось іх заняткі й сапраўдная ўцеха для духу.
Гінуць з абодвух бакоў воі ў гэткіх сутычках,
Што бо князём сьлёзы людзкія, кроў і пакуты,
Ім панаваць каб адно, захаваць сваю ўладу,
Вось і злачыняць, із лёсам падданых гуляюць.
Ворагі, бачачы гэткае, кпіны з нас строяць:
Княжы высокі пасад ёсьць зарукай апекі,
Ну, а яны, як ваўкі, йрвуць і катуюць ніцых.
Вось да чаго можа лютасьць сьляпая давесьці,
Глыбака ў сэрцы зь зялеза злаба ўкараніцца!
Лютыя сваркі ды бойкі, злабу, варажнечу
Ўцяміць нялёгка, ў адказнасьці-ж, горы — народы.
Але бяды ўладаром да спакою людзкога!
Ёсьць ці на сьвеце хто гэткі чульлівы, каб меч свой

ст. Асабліва каштоўнымі аказаліся нешматлікія звесткі фактаграфічнага характару, адшуканыя польскімі даследчыкамі архіўныя дакументы (напрыклад, копія ліста М. Гусоўскага, напісанага ў Пултуску 11 лютага 1531 г. да перамышльскага біскупа Яна Карнкоўскага[1]). Аднак па-за ўвагаю беларускага літаратуразнаўства застаюцца некаторыя цікавыя артыкулы, апублікаваныя польскімі вучонымі на працягу апошніх дзесяцігоддзяў.

У 1985 г. Ежы Ахманьскі ў артыкуле "Нацыянальнасць Мікалая Гусоўскага ў святле ягонага аўтографа"[2] паведаміў пра сенсацыйную знаходку ў варшаўскім Галоўным архіве старажытных актаў аўтографа М. Гусоўскага (аддзел пергаментаў № 8443). Не быў гэта ані рукапіс "Песні пра зубра", ані рукапіс нейкага іншага твора паэта, але тэстамент княгіні Соф'і Гальшанскай, складзены 29 ліпеня 1518 г. у двары Волпа пад Ваўкавыскам натарыусам Міколам Гусоўскім: "Et me Nicolao Nicolai Hussowsky clerico premisliensis dioecesis publico apostalica auctoritate notario et scriba prefati testamenti"[3]

Якія ж новыя факты біяграфіі паэта сталі вядомыя ў выніку знаходкі дакумента, аздобленага ўласным натарыяльным знакам М. Гусоўскага?

Прозвішча паэта сапраўды было Гусоўскі, а не Усоўскі і не Гусавянін. Бацьку паэта звалі Мікола.





Нашай крывёй не мачыў ужо, толькі-ж у Княсьцьве
Гора дагэтуль пануе й скрозь нішчацца людзі.
Туркам бязьлітасным цэрквы ганьбуюцца, месты
Паляцца й вёскі, і горды чужыя палоняць
Нашу зямлю, гасяць смагу бязьвіннай крывёю
І сысункоў, і старых, ды агіднасьці чыняць:
Ўлоньне цяжарных жанок успароць ятаганам
Гэта забава для вылюдкаў, што-ж ты ім зробіш,
Як, абарону зламаўшы, забраўшы ў нас зброю,
Ім ці-ж баяцца, што голы паўстане нявольнік!
Ой, як сьляпы наш народ, як бяздольныя людзі!
Мы — яшчэ натаўп, князі-ж падаўнейшаму душаць
Кожную, дробную нават, праяву бунтарства,
Ймкнуцца, ці гэтак, ці так, зьнесьці кожнаму голаў,
Хто за правы свае ўстаць і за Бога патрапіць.
Як толькі Госпад, наш Збаўца, у зьзяньні нябёсаў
Бачачы гэткія зьявы зямныя, знаходзіць
Гэтта пабожных, што вераць у Божае слова!

18

Дзева Марыя, калі Тваё ймя я накрэсьліць
Тутка наважыў, рука затрымцела у жаху.
Ніцы нявольнік Твой, я прад Табой із маленьнем
Кленчу, ня знаючы, што мне сказаць, а што змоўчыць.
Вось, я маўчу, але знаю: гаднейшая ўсіх Ты,
Каб галасамі стварэньняў зямных маліцьвенна
Сьвет зазьвінеў, пяючы Табе вечную славу
Розум ня знойдзе, язык наш ня вымавіць словаў
Пышных удось, да Цябе каб належна зьвярнуцца!
Верачы ў любасьць Тваю, разумеючы ўседараваньне,
Дзева, Тваё, прад Табою зьгінаю калены,
З сэрцам трапёткім, зьбалелым, зламаны бярэмам
Важкіх грахоў, і з пакораю ніцай прабую
Вымаліць, Дзева, Тваю я над намі апеку.
Знаю: ці-ж мне да Цябе з гэтай просьбай зьвяртацца,
Толькі-ж малю -- заступіся, бо-ж Бог чалавеку
Ўзвышнай Цябе Апякункай прызначыў. Як сонца
Сьвеціць паставіў, і Ты нам — памога й апека.
Як пад матулі крыльлём мае схоў птушанётка,

Перад ад'ездам у Рым Гусоўскі не гойсаў па пушчах за зубрамі, але паспеў ужо атрымаць пачатковую адукацыю і прыняць духоўны сан. А паколькі не меў яшчэ ўласнай плябаніі, зарабляў на жыццё, выконваючы абавязкі грамадскага натарыуса (не вельмі надзейны як на тыя часы заробак). У ліпені 1518 г. Гусоўскі знаходзіўся яшчэ на Беларусі, а не ў Італіі, пад апекаю не Эразма Вітэліуса, які яшчэ ў 1501 г. пакінуў Княства, а хутчэй за ўсё Паўла Гальшанскага, з 1515 г. віленскага архідыякана.

Цікава, што М. Гусоўскі падпісваецца ў тастаменце як канонік перамышльскай дыецызіі (епархіі). На думку Е. Ахманьскага, гэта пераканаўчы аргумент на карысць гіпотэзы аб польскім паходжанні паэта (мястэчка Гусаў пад Ланьцутам знаходзілася якраз у перамышльскай дыецызіі, на польска-ўкраінскім этнічным сумежжы). Такім чынам, нібыта абвяргаецца версія аб беларускім паходжанні М. Гусоўскага (з Прыдняпроўя або Наднямоння, з вёскі Усава ў Цэнтральнай Беларусі).

Але знаходка каштоўнага дакумента і высновы Е. Ахманьскага, падмацаваныя аналізам мовы тастамента, не ўспрымаюцца як апошняе слова ў шматгадовай дыскусіі паміж беларускімі, літоўскімі і польскімі вучонымі аб паходжанні

Гэтак зьвяртаемся й мы пад Тваё апякунства,
І як дзіця-немаўля маці туліць і песьціць,
Так утулі Ты і нас, Твае дзеці, што гінуць.
О, найсьвяцейшая, чыстая Дзева-Марыя!
Послух дай нашым маленьням, ратуй нешчасьлівых!
Зрок свой зьвярні на палі нашы й нівы, дзе войны
Жорсткія ймкнуць, быццам хваля марская па хвалі,
Глянь Ты, якое бясчынства мячы нам спраўляюць
Над хрысьціянамі, хай вера іхная ў згодзе
З Сынам Тваім, хай жадаюць яны супакою.
Розум здаровы вярні ўладаром нашым, Дзева,
Каб абавязкі забытыя ўспомнілі знову.
Ўсе-ж яны ў гэтым вар'яцкім, разбэшчаным сьвеце
Ў словах адно міратворцы, ваўкі-жа-ж ва ўчынках.
Не прычакаць нам, пакуль яны працьверазяцца,
Край наш тымчасам злы вораг палоніць і гоніць
Бедных людзёў безбаронных на зьдзек і пакуты.
О, запыні пал варожы няхай-бы на ймгненьне!
Час не стаіць і адцягваньне горшае сьмерці!
Папскі пасад Адрыяна быць можа памогай,
Дык не чакай, о, Марыя, хай зь ветрам паверне
Ветразі ён і прыпыніць мячы варажнечы,
Хай ён пакажа сьляпым і дурным небясьпеку
Ды пакарае ўсіх вінных уладай закону,
Гэтак, каб той, хто ня спэцкаў яшчэ сваё йменьне,
Меч наш усюды й заўжды кіраваў справядліва
І ўладара ўзгадаваў-бы зь сябе, што патрэбны
Кожнаму конча сягоньня ў хаосе сусьветным.

*Пераклад з лацінскае мовы*
*зь беларускім падтэкстам*
*Натальлі АРСЕНЬНЕВАЙ.*

1978 1982

аўтара "Песні пра зубра" і не вырываюць творчасць паэта з кантэксту беларускай культуры.

Па-першае, хаця ў 1518 г. М. Гусоўскі і падпісваўся як перамышльскі клерык, але гэта яшчэ не значыць, што ён быў родам з-пад Перамышля. Па-другое, тастамент Соф'і Гальшанскай пацвярджае знаходжанне паэта на Беларусі перад ад'ездам у Італію. Па-трэцяе, нават калі М. Гусоўскі і нарадзіўся ў Польшчы, у "Песні пра зубра" ён услаўляў Вялікае Княства Літоўскае, узорам ідэальнага ўладара лічыў князя Вітаўта, а не караля Ягайлу.

І, нарэшце, дакладна невядома, ці быў натарыус Мікола Гусоўскі, які ў 1518 г. у Волпе склаў тастамент княгіні Соф'і Гальшанскай, тым самым Міколам Гусоўскім, які ў 1522 г. у Рыме напісаў геніяльную паэму "Песня пра зубра".

Сяргей КАВАЛЁЎ

[1] Cwiklinski L. Nieznany list Mikołaja Hussovianusa (Hussowskiego) // Eos, 1898-1899. T 5. S. 204—206.

[2] Ochmański J Narodowosc Mikołaja Hussowskiego w swietle jego autografu // Słowiańszczyzna i dzieje powszechne Warszawa, 1985. S. 312—318

[3] Тамсама. С. 315.



# Віктар ШНІП

У НАС



*Ты ў гэтым доме, як пракляты,*
*З акон сваіх змываеш краты,*
*Як пыл змываецца дажджом,*
*Як лес змываецца агнём.*
*Але ты ўсё ж гаворыш люду,*
*Што гэты дом  найлепшы дом.*

# СЛЯДЫ САМОТНАСЦІ АТРУТНАЙ

***

Гаварылі, што зваліцца неба...
І звалілася неба да ног,
Пакацілася зорнае срэбра
Па камені і пыле дарог.

І чарнюткая прорва над намі
Загудзела, завыла, як цмок.
І зрабіліся людзі мышамі
І разбегліся ў норы і змрок.

Затапталі блакітнае неба,
Замуцілі блакітную кроў
І сказалі, што гэтак і трэба
Бо мы дзеці бязбожных бацькоў.

І смяяўся нячысцік і плакаў
Над каменнем, над пылам дарог,
І не выў, а маліўся сабака
За нябёсы, што ўпалі да ног.

***

Ты ў гэтым доме адзінокі,
Ты ў ім глухі, ты ў ім бязвокі,
І нат гаворачы "жыву",
Ператвараешся ў траву,
З якой навараць нам атруты,
Каб нам твае спазнаць пакуты...
Ты ў гэтым доме, як пракляты,
З акон сваіх змываеш краты,
Як пыл змываецца дажджом,
Як лес змываецца агнём.
Але ты ўсё ж гаворыш люду,
Што гэты дом — найлепшы дом.
І будзеш піць журбы атруту,
І выціраццa кулаком...
Ты ў гэтым доме адзінокі,
Як цень, што ў свет нясуць аблокі.

***

І патухла святло, бы спалілася неба...
І мне вецер сказаў, што баяцца не трэба,
Што бязгрэшных няма, як няма тут былога,
Бо былое — не Храм, а да Храма дарога...
І патухла святло, быццам Храм разбурылі,
І спусціўся анёл і анёла забілі.
Я вяртаўся дамоў, як вяртаецца пыл
З-пад счарнелых нябёс да забытых магіл...

*ЯНО*

і знікшы ў траве
яно з'явілася ў небе
адны гаварылі што гэта божы знак
другія што НЛА
а яно плыло сярод хмар
цяжкае і бязважкае
страшнае і прыгожае
а можа гэта канец свету
а можа гэта яшчэ толькі пачатак
і кожны думаў пра сябе
і бег па полі заяц
і сядзела ліса ў нары
а яно плыло па небе
як Ноеў каўчэг
на якім ужо было
"усякай істоты па пары"

***

У карчме ля дарогі
Цябе ніхто не чакае,
Але ты ідзеш па дарозе
І ты не можаш абмінуць карчму,
Як нельга абмінуць сваё нараджэнне,
Як нельга абмінуць сваю смерць...
І заходзіш ты ў карчму
І купляеш віно.
Віно чырвонае, як заходзячае сонца,
Льецца табе ў нутро,
З душы змываючы пыл самоты.
І п'еш ты,
Пакуль самая непрыгожая
І самая разбэшчаная жанчына
Пачне табе падабацца...
І будзеш ты ляжаць ля карчмы,
Як ля свайго ценю...

Але пакуль што ты п‘еш віно
І ніхто табе тут не падабаецца.
І глядзяць на цябе распусніцы,
Як на сваю распусту.
І ты ўжо не памятаеш,
Куды ты ідзеш і адкуль,
Але гэтую карчму
Ты не мог абмінуць,
Як сваё нараджэнне,
Як сваю смерць...

## *ЗБАН*

збан на стале пан
які аглядае свой палетак
збан гліняная вежа
у якой кацiная спакуса
кропляй млечнага шляху
збан захоўвае і захоўваецца
ён кволы як павуціна
але ён прайшоў багну і агонь
і яму давяраюць
і стоячы на стале
ці на паліцы сярод посуду
пусты збан маркоціцца
як пустацвет
і толькі напоўнены вадою ці вінам
збан весялее і весяліць
і каб было ў мяне золата
яно было б у збане

***

А ты ляцела над зямлёй заснежнай,
Як лісцяў пажаўцелых вырай позні.
І ты была, як вецер, незалежнай
Ад гэтых белых сноў, што ўслалі пожні.
А я ішоў, як выгнаны сабака,
У пошуках цяпла і смерці лютай.
І цень мой, як пракляты сябар, плакаў,
Сляды мае самотнасці атрутай
Штохвілі поўніў, быццам куфлі ледзяныя.
А ты ляцела, як мая надзея,
У светлы дом, дзе ўсе мы — маладыя,
Дзе кожны дзень — анёльская нядзеля.





І я прыйшоў у свет, дзе ўсё нявечна,
Дзе лісцяў пажаўцелых позні вырай
У небе чорным, нібы шлях той Млечны,
Дзе плача д‘ябал над зламанай лірай.

## *ПАЭТКА*

Яна — тая,
што, седзячы ля скрыжавання дарог
з працягнутай рукой,
не дачакаўшыся міласціны,
рэжа сабе вены...
Яна — тая адзіная,
якая яшчэ не ведае пра Гэта,
і можа лепей хай і не ведае...
Яна — тая,
якая не марыць стаць вядомай,
бо яна ўжо была ёй...
Яна — тая спакуса,
якая толькі і застанецца
пасля сканчэння свету...
Яна — тая паэтка,
якая ведае, што яна прыгожая
і ёй за гэта шмат што даруецца...

## *УНАЧЫ*

Не думаць ні аб чым, нібы памерці,
І ў ноч, нібы ў сваю душу, глядзець,
Дзе на галінах дрэў лісты, як чэрці
Апранутыя ў восеньскую медзь,
Трапечуцца, шукаючы ратунку —
Ад маладога ветру пацалунку...

Не думаць ні аб чым, нібы памерці,
Мне хочацца ад гэткага жыцця.
Ды Богам што напісана — не сцерці,
І знікне ўсё, як дачытаю я
Сябе самога на старонках часу...
І знікне ноч і з‘явіцца адразу.

# Юры СТАНКЕВІЧ



*Скажу толькі, што гэта, магчыма, энергетычная субстанцыя плазменнага тыпу, якая валодае розумам, а можа – адна з неарганічных сутнасцяў, што жывуць у Сусвеце побач з намі.*

# ПСЕЎДА

*Аповесць*





**Частка першая.**

**КАМЕННЕ**

Яго ўжо двойчы збівалі і рабавалі, калі ён абыходзіў свой участак, і ў падсвядомасці ўрача замацавалася пачуццё перасцярогі Таму ён нерашуча наблізіўся да цёмнага правалу пад'езда і спачатку прыслухаўся.

Сутонела З лісцяў кволага клёна на яго сцякалі халодныя кроплі. Участковы тэрапеўт Юльян Сарока зайшоў у пад'езд. Ліфт не працаваў, і ён пачаў узнімацца наверх пешшу На вузкай, забруджанай лесвічнай пляцоўцы не было святла, і ён пашкадаваў, што не захапіў электрычнага ліхтарыка. Праз некалькі хвілін ён зблытаўся ў вылічэнні паверхаў, намацаў сярнічкі, потым выцягнуў адну і чыркнуў аб карабок. Агеньчык асвятліў нумар кватэры, перад якой ён стаяў, і твар самога ўрача Гэта быў звычайны, без асобых прыкмет твар мужчыны, які перайшоў сярэдні ўзрост — спакойны і засяроджаны, з роўным носам, шэрымі вачыма і ўпалымі шчокамі ў чырвоных прожылках.

Участковы тэрапеўт Юльян Сарока зноў паволі пакрочыў наверх Ніхто не спускаўся яму насустрач і не ўзнімаўся ўслед за ім, хаця з-за дзвярэй да яго часам даносіліся гукі ці то радыё, ці то працуючых тэлевізараў, галасы, тупат ног, а дзе-нідзе віск і плач Лесвіца пахла цвіллю, мачой і гнілым смеццем

Урэшце ён знайшоў патрэбную яму кватэру і пастукаў у дзверы, бо званок быў адламаны. Цемра, прасякнутая нездаровымі пахамі, ахінала яго шчыльным покрывам. Але неўзабаве за дзвярыма пачуўся рух і жаночы голас спытаў у адно слова:

— Хто?

Тэрапеўт Юльян Сарока гучна сказаў, што ён участковы ўрач і прыйшоў з абходам

Дзверы прыадчыніліся Яго некалькі секунд разглядалі, а потым Юльян Сарока зайшоў у вітальню Жанчына прыкладна трыццаці пяці гадоў стаяла перад ім ля вешалкі, загараджваючы вузкі праход. На ёй быў кароткі блакітны халат, пад якім угадвалася моцная і здаровая плоць.

— Вы па заяве? — панізіўшы голас, нечакана спытала жанчына і азірнулася на зачыненыя дзверы ў бакоўку

— Якую заяву вы маеце на ўвазе?

Паўза.

Жанчына недаверліва глядзела яму ў вочы У яе быў правільных рысаў грубаваты твар з крыху выступаючымі азіяцкімі скуламі, жорсткія, з медным адлівам валасы, шырокія плечы, зграбная постаць, а пажадлівыя пульхныя вусны і пах дарагой парфумы гаварылі аб прыхаванай сексуальнасці, і ўвогуле ўся яе істота чамусьці падалася яму зусім не такой аморфнай і бясполай, як яна выстаўляла сябе зараз Юльян Сарока асцерагаўся такіх жанчын

— Тут жыве Віктар Малец? — спытаў ён і зноў патлумачыў· — Я ўрач з паліклінікі і павінен яго пабачыць. Ён неяк быў у мяне на прыёме і больш не з'яўляўся

Жанчына нейкі час быццам раздумвала, а потым зрабіла запрашальны жэст

— Зірніце сюды, — сказала яна, — і адразу зразумееце, што ён дома

Юльян Сарока павярнуў галаў услед за яе позіркам По баках вітальні і ўгары, на зварaных з металічнага "вугалка" стэлажах, ляжала каменне Гэта былі камяні самай рознай формы і памераў, быццам нехта разабраў частку брукаванкі і склаў іх тут, ля сцен, на вышыні чалавечага росту

Юльян Сарока ніяк не зрэагаваў на гэтае відовішча, і жанчына сказала

— Ён у сваім пакоі Месяц нікуды не выходзіць. Праходзьце, калі ўжо вам трэба, і не здымайце чаравікаў

Юльян Сарока праціснуўся паўз яе і стэлажоў з каменнем да бакавога пакойчыка і нерашуча спыніўся Жанчына піхнула дзверы рукой, і яны расчыніліся

— Доктар прыйшоў, — сказала гаспадыня

Віктар Малец быў невысокім сівым чалавекам каля пяцідзесяці гадоў Выглядаў ён, дарэчы, намнога больш старым, чым на самой справе· яму можна было даць і шэсцьдзесят Калі б Юльян Сарока сустрэў яго дзе-небудзь на вуліцы, то наўрад ці звярнуў бы на яго ўвагу. Хіба што позірк цёмных вачэй быў часам нечакана вывучаючы і пранізлівы, што сустрэнеш не часта, а калі заўважыш такое за чалавекам, то міжволі падбярэшся ў яго прысутнасці і прымусіш сябе не расслабляцца

Малец у змятай ваўнянай кашулі, спартыўных нагавіцах і танных сініх

шкарпэтках ляжаў на сваім вузкім салдацкім ложку, але адразу падхапіўся і ўстаў, калі пабачыў, што да яго ўвайшлі Участковы ўрач Юльян Сарока пазнаў у ім аднаго са сваіх пацыентаў, а на яго ўчастку дарослых было каля дзвюх тысяч. Гэты Віктар Малец звяртаўся да яго на прыём апошні раз некалькі тыдняў таму

— Здыміце плашч і сядайце, — сказаў урэшце пасля паўзы гаспадар, — вы прамоклі

Юльян Сарока пашукаў вачыма, куды паставіць гамец, і не знайшоў Паўсюль на паліцах, крэслах, нават на падлозе ў куце ляжала каменне. Ён зняў плашч

— Я, нягледзячы на ўсю невыгоду такога надвор'я, люблю, калі ідзе дождж, – чамусьці патлумачыў ён гаспадару. — Тады на вуліцах меншае людзей і становіцца ціха. А цішыня, як сказаў паэт, — "лепшае, што чуеш у свеце "

Вочы Віктара Мальца бліснулі на яго ў святле настольнай лямпы. Гаспадар прыбраў з крэсла некалькі камянёў, павагаўся, куды пакласці іх, і, урэшце, асцярожна размясціў на стале

— Вы не завяршылі абследаванне, — нечакана для сябе мякка ўпікнуў гаспадара Юльян Сарока, — не прайшлі флюараграфію, не здалі аналізы, не зрабілі прышчэп на дызентэрыю Я асабіста выпісаў і даслаў на ваш хатні адрас позву і не адну З-за вас я маю непрыемнасці па рабоце

Ён сеў у крэсла Ледзь улоўнае пачуццё дыскамфорту змусіла яго павярнуць галаў· жанчына ціха стаяла за спінай і сачыла за імі Раптам яна выйшла Юльян Сарока раскрыў гамец і выняў адтуль танометр з фанендаскопам

— Здыміце кашулю і пасуньцеся бліжэй, — папрасіў ён — Я вас паслухаю

— Я амаль здаровы, — заўпарціўся мужчына па прозвішчу Віктар Малец, але кашулю зняў і дадаў· — Хвароба — гэта толькі матрыца чагосьці — думак, холаду, болю Я пазбаўляюся ад яе з дапамогай сутнасці.

— Памаўчыце хвіліну Дыхайце

Юльян Сарока прыладзіў у вушы нікеліраваныя дужкі фанендаскопа Лёгкія чалавека, які сядзеў перад ім, былі на слых амаль чыстыя Плечы, рукі, торс былога пацыента таксама не нагадвалі таго хворага, які прыходзіў да яго раней.

— У нашым узросце здароўя і сілы не прыбывае, — механічна і з доляй скептыцызму заўважыў урач Юльян Сарока і спытаў: — Якую сутнасць вы маеце на ўвазе?

Віктар Малец паціснуў плячыма

— Дакладна не ведаю Тут трэба асобная гаворка.

— Вы ездзілі ў які санаторый? Праходзілі аздараўленчы курс?

— Не Проста я вырашыў размясціць, так бы мовіць, жыццё стратэгічна Я падышоў да свайго здароўя, скажам, з эмпірычнага боку і хутка вылечу сябе сам

Юльян Сарока згодна, як малому, кіўнуў, замацаваў на перадплеччы гаспадара пракладку танометра і пачаў рытмічна націскаць грушу

— Сто пяцьдзесят на дзевяноста, — сказаў ён. — Дзе вы дасталі лекі, навейшыя антыбіётыкі? Я яшчэ не бачу вынікаў аналізаў, але, як кажуць, ёсць падставы для аптымізму

Віктар Малец зноў накінуў на сябе памятую кашулю брудна-шэрага колеру і старанна зашпіліў гузікі Бледны твар яго ў абрамаванні сівых яршыстых валасоў нагадваў дзьмухавец.

— Вы не слухаеце, — заўважыў ён — Слухаць — гэта значыць разумець Я амаль што вылечыў сябе сутнасцю

— Добра, але вы можаце і памыляцца ў такім бадзёрым дыягназе, — сказаў Юльян Сарока — Хвароба іншым разам быццам адступае, а потым накідваецца зноў і б'е зусім з другога боку, б'е да апошняга

Ён вырашыў пра сябе, што аддаў пацыенту адпаведнае і зараз устане і пойдзе За гады сваёй працы ён неаднойчы сутыкаўся з рознымі чалавечымі дзівацтвамі, заганамі і адхіленнямі і звык да ўсяго.

— Мы павінны даабследаваць вас і прызначыць лекі, закрыць вашу гісторыю хваробы Калі вы зможаце зайсці на прыём? Вы працуеце пазменна? Хаця вы, здаецца, служачы

— Я не хаджу на службу, — сказаў Віктар Малец. — Я назапасіў крыху грошай і заняты цяпер больш важнай справай. — Ён памаўчаў і нечакана дадаў· — Хіба не гаворыць сама за сябе мая калекцыя камянёў?

— Навошта хаваць у сябе столькі камення, калі на вуліцах і дарогах яго процьма? — не стрымаўся Юльян Сарока

— Вы не заўважалі, як сяляне збіраюць яго з палёў, а потым складаюць абапал? Яно нікому не трэба Хіба што на падмурак, калі будзеце будаваць дом, лецішча ці гараж.

— Ага, вось гэта гарачэй, — раптам ажывіўся мужчына па прозвішчу Віктар Малец — Вы правільна задалі сабе пытанне чаму ў мяне ў кватэры шмат камення? Добра, што вы не круціце, не пераконваеце, але вы не разумееце

— Не разумею — чаго?

— Тлумачу Яшчэ Арыстоцель заўважыў наступнае "і камень крыху чалавек, і расліна " Вам не здаецца дзіўным, што ён паставіў першым менавіта каменне, а потым расліны? Мне — не Я, да слова, высветліў, што з-за сваёй старажытнасці і сілы камяні маюць асабовае святло Яны, дарэчы, адкрываюцца не кожнаму сузіральніку, бо ў іх ёсць свае сакрэты, схаваныя ў сарцавіне Так. Вы здзіўлены? Не? Тады слухайце Сярод гэтых сакрэтаў зрэдку, але трапляецца сутнасць ці сіла, а яна здольная на розныя ўздзеянні можа дапамагчы чалавеку ці наадварот забіць.

Чыста інтуітыўна я палюбіў камяні даўно, з самага ранняга дзяцінства збіраў іх і гуляў імі — вы, магчыма, скажаце, што так робяць многія дзеці, і сапраўды будзеце мець рацыю Так, робяць Толькі чаму? Я вярнуўся, скажам так, да інфантыльнага захаплення маленства таму, бо зразумеў тое, што разумеюць дзеці на ўзроўні падсвядомасці Скажу вам у некаторых камянях хаваецца незвычайная моц. Такія камяні вельмі адметныя, але яны ёсць Калі доўга шукаць, то, урэшце, абавязкова знойдзеш хоць адзін Іншыя з іх налічваюць дзесяткі тысячагоддзяў Адно гэта ўжо прымушае адносіцца да іх з павагай, хіба не так? Але я змаўкаю, бо вам не вельмі цікава

— І вы знайшлі такі ўзмоцнены экземпляр?

— Так Вы, пэўна, чулі, што старажытныя людзі шырока выкарыстоўвалі розныя камяні і мінералы, каб абудзіць энергетыку цела Існавалі камяні для прадказанняў, варажбы, камяні-талісманы, з якіх выраблялі амулеты і бранзалеты, а то лекары адшліфоўвалі камень так, што ён збіраў промні ў адну кропку, і калі чалавек глядзеў на яго, то засынаў Камяні маюць сувязь з планетамі і знакамі задыяка. З іх выраблялі люстэркі і пярсцёнкі для павелічэння ўздзеяння на людзей А таямнічая сіла крэмнію — хіба яна разгаданая дагэтуль?

Юльян Сарока сапраўды слухаў гаспадара кватэры не зусім уважліва. Прафесія ўрача патрабавала ад яго цярпення і памяркоўнасці да чалавечых слабасцяў Ён вырашыў, што ў гэты вечар на сваім участку больш ні да кога не пойдзе, і ўнутрана нібы адпусціў лейцы. Ён прагнуў хутчэй пайсці дадому, сесці ў крэсла-качалку, наліць шклянку віна і выпіць. Урач Юльян Сарока ўявіў, як будзе меншаць імпэт жыцця за вокнамі яго маленькай кватэры, як заціхне на ноч горад і прыйдзе маўчанне, і як яго агорне спакой Потым ён напоўніць шклянку яшчэ раз і будзе піць ужо пакрыху, каб падтрымліваць стан ап'янення на адным узроўні да таго часу, пакуль не захочацца спаць. А потым паслухае радыё і засне. А заўтра ў яго прыём а другой палове дня

Паўза.

— І гэты фетыш пры вас? — спытаў урэшце Юльян Сарока, каб нешта сказаць.

— Я пакажу вам прадмет з сутнасцю, — раптам, быццам станоўча вырашыўшы нешта для самога сябе, сказаў Віктар Малец. — Знешне гэта, скажам, зусім звычайная рэч Камень Але толькі знешне. Мяркую, вы здольныя на тое, каб абстрагавацца і каб зразумець.

Гаспадар устаў з крэсла, намацаў нешта на верхняй паліцы і, трымаючы ў руцэ, падышоў з ім усутыч да ўчастковага тэрапеўта

Юльян Сарока зірнуў На далоні гаспадара ляжаў камень памерам з гусінае яйка, але не зусім правільнай формы, шэра-ружовага, амаль што крэмавага колеру, з чырвонай украпінай. Гэтая ўкрапіна цягнулася паўз яго ў выглядзе набрынялай крывёю вены

— Цяпер, на захадзе сонца, каменне заўсёды поўнае журбы, — сарамяжліва паведаміў Віктар Малец. — Але ў гэтым экземпляры, скажам, такога няма. У ім хаваецца сіла Вы адчуваеце?

Урач Юльян Сарока паціснуў плячыма.

— Вы сцвярджаеце, што з дапамогай такога, ці падобнага на яго, каменя цалкам пазбавіцеся ад хваробы? — спытаў ён

— Так. У ім схаваная немалая сіла. Унутры Яна можа і забіць. Але я маўчу пра гэта. Дый усё роўна ніхто не дасць веры

— Забіць? Якім чынам? — вяла спытаў урач Юльян Сарока Гутарка пачала стамляць яго. Ён хацеў устаць з крэсла, забраць гамец і выйсці на вуліцу, але чамусьці застаўся сядзець.

— Гэта не так і складана. Трэба выказаць пэўную мэту, намер. Сутнасць пакіне камень і ўвойдзе ў таго, хто будзе яго трымаць, ці проста дакранацца да яго якой часткай цела ў гэты момант Чалавек памрэ самае позняе праз некалькі дзён

— Так, цікава, — зазначыў Юльян Сарока, але ахаладзіў гаспадара. — Не крыўдуйце, але я не даю вам веры.

— Вы што, не чулі пра знахарства, вядзьмарак, сурокі? — аж ускінуўся Віктар Малец. — Ну вазьміце, напрыклад, самую звычайную з'яву ў вашай медыцынскай практыцы. якая-небудзь неадукаваная бабуля вылечвае трафічную язву словам за адзін, зўважце, за адзін сеанс. А вы ведаеце, што цэлыя вёскі выміралі, калі перад імі на скрыжаванні дарог закопвалі ў зямлю такія вось ці падобныя на іх прадметы сілы? Ведзьмакі індзейцаў майя, калі ім трэба было пазбавіцца ад якога супляменніка, уладкоўвалі на сцяжынку, дзе той ходзіць кукурузнае зерне Адно адзінае зярнятка, але перадусім у ім нарошчвалі сілу. Як толькі небарака наступаў на зерне нагой ці яшчэ як дакранаўся да яго, сіла ўваходзіла ў яго і праз нейкі час забівала Хіба не папярэджвалі вас у дзяцінстве, што нельга падбіраць з зямлі розныя іголачкі ды шпількі? А загаворы на крыві? Такіх спосабаў шмат, у чорнай магіі, прыкладам

— Вы займаецеся магіяй? — спытаў Юльян Сарока.

— Ні чорнай, ні белай.

— Навошта тады вам вашы амулеты з каменя?

— Вы не разумееце. Вядома ж, вы не Арыстоцель, ха-ха. Не крыўдуйце Гэта прыходзіць не адразу. Ведаеце, шукаючы прадметы з сутнасцю, я шмат чаму навучыўся. Іншым разам я магу, напрыклад, прадчуваць жаданні. Калі моцна захачу, яшчэ тое-сёе Хацця я і ведаю, што гэта толькі маленькая прыступка да нечага большага. Так, прыступка, не інакш.

Урач Юльян Сарока недаверліва пахітаў галавой. Жалезныя паліцы з каменнем, амаль поўная адсутнасць мэблі, дзіўныя паводзіны гаспадара кватэры не выклікалі ў яго амаль ніякіх пачуццяў, апроч стомленасці і тугі Ён спытаў·

— Ну і якія, прыкладам, жаданні ці намеры вы зараз выявіце ўва мне?

Гаспадар моўчкі выслухаў яго і пакруціў пальцамі верхні гузік кашулі. Нейкі час абодва глядзелі адно аднаму ў вочы. Юльян Сарока адвёў пазірк першым.

— Вам наліць віна? — раптам спытаў гаспадар — У мяне ёсць бутэлька малдаўскага партвейну Таннага, вядома. Я адчуваю віну перад вамі: не прайшоў прышчэп і рэнтген, не здаў аналізы, зблытаў вашу дакументацыю і парушыў парадак..

Юльян Сарока міжвольна зрабіў глытальны рух. У горле было суха

— Не адмоўлюся, — згадзіўся ён, раптам зразумеў і разгублена ўсміхнуўся

— Здаюся.

Гаспадар прынёс з кухні шклянкі, бутэльку віна і разліў

— Зараз жонка прынясе што з ежы.

— Не трэба, — падзякаваў Юльян Сарока — Я не галодны. Я павінен хутка ісці.

Ён павагаўся, а потым узяў шклянку і глынуў з яе. Цёплая хваля алкаголю звыкла скацілася яму праз горла ў страўнік і пачала мякка пашырацца, ахопліваючы частку цела ад пупка і вышэй па грудзях.

Гаспадыня зайшла ў пакой і паставіла на стол талерку з ежай Юльян Сарока злавіў сябе на пачуцці, быццам праз расчыненыя дзверы на яго падзьмула халодным ветрам.

— Вып'еш з намі, Валянціна? — спытаў гаспадар і дадаў: — Гэта мая жонка.

Жанчына адмовілася і выйшла, кінуўшы на ўрача хуткі, ацэньваючы позірк. Дзеля ветлівасці ён узяў з талеркі кавалак хлеба, адкусіў і спытаў:

— Вы даўно жанаты?

— Не Можа, месяцы з два, — адказаў гаспадар. — Першая жонка пайшла ад мяне — яна лічыла мяне дзіваком А другой, — ён панізіў голас, — я вельмі ўдзячны. Валянціна нашмат маладзейшая за мяне, але не гэта мяне турбуе

— А што? — машынальна і зноў з ветлівасці пацікавіўся Юльян Сарока

Віктар Малец устаў са свайго крэсла, ускудлаціў сівы ёршык валасоў на галаве, зрабіў некалькі крокаў да дзвярэй, прыслухаўся, вярнуўся назад і пачаў нервова хадзіць у абмежаванай прасторы Яго цень ад настольнай лямпы хістаўся па стэлажах з каменнем

— Мяне радуе і непакоіць тое, што яна не толькі не пратэстуе, — ён махнуў рукой на жалезныя стэлажы, — а быццам і ўхваляе гэта. Яна чуллівы і душэўны чалавек. А я так мала раблю для яе

— Знайшоўшы — не радуйцеся, згубіўшы — не плачце, — крыху іранічна заўважыў урач.

— Хіба што так, — пагадзіўся гаспадар — Але вы не маеце рацыі

— Ну, а чаму непакоіць? — вяла спытаў урач

— Не ведаю Часам я я адчуваю сябе нібы на агібе — ведаеце, гэта такое топкае месца на балоце ..

— То не адны вы, — сказаў Юльян Сарока — Балота яно і ёсць балота

Шэра-ружовы камень між тым ляжаў на стале побач з бутэлькай, міжволі прыцягваючы ўвагу

— Скажыце, — вяртаючыся да ранейшай тэмы, недаверліва і нават скептычна спытаў урач, — гэтым каменьчыкам можна забіць адну асобу ці некалькі?

— Толькі адну

— Вы плануеце пазбавіць каго-небудзь жыцця? — пацікавіўся Юльян Сарока

— У мяне няма такіх намераў, — патлумачыў гаспадар — Калі ўсё арганічнае смяротнае, дык навошта штучна ўмешвацца ў гэты непазбежны працэс?

Юльян Сарока зноў зрабіў глыток Цяпло ў падсвядомасці ператварылася ў роўна палаючы агеньчык

— Шкада, што толькі адну, — сказаў ён

— А вы б колькі хацелі?

— Я мушу лячыць, а не забіваць. Але на гэтай зямлі аб'явіўся народ, які забівае сябе сам і наблізіўся да здрады, якой, магчыма, яшчэ не ведала людства

— Народы таксама паміраюць У пачатку стагоддзя існавала дваццаць адна цывілізацыя, а зараз — шэсць. Людзі вартыя таго, што ёсць і што робіцца ў гэтым свеце.

— Дэарыізацыя, — удакладніў Юльян Сарока, — гэта самы горшы варыянт памірання

— Няхай Хацця якая вам розніца, хто пасля нас будзе збіраць на гэтай зямлі каменне? Чаму ў вас такія думкі? Дзіўна Плюньце і займайцеся тым, што вас цікавіць.

— Я не разумею, навошта такі народ існуе, — з горыччу паўтарыў Юльян Сарока. — Хіба што сцерагчы свае рэкі, лясы, азёры, берагчы жывёл? Але ён не сцеражэ і не беражэ і не імкнецца. Не імкнецца нават імкнуцца

Гаспадар усміхнуўся і паклаў далонь на каменьчык Ён глынуў са сваёй шклянкі і сказаў:

— Авалодваць ведамі жыцця больш варта, чым задаваць недарэчныя, выбачайце, пытанні Я авалодаў іх маленькай часцінкай, і я задаволены

— Навошта вам столькі каменя, калі сіла, як вы сцвярджаеце, толькі ў адным, — Юльян Сарока раздражнёна кіўнуў у напрамку стала

Гаспадар падняў шклянку Віно ў ёй варухнулася, заіскрыўшыся мяккім, чырвоным святлом

— Кожны з гэтых камянёў па-свойму адметны. Да таго ж сутнасць можа раздзяляцца з мэтай памнажэння Але, мяркую, гэта адбываецца вельмі рэдка. Магчыма, раз у сто ці тысячу гадоў.

— Гэты камень мае якія асаблівасці? – зноў спытаў Юльян Сарока і паставіў на стол пустую шклянку — Ён адрозніваецца вагой, тэмпературай ці яшчэ як?

— А вы вазьміце і памацайце.

Участковы тэрапеўт Юльян Сарока асцярожна ўзяў камень у руку. Ён злёгку сціснуў у далоні яйкападобны кавалак граніту і прыслухаўся да сваіх пачуццяў

Іх не было.

Паўза.

Юльян Сарока паклаў каменьчык на стол і пацінуў плячыма

— Я нічога не заўважыў, — сказаў ён.

— Вы не адчуваеце Гэтаму трэба вучыцца, — стрымана патлумачыў гаспадар. — Існуюць меркаванні, што нават пасля знікнення асноўнай крыніцы сілы на месцы можа захоўвацца яе полевы двайнік. Гэта асаблівасць хранальнага поля існуе доўга Да таго ж існуе ў адрозненне ад нашага метрычнага пазаметрычны свет, а магчыма — свет без хранальнага і метрычнага рэчываў адначасова па-за часам і прасторай Унутры нашага свету могуць існаваць яго аб'екты ў, так бы мовіць, размазаным стане Ну, як вы растлумачылі, прыкладам, калі б вашы халадзільнік, шафа ці яшчэ

што перанесліся ў кватэру суседа праз сцяну без аніякіх пашкоджанняў? А такія факты рэальна адбываліся

— А вам не здаецца, што вы збочылі з дарогі? — раптам спытаў урач — Кажуць. калі чалавек ідзе прама, яго шлях крывы Вы пайшлі занадта прама

— Але я іду Ісці — таксама вынік.

— Пайду і я

Урач Юльян Сарока падняўся з крэсла, паклаў у гамец таномэтр, падзякаваў за пачастунак і развітаўся з гаспадаром.

Але раптам ён звярнуўся да яго зноў

— З вашага дазволу, — сказаў ён, — я раскажу пра ваш фетыш свайму калегу Ён таксама аматар нязвыклага, захапленец і цікавіцца такімі рэчамі і, мяркую, захоча пагаварыць з вамі Мы працавалі некалі разам у клініцы Яго прозвішча Крамнікаў Вы не супраць?

— Не, — падумаўшы, згадзіўся гаспадар.

Юльян Сарока спусціўся па лесвіцы і выйшаў на вуліцу

Па-ранейшаму імжэла Вецер быў хаця і халодны, але ўжо не такі моцны Юльян Сарока падняў каўнер плашча і пайшоў, трымаючыся бліжэй да сярэдзіны вуліцы і абыходзячы неасветленыя бакі дамоў і пад'ездаў Ён ішоў так доўга, больш за гадзіну Прахожых амаль не было і толькі непадалёку ад дома, дзе ён жыў, яму сустрэўся мужчына, які папрасіў у яго цыгарэту Ён быў п'яны Мокрыя валасы спаўзалі яму на лоб

— Калі ласка, не біце мяне, — папрасіў мужчына

— Я не прагну біць вас, — незадаволена сказаў Юльян Сарока.

— Тады пагаварыце са мной

— Не хачу

Дробны твар п'янага пакрывіўся Ён працягнуў руку і памкнуўся затрымаць субяседніка за рукаво. Юльян Сарока рашуча адхіліў гэты яго намер Ён пайшоў далей, але раптам спыніўся і павярнуўся П'яны стаяў у той жа позе пасярод вуліцы Юльян Сарока паклікаў яго.

— Скажыце, — спытаў ён незнаёмца, калі той з гатоўнасцю падышоў, — вы хацелі б, каб зараз, у дождж, хто-небудзь, ну, які музыка, зайграў на скрыпачцы? Ён бы стаяў на сухім месцы, пад якой павеццю і ціхенька граў, а мы б ішлі праз непагадзь кожны сваёй дарогай, і мелодыя гучала б усё цішэй і цішэй?..

Паўза

Незнаёмец глядзеў на ўрача, быццам і не здзівіўшыся такім словам Ён збіраўся з думкамі, каб адказаць, але Юльян Сарока павярнуўся і рушыў у ноч.

Пад'езд дома, дзе ён жыў, быў асветлены плафонам. Гэтая ледзь не раскошная драбяза больш не здзіўляла яго і цяпер у слабым святле лямпачкі Юльян Сарока заўважыў на падлозе некалькі выкарыстаных аднаразовых шпрыцаў Яны валяліся ў куце проста пад нагамі, разам з недакуркамі ад цыгарэт

У кватэры было халадна Юльян Сарока павесіў на вяшак мокры плашч, зняў чаравікі і занёс іх сушыцца Ён наліў сабе шклянку віна, сеў у крэсла і глынуў Ён сядзеў так, нібы здранцвеўшы, некалькі хвілін Потым схадзіў на кухню, зрабіў сабе бутэрброд і з'еў, выключыў святло, зноў сеў у крэсла і стаў глядзець у акно, як наплывае ноч Юльян Сарока не любіў тэлебачанне і не меў тэлевізара Ён глядзеў, як гусцее цемра, як паступова зліваюцца з ёй галінкі таполяў за падаконнем, як яна становіцца ўсё больш шчыльнай і вязкай, і як меншае скрозь туман і імжу святло адзінокага ліхтара на слупе

**Частка другая.**

## КАНСІЛІУМ

Санітары, трымаючы яго з бакоў за рукі, упіхнулі ў дзверы і моўчкі сталі за спінай Абодва былі маладыя, гадоў дваццаці трох, дваццаці пяці, але розныя і па выгляду і па характару Звалі іх імёнамі, якімі модна было называць нованароджаных хлопчыкаў у сямідзесятых гадах: Дзяніс і Кірыл Дзяніс быў высокі, шыракаплечы з каламутнымі, вадзяністымі вачыма Ён двойчы балюча ўдарыў яго, калі забіралі ў машыну і па дарозе — па нырках і ў грудзі Таму Віктар Малец інстынктыўна трымаўся ад яго падалей Другі — Кірыл — быў смуглявы, чарнавалосы, з чорнымі лупатымі вачыма, тонкі, жылісты і сухарлявы

Урэшце, у яго не было сілы на супраціў Ён агледзеўся і зразумеў, што знаходзіцца ва ўрачэбным кабінеце.

Кабінет быў не вельмі вялікі, нават цесны для такой колькасці людзей, што ў ім знаходзілася, але гэта ўражанне стварала застка, якая перагароджвала яго на дзве часткі. Адзінае акно мела паза шклом тонкія жалезныя краты, пафарбаваныя ў блакітны колер. Праз гэтае акно бачныя былі толькі дах суседняга корпуса і верхавіна высокай брудна-шэрай таполі Перад акном сярэдзіну пакоя займаў доўгі стол, ля якога стаяў масіўны неперасоўны зэдлік з металічнымі ножкамі

За сталом кабінета сядзелі трое ў белых халатах два мужчыны і жанчына Адзін з мужчын, пасярэдзіне, — старэйшы, з шырокім, пухлашчокім тварам, у акулярах, другі — значна маладзейшы, худы, з пышнымі чорнымі вусамі, і жанчына, даволі прыгожая, але нейкай лялечнай прыгажосцю, шэравокая, з ярка нафарбаванымі вуснамі і ўзнятым угару белым невялікім носікам. Перад кожным ляжалі на стале асадка і па стосу паперы

Некалькі доўгіх секунд "тройка" разглядала хворага, які стаяў перад імі ў чорнай балоннevай курткі і без шапкі, сівыя валасы яршыліся на круглай галаве Потым мажны ўрач у акулярах, які сядзеў пасярэдзіне стала, сказаў·

— Дзяніс, Кірыл, можаце ісці.

Санітары моўчкі адчынілі дзверы і выйшлі

— Ну, Віктар Пятровіч, як вы сябе адчуваеце? — амаль ласкава спытаў пухлашчокі ўрач, відавочна, старэйшы з іх, і дадаў· — Сядайце, што ж вы стаіце

Ён сунуў руку ў стол і непрыкметна ўключыў магнітафон на запіс

Віктар Малец агледзеў усіх траіх за сталом, нервова правёў далонню па сівым яршы валасоў і спытаў·

— Дзе я і на якой падставе мяне сюды прывезлі, прымяніўшы гвалт?

— Вы вельмі правільна спыталі, — адразу пагадзіўшыся, мякка заўважыў галоўурач, — я вам усё растлумачу, і мы з вамі параімся, як нам дзейнічаць далей Дык вось вы, не буду хаваць, знаходзіцеся ў псіхіятрычнай лякарні, я, Браніслаў Антонавіч, галоўурач аддзялення, а гэта мае калегі дацэнт кафедры псіхіятрыі, Іван Ігнатавіч, і наш урач, Рыма Паўлаўна Яны выдатныя спецыялісты Вось. Мы з вамі пагутарым, падумаем, а потым, калі варта, прызначым вам лячэнне Не хвалюйцеся, пачувайце сябе ну, скажам, як дома, бо цяпер, не буду хаваць, ваш дом на нейкі час — тут, у нас

— Вы не адказалі мне, чаму я тут, — абурана і нервова перабіў яго Віктар Малец. — Вашы людзі схапілі мяне як жывёлу, павезлі ў машыне, білі.

— Патлумачу, — ахвотна згадзіўся галоўурач, — вы ў нас таму, што, магчыма, захварэлі Цяпер мы вас абследуем і будзем лячыць, калі спраўдзіцца, што вы хворы Не хвалюйцеся

— Але я амаль здаровы. Ва ўсякім разе, не псіх Хіба што не прайшоў аналізы ў паліклініцы У мяне быў участковы ўрач Мы дамовіліся Навошта мяне прывезлі менавіта сюды? У машыне мяне трымалі звязаным Дайце мне патэлефанаваць, я хачу, каб ведала жонка Яе не было дома

— Дарэчы, усё-такі нам варта бліжэй пазнаёміцца, — уставіў і сваё слова вусаты дацэнт па імені Іван Ігнатавіч, — ды вы сядайце.

— Не стварайце вадэвіль, вы ж ведаеце, як мяне зваць. Чаму я тут, адкажыце? Што я такое зрабіў?! — сарваўся на крык хворы

Іван Ігнатавіч зірнуў на галоўурача, напісаў на лісце некалькі слоў і падсунуў да таго

АЎТАПСІХІЧНАЯ АРЫЕНЦІРОЎКА ЗАХАВАНАЯ, –

прачытаў той, згодна кіўнуў і раптам сказаў·

— Мы не будзем гуляць з вамі ў схованкі, Віктар Пятровіч. Ваша жонка напісала заяву, у нас ёсць і дастасаваныя заявы двух сведкаў, якія яна прыклала. Мы вымушаны былі рэагаваць, бо. часта людзі, скажам так, робяць сацыяльна небяспечныя ўчынкі, за якія не толькі не могуць адказаць, а і не памятаюць іх. Тады трэба неадкладная шпіталізацыя, лячэнне.

Віктар Малец зноў разгублена правёў далонню па галаве, ірвануўся да стала, але, спынены халоднымі позіркамі, падумаў і апусціўся на зэдлік.

— Валянціна напісала заяву? Але навошта яна крывасведчыла? Хіба я пакрыўдзіў яе?

— Дарэчы, — адразу пацікавіўся Браніслаў Антонавіч, — вы даўно жанаты э-э, з Валянцінай Іванаўнай?

— Нядаўна Прайшло хіба два месяцы

— Так, так Гэта ваш другі шлюб?

— Але

— А, скажыце, шаноўны Віктар Пятровіч, вы пазнаёміліся з вашай жонкай на працы, у адпачынку ці можа вам хто-небудзь параіў? Я разумею, што гэта, так

бы мовіць, некалькі не зусім тактоўныя пытанні, але ж, паверце, гэта не пустая цікавасць .

Віктар Малец з тугой зірнуў у закратаванае акно за спінамі "тройкі" і патлумачыў·

— Мы пазнаёміліся па шлюбнай аб'яве Яна напісала мне, што шукае для сумеснага жыцця адзінокага чалавека сталага ўзросту, з жылплошчай, непітушчага, што не мае кватэры, бо змушана бегчы з радыяцыйна небяспечнай зоны

— І ваша жонка намнога маладзейшая? — пацікавілася Рыма Паўлаўна

— На дваццаць адзін год.

— Скажыце, — бадзёра спытаў Іван Ігнатавіч, — вы часта хварэлі ў дзяцінстве? Вы не можаце ўспомніць — на што?

— Хварэў, як і ўсе, — відавочна стрымліваючыся, сказаў Віктар Малец — Коклюш, бранхіт, водра.

— Так, так Ну, а як вы адносіцеся да сексу, як у вас, прабачце за далікатнае пытанне, скажам, па жаночай частцы?

— А ў вас? — ашчаціўся хворы — Не стварайце паглуму

— Вы доўга пражылі са сваёй першай жонкай? — не пакрыўдзіўся дацэнт Іван Ігнатавіч — Вы не памятаеце, чаму вы разышліся?

— Гэта мая асабістая справа

— І вы ніколі не злавалі на яе, не пагражалі, не спрабавалі, скажам прама, зрабіць фізічнае ўздзеянне ударыць яе?

— Што вы маеце на ўвазе?

— Ну, прыкладам, вы заходзіце ноччу ў яе спальню і гледзіце, як яна спіць, а ў руцэ у вас што-небудзь такое .

— Кухонны нож, напрыклад — уставіла Рыма Паўлаўна, і, раптам сустрэўшыся з яе позіркам, Віктар Малец міжволі ўздрыгнуў — у тым позірку блакітна-шэрых вачэй была абыякавая, ненатуральная, механічная цікавасць — нібы да кузуркі, якая ляжыць перакуленая спінай на шкле і бездапаможна варушыць ножкамі.

Віктар Малец сутаргава праглынуў камяк у горле і прымусіў сябе стрымацца

— Хіба такі ці падобны выпадак са мной зафіксаваны дзе-небудзь дакументальна? — знайшоўся ён

— Але ваша цяперашняя жонка пісьмова сцвярджае, што вы неаднойчы хацелі забіць яе і некалькі разоў, калі яна прачыналася ноччу, то вы стаялі над ёй з нажом у руцэ Прызнайцеся, не саромцеся, мы ўрачы і зразумеем вас Вы раўнавалі яе да каго-небудзь?

— Гэта хлусня, — пабялеў Віктар Малец. — Пакажыце мне яе заяву, я не даю вам веры

Паўза.

Рыма Паўлаўна павольна ўзяла чысты ліст паперы і напісала на ім:

ТРЫВОЖНАЯ ДЭПРЭСІЯ, МАГЧЫМЫЯ ЭПІЛЕПТЫЧНЫЯ ПРЫПАДКІ, ЗМЕРКАВЫ СТАН?

Галоўурач прачытаў падсунуты ліст і моўчкі далучыў яго да паперы Івана Ігнатавіча.

— Вы, быццам, кінулі працаваць, не дасягнуўшы пенсійнага ўзросту? — паранейшаму ласкава пацікавіўся ён у хворага — Чаму?

— Так, — згадзіўся той. — Але працоўнага стажу ў мяне хапае. Я маю на тое рацыю.

— І кім вы працавалі раней?

— Эканамістам-планавікам, калі вас так цікавіць.

— Чаму вы кінулі сваю працу? Вам стала цяжка, балела галава, падымаўся ціск? Можа, вы сварыліся з кім на службе?

— Я знайшоў сабе больш цікавы занятак

Трое за сталом пераглянуліся.

Галоўурач узяў ліст і напісаў на ім

УВАГА! ТУТ КЛЮЧ!

— І які гэта занятак? У чым ён заключаўся? — прачытаў і ажывіўся Іван Ігнатавіч

— А вось на вашыя пытанні я прынцыпова не жадаю адказваць.

— Вы не хочаце з намі шчыра гаварыць? — спытаў галоўурач, — але ж Іван Ігнатавіч не хацеў вас пакрыўдзіць, мы ведаем ваша, так бы мовіць, хобі вы збіралі каменне. Навошта? Хіба яно мае каштоўнасць?

— Я магу збіраць, што палічу належным, — яшчэ больш раздражнёна сказаў Віктар Малец і дадаў· — Вы доўга яшчэ будзеце затрымліваць мяне? Я хачу пазваніць пракурору. Я маю на гэта права? .

— Не хвалюйцеся, — пачаў супакойваць яго Іван Ігнатавіч, — не трэба ўзрушвацца, мы шчыра цікавімся вашым захапленнем і жадаем вам толькі дабра

— Так, так, — кіўнула і Рыма Паўлаўна і напісала на новым лісце буйнымі літарамі.





ЗВЫШКАШТОЎНАЯ ІДЭЯ ПАРАФРЭННЫ СІНДРОМ?

— Да таго ж, — сказала яна з робленай ласкавасцю ў голасе, — мы павінны абследаваць вас лабараторна, візуальна, неўралагічна, саматычна, хаця гэтыя словы вам, магчыма, нічога і не гавораць. Вы ніколі не атрымлівалі якіх траўмаў, не ўдараліся галавой, у вас не было страсення мазгоў, успомніце, Віктар Пятровіч?

— Я не звальваўся ў дзяцінстве з даху, мяне не білі па галаве, і я збіраю каменне, а не жаночую бялізну, ну можа досыць мучыць старога чалавека? Адпусціце мяне, я хачу разабрацца ва ўсім, распытаць жонку Выклікайце, калі варта, яе сюды

— На жаль, гэта немагчыма, — супакойваючы сказаў галоўурач. — Мы вас крыху затрымаем, магчыма, падлечым, і ўсё будзе добра. Вы зноў пачняце займацца любімай справай — збіраць сваю калекцыю. Дарэчы, мне паведамілі, што ў вас знайшліся выдатныя экземпляры? Я маю на ўвазе асобныя камяні. Можа вы знайшлі і свой Філасофскі Камень?

Хворы Віктар Малец удыхнуў і з шумам выдыхнуў з грудзей паветра, а потым недаверліва, з прыхаваным жахам абвёў зацкаваным позіркам усіх траіх. Але глядзелі на яго быццам добразычліва, пыталіся нібы са шчырай цікавасцю, і ён неахвотна, як школьнік, адказваючы ўрок, пачаў тлумачыць.

(АПОВЕД-АДКРЫЦЦЁ<br>ВІКТАРА МАЛЬЦА,<br>ЗАПІСАНАЕ<br>У ПСІХІЯТРЫЧНАЙ ЛЯКАРНІ)

. Магчыма, вы тут здзівіцеся маім словам, але скажу адразу· камяням лёсіць вырашаць шлях чалавецтва Вы скажаце, а дзе прыклады? Іх шмат Вось хаця б адзін Магчыма, адзін з асноўных Шэсцьдзесят пяць мільёнаў гадоў таму на сучасны Юкатан упаў астэроід дыяметрам каля дваццаці кіламетраў У выніку ўдару і выбуху, пыл зацьміў сонца на цэлыя пяць тысяч гадоў На Зямлі ад таго панізілася тэмпература і вымерлі асноўныя ворагі будучага чалавека — рэптыліі Гэты гістарычны факт нядаўна даказаны вучонымі

Зробім цяпер, да слова, невялічкі экскурс у міфалогію. Адзін з асноўных антычных міфаў пра Сатурна гаворыць, як Сатурн быў папярэджаны бацькамі, што адзін з яго дзяцей зрыне яго самога Таму ён зжыраў кожнага нованароджанага Але Рэя, яго жонка, каб выратаваць Юпітэра, сваё шостае дзіцянё, падмяніла яго камянём, які загарнула ў пялёнкі Сатурн праглынуў камень. А неўзабаве ўзмужнелы Юпітэр прымусіў бацьку вывергнуць назад пяцярых дзяцей, якіх ён раней праглынуў Камень-падманка, які замяніў Юпітэра, быў змешчаны ім у Дэльфы, дзе яму ўсе пакланяліся.

Дык вось, для паінфармаванага смерць у выглядзе шкілета з касой азначае Сатурна (Кронаса), бацьку багоў, які трымае серп, з дапамогай якога ён зрабіў паразу Урану. На мове Містэрый духі людзей — гэта косткі Сатурна, а так як кожны з чатырох першасных элементаў, як вучылі старажытныя філосафы, мае аналаг у зямной канстытуцыі чалавека, то косткі Сатурна — гэта каменне, скалы і зямля, сімвал асновы Паколькі пачатак усіх рэчаў знаходзіцца пад кіраваннем Сатурна, вынікам з'яўляецца тое, што першыя формы пакланення былі звязаныя з ім і яго сімвалам — каменем

Пакланенне каменю было самым раннім з рэлігійных рытуалаў Першым аб'ектам ідалапаклонства быў неапрацаваны камень, пастаўлены на зямлю. Рэлікты гэтых камянёў раскіданыя на ўсёй Зямлі менгіры і дальмены ў Карнаке (Ангельшчына), лангамі і шакці ў Індыі, на выспе Пасхі, піраміды Хеопса ў Егіпце, знакамітыя каменныя бабы і ёлупы ў нас у Беларусі

Самая старажытная эпоха чалавецтва была менавіта каменным векам, хіба не так? З крэменем у руцэ чалавек вылучыўся з жывёл Існавала ж цэлая крамянёвая вытворчасць нажоў, разцоў, скрабкоў, наканечнікаў дзідаў і стрэл, матыкаў, сярпоў Што мы ведаем пра каменныя могільнікі, крыжы, курганы, каменных баб, стодаў, балваноў, куміраў, ёлупаў? Амаль нічога. Пры хрышчэнні шматлікія каменныя амулеты, ідалы былі незваротна згубленыя, закапаны альбо ўтопленыя ў балотах. Упэўнены, што сярод іх былі прадметы незвычайнай сілы

У грэкаў і лацінян існавалі так званыя жывыя камяні Гэта былі валуны, пастаўленыя адзін на адзін, але якія датыкаліся ўсяго адной ці двума кропкамі так, што самае малое ўздзеянне прымушала іх хістацца, але і шмат людзей

не маглі скінуць іх. Самы знакаміты жывы камень быў Грыгорскі ў Гібралтарскім праліве Вецер хістаў яго, але ніякая сіла, нават запрэжка коней, не магла скінуць на зямлю

Адвечнасць каменя зрабіла яго эмблемай Бога. А Філасофскі Камень — гэта старажытны сімвал дасканаласці і адраджэння чалавека. Дзесяць Запаветаў — гэта дзесяць каштоўных камянёў, кінутых у мора Жыцця. Архангел Міхаіл, зрабіўшы напад на Люцыпара, выбіў мячом з кароны ворага камень. З гэтага каменя быў зроблены кубак Святога Грааля, з якога Хрыстос піў на Апошняй Вячэры

Шматлікія феномены, звязаныя з камянямі, людзі не могуць дасюль растлумачыць рацыянальнымі ведамі Гістарычныя хронікі сведчаць пра існаванне камянёў, якія, калі па іх ударац, выклікалі гук, што прыводзіў да экстазу Былі камяні з рэхам, якое гучала яшчэ шмат гадзін пасля таго, як памяшканне пусцела Камяні выкарыстоўваліся для вызначэння лёсу абвінавачанага — суддзі апускалі іх у мяшок. Вядома так званая літамагія, варажба па камянях. Чорны Камень у Мецы шануюць усе мусульмане

Некаторыя каштоўныя камяні маюць магічныя якасці Алмаз ахоўвае ад ворагаў, дапамагае жанчыне ў час родаў; гранат апякуе ў далёкіх вандроўках, карал абараняе ў час эпідэмій, яшма перасцерагае ад нянавісці і атруты, карналін дае ўдачу, спыняе крывацёк; онікс чорны, наадварот, наводзіць смутак і благія сны

Міфалогія кішыць гісторыямі пра каштоўныя камяні-талісманы. Магі і астролагі, у прыватнасці, Парацэльс, устанавілі сувязь паміж каштоўнымі камянямі і планетамі ды знакамі задыяка

Метэарыты, ці камяні, якія падалі з неба, лічыліся маючымі боскую сілу і сведчылі пра дамову паміж багамі і людзьмі той мясцовасці, куды яны ўпалі

Такім чынам, камень, які ўпаў на Юкатан, магчыма, нёс у сабе, на маю думку, сутнасць-праграму існавання сучаснага людства..

Хворы раптам змоўк, пераводзячы позірк з аднаго на другога

Паўза.

Асадка ў руках дацэнта кафедры псіхіятрыі Івана Ігнатавіча забегала над лістом паперы.

ПАРАНАІДАЛЬНАЯ СІМПТАМАТЫКА. ПАЧУЦЦЁ МІСТЫЧНАГА САЮЗА СУТЫКНЕННЕ З МІСТЫЧНЫМІ СІЛАМІ СУАДНАЛЕННЕ МРОЯЎ З РЭАЛЬНАСЦЮ, – напісаў ён і пасунуў ліст галоўурачу Той прачытаў і без аніякіх заўваг, моўчкі пераклаў у свой стос

— Вы сказалі — упаў кудысьці там камень, — ветліва заўважыла Рыма Паўлаўна, — але адкуль ён упаў, такі вялікі — з Марса, Юпітэра, з Месяца?

— Астэроіды ляцяць з космасу Як і метэарыты, — занерваваўся Віктар Малец. — Хіба вы не ведаеце такіх простых рэчаў?

— Ага Дык вы, можа, збіраеце метэарыты? — спытаў галоўурач — Гэта вельмі станоўчы занятак, анягож. Вы, пэўна, пішаце якую навуковую працу? А скажыце, вы не заўважалі — вашы камяні, тыя, што вы сабралі ў сябе дома, — яны выпадкова не растуць? Вы, пэўна, адзначылі гэтыя ці іншыя іх якасці ў вашай навуковай працы?

— Я не пішу навуковых прац. Вы дарэмна збіваеце мяне з панталыку

— Што вы, што вы! — замахаў рукамі галоўурач — Я ні ў якім разе не хачу вас пакрыўдзіць ці пераканаць у якой думцы Але вы тут сказалі крыху раней, што ў вашых камянях ёсць нейкая сіла Вы можаце абмаляваць, так бы мовіць, што гэта за сіла? Вы яе назіралі?

— Я не ведаю дакладна, але назіраў Магчыма, калі я назапашу больш ведаў, я зразумею, што гэта. адкуль і чаго яно вартае

— От я і кажу, – ажывіўся галоўурач, – не бацька, як кажуць, дык людзі навучаць Цікава, цікава. Дарэчы, як вы разумееце гэтую прымаўку, Віктар Пятровіч? Можа вы патлумачыце

— А як вы зразумееце такую, — аж ашчэрыўся Віктар Малец. — Хіцер Зміцер, але і Саўка не дурань? Вы што, тэстыруеце мяне?

— Ні ў якім разе, — ласкава аспрэчыў Браніслаў Антонавіч і адразу перавёў гутарку на іншае — Дарэчы, вы казалі, што да вас заходзіў участковы ўрач Ён што, часта да вас заходзіць?

— Я хварэў, і ён прыйшоў па абавязку Яго прозвішча Сарока, — патлумачыў Віктар Малец і зноў дадаў раздражнёна – Вы дазволіце мне пазваніць ці не?

— Потым Потым усё дазволім. І на што вы хварэлі? У вас балела галава, вы чулі якія галасы?

— Я прашу не мучыць мяне больш правакацыйнымі пытаннямі, — сказаў Віктар Малец — Пакажыце мне заяву жонкі Той ліст у вас?

Паўза

— Што ж, калі вы так хочаце, — Браніслаў Антонавіч скрушна уздыхнуў, паправіў акуляры на пульхным твары, пашамацеў паперамі на стале і ўрэшце дастаў з папкі патрэбную. — Чытайце. — Ён трымаў разгорнуты ліст перад вачыма хворага, але на адлегласці. — Пазнаяце почырк?

Віктар Малец прыўзняўся з зэдліка і прагна выхапіў вачыма некалькі радкоў з ліста Почырк быў жонкі — Валянцінін, ён больш не сумняваўся. Ён чытаў нейкі час, пакуль галоўурач не адтыргнуў паперу і не паклаў ліст назад у папку

ТЭСТ КОГАНА, РОРШАХА? –

напісала тым часам на новым лісце Рыма Паўлаўна і пасунула яго ў цэнтр стала

Браніслаў Антонавіч прачытаў, згодна кіўнуў і сказаў, звяртаючыся да хворага.

— Мы нічога не хаваем ад вас, Віктар Пятровіч Цяпер вы ўпэўніліся?

Віктар Малец моўчкі адвярнуўся, ён напружана думаў

— Мы з вамі паспрабуем рассартаваць некалькі картачак, — прапанавала між тым яму Рыма Паўлаўна і няшчыра ўсміхнулася — Вось гэтыя фігуркі паспрабуйце, калі ласка, раскласці па колеру, потым па форме, а ў канцы з улікам і колеру, і формы.

— Не жадаю, — адвярнуўся хворы — Гэта глупства

— Ну, добра, тады вось вам дзесяць выяў чарнільных кляксаў, зірніце Вы толькі скажыце, на што падобная тая ці іншая з іх — і ўсё. Давайце зірнём разам

— Адчапіцеся ад мяне. Я хачу дамоў

Рыма Паўлаўна пацiснула плячыма і напісала на чыстым лісце:

НЕГАТЫВІСЦКАЯ РЭАКЦЫЯ

Раптам хворы Віктар Малец ускочыў з зэдліка і кінуўся да дзвярэй Але адчыніць іх ён не здолеў, бо дзверы не мелі ручак. Ён з усяе сілы ударыў у іх плячом, ліхаманкава замітусіўся, як злоўленая птушка ў клетцы, але дарэмна Урачы за сталом моўчкі назіралі, нават не паварушыліся. Потым Браніслаў Антонавіч націснуў пальцам кнопку збоку стала, і ў дзвярах узніклі постаці санітараў

— Памажыце супакоіць нашага э-э, госця, — сказаў ім Браніслаў Антонавіч і, звярнуўшыся да ўрачоў, членаў камісіі, дадаў · — Давайце яго сюды. за шырму

Трэба праверыць перыястальна-сухажыльныя і брушныя рэфлексы, прыкус зубоў, сіметрычнасць твару і ўсё іншае

— Не дакранайцеся да мяне! — крыкнуў Віктар Малец. — Я пратэстую, бо я не хворы! Я ні ў чым не вінаваты! Мяне абылгалі!

— Мы пакуль што і не сцвярджаем, што вы хворы, — ахвотна згадзіўся з ім галоўурач — Вы думаеце, мы хочам вас тут затрымаць? Памыляецеся. Вас жа трэба карміць, апранаць. А хто мне зараз дае на гэта сродкі? То-та і яно. Вы думаеце, мне ёсць нейкая выгода вас тут трымаць? Памыляецеся. Вы ж бачыце, я не хаваю ад вас нічога, і чым раней мы абследуем вас і зробім усе аналізы, тым больш верагодней, што вы хутчэй выпішыцеся адсюль. Але я павінен зрабіць усё па форме, я за гэта адказваю

Санітары, якіх звалі Дзяніс і Кірыл, ужо вялі яго, расхінулі застку, дзе месцілася засланая чорнай цыратай канапа, побач стаяў столік, на якім ляжала тое-сёе з медыцынскіх інструментаў Успыхнула святло яркай лямпы

— Скажыце, доктар, — распранаючыся перад тым, як легчы на канапу, спытаў ужо больш стрымана Віктар Малец галоўурача, — праз які тэрмін вы выпусціце мяне пры ўмове, што я прайду ўсе вашы працэдуры і вы прызнаеце мяне здаровым?

— Буду шчырым, мой дарагі сябра, — пацёр адна аб адну пульхныя далоні Браніслаў Антонавіч, — не раней як праз паўтара – два месяцы

— Нехта хоча, каб я заставаўся тут, — раптам сказаў Віктар Малец і абвёў усіх зацкаваным позіркам на пабялеўшым твары — Чаму вы паверылі хлусні, падкупленым сведкам, а не мне?

— Не хвалюйцеся, — супакоіў яго Іван Ігнатавіч. — Мы разберомся Да таго ж магчыма мы ўвогуле хутка ўсіх адправім па дамах, бо лякарню фінансуюць усё менш А пакуль тое свята, ха-ха, то зараз мы абследуем вашы рэфлексы, зробім вам маленькі ўкольчык і вы пойдзеце спаць.

***

— Што ж, я прагледзеў вашы заўвагі, — сказаў галоўурач, калі ён, дацэнт з кафедры і Рыма Паўлаўна зноў сышліся за сталом — Я б на вашым месцы, мае малады калегі, не быў такімі катэгарычнымі Вам варта яшчэ раз

праслухаць магнітафонны запіс, падумаць. Зрэшты, мяркую, тут звычайная інвалюцыйная меланхолія, абцяжараная аўтэнтычнай формай падпарогавага сіндрому, прычыну і характар якога нам яшчэ давядзецца высветліць. Хаця рэфлексы ў норме Я нават пачынаю сумнявацца, што гэты чалавек браўся за нож і замахваўся на забойства. Хто, дарэчы, прымаў выклік і пасылаў брыгаду?

— Кірыл.

— Ну вось, — з'едліва сказаў Браніслаў Антонавіч. — Віншую вас. Хутка ў нас усім будуць распараджацца санітары.

**Частка трэцяя.**

## СУТНАСЦЬ

Горад абудзіўся і ўжо ва ўсю моц грукатаў маторамі. Падмарожвала. У паветры ціха кружылася і асядала на зямлю шэрань.

Старэнькі, цёмна-вішнёвы "фольксваген" развярнуўся на заасфальтаванай пляцоўцы двара і спыніўся З машыны вылез шыракаплечы малады мужчына гадоў трыццаці пяці: высокі, з рэзкімі рысамі твару, якія крыху змякчала кароткая шкіперская бародка, і носам драпежніка. Гэта быў Барыс Крамнікаў

— Не будзем губляць часу, Юльян Андрэевіч, — сказаў ён пасля прывітання — Сядайма ў машыну, пагаворым па дарозе.

Юльян Сарока сеў у кабіну

— Рады зноў вас бачыць, — шчыра сказаў Крамнікаў. — Добра, што пазванілі Нам даўно трэба было пабачыцца Вы, дарэчы, дрэнна гледзіцеся, калега

— Так, я з'ехаў уніз, — згадзіўся Юльян Сарока. - Вы ж ведаеце, чаму я кінуў калісьці клініку. Але мяне суцяшае тое, што вы падымаецеся...

Барыс Крамнікаў уключыў запальванне. Машына кранулася

— Не, — мякка аспрэчыў ён — Тут вы памыляецеся Тое, чым я зараз займаюся, мне прыносіць толькі клопат

— І які ў вас занятак? — спытаў Юльян Сарока — Урэшце, можаце не адказваць, калі не хочаце

— У агульным сэнсе — некаторымі праблемамі неўралінгвістычнага праграміравання. Мэта — праз слова прабіцца да падсвядомасці пацыента

— Навошта?

— Падсвядомасць заўсёды ведае сапраўдную прычыну хваробы Калі ўздзейнічаць на яе словам, — асабліва гэта тычыцца дзяцей, — вынікі ўражваюць.

— Чаму тады вас зацікавіў калекцыянер камення? Якая тут сувязь?

— Магчыма, у самым нечаканым, калега. Мы яшчэ не зусім разабраліся з нашым светам і тым больш нічога не ведаем пра іншыя. Так што, такі невялічкі візіт, мяркую, не перашкодзіць. Веды — вось што галоўнае.

Машына няспешна рухалася па вуліцы ў патоку іншых машын

— Ён сцвярджае, — сказаў Юльян Сарока, — што ёсць прадметы, якія ўтрымліваюць нейкую сутнасць ці сілу

— Так, — пацвердзіў Барыс Крамнікаў — Напрыклад, зброя. Той-сёй адзначаў у ёй нават прысутнасць чагосьці эратычнага Але гэта не зусім так, хаця і блізка да гарачага. Сіла любіць зброю і нібы прыліпае да яе Чаму зброю збіраюць, калекцыяніруюць, песцяць? Крымінальнікі, дый не толькі яны, абажаюць усялякія фінкі, стылеты, кінжалы, а валоданне шабляй — гэта ўвогуле вышэйшы пілатаж.

— Вы, бачу, зацікавіліся, — сказаў Юльян Сарока. — Але, добра, калі на карысць ..

— Тут, калега, больш чым цікавасць. Вы, дарэчы, чулі пра бэпс?

— На жаль, не. Расшыфруйце абрэвіятуру.

— Вам, як практыку, варта ведаць. Мяркую, вы не раз сутыкаліся з гэтай з'явай, толькі не асэнсоўвалі яе. Бэпс — гэта біяэнергетычная псеўдасутнасць. "Псеўда" са старажытнагрэчаскага азначае мана, хлусня. Уяўная, прытворная сутнасць. Я так і называю яе· "псеўда" Пэўна, такія сутнасці і тая, якую знайшоў ваш.. як яго, дарэчы завуць?

— Віктар Малец.

— Так. Яны абедзве аднаго парадку. Аднаго кусціка ягадкі.

— Магчыма, — ветліва, але без асобага запалу, усміхнуўся Юльян Сарока. — Ён так і гаварыў — "сутнасць". І слова тое ж ужываў — "сіла".

— Дык вось, — сказаў Крамнікаў, назіраючы за дарогай, — у нетрадыцыйным лекарстве існуе цікавая з'ява, феномен, які не ўпісваецца нават у даследаванні тых вучоных энтузіястаў, якія займаюцца праблемамі парапсіхалогіі. Калі коратка і папулярна, скажу





так. на ранніх стадыях любое захворванне выклікае парушэнне энергаструктуры, якое найбольш выразнае над месцам паражэння хваробай Умоўна, скажам, гэта — сігнал Ён нібы выкід. Калі ў вас ёсць экстрасенсорныя здольнасці, то можна з дапамогай такога сігналу паставіць дыягназ.

— У мяне, пэўна, такіх здольнасцяў няма, — сказаў Юльян Сарока

— Няхай Але я мог бы і ўсумніцца. Вы калісьці шмат навучылі мяне ў дыягностыцы. Там, у клініцы. Дарэчы, я правільна еду?

— Але.

— Працягваю тлумачыць, Юльян Андрэевіч Калі лекар-практык дастаткова доўга працуе з пацыентам, то раптам заўважае, што гэты сігнал, гэтае, па сутнасці, "нішто" паводзіць сябе жыццепадобна, здольнае да самазахоўвання, перамяшчэння, узаемадзеяння з чалавекам.

— Як гэта? — здзіўлена спытаў Юльян Сарока — Не даю веры.

— Сутнасць ці "псеўда" — уцякае ад уздзеяння лекара, часта ў месца найменш даступнае, а бывае часам і зусім дзіўнае адрыў часткі сігналу і яго "перабежка" ў зыходнае месца ці ў іншую частку цела Здараецца і неверагоднае — пераход "псеўда" ў "размазаны" стан, а потым зноў самаўзнаўленне Задача лекара — перайграць псеўдасутнасць. Іншым разам гэта "псеўда" і ёсць хвароба

— Няўжо яно разумнае, можа весці рэй?

— Так. "Псеўда" можа затаіцца, ці, наадварот, памяняць сваё месца, валодае хітрасцю і выкрутлівасцю. Заўважце, што людзі адушаўляюць свае хваробы, якія сталі для іх звыклымі, бывае, паспяхова ўгаворваюць, а бывае і загаворваюць іх, хіба не так? Самыя назвы· рак, рожа, жаба — гавораць пра жывое. Вывучыць "псеўда", не дазваляць яму весці той самы рэй, пра які вы нагадалі, — вось задача лекара, бо гэта другасная, уяўная сутнасць ..

— Яна паразітарная структура?

— Дакладна не ведаю Тут шмат цёмнага. Можна толькі збіраць часцінкі, каб потым скласці іх у мазаічнае цэлае. Скажу толькі, што гэта, магчыма, энергетычная субстанцыя плазменнага тыпу, якая валодае розумам, а можа — адна з неарганічных сутнасцяў, што жывуць у Сусвеце побач з намі. Скажу вам больш "Псеўда" — асноўнае, што спрабуе тармазіць мае намаганні, калі я імкнуся прабіцца да падсвядомасці Часам мне робіцца не па сабе...

— Вам трэба ў левы рад, каб зрабіць паварот — нам на тую вуліцу, — перабіў яго, паказваючы напрамак, Юльян Сарока, — мы амаль прыехалі.

Святлафор спыніў іх. Крамнікаў выжаў счапленне і пераключыўся на нейтральную перадачу

— Яшчэ Цыялкоўскі сцвярджаў, што на пачатку існавання Сусвету мільярды гадоў таму, магчыма, узніклі разумныя істоты з разрэджанай матэрыі, — працягваючы размову, дадаў ён. — Мы іх не ўспрымаем Вось вам характэрны прыклад. чалавек з дзесятак тысяч гадоў прыручае пчол, а яны, пчолы, нават не падазраюць пра наша існаванне, не бачаць нас — у іх няма адпаведных органаў. Ці мурашнік — гэта мінідзяржава насякомых — хіба ведае пра людзей? А што, калі і наша хвалёнае і самаўпэўненае чалавецтва проста гадуюць, як пчол? У чым сэнс існавання сутнасцяў? Мы не ведаем, а яны хаваюць адказы.

— Зялёны, — сказаў Юльян Сарока і раптам спытаў· — Можа, вы яшчэ будзеце сцвярджаць, што яны палююць за нашымі душамі?

— Будызм, прыкладам, абвяргае існаванне душы, — не здзівіўшыся, адказаў Крамнікаў, — але старажытныя выразы кшталту "прадаць душу" прымушаюць мяне глядзець на гэта з іншага боку Спалучэнне такіх слоў заўсёды насцярожвала мяне

— Тады, рэінкарнацыя — гэта рэальна?

— Вы ж бачыце самі — колькі пытанняў

— Ваша "псеўда" — яго можна лекава ўбраць ці ўвогуле знішчыць?

— Знішчыць — сумнеўна А ўбраць звычайна ўдаецца толькі з першага ці другога разу, калі сутнасць не чакае нападу, яшчэ не гатовая да яго

— Калі мы і жыццё вакол нас мае арганічную аснову, то. .

— То, што? Дагаворвайце

— То мы — ворагі?

— Так А можа і больш жахліва. Пакуль вядома вельмі мала — што яны драпежнікі і прыходзяць за нашай энергіяй.

— Навокал жа процьма энергіі. Сонца выпраменьвае яе ў фантастычнай колькасці, і большасць губляецца ў космасе.

— Так. Усё наша існаванне — гэта

энергія зоркі, але, магчыма, іх цікавяць больш тонкія віды энергій, хто ведае

— Незразумела, хто тут тады нашы сябры?

— Баюся, што на гэтай зямлі такіх у нас няма, — сказаў Барыс Крамнікаў

— Вы думаеце, падобныя псеўдасутнасці могуць утрымлівацца ну, скажам, у камянях?

— Так, хаця і зрэдку Вы ж чулі, пэўна, пра экзарсістаў — людзей, якія выганяюць сутнасць, ці, наадварот, могуць заблакіраваць яе ў прадмет, камень ці яшчэ куды, накласці замок

— Замок? Што вы маеце на ўвазе?

— Слова

— Звярніце ў арку, — сказаў Юльян Сарока — Мы прыехалі

Крамнікаў выкруціў руль, прытармазіў і выключыў запальванне За вокнамі кабіны стаялі адзін за другім шэрыя, аднолькавыя прамакутнікі дамоў, бегалі некалькі бяздомных сабак, жанчыны ў двары развешвалі на вяроўках бялізну Дзень пачынаўся

Паўза

— Якая ўсё-ткі туга — жыць у такім вось месцы, — сказаў раптам Барыс Крамнікаў – Жыць і ведаць, што ніякага іншага месца не будзе, не будзе побач ні дрэваў, ні лесу, ні ракі, ні травы пад нагамі Вы думалі калі-небудзь, Юльян Андрэевіч, што мы, магчыма, апошняе пакаленне, якое ўвогуле бачыць траву? Бо, можа, аднойчы здарыцца і такое спусціцца задушлівы туман, насычаны дымам і смогам, які ахутае зямлю і ўсё загіне

— Вы ж кажаце, што навокал іншыя светы і іх шмат — вось і шукайце туды шлях.

— Сумняваюся, што мы там патрэбныя, — усміхнуўся Барыс Крамнікаў і дадаў — Гэты ваш Малец, пэўна, самапалам, як кажуць, прабіў які канал сувязі з такім светам, што зрэдку здараецца Ён авалодаў азамі ведаў, мне шкада яго

— Чаму ж шкада? — спытаў Юльян Сарока

— Гэта заўсёды небяспечна Успомніце Лао-Цзы "Самае наймагутнейшае ў свеце тое, што нельга ўбачыць, пачуць, зазнаць..."

— Вы таксама апантаныя ідэяй, — сказаў Юльян Сарока

— Я збіраю складаючыя мазаікі Днямі дзеля цікаўнасці я апытаў аднаго пацыента, які ўжываў псіхадэлічныя сродкі Дык вось, ён знайшоў у сябе, умоўна кажучы, "назіральніка" Той, вядома, увесь час маўчыць, але прысутнасць нечакана праявіў пад уздзеяннем марыхуаны І даволі дзіўна

— Як?

— Ён сачыў за вобразамі ў напаўсне-напаўяве і раптам пачаў даваць ім крытычныя заўвагі "Хто ты?" — спытаў яго мой пацыент "Табе не трэба ведаць", — быў адказ Нішто сабе дыялог, так?

— Здаецца, Джон Лілі праводзіў падобныя вопыты, — заўважыў Юльян Сарока

— Так, калега Мяркую, што і там, і ў нашых выпадках мы маем справу з разнастасцю "псеўда"

Яны падымаліся па лесвіцы Юльян Сарока зноў быў вымушаны запальваць сярнічкі Урэшце патрэбная шыльда знайшлася Тэрапеўт Цяжка дыхаў

— Вы не ў лепшай форме, — мякка адзначыў Барыс Крамнікаў — Адпачніце, Юльян Андрэевіч

— Алкаголі, — сказаў Юльян Сарока.

— А што, калі вам вярнуцца да сям'і? — спытаў Барыс Крамнікаў — Выбачайце, канешне, я маладзейшы і не павінен вам даваць парады

— Я звык да адзіноты Магчыма, потым, урэшце, я не ведаю, хаця варта падумаць.

Званок быў прыладжаны Ён пазваніў

Паўза

Дзверы адчыніліся Жанчына, якую звалі Валянціна, стаяла насупраць іх, загароджваючы праход мажным целам З кватэры чулася музыка Юльян Сарока адчуў пах віна

— Вы мяне памятаеце, — сказаў ён — Мы прыйшлі да вашага мужа

— Яго няма, — сказала гаспадыня, не запрашаючы іх зайсці — Яго забралі ў псіхіятрычную лякарню

У вітальні, як убачыў Юльян Сарока з-за пляча жанчыны, больш не было паліц з каменнем Дзявочы голас з глыбіні кватэры паклікаў "Валянціна!" Дзверы зачыніліся, і абодва мужчыны засталіся ў паўцемры лесвічнай пляцоўкі

— Аднак, гэта не ветліва, а па-другое, у мяне ёсць пытанні, — сказаў Барыс Крамнікаў і націснуў кнопку званка

Дзверы адчыніліся зноў Жанчына яўна выказвала незадаволенасць.

— Каб зараз забраць чалавека ў псі-хушку, трэба вельмі важкія прычыны, — сказаў ёй Барыс Крамнікаў і спытаў: — Ён быў агрэсіўны, напаў на каго-небудзь?

— Так. Ён спрабаваў забіць мяне Я напісала заяву

— Дык вось пра якую заяву вы нагадалі ў першы мой прыход, — успомніў Юльян Сарока — Але тады вы не сказалі мне пра намер мужа забіць вас.

— Хіба вы не заўважылі, што ён хворы не толькі на сухоты? А каменне?

— На вуліцах поўна псіхічнахворых, нават з сімптомамі шаленства, але іх не забіраюць, — уставіў Барыс Крамнікаў

Гаспадыня нервова захінулася ў халат, ад яе мажнога, разагрэтага віном цела хвалямі наплываў пах дарагой парфумы

— У мяне ёсць сведкі

— Вы, я бачу, няблага праводзіце час, — не стрываў Барыс Крамнікаў — У вас якое свята?

— Валя! — паклікаў нецярплівы дзявочы голас з глыбіні пакоя — Ты хутка?

— Зараз іду, Свецік! — азвалася гаспадыня

Дзверы зачыніліся зноў

Мужчыны моўчкі спусціліся ўніз і селі ў машыну

— Час у нас ёсць, — сказаў Барыс Крамнікаў — Вырашайце, Юльян Андрэевіч, што будзем рабіць Вы расцэньваеце сітуацыю як натуральную праяву?

Юльян Сарока ўсміхнуўся і з доляй іроніі заўважыў, што варта толькі азірнуцца навокал, каб пабачыць ненатуральнасць і недасканаласць свету; ну, хаця б тыя жанчыны, ён кіўнуў галавой, якія прагульваюць сваіх сабак, а заўтра, магчыма, выкінуць іх на вуліцу, бо няма чым карміць — хіба яны не псіхічна няўстойлівыя асобы? А вунь той стары, які кідае з балкона недапалкі — хіба ён паўнавартны?

Барыс Крамнікаў завёў рухавік

— Будзем паслядоўнымі, — усміхнуўся ён — Паедзем у лякарню, зірнём на свае вочы Але ёсць даволі незвычайныя разумовыя адхіленні рэактыўныя дэпрэсіі, змеркавы стан Ваш Малец мог захварэць раптоўна

***

Нягледзячы на тое, што стаяла змрочная і пахмурная раніца, знешняя брама псіхіятрычнай лякарні была шырока расчыненая, і туды і адтуль свабодна заходзілі і выходзілі людзі Яшчэ калі яны наблізіліся да яе, Юльян Сарока са здзіўленнем пачуў гукі музыкі. Гукі мацнелі і рабіліся ўсё больш рэзкімі і выразнымі, і ўрэшце, як толькі абодва мінулі браму, то пабачылі іх прычыну Проста ля ўвахода ў лякарню апантана граў на скрыпцы невысокі лысы чалавечак У яго быў азызлы нездаровы твар, на якім адухоўлена блішчэлі маленькія чорныя вочкі Апрануты ў ватоўку, пакамечаныя, з плямамі засохлай гразі нагавіцы, без шапкі, вар'ят стаяў пад павецю ў выглядзе грыба, і яго рука са смыком нястомна лётала ў паветры Вакол скрыпача стаялі, хадзілі туды-сюды некалькі хворых у бальнічных робах і старых, зімовых, салдацкіх шапках на галовах. Двое з іх падмяталі асфальтавую дарожку, узнімаючы адзін на другога гразь і пыл.

Юльян Сарока спыніўся. Ён хацеў затрымаць Крамнікава і звярнуць яго ўвагу на музыку, але Крамнікаў нецярпліва павёў яго за сабой.

Прозвішча галоўурача было кароткім — Браніслаў Антонавіч Глод. Барыс Крамнікаў, які нейк незаўважна ўзяў ініцыятыву на сябе, прадставіў Юльяна Сароку і назваўся сам, патлумачыўшы мэту іх прыезду

— А, я пра вас чуў, — сказаў Крамнікаву галоўурач Глод і спытаў — Гэты Малец сваяк каго з вас?

— Не, — супакоіў яго Юльян Сарока, назіраючы, як на дне насцярожаных вачэй за шкельцамі акуляраў сплываюць, хаваючыся ў глыбіню, падазронасць і страх. — Мы хочам пабачыць яго па справе

І дадаў у некалькіх словах, што ў яго і калегі Крамнікава ёсць сумнеў у тым, што іх агульны знаёмы Малец такі безнадзейна хворы, што яго давялося шпіталізаваць у спецблок Дзівак — магчыма Вы ж, як псіхіятр, ведаеце лепш за нас, працягваў Юльян Сарока, што дыяпазон паміж хворым і нармальным даволі невялікі: што можна сказаць, напрыклад, пра чалавека, які носіць кашулі выключна навыварат? Але, калі да гэтага дадаць, што той вядомы вучоны і добры сем'янін? Можна лічыць яго хворым ці нармальным? А саванты? Ці чуў пра іх шаноўны калега?

Але галоўурач Глод, у цэлым пагадзіўшыся, аспрэчыў:

— Скажу вам тое-сёе, калегі, пра так

званыя ўмераныя формы псіхічных расстройстваў. Яны бываюць яшчэ больш небяспечнымі: чалавек хапаецца за справу і не даводзіць яе да канца ці бясконца прыслухоўваецца да свайго арганізма ці не хворы ён? Кожны такі мякка выражаны, падпарогавы сіндром робіць чалавека непрацаздольным і часам наносіць яму большую шкоду, чым рэактыўныя псіхозы. Да таго ж гэтае каменне ён назбіраў яго ў кватэры тоны. Яўны аўтызм У маёй практыцы гэта першы такі пацыент Дарэчы, у паперах на яго тры заявы. жонкі і двух сведак Мы правялі кансіліум і адразу заўважу — выпадак для мяне не зусім ясны Час пакажа.

— Добра, калега, але калі вы не супраць, мы зірнём на яго самі, — умяшаўся Барыс Крамнікаў

Галоўурач Глод згадзіўся і спытаў, ці не даць ім суправажатага, патлумачыўшы, што ў лякарні падрабляюць маладыя хлопцы вольных заняткаў, ёсць і студэнты з Акадэміі ф зкультуры. Увогуле, працягваў тлумачыць ён, малодшы медперсанал лепш набіраць з мужчын, бо тут, самі разумееце, далёка не санаторый, і з кожным днём карміць, апранаць і лячыць хворых робіцца ўсё большай праблемай

І ён паклікаў:

— Кірыл!

Адразу аднекуль з'явіўся санітар Кірыл. Ён быў у спартыўным касцюме і красоўках, і, пакуль апранаў зверху брудны, даўно нямыты халат, Юльян Сарока зноў са здзіўленнем убачыў у яго цёмных, цыганскіх вачах, як і ў вачах галоўурача, насцярожаную боязь і непрыхаваную цікаўнасць да іх нечаканага візіту.

Санітар Кірыл адвёў іх у адгароджаны трохметровай рашоткай з дроту прастакутнік, які, як ён патлумачыў, скарыстоўваўся для прагулкі хворых, і неўзабаве прывёў Віктара Мальца.

За той час, што ўчастковы тэрапеўт не бачыў яго, той моцна схуднеў і відавочна здаў фізічна Толькі вочы паляўнічага за каменнем нагадвалі былога захапленца.

Юльян Сарока сказаў твораму, што ён сам і яго сябра Крамнікаў зробяць усё, каб яму дапамагчы Віктар Малец падзякаваў і адразу заявіў, што ён здаровы і зусім не псіх.

— Але ж вы, на жаль, тут, — Барыс Крамнікаў кіўнуў на дрот і дадаў, што прыехаў, каб пагаварыць з ім наконт яго каменьчыкаў з сілай

Віктар Малец перакуліў пустую скрыню і сеў Ён сказаў, што згодны пагаварыць, але адзін на адзін, і зірнуў у бок санітара

Санітар Кірыл павагаўся і пайшоў Юльян Сарока таксама адышоў у кут, знайшоў і перакуліў сабе пустую скрыню, сеў, выцягнуў з кішэні пінжака плоскую нікеліраваную біклагу, адкруціў корак і глынуў

Ён сядзеў, часам пазіраючы на апантанага і яго суразмоўцу, і думаў пра тое, што пустая трата часу — імкнуцца ўдасканальваць гэты свет і шукаць шляхі ў іншыя светы, але яшчэ большая пустата — жыць, каб спажываць ежу і харчавацца дзеля жыцця, і зноў жыць, каб есці, і так — да самай смерці

На развітанне Барыс Крамнікаў паабяцаў, што мусіць наведацца сюды яшчэ раз

— Буду вам абавязаны на ўсё жыццё, — Віктар Малец відавочна стрымліваў слёзы

— Дарэчы, — крануў яго за плячо Крамнікаў, — вы ведаеце пагалоску пра барсука і лісіцу?

Віктар Малец пацісну́ў плячыма

— Усё проста Калі барсук выкапае сабе нару, туды мае звычку завітваць лісіца Яна запаскуджвае нару, і чысцюля-гаспадар вымушаны зысці і будаваць новую Мяркую, вам трэба трымацца падалей ад лісіц.

Паўза

Віктар Малец выцягнуў з кішэні невялікую скрыначку

— Я вельмі прашу вас паслаць гэтую бандэроль па адрасу, — папрасіў ён Юльяна Сароку — Калі можна, то нават сёння.

Тэрапеўт узяў скрыначку і паабяцаў

— Мне позна капаць новую нару, — сказаў хворы. — Я хачу вярнуцца ў старую

**Частка чацвёртая.**

**АХВЯРЫ**

Санітар Кірыл крануў яго за плячо Хворы Віктар Малец раптоўна выслізнуў з цяжкага і трывожнага сну. Перадусім ён па парадзе санітара не стаў прымаць нанач, і непрыкметна для дзяжурнага ўрача выплюнуў таблеткі транквілізатараў Таму сон яго быў непрацяглы і неглыбокі, што толькі дапамагло яму адразу сабрацца і ўсвядоміць сваё становішча

У затхлым, прапахлым хлёркай і нездаровымі выпарэннямі паветры мужчынскага спецблока чуўся храп, мармытанне, кашаль і стогны У куце палаты, ледзь асветленым слабымі лямпачкамі пад столлю, нехта з хворых хадзіў між ложкамі.

— Не перадумаў? — пачуў ён шэпт Кірыла над вухам.

— Не.

— Тады збірайся і пайшлі, — ціха сказаў Кірыл. — Трымайся за мной на адлегласці Калі хто і заўважыць — я іду асобна і ты сам па сабе — зразумеў? Дзверы я бяру на сябе Галоўнае — незаўважна прайсці праз дзяжурную ўнізе. Яна хаця і спіць, але вельмі чуйна, не замужам кабета, ха-ха

Віктар Малец зірнуў на гадзіннік і таропка апрануўся Ішла сёмая гадзіна раніцы, і да ўсходу сонца, а значыць, пакуль развіднее, было яшчэ гадзіны паўтары

Ледзь чутны шчаўчок ключа ў дзвярах палаты, якія адчыніў санітар, падаўся ледзь не грукатам Яму нават здалося, што хворыя пачалі прачынацца і сочаць за ім, а то і крадуцца следам. Але, азірнуўшыся, ён убачыў, што ніхто за ім не ідзе, і не збіраецца, і ціха прычыніў за сабой дзверы

Дзяжурная ўнізе сапраўды спала на кушэтцы за палатнянай заслонай. Закратаваныя форткі нават не рыпнулі, не азваўся і замок пад ключом санітара, і неўзабаве следам за Кірылам ён апынуўся ў двары корпуса.

Раніца яшчэ не нагадвалася Было цёмна і па-зімоваму холадна і стыла. У слабым святле поўні там-сям бліскалі замёрзлыя лужыны ды іскрыліся лапікі снегу, што ляжаў ужо дзе-нідзе ўзбоч ад сцежак.

Санітар Кірыл, які суткі раней прапанаваў яму ўцёкі, чакаў яго за дзвярамі і калі ён падышоў бліжэй, шэптам загадаў ісці за ім да брамы, туды, дзе знаходзіцца альтанка, у якой штодня грае на скрыпцы хворы меламан, а потым, сказаў ён, яны пойдуць далей разам.

Віктар Малец таропка пайшоў за ім, трымаючыся ў ценях дрэваў Холад пакрысе дабраўся да яго, праняў да нервовых дрыжыкаў, бальнічная роба і нагавіцы зусім не грэлі Да таго ж ён так спяшаўся, што забыўся на шапку і цяпер пашкадаваў, але праз некалькі хвілін абодва і санітар наперадзе, і ўцякач за ім, кожны дайшлі да альтанкі ля брамы Тут Кірыл дачакаўся старога

— Ніхто разам не бачыў?

— Быццам, — згадзіўся Віктар Малец і дадаў: — Ну, я пайшоў, дзякую вам за ўсё

— Ды не так спехам, — неяк цьмяна ўсміхнуўся яму ў святле месяца Кірыл, толькі зубы бліснулі, і азірнуўся навокал. Але ўсё было спакойна і бязлюдна ў гэты ранішні час.

Віктар Малец зразумеў па-свойму:

— Што я вам вінен за паслугу? — спытаў ён — Дарэчы, вы ж ведаеце — з сабой у мяне нічога няма. Але я аддзячу вам скажыце толькі — як.

— Дамовімся, дзядзька, — сказаў Кірыл — А пакуль мы з Дзянісам цябе на станцыю падкінем, на прыпынак. Там сядзеш на электрычку і праз гадзіну будзеш у жонкі — якраз на разборку, ха-ха!

Але хворы раптам спыніўся

— А без Дзяніса нельга? — нерашуча спытаў ён і пачаў даводзіць, што дабярэцца дадому сам, праўда, у яго няма грошай на білет, але ў такую рань рэвізоры яшчэ спяць, ён праскочыць і зайцам А Дзяніс яму непрыемны, ён гэтага не хавае.

— Пэўна, і на мяне крыўдуеш, — сказаў Кірыл. — Мы ж цябе разам у калектыў прывезлі Дый падмаладзілі па дарозе.

Віктар Малец стаяў моўчкі, у роздуме.

— Не разумею, — урэшце вымавіў ён, — які ў вас інтарэс, каб выпусціць мяне?

— Ды ўсё проста, дзядзька, — рагатнуў Кірыл — Няма вас, дзівакоў, чым карміць. Вось і выпускаем пацыху А потым кажам — збег

Віктар Малец уздыхнуў з палёгкай Такое простае і зразумелае тлумачэнне адразу задаволіла яго і зняло ўсе перасцярогі

— Ну то пайшлі, — даў ён згоду.

— Тут, за ляском, Дзяніска чакае з машынай, — сказаў Кірыл і дадаў: — Ты на яго, дурня, не зважай. У кожнага ж свой

інтарэс — гэта ты вельмі трапна заўважыў Ну, рушым паціху

Яны пакрочылі разам. Высокі жылісты Кірыл у спартыўным касцюме, красоўках і куртцы, і след у след рухалася на галаву меншая постаць хворага — бялела ў цемры яго сівая галава ды чулася перарывістае нездаровае дыханне.

Цёмнага колеру, амаль чорны ўначы, "мерседэс" старога выпуску туліўся да абочыны Санітар Кірыл пстрыкнуў пальцамі ў шкло кабіны, і адтуль амаль адразу высунулася галава Дзяніса ў чорнай вязанай шапачцы Дзверы кабіны адчыніліся, санітар Кірыл падштурхнуў хворага на задняе сядзенне, а потым і сам сеў побач

— Усё пуцём? — спытаў санітар Дзяніс.

— Руш

Не задаючы больш пытанняў, Дзяніс уключыў запальванне Матор завуркатаў, машына кранулася

Ехалі ў маўчанні. Некалькі раз яго парушаў стары — ён усё імкнуўся высветліць, якую плату з яго возьмуць за немалую паслугу — уцёкі з псіхушкі, але і Кірыл, які сядзеў побач з ім на заднім сядзенні і тым больш крутаплечы Дзяніс наперадзе, адгаворваліся нязначнымі словамі, а то і проста выклічнікамі, і стары таксама змоўк.

Хвілін праз дваццаць язды па пакручастай дарозе, якая вілася то полем, то праз лес, Дзяніс спыніў машыну і сказаў·

— Ну, а далей ножкамі Тут праз лясок і станцыя недалёка

Між тым ледзь-ледзь пасвятлела Зоркі і месяц пачалі знікаць, быццам раставалі ў халодным небе — першая прыкмета раніцы

Санітар Кірыл адчыніў дзверцы кабіны, спрытна выкінуў вонкі сваё гнуткае цела і сказаў:

— Пайшлі, дзядзька

Віктар Малец з палёгкай вылез з машыны Яны з Кірылам збочылі на вузкую сцяжынку, што вяла ў лес, і неўзабаве цемра паглынула абодвух.

Санітар Дзяніс моўчкі глядзеў, як зніклі іх постаці, выцягнуў з пачка цыгарэту і запаліў Ён відавочна нерваваўся, бо некалькі разоў апускаў шкло кабіны і прыслухоўваўся Але акрамя рыпу соснаў пад слабым ветрам і далёкага шуму машын ён нічога не пачуў і ўрэшце выкінуў недапалак і зноў падняў шкло Ён адкінуў сядзенне быццам з намерам падрамаць, але праз якую хвіліну – дзве ўключыў транзістар, знайшоў музычную праграму і пачаў слухаць.

Так прайшло хвілін дзесяць. Санітар Дзяніс выключыў прыёмнік, адчыніў кабіну і зноў прыслухаўся Халоднае паветра падзьмула ў салон, выцягнула цыгарэтны дым. Світала

Кірыл нечакана вынырнуў з цемнаты, плюхнуўся на сядзенне побач, зачыніў дзверцы, прыпаліў ад запальнічкі і сказаў·

— Ну, блякнем адсюль.

Машына імкліва рванула з месца і набрала хуткасць Дарога спрэс была ў выбоінах, абодвух трэсла, але санітар Дзяніс не збаўляў хуткасці. Ён выключыў фары· ужо прыкметна развіднела, і ў прасвеце між дрэвамі над дарогай можна было бачыць рэдкія шэрыя аблокі, якія, змяняючыся, адно за адным беглі па небе з усходу на захад. Урэшце яны апынуліся на раздарожжы перад бальшаком. Дзяніс затармазіў і выключыў рухавік.

— Вы б яго ў горадзе лепш мачылі, — сказаў ён

— Хто гэта — вы? — перасмыкнула Кірыла

— Ты і хаўрусніца твая, Валянціна Тут яшчэ засвецішся з табой, нумар машыны хто запомніць, мала што

— Дома, кажаш? — вышчарыўся раптам Кірыл — А потым куды? У чамадане па частках на сметнік? Ты ж думай — макітру ўключы.

— Ну, згода, я сваё адрабіў, залаці ручку

Але Кірыл быццам і не чуў апошняй заўвагі

— Ты зразумей, — працягваў ён, — такі наш варыянт — поўная страхоўка. Сам ведаеш тых, сатырыкаў[1], хто з лякарні ўцякае, — амаль не шукаюць, а калі і знойдуць цела, то справу не заводзяць у "канторы" зараз іншых спраў хапае А тут — яўнае сама-забойства, я ўсё як трэба пакінуў Пішыце "мусаркі" адразу пратакол і рапарт. усе канцы сыходзяцца А мянты — яны надта работы не любяць. Ды што тлумачыць дарэмна? Чаго спыніўся? Шызіка шкада? Дык на цябе гэта не падобна — шкадаваць.

[1] Сатырык — чалавек з дзівацтвамі, непаўнаварты (блатн.)





— Трэба разлічыцца, Кіруха, — сказаў Дзяніс. — З цябе "штука", як і дамаўляліся

— Я што, фінагент?! — той брыдка вылаяўся і зрабіў непрыстойны жэст — Так, можа, разлічымся?

Дзяніс павярнуў галаву і скоса зірнуў у твар напарніку Вочы яго нядобра бліснулі.

— Без істэрык Шалясці, радной

— Не раней, як Валянціна аформіць кватэру і прадасць. Трэба час Тыдзень, два, а то і месяц.

— Не тапчы вушы У вас гэта ўжо другая ціхая З ваўчыцай той — Валянцінай, вы ў абласной псіхушцы такім жа макарам укоцалі дзядзю А кватэру яго прадалі.

— Адкуль ты ведаеш? — насцярожыўся Кірыл

— Вы за тую кватэру дваццаць штук узялі, — праігнараваў яго пытанне Дзяніс, — ва ўсякім разе не менш Цяпер вось зноў лоха знайшлі. Давай, шалясці, Кіруха

— Разлічымся, не круці панты

— Не Грошы, як дамаўляліся

— Едзем адсюль, дурань Тут небяспечна, мала што Да таго ж ён мне шыю падрапаў, кроў цячэ Дзе аптэчка?

— Ззаду, за сядзеннем

Дзяніс аднак не заводзіў рухавік, а назіраў, як яго напарнік знайшоў аўтааптэчку, расшпіліў футляр, дастаў адтуль бінт, пераламаў ампулу з ёдам і падкруціў на сябе люстэрка задняга бачання. У святле наступаючага дня пад падбародкам Кірыла сачылася крывёю свежая драпіна Чамусьці гэта відавочна ўзрушыла Дзяніса. Вадзяністыя яго вочы заварожана спыніліся на твары напарніка Кірыл, між тым, працягваў·

— Я ж цябе, Дзяніска, не пытаю, чаму ты таксама ў дурдом уладкаваўся — пэўна ж маеш свае выгоды Хіба не ад цябе ўсё аддзяленне жахаецца, як ты ідзеш? Хіба не цябе яны баяцца больш за ўсіх? Так, ты на макруху быццам не падпісваешся, але хто на тым тыдні рэбры хвораму паламаў, а на гэтым яго ўжо ў зямлю закапалі? А месяц таму, памятаеш? Ты ж любіш біць іх, га? Ты мне магілёўскімі справамі ў нос тыцкаеш, але я ў цябе таксама магу шмат чаго спытаць

Кірыл падціраў кавалкам бінту кроў з шыі і ўсё больш нервова раскуражваўся Ён пачаў гаварыць пра тое, пра што яму было лепш памаўчаць, але спыніцца ўжо не мог Ён напомніў напарніку, што той усяго толькі студэнт-завочнік фізкультурнай Акадэміі, бо стаў баяцца клеткі[1], таму што там яго аднойчы, у час матча зламалі, і цяпер ён, Дзяніска, адыгрываецца на дурыках, іх жа можна хоць апускаць — ніхто не заступіцца. А маладзенькіх, бывае і малалетніх наркаманак, якіх, здараецца, пасля ломкі ў лякарню прывозяць, хіба не ён гвалціць? А хто ім наркату за баксы, за рыж'ё[2] носіць? Хто ў псіхушцы паханом сябе лічыць, га? І Кірыл, ужо больш памяркоўна, параіў напарніку не спускаць палканаў, гэта значыць, не абвастраць сітуацыі, тым больш, што пра тое-сёе даўно здагадваецца галоўурач, а яму таксама трэба падмазваць язык, каб маўчаў і не паднімаў хіпежу

— Ты мне запазыку вярні і расход, — ціха і мякка, але з прыхаванай злосцю папрасіў Дзяніс — Адкуль я ведаю, — можа ты ногі мацаеш? Дзе я цябе тады шукаць буду, ва ўсесаюзным вышуку? Ты вось паўгадзіны таму зашмаргу на дэмана[3] накінуў, а заўтра можа і на бабу тую накінеш, ваўчыцу, пасля таго, як яна хату прадасць А потым зліняеш і — з канцамі

Дзяніс, пакрысе запальваючыся ад сваіх жа слоў, зноў скасавурыў вокам на напарніка, і зноў выгляд крывавай пісягі на шыі Кірыла дзіўна ўсхваляваў яго Раптам ён выхапіў з кішэні кнопачны нож, пстрыкнуўшы, выскачыла лязо, — і імгненным рухам саўгануў напарніку пад скіўцу Кончык ляза трапіў якраз на свежую драпіну і на міліметр – два ўвайшоў таму пад скуру Кірыл адхіснуўся, але галава яго ўпёрлася ў стойку кабіны, і лязо зноў яшчэ больш увайшло ў тое месца на шыі, дзе была ранка і адкуль адразу выцякла некалькі буйных крывавых кропель.

— Ты што, Дзяніска? — выдыхнуў ён — Адпусці!

Санітар Дзяніс перахапіў яго правую руку сваёй левай, так што другая рука напарніка аказалася заціснутая яго ж тулавам і плячом напаўшага Цяпер Кірыл быў амаль нерухомы, хіба што мог толькі соўгаць нагамі ці адкрываць і закрываць рот Але, як толькі ён скарыстаўся дзвюма гэтымі магчымасцямі, лязо нажа ў яго пад

[1] Клетка рынг (спарт ).
[2] Рыж'ё — золата (блатн )
[3] Дэман — вар'ят (блатн.).

сківіцай увайшло глыбей яшчэ на некалькі міліметраў.

— Эйш, заспяваў, — прасіпеў яму ў твар санітар Дзяніс. — Ты лепш спявай пра тое, дзе, у якой кішэні ці ў якім месцы "зялёныя", што ты мне вінен, ляжаць.

— Фіняк убяры, Дзяніска, ты што, звар'яцеў?

— Я цябе адвучу вецер гнаць, жывёла!

Санітар Кірыл тарганyў галавой назад, але гэтым рухам ён толькі пагоршыў сваё становішча Дзяніс зноў націснуў рукой, і лязо ўехала ў шыю напарніка яшчэ на некалькі міліметраў Кроў з-пад кончыка нажа пацякла мацней.

У кабіне машыны ўжо зусім пасвятлела ад наступіўшай раніцы, але вузкая лясная дарога была пустая

— Пусці, я аддам! — хрыпеў Кірыл

— Зараз аддасі? — спытаў Дзяніс — Дзе ў цябе грошы? Гавары, ну!

— У нацельніку зашытыя, пусці

Санітар Дзяніс падумаў некалькі доўгіх секунд і вырашыў схаваць нож, нават спыніў трымаць сваёй левай рукой руку напарніка, але якраз у гэты момант нібы незалежна ад яго волі лязо нажа мякка, нібы ў мучны пірог, увайшло на ўсю глыбіню ў горла Кірыла, і той захрыпеў, засоўгаў нагамі ў агоніі, выплёўваючы крывавую пену

Здзіўлена, нібы забіваў не ён, а нехта іншы, санітар Дзяніс утаропіўся ў вочы напарніка, якія паступова патухалі, а потым адчыніў свабоднай рукой кабіну і выпіхнуў цела на дарогу Ён адразу вылез следам, нервова агледзеўся па баках, але ніякай небяспекі не заўважыў пустая дарога наперадзе гублялася ў лесе, за якім адразу пачынаўся бальшак, ззаду таксама не нагадвалася ніякага руху Тады ён ухапіў цела былога напарніка за куртку і подбегам пацягнуў убок.

Неўзабаве Дзяніс вярнуўся, хутка, не пакідаючы сачыць за дарогай, адшукаў у багажніку кароткую сапёрную рыдлёўку і закідаў зямлёй крывавы след, што цягнуўся ад машыны Потым зачыніў дзверцы кабіны і з рыдлёўкай вярнуўся ў ельнік

Кірыл быў ужо мёртвы. Санітар Дзяніс расшпіліў яго куртку, агледзеў і выцягнуў усё з кішэняў, потым старанна абшукаў кішэні і ў спартыўных нагавіцах, і ўрэшце расшпіліў кашулю і дабраўся да нацельнай бялізны Амаль адразу рука яго намацала над левым бокам трупа на цяльняшцы патайную кішэню. Санітар Дзяніс успароў яе нажом і выцягнуў невялічкі цэлафанавы скрутак. Ён таропка разгарнуў яго у скрутку былі даляры Пэўна, Кірыл, нікому не давяраючы, насіў усё сваё пры сабе.

Дзяніс пачаў капаць яму тут жа, ля дарогі. Рыдлёўка здавалася лялечнай у яго руках. Падмерзлая за ноч зямля спачатку паддавалася з цяжкасцю, быццам не хацела прымаць у сябе тое, што павінна была, але потым справа пайшла нашмат лягчэй, і яма паглыблялася даволі хутка. Часам санітар Дзяніс кідаў капаць, падыходзіў да машыны, дзе зноў нервова ўсё аглядаў, прациpаў анучай кабіну, чуйна прыслухоўваўся да гукаў навокал і зборчаў у лес. Урэшце глыбіня задаволіла яго, ён адным скачком скочыў з ямы наверх, нагамі спіхнуў туды труп і пачаў закідваць зямлёй.

***

Гаспадыня чакала званка, бо адразу падхапілася з канапы і, як і была, у халаце на голае цела, рушыла да дзвярэй і зірнула ў "вочка"

— Ай, Свецік прыйшоў, — радасна сказала яна

Перасцерагальнік замка шчоўкнуў, дзверы адчыніліся.

— Ну, прывет, Валюха!

У кватэру ўвайшла маладая, гадоў дваццаці пяці, дзяўчына, у трусінай футэрцы, чорнавалосая, з кароткай моднай стрыжкай. Пульхныя яе вусны былі рэзка абведзены тонкай карычневай рысай памады Прамы, невялікі нос пачырванеў ад холаду, а цёмныя вочы ледзь касавурылі. Востры падбародак быў з ямачкай пасярэдзіне.

— Ледзь не змарнела, пакуль чакала, — сказала Валянціна, нецярпліва дапамагаючы госці зняць футра — Павесь сюды Бачыш, як свабодна стала, усё каменне выкінула, дні тры запар суседскі алкаш выносіў

Жанчыны пацалаваліся

— А дзе старычок, вальтануты твой, усё там?

— У псіхушцы, дзе ж яму яшчэ быць. Ты праходзь, мы цяпер тут будзем сустракацца Толькі вось нешта я не ў форме, зайчык

— Што, зноў баліць?





— Так Я і аналізы ўсе прайшла і рэнтген і "узі" — кажуць усё ў норме, а мне сёння з раніцы зусім хранавата

— А мы з табой па чарцы, а потым пагрэемся, — гулліва ўсміхнулася Святлана, — усё і пройдзе

— У-ух, дай я цябе ўкушу, гарэзніца!

— А што, калі ён, ну, шызік твой — раптам вернецца? — хіхікнула Святлана, праходзячы ў пакой, і не стрымала радаснага задавальнення — Ай, і стол накрыты!

— Вернецца — зноў назад скіруем

На стале стаялі ваза з садавінай, апельсіны, закуска, бутэлька чырвонага віна і каньяк

— Вінцо тваё любімае, — сказала Валянціна, — ну, а я каньячку вып'ю Можа, палепшае Кожнаму сваё, — яна падміргнула сяброўцы

Святлана села ў крэсла, закінула нагу за нагу і выцягнула з сумачкі цыгарэту

— Запаліць ці не варта? — завагалася яна і раптам запытала — А ты мне грошай падкінеш, Валянціначка?

— А дам грошы — будзеш харошая?

— Буду, буду, толькі ты не гані, давай спярша вып'ем, я паесці не супраць, потым у ванну скокну, я ж прама з інтэрната зараз, сама разумееш

Валянціна разліла ў кубачкі, напаўлягла на канапу, пацягнулася мажным, дагледжаным целам, халат пры гэтым расхінуўся і грудзі выпнуліся двума белымі паўшар'ямі, і раптам схапілася за жывот

— Ну, быццам зноў варухнулася там Баліць

— Мо, ты раджаць збіраешся, Валь? Вальтануты твой хіба пастараўся

— Кінь ты, дурнічка.

— Ну было ж хоць раз, га? — хіхікнула Святлана

— Давялося пацярпець Не скажу ж яму, што я дзеваў люблю Праўда, слова сексуальная — дзева? Дзеўка, дзяўчына — не тое

— Угу

Святлана выпіла віна і пачала есці, потым амаль адразу наліла сабе яшчэ, прамармытала толькі "на галодны страўнік прыход больш кайфовы " і дадала.

— Я цябе неяк з мужыком бачыла Здзівілася. Малады такі, смуглявы Ён цыган?

Валянціна зноў наліла сабе каньяку і залпам выпіла Потым узяла частачку лімона і пажавала Шырокі твар яе зморшчыўся, а ярка-чырвоныя ад памады вусны выцягнуліся ў адну вузкую стужку

— Ты, Свецік, тое, што не трэба, не пераніцоўвай

— Маўчу А колькі грошай ты мне не пашкадуеш, Валь?

— Яшчэ ж не зарабіла Ай, блін, зноў баліць!

— Мо, я пайду, Валь?

— А мне што, можа, адной тут мастурбіраваць?

— Хо-хо Разам лепш, канешне

— Ідзі да мяне на кватэру Магчыма, я яе хутка прадам, але пакуль пажывеш Мядовы месяц справім

— Ты ж мне спаць зусім не дасі І потым, ты як завядзешся, мне балюча іншы раз робіш, а я істота пяшчотная, ха-ха. А потым, дзед твой? Яго ж, пэўна, хутка вылечаць Ён сюды зноў каменне нацягае Ён што ў цябе — дзеля шырмы?

— Ён не вернецца, — упэўнена сказала Валянціна, — я пастараюся

— Шчэ вінца, Валь

— Ты не дасі веры, але ён мне днямі з дурдома бандэролькай даслаў што б ты думала?

— Што? — спытала Святлана, беручыся за апельсін

— Каменьчык

— Каштоўны?

— Звычайны Падабраў з зямлі, пэўна.

Святлана пражавала дольку апельсіна, праглынула і сказала

— Ну, балдзею .

— Можаш уявіць. Я яго, як узяла, дык быццам токам у руку кальнула Потым па руцэ пайшло, пайшло, і тут вось, каля пупка, спынілася.

— Што спынілася? Ну ты і казачніца

— Не ведаю. Памацай, дай руку Вось тут.

Гаспадыня расхінула халат зусім, так, што агаліліся жывот і загарэлыя, парослыя чорным, ледзь бачным пушком, моцныя ногі. Святлана села побач і прыклала далонь да жывата сяброўкі

— Тут? Можа — ніжэй? — яна хіхікнула

— Не, тут. Я шчэ вып'ю, а ты нырай, Свецік, у ванну адна Тут распранайся, я люблю глядзець, як ты гэта робіш

Святлана зноў хіхікнула і пачала распранацца. Зняла кароткую спадніцу, сцягнула калготкі, а потым і швэдар,

застаўшыся толькі ў майтках На левай локвіцы, ля самага пляча чырванела невялічкая татуіроўка — каляровая кветка ружы. Рабіла яна гэта марудна, адначасова назіраючы за гаспадыняй, якая тым часам запаліла і выдыхнула ў столь струменьчык дыму Але раптам выплюнула цыгарэту, села і, трымаючыся за жывот, ускрыкнула.

— Што, зноў баліць? — здзіўлена спытала Святлана — Мо, перабрала? Каньяк — напойчык каварны.

Не адказваючы ёй, з раптоўна пабялеўшым тварам, гаспадыня паднялася на ногі, хацела нешта сказаць і, нечакана, быццам падкошаная, павалілася на падлогу

— Валь, ты што? Уставай, старушка! перапалохалася Святлана, узяла яе за руку і памацала пульс Сэрца білася зусім слаба, так, што ледзь праслухоўвалася, але з ліхаманкавай хуткасцю, потым яна адчула некалькі моцных, рэзкіх удараў — Валянціна аж уздрыгнула ўсім целам, і пасля гэтага акрамя свайго пачашчанага дыхання Святлана больш нічога не чула.

Мацюкаючыся, Святлана пачала ліхаманкава апранацца Потым выцягнула з сумачкі люстэрка і паднесла да рота сяброўкі, патрымала і зірнула ў яго Раптам яна істэрычна віскнула і кінулася да дзвярэй.

**Частка пятая.**

**СЛОВА**

Участковы тэрапеўт Юльян Сарока якраз апранаўся, каб ісці ў паліклініку, калі пазваніў Крамнікаў Ён сказаў, што знаходзіцца паблізу, але ў кватэру падымацца не будзе і пачакае калегу на двары

Юльян Сарока апрануў паліто, падумаў і надзеў на галаву кепку· было ўжо адчувальна холадна Унізе, у пад'ездзе, звыкла валяліся выкарыстаныя шпрыцы і недакуркі Ён успомніў, што дзень таму дворнічыха скардзілася жыльцам, што ў падвале начуюць, і параіў ёй пасыпаць там хлоркай

Ён спусціўся па прыступках і сышоў на асфальт, які ўжо там-сям пабліскваў замёрзлымі лужынамі. У паветры марудна кружыўся і, дасягнуўшы зямлі, адразу раставаў снег

Крамнікаў ужо чакаў яго Ён быў у спартыўнай куртцы, джынсах і зімовых чаравіках. Пахудзелы твар яго ў профіль яшчэ больш нагадваў драпежную птушку

— Дзе вы прападалі, калега? — спытаў Юльян Сарока — Можа, адчыніліі дзверы ў які бліжэйшы да нас нябачны свет і цяпер вярнуліся адтуль з новымі ведамі?

— Нешта накшталт таго Вы ўгадалі, Юльян Андрэевіч

— Маглі б зайсці да мяне, — сказаў Юльян Сарока — Час у мяне яшчэ ёсць.

— Прагуляемся Я пазбягаю замкнёнай прасторы, — пажартаваў Крамнікаў і раптам дадаў· — Я мушу неўзабаве з'ехаць і прыйшоў развітацца

— З'ехаць куды? — спытаў Юльян Сарока

— За мяжу Далёка. У Новую Зеландыю Разам з жонкай і дачкой Мы прайшлі тэставанне пры іх амбасадзе Вось чаму я не з'яўляўся на вашым даляглядзе Машыны, як бачыце, таксама ўжо няма

— Едзеце назусім?

— Так Я не вярнуся На гэта ўжо не будзе ні жадання, ні энергіі

— Што ж, спадзяюся, што вам пашанцуе, — сказаў Юльян Сарока

Паўза

— Не думаю, — памаўчаўшы, аспрэчыў Барыс Крамнікаў — Я цвяроза ацэньваю сітуацыю Але і заставацца больш не ў сілах. Я пачынаю адчуваць стомленасць. А гэта ўжо суперхвароба Вы ж, пэўна, бачыце, што здаровых людзей тут усё меншае Ідзе нібы селекцыя наадварот Да сучаснага жыцця прыстасоўваюцца якраз хворыя з неўраўнаважанай псіхікай Дарэчы, як наш збіральнік камення? Мо, яго ўжо выпісалі?

— Я днямі пазваніў у лякарню Кажуць, што ён уцёк

— Вось і яго жыццё абярнулася пасткай Калісьці я гаварыў вам пра гэта

— А ваша? — бязлітасна спытаў Юльян Сарока

— Вы ж ведаеце, што з'яўляецца нашай агульнай пасткай Гэта, так бы мовіць, якасць нашага чалавечага матэрыялу

— Пазбаўляючыся гэтай якасці, як вы кажаце, вы трапіце ў іншую пастку, — сказаў Юльян Сарока — Вас будзе мучыць настальгія па нашай стомленасці і недасканаласці, па нашым ніякім — жыцці

— Так Але я зрабіў выбар Я не хачу больш чуць расейскую "феню". Я стаміўся, Юльян Андрэевіч.

— Дарэчы, — пацікавіўся Юльян Сарока, — вы ўсё яшчэ эксперыментуеце са словам, ну, я маю на ўвазе вашы заняткі неўралінгвістыкай, ці ў вас цяпер іншыя клопаты?

Крамнікаў ахвотна патлумачыў, што свае заняткі не кідае, а з часам магчыма цалкам займецца толькі тым, да чаго ляжыць душа, і дадаў·

— А вам прыходзіла ў галаў, што жыццё ўвогуле — featureзнабаковае спалучэнне моўных гульняў· палітыка, літаратура, рэлігія, друк, культура, нават матэматыка, фізіка, астраномія — усё гэта гульні са словам

Нейкі час яны ішлі моўчкі, а потым Крамнікаў сказаў:

— Калісьці, калі я толькі пачынаў, там, у клініцы, вы дапамаглі мне Я на дабро не забываюся. Як прыеду, то высветлю там становішча і, як толькі зболышага крыху падымуся, то напішу вам ці патэлефаную Вам патрэбны будзе нейкі плацдарм, так я разумею Я прадумаю варыянты і знайду для вас найлепшы Вы ж урач, і неблагі.

Юльян Сарока спыніўся і зірнуў субяседніку ў твар

— Дзякую, але я застаюся Позна Я амаль што стары, і да таго ж — алкаголік Я прывык.

— Яшчэ адно, Юльян Андрэевіч — У клініку я ўжо не здолею забегчы, а там у шафе тое-сёе з маіх кніг па спецыяльнасці засталося, інструмент Забярыце сабе Я іх папярэдзіў, што вы зойдзеце

Юльян Сарока падзякаваў

— Што ж, — сказаў Барыс Крамнікаў, — быццам усё. Бывайце назаўсёды, Юльян Андрэевіч Мы наўрад ці больш пабачымся

— Бывайце, — адказаў Юльян Сарока — Удачы вам, Барыс.

Яны паціснулі адзін аднаму рукі. Крамнікаў павярнуўся і пайшоў далей адзін

Праз некалькі дзён участковы тэрапеўт Юльян Сарока апынуўся па справах у раёне, дзе знаходзілася клініка, у якой калісьці працаваў, і ўспомніў пра тое, што абяцаў Барысу Крамнікаву зайсці туды за кнігамі. Ён павагаўся і пайшоў.

У клініцы яго сустрэлі абыякава. Кнігі і інструмент ужо расцягнулі па руках, і Юльян Сарока пашкадаваў, што дарэмна згубіў час.

Новы і зусім не знаёмы яму загадчык аддзялення, малады, але таўсматы, з шырокім жаночым тазам, што не хаваў нават халат, а ў мужчын, як адзначыў сабе Юльян Сарока, гэта прыкмета не толькі гарманальнага зруху, але няшчырасці і каварства, — разводзячы рукі, сказаў:

— Кнігі, на жаль, знеслі Ну вы ж бачыце, шафа не замыкаецца Ды іх і было тут

Запанавала няёмкая цішыня. Загадчык яўна і не хаваючы свайго жадання чакаў, калі непажаданы наведвальнік развітаецца. І каб запоўніць гэту цішыню, ён пачаў гаварыць неістотнае што Крамнікаў займаўся нейкімі сваімі асабістымі доследамі, што ён, хаця і не дасягнуў тут чагосьці значнага, але быў на добрым уліку і мог бы заставацца і працаваць. Апошнія дні туляўся з палаты ў палату, развітваўся з хворымі, а потым сядзеў за кампутарам, набіраў нейкую бязглуздзіцу.

— Што менавіта? — спытаў Юльян Сарока

— Так, нічога асаблівага Словы.

— Мо, засталася дыскета? — спытаў Юльян Сарока

Загадчык пакратаў лоб, падумаў, потым пакорпаўся ў стале і працягнуў яму чорную пласцінку.

Юльян Сарока ўзяў дыскету і спытаў дазволу ўключыць кампутар

Ён уставіў дыскету ў вінчэстэр і вывеў на экран. Некалькі хвілін тэрапеўт Юльян Сарока ўважліва чытаў словы, што доўгімі радкамі спускаліся адно за адным па дысплеі, а потым націснуў кнопку і выключыў

— Можна, я забяру дыскету? — папрасіў ён

Загадчык аддзялення зрабіў нядбайны жэст і згодна кіўнуў.

Дарогу з клінікі дадому Юльян Сарока ведаў добра, і таму нават не заўважыў, як ногі звыкла пакрочылі ў належным напрамку Вуліца наплывала на яго адпрацаванымі аўтамабільнымі газамі, шумам матораў ды маўклівымі, засяроджанымі ў сябе постацямі прахожых Участковы тэрапеўт адчуваў

раздражненне, няўпэўненасць і тугу "Стомленасць, — падумаў ён — Стомленасць плюс алкаголі"

Каб скараціць шлях, ён завярнуў у невялічкі скверык і амаль прайшоў яго, звярнуўшы ўвагу на спілаваныя там-сям дрэвы, якія самотна і бездапаможна ляжалі на бруднай, падмёрзлай зямлі, калі раптам яго вочы выхапілі на гэтым убогім кавалку пейзажу прадмет, які прымусіў яго спыніцца. На зямлі ляжаў гранітны глыжак цёмна-ружовага колеру, памерам з кулак дарослага чалавека. Юльян Сарока нахіліўся і асцярожна падняў камень. Глыжак быў гладкі, нібы адпаліраваны, хаця і няправільнай формы Участковы тэрапеўт змахнуў з яго паверхні слой гразі, пяску і пылу і агледзеў знаходку больш уважліва Камень быў з выгляду зусім звычайны і наўрад ці выклікаў у каго-небудзь хаця б самую нязначную цікавасць, але Юльян Сарока чамусьці злавіў сябе на пачуцці, што гэта не так Хіба сапраўды промні нябесных целаў аказваюць крысталізуючы ўплыў на ніжэйшы свет і становяцца элементамі: каменнем? А калі так, ці вызначае яно іншым разам шлях чалавека? І ці з'яўляецца задавальненне звычайнай цікаўнасці матывам для таго, каб прысвяціць сваё жыццё небяспечнаму і невыгоднаму пошуку? — падумаў ён

Юльян Сарока паклаў гранітны глыжак у гамец.

***

СЛОВА — ФРАГМЕНТ ДНК

псеўдазародак псеўдачалавек псеўданаваколле псеўдарозум псеўдарэчаіснасць псеўдасям'я псеўдасвабода псеўдагісторыя псеўдаідэя псеўдапрырода псеўдадзейнасць псеўдапаняцце псеўдадзяржава псеўдамараль псеўдаадчуванне псеўдадзяцінства псеўдавыжыванне псеўдасцяг псеўдакаштоўнасць псеўдапамяць псеўдавайна псеўдацарква псеўдаюнацтва псеўдагерб псеўдакультура псеўдакаханне псеўданавука псеўдагімн псеўдапомнікі псеўдапісьменства псеўдашчырасць псеўдамова псеўдагонар псеўданараджэнне псеўдалітаратура псеўдасвядомасць псеўдамедыцына псеўдаадраджэнне псеўдапаветра псеўдарух псеўдацела псеўдаплебісцыт псеўдабарацьба псеўдарамантыка псеўдашлях псеўдабудаўніцтва псеўдагрошы псеўдаадлюстраванне псеўдарадасць псеўдааб'яднанне псеўдаэканоміка псеўдаміліцыя псеўдамастацтва псеўдалёс псеўдарака псеўдамузыка псеўдагорад псеўдакааперацыя псеўдахлеб псеўдадуша псеўдачас псеўдавіно псеўдадрук псеўдасаюз псеўдаўрад псеўдапошук псеўдавада псеўдамеханізм псеўданарод псеўдасусед псеўдамінулае псеўдаадносіны псеўдакіно псеўдазаклік псеўдаімпэт псеўдадождж псеўдавёска псеўдасекс псеўдабюджэт псеўдасяброўства псеўдаармія псеўдатэатр псеўдадом псеўдакветкі псеўдагандаль псеўдаюрыспрудэнцыя псеўданезалежнасць псеўдаабдымкі псеўдарадня псеўдастыль псеўдарамонт псеўдазоркі псеўдаэйфарыя псеўдахаўтуры псеўдапрэзідэнт псеўдаграмадства псеўдаўсмешка псеўдапрамова псеўдамяжа псеўдатэлебачанне псеўдапартыя псеўдаспорт псеўдасход псеўдабратэрства псеўдарынак псеўдакантора псеўдажыццё псеўдатаварыш псеўдапраўда псеўдароўнасць псеўдавера псеўдамоладзь псеўдапраца псеўдазакон псеўдамеліярацыя псеўдакурс псеўдарэвалюцыя псеўдавозера псеўдапрадукцыя псеўдаперспектыва псеўдатвар псеўдалюбоў псеўданадзея псеўданацыя псеўдаполе псеўдашкола псеўдагуст псеўдаперамога псеўдапашпарт псеўдаякасць псеўдазямля псеўдамесяц псеўдапланета псеўдасонца псеўдагалактыка псеўдасусвет

*Студзень – сакавік 1997 г.*



# Чэслаў МІЛАШ | ЁН



*І вось цяпер*
*Не ведаю, што было,*
*Не ведаю, што было*
*Наяве са мною.*

*Пра Яго*

*ЦЫТАТНІК*

**ВЕРШЫ**

МАЁ РАЗУМЕННЕ ЧЭСЛАВА МІЛАША
"ВЕСЦІ ЧЫТАЧА "
САКРЭТ МАСТАКА

**ПАЭТЫ І СЯМ'Я ЛЮДЗЕЙ**
**ЛЕКЦЫЯ БІЯЛОГІІ**
**ЗНАКІ НАДЫХОДЗЯЧЫХ ЧАСОЎ**

## Пра Яго

**1911, 30 чэрвеня.** У Шатэйнях у Літве нарадзіўся Чэслаў Мілаш, сын інжынера Аляксандра Мілаша і Веранікі з Кунатаў

**1913 —1918.** Сям'я Мілашаў вандруе па Расіі, што звязана з працаю і службаю ў расійскім войску паэтавага бацькі.

**1921—1929.** Навука ў віленскай гімназіі імя Жыгімонта Аўгуста

**1929 —1934.** Вывучае права ва універсітэце Стэфана Баторыя. Дэбютуе як паэт у часопісе "Alma Mater Vilnensis" Тады ж з'яўляецца левая ў сацыяльным плане і авангардавая паэтычна літаратурная група і часопіс "Żagary", сузаснавальнікам якіх быў Чэслаў Мілаш.

**1933.** Выходзіць першы том Мілашавай паэзіі "Паэма пра застылы час", які перадае катастрафічныя настроі Паэт атрымлівае ўзнагароду віленскага аддзялення прафесійнага звязу польскіх літаратараў

**1934 —1935.** Перабывае ў Парыжы на стыпендыю.

**1936.** Выходзіць том паэзіі "Тры зімы". Паэт пачынае працу на польскім радыё ў Вільні.

**1937.** Звольнены з віленскага радыё за левыя погляды, Мілаш перабіраецца ў Варшаву, дзе ўладкоўваецца таксама на радыё.

**1939 —1940.** Ваенныя вандраванні праз Кіеў вяртаецца ў Літву

**1940 — 1944.** Перапраўляецца ў Варшаву і распачынае канспірацыйную літаратурную дзейнасць. Выдае на ратапрынцэ том "Вершы" пад псеўданімам Ян Сыруць, укладае анталогію акупацыйнай паэзіі "Незалежная песня"

**1945.** Уваходзіць у склад рэдакцыйнага калектыву месячніка "Twórczość" Выдае том "Уратаванне", у які ўвайшлі вершы перадваеннай і акупацыйнай пары

**1945 — 1951.** Працуе службоўцам у Міністэрстве замежных спраў ПНР Выконвае функцыі аташэ па культуры пры пасольстве ПНР у Вашынгтоне, а пасля ў Парыжы. У 1948 годзе ў "Twórczości" публікуе "Маральны трактат" — вершаваныя разважанні на тэму адказнасці чалавека перад гісторыяй. У 1951 годзе пасля непрацяглага перабывання ў Польшчы выбірае лёс палітычнага эмігранта, распачынае супрацоўніцтва з парыжскім месячнікам "Kultura"

**1951 — 1960.** Жыве ў Францыі.

**1953.** Публікуе ў "Бібліятэцы "Культуры" эсэ "Зняволены розум", прысвечанае аналізу культуры эпохі сталінізму. Выдае том вершаў "Дзённае святло", а таксама па-французску кнігу "Здабыццё ўлады", тэмаю якой сталася змаганне за ўладу ў пасляваеннай Польшчы За гэты твор атрымаў Prix Litteraire Europeen у 1953 годзе.

**1955.** Літаратурны інстытут у Парыжы выдае некалькі Мілашавых кніг "Здабыццё ўлады" (па-польску); аповесць вяртанне да зямлі дзяцінства — "Даліна Ісы" і "Паэтычны трак

## У Шатэйнях

I

Гэта быў мой пачатак і зноў я з Табою,
тут, дзе навучыўся чатыром бакам свету.

Нізка за дрэвамі бок Ракі, за мною й будынкамі
бок Лесу, направа бок Святога Броду,
налева Кузні і Парому.

Куды б ні вандраваў я, па ўсіх кантынентах,
заўсёды павернуты тварам я быў да Ракі,

Чуючы смак і духмянасць разгрызенай бела-чырвонай
сакавітасці аеру,

Заслуханы ў старыя паганскія песні жняцоў,
што вярталіся з поля, калі сонца пагодлівых вечароў
дагарала там, за узгоркамі.

У здзічэлай зелені я мог бы знайсці месца,
дзе стаяла калісьці альтанка і дзе ты мяне
прымушала пісаць першыя крывулі літар.

А я вырываўся і ўцякаў у мае тайныя схованкі,
перакананы, што літар пісаць ніколі не навучуся.

Не спадзяваўся, аднак, спазнаць і такія веды:
што рассыпаюцца косці ў пыл, мінаюць дзесяткі гадоў,
але трывае ўсё тая самая прысутнасць.

Што можам, вось так, як я з Табою, быць у краіне
адвечных люстраў, вандруючы па няскошаных травах
у тым самым часе.



II

Ты лейцы трымала і нас двое ехала аднаконнаю брычкай
пагасцяваць у вялікай вёсцы каля лесу.

Голле яблынь і груш угіналася ад ураджайнасці плода,
аквечаныя ганкі дамоў сцераглі гародчыкі мальваў і руты.

Гаспадары частавалі нас размоваю пра свае сельскія
справы,
кабеты пры ткацкіх варштатах доўга важылі слова пра
колер асновы.

На стале вяндліны, соты мёду ў глінянай місцы,
і я піў хлебны квас з бляшанай кварты.

Я папрасіў старшыню, каб паказаў мне гэту калгасную
вёску,
ён вывез мяне ў поле, адкрытае аж да лесу,
там затрымаў легкавушку перад агромністым каменем.

"Тут была вёска Пейксва", сказаў не без трыумфу
ў голасе,
як гэта ў тых, што заўжды ідуць у нагу з пераможцамі.

Я прыкмеціў, што валун быў часткова расколаты,
камень разбіць молатам хтось спрабаваў,
каб прапаў нават гэтакі след.

III

Я выбег раннім світанкам да гаманлівых птахаў
і вярнуўся, але між хвіляй і хвіляй твор напісаў я.

Хоць так цяжка было цягнуць палачку *n*, каб злучылася
з палачкай *y*, або мост перакінуць паміж *r* і *z*.

Я трымаў тонкую ручку нібы трысцё і мачаў пяро
у чарніла пісарчык вандроўны з чарніліцай вечнай.

# МАЁ РАЗУМЕННЕ ЧЭСЛАВА МІЛАША

Чэславу Мілашу я веру. Разам з тым ён зацікаўлівае мяне сваёй інтэлектуальнай заглыбленасцю і абавязковым імкненнем да аб'ектывізму. Гэта рэдкая ў людзей рыса наогул, а ў пісьменнікаў асабліва. З польскіх — я давяраю яшчэ двум: Вітальду Гамбровічу і Віктару Варашыльскаму.

З творчасцю Мілаша я сутыкнуўся ў перыяд ваеннага становішча ў Польшчы, калі разгарнуўся ў краіне непадцэнзурны друк, у палове васьмідзесятых. Раней не; ён эміграваў быў напрыканцы сталінізму, фактычна ўцёк з польскай дыпламатычнай службы, і, натуральна, яго імя заставалася забароненым у нас. Асуджаным на небыццё, што з'явілася чарговай і тыповай наіўнасцю дыктатуры. Літаратар заўсёды пераможца ў канфлікце з уладаю, што знакаміта даказаў яшчэ ў антычныя часы небезвядомы і цяпер Цыцэрон.

Мілашавы вершы мяне так не займаюць, як — менавіта — ягоныя эсэ. Інтэлектуальная проза. Я не буду гаварыць пра яе універсальныя каштоўнасці, дзеля чаго спатрэбілася б асобнае эсэ. Запынюся на беларускім аспекце ў ёй, які самым натуральным чынам прысутнічае практычна ва ўсіх яго празаічных кніжках.

Чэслаў Мілаш лічыць сябе ў нейкім сэнсе патомным грамадзянінам Вялікага Княства Літоўскага. З шэрагу моваў даўняе Літвы добра не разумее толькі адну — жамайцкую, якая пасля атрымала назву літоўскай, або летувіскай. Перш за ўсё таму, што мала сутыкаўся з ёю ў часы даваеннае маладосці на Віленшчыне. Дзеля беларускай жа яму перакладчык не патрэбен. Нават у выглядзе *"трасянкі"*. Піша па-польску, якраз на адной з моваў колішняга Княства. Ягоны патрыятызм блізкі Міцкевічавай формуле: паляк, але і ліцвін. Несумненна належыць да ліку тых апошніх палякаў, народжаных і выхаваных на няпольскім этнічным арэале, і з пана Тадэвушавай эмацыянальнасцю: *"Літва! Бацькоўскі край, ты як здароўе тое. "*

Чэслава Мілаша мы, беларусы, супаставіць з Адамам Міцкевічам не можам і не павінны. Справа не ў рознай маштабнасці ў польскай літаратуры гэтых творцаў, але ў тым, што аўтар эпасу *"Пан Тадэвуш"* цалкам жывіўся сокамі Беларускай Зямлі і таму ён таксама наш геній. Мілаш жа вырастаў ужо ў наважытным менталітэце польскай культуры, на фірмаменце якой Беларусь блякне як адышоўшае мінулае. Калі мы цягнемся да яго, дык не інакай як да вялікага паэта сваяцкіх нам палякаў, у якога шмат *сэрца* да нас. Якому ад прыроднае сумленнасці хапае адвагі заступацца за наша,

тат" — вершаванае эсэ пра польскую паэзію XX стагоддзя.

**1957.** У Польшчы, дзякуючы кастрычніцкаму абнаўленню, прэса друкуе вершы паэта артыкулы з аналізам яго творчасці.

**1958 — 1959.** Выходзяць "Кантыненты" — збор нарысаў пра паэтаў з розных культурных абшараў разам з перакладамі іхніх вершаў, а таксама том аўтабіяграфічных эсэ "Родная Еўропа".

**1960.** Выязджае ў Злучаныя Штаты. Уладкоўваецца на працу на факультэце славянскіх моваў і літаратур Каліфарнійскага універсітэта ў Бэрклі.

**1962 — 1974.** Выходзяць наступныя тамы паэзіі (усе выдадзеныя парыжскім Літаратурным інстытутам). "Кароль Попель і іншыя вершы" (1962), "Гуцё зачараваны" (1964). "Горад без імя" (1969), "Дзе ўзыходзіць сонца й куды заходзіць" (1974)

**1969.** Публікацыя на ангельскай мове "Гісторыі польскай літаратуры" і зборніка эсэ "Відзежы над затокаю Сан-Францыска"

**1972.** Зборнік эсэ "Прыватныя абавязкі".

**1973.** Выходзіць першы збор Мілашавай паэзіі ў ангельскім перакладзе.

**1974.** Узнагарода польскага ПЭН-клуба за перакладчыцкую творчасць

**1976 — 1977.** Публікацыя "Зямлі Ульра" метафізічна-рэлігійна-літаратурнага эсэ, якое прадстаўляе духоўную біяграфію паэта. Мічыганскі універсітэт у Ан Арбары надае Мілашу годнасць ганаровага доктара і выдае яго выбраную паэзію З'яўляюцца таксама першыя пераклады з Бібліі, над якімі паэт з тае пары бесперапынна працуе.

**1978.** Публікуецца "Кніга псалмоў". Фрагменты перакладаў "Кнігі псалмоў" у "Twórczości" (№ 12)

**1979.** Мілаш становіцца лаўрэатам Міжнароднай літаратурнай узнагароды

**1980.** Паэту прысуджана Нобелеўская прэмія

**1981, чэрвень.** Прыязджае ў Польшчу, удзельнічае ва ўрачыстасці надання яму годнасці ганаровага прафесара Каталіцкага люблінскага універсітэта.

**1980 1981.** У серыі "Бібліятэка "Культуры" публікуецца збор Мілашавых твораў; у Польшчы літаратурныя крытыкі і журналісты ліквідуюць прагалы і сплачваюць Мілашу свае даўгі, у прэсе ўвесьчасна паўтараецца яго прозвішча, а салідныя часопісы выдаюць манаграфічныя нумары, прысвечаныя яго творчасці ("Poezja", "Teksty" "Pismo", "Twórczość")

**1982 — 1984.** У Парыжы выходзяць чарговыя тамы з Бібліі (Евангелле паводле Марка, Апакаліпсіс); у Польшчы — першы афіцыйна выдадзены з часоў "Уратавання" (1945) збор Мілашавых вершаў "Паэзія" (выдавецтва "Czytelnik", 1982), а таксама першая кніжка, у якой даваўся аналіз паэтавай творчасці (Bożena Chrzastowska, Poezje Czesława Milosza, WSiP, 1982)

**1985.** Кракаўскае літара-

**Цяпер думаю, што твор даецца замест шчасця**
**і што на ім ляжыць пячаць літасці і жаху.**

**Аднак таго месца дух павінен быць у ім,**
**як таксама ёсць у Табе, каго ён вёў ад нараджэння.**

**Гірлянды з лісця дуба і званочак у разгаліне пахучай ліпы,**
**што запрашаў на набажэнства майскае,**
**хацелася добрым быць і не хадзіць між грэшнікаў.**

**Але калі цяпер стараюся ўспомніць, што было,**
**толькі студня і там адлюдна-цёмна,**
**аж нічога нельга зразумець.**

**Адно вядома: ёсць грэх і спагнанне ёсць,**
**што б ні гаварылі філосафы.**

**Ты адна, разумная і справядлівая, умела б мяне супакоіць,**
**сказаўшы, што я зрабіў столькі, колькі мог зрабіць,**

**Што зачыняюцца веснічкі Чорнага гарода, спакой, цішыня,**
**што скончана, тое і закончана.**

## *Асот, крапіва*

*[ ] "le chardon et la haute*
*Ortie et l'ennemie d enfance belladona"*
**O. Milosz**

**Асот, крапіва, лопух, беладонна**
**Маюць будучыню. Ім належаць пустэча**
**І паржавелая чыгунка, неба і ціша.**

**Кім буду для людзей далёкіх пакаленняў,**
**Калі пасля разнамоўнай гаманы моваў узнагароду атрымае ціша?**



**Меў збавіць мяне талент складання слоў,**
**Аднак мушу быць падрыхтаваны да зямлі без-граматычнай.**

**З асотам, крапівой, лопухам, беладоннай,**
**Над якімі ветрык, соннае воблака і ціша.**

## *Ты, хто пакрыўдзіў*

**Ты, хто пакрыўдзіў проста чалавека,**
**На смех падняўшы ягоную крыўду,**
**Маючы блазнаў грамадку пад бокам**
**Дзеля мяшання з дабром злога,**

**Хоць табе ўсе прысвяцілі б паклоны,**
**Цноту і мудрасць табе аддаючы,**
**Золатам ўсіх медалёў абсыпаючы гонар,**
**Рады, што йшчэ адзін дзень ім жыцця дараваны,**

**Чуй небяспеку. Паэт памятае.**
**Забіць яго можаш народзіцца новы.**
**Будуць запісаны ўчынкі ўсе і размовы.**

**Лепш табе быў бы золак зімовы,**
**Сук ды шнурок пад цяжарам напяты.**

## *Павінен, не павінен*

**Чалавек не павінен улюбёна глядзець на месяц.**
**Сякера ў яговых руках не можа траціць цяжару.**
**Ягоныя сады павінны пахнуць гнілымі яблыкамі**
**І крапівой у меру зарастаць.**
**Чалавек не павінен, гаворачы, ужываць слоў для яго найдарагіх,**
**Ні расколваць зерне, каб даведацца, што ў сярэдзіне.**
**Ні кідаць крошкі хлеба, ні пляваць на агонь**

**беларускае, права мець сваё месца пад сонцам.**

**Будучы асобаю з глыбокім маральным інстынктам, ён гідзіцца кан'юнктурнымі паводзінамі. Гэта не аблягчае яму жыццё. Нямала прыкрага кажа землякам, ні трохі не прыхарошваючы іх гістарычнае мінулае. Хаця б паланізацыйную палітыку ў міжваенне. Ці непрымальнасць біскупскімі вярхамі беларускага каталіцызму, тоесамасць касцёла з польскасцю. Бяссэнсавая ў іх тэндэнцыя, якая, у дадатак, ні ў чым трывала не замацавала Польшчу на ўсходзе. Наадварот, марнатравіць высокі аўтарытэт польскай культуры ў паласе Міжмор'я, кідаючы цень злапомнага шляхецкага імперыялізму. Паслядоўнасцю чаго ёсць нядобрая традыцыя адсутнасці ў Варшавы ўсходняе палітыкі як закончанае дактрыны партнёрства Польшчы з Беларуссю, Украінай, Летувой, Латвіяй, Эстоніяй. Комплекс каланіяльнага патэрналізму ў дачыненнях з колішнімі Інфлянтамі (Лівоніяй) ды падняпроўскімі** *"крэсамі"*. **Псіхалагічная сцяна між** *"ляхамі і маскалямі"*. **З аднадчаснай — платанічнай! — закаханасцю палякаў у Захад. Не разумеючымі, што ізаляваная ў сваім рэгіёне Еўропы Польшча — гэты ўбогі кліент у палітычных салонах квітнеючых дзяржаваў цывілізацыйнага басейна Ла-Манша, не кажучы пра ўсю Паўночнаатлантычную канстэляцыю.**

**Каб быць важным на Захадзе, трэба перш быць важным на Усходзе. Важным, чаканым, шанаваным. Гэта механізм, нават не ідэя.**

**Чэслаў Мілаш, як ніхто з палякаў, разумее драму беларускай нацыі і яе культуры. Як інтэлектуал са строгай логікай, ён дасканала ўсведамляе сабе, што канчальная катастрофа беларушчыны радыкальна паслабіць перспектывы і для самое Польшчы, яе культурнай нармальнасці. Упадак Пагоні моцна знізіць лёт Арлу. Падала Вялікае Княства Літоўскае, валілася і Польская Карона. Трэба быць надта тупым, каб таго не заўважыць. Мілаш ненавідзіць тупасць, бо ад яе страшныя памылкі. А памылкі ў палітыцы, паводле класічнага вызначэння, горай злачынства!**

**Усяляк падтрымлівае дзеянні дзеля паразумення між нацыямі і народамі, узаемнага разумення культур. Удзельнічае ў рабоце ўсходнееўрапейскага цэнтра *"Памежжа"* з сядзібаю ў Сэйнах, на сутыку межаў Польшчы, Літвы, Беларусі (у ваколлі пражываюць іншыя нацыянальныя мяншыні — украінцы, цыганы, стараверцы, рэліктавыя татары) Цывілізаваны новы свет не любіць нацыяналізму. Польшча не будзе прынята ў Еўрапейскую Супольнасць, калі акажацца, што бушуе ў ёй шавінізм, уціск усякіх мяншыняў ды этнічных групаў. Гэта Мілашу знамянальная ўсё ж дэталь, у параўнанні з ростам глабальнае пагрозы нацыяналістычных рэвалюцыяў, выбуху рэлігійнага фундаменталізму. Агульнае імя гэтым з'явам —** *фанатызм* **Такі стан духу лёгкі на запал на вялізных абшарах беднасці. Усяго дзесятая частка чалавецтва жыве палюдску. Цяжка ўявіць, што адбудзецца, калі дзевяцёх зямлянінаў кінуцца на таго**

турнае выдавецтва публікуе зборнік пад рэдакцыяй Е Квяткоўскага "Спазнаванне Мілаша" (найважнейшыя даследаванні паэтавай творчасці), у Парыжы выходзіць том літаратурных эсэ Мілаша "Пачынаючы з маіх вуліц"; у Кракаве двухтомны збор паэзіі "Вершы"

**1986.** Публікацыя тома "Звязаная мова" — паэтычныя пераклады з ангельскай, французскай і іспанскай моў

**1987.** У выдавецтве "Czytelnik" выходзяць "Сведчанні паэзі Шэсць лекцыяў аб неспакоях нашага веку"

**1988.** Выдавецтва "Znak" выдае паэтычны зборнік "Хронікі"; у Кракаве выходзіць кніга гутарак А. Фюта "Непакорны аўтапартрэт Чэслава Мілаша "

**1990.** У Парыжы публікуецца чарговы том эсэ "Год лоўчага"

**1991 — 1992.** Выдавецтва "Znak" публікуе паэтычны зборнік "Далейшыя ваколіцы", а таксама том эсэ "Пошук бацькаўшчыны"; эсэ ў апошняй кнізе, звязаныя яны з гісторыяй і геаграфіяй земляў Літвы, Беларусі, Украіны і Польшчы, у іх падымаюцца праблемы перыяду падзення камунізму

**28 траўня 1992.** Прыезд Мілаша ў Літву (праз 52 гады) на ўрачыстасці надання яму годнасці ганаровага прафесара універсітэта Вітаўта Вялікага ў Коўне.

**1994.** Чарговае паэтычнае здзяйсненне майстра зборнік "На беразе ракі"

**Падрыхтаваў Юрась БУШЛЯКОЎ.**

**(Так ва ўсякім разе вучылі мяне ў Літве).**
**Калі ўзыходзіць на мармуровыя сходы**
**Хам, няхай стараецца ботам пакінуць драпіну**
**Дзеля напаміну, што сходы доўжыцца не будуць.**

## *Не болей*

**Я павінен калісьці сказаць, як змяніў я**
**Думку аб паэзіі і як гэта сталася,**
**Што цяпер лічу сябе адным з шматлікіх**
**Скупшчыкаў і рамеснікаў Царства Японіі,**
**Якія складаюць вершы пра віцэнне вішань,**
**Пра поўню месяца і хрызантэмы.**

**Калі б я мог венецкіх куртызанак**
**Апісаць, як на двары яны дражняць паўліна,**
**І з жамчужнай павязкі, з ядвабнай тканіны**
**Вылавіць поўныя грудзі, чырванаватую**
**Паласу на жываце ад зашпільвання сукенкі**
**Хоць так, як бачыў шкіпер галеонаў,**
**Якія прыбылі той раніцы з залатым ладункам;**
**І каб жа аднача́сна мог я бедныя іх косці**
**На могілках, дзе браму ліжа ўскормленае мора,**
**Змясціць у слове больш трывалым чымся нейкі грэбень,**
**Што, парахнеючы ў труне, адзін, сам святла чакае.**

**Не ўсумніўся б я тады. З непадатлівай матэрыі**
**Што нам дасца ўхапіць? Нічога, прыгажосць не болей.**
**Таму і задаволіць мусяць нас вішань кветкі**
**І хрызантэмы і месячная поўня.**

## *Алену Гінсбэргу*

**Алене, добры чалавеча, вялікі паэце забойчага стагоддзя,**
**ты, які, баронячы шаленства, дайшоў да мудрасці.**

**аднаго?!... Сусветны** ***"бальшавізм"*** **хлеба не дасць, але цывілізацыю і культуру зніштожыць. Да прыкладу, разня белых чорнымі ў Паўднёвай Афрыцы — не дапусці Божа! — адкіне гэту багатую краіну да ўзроўню бантустана. Пакуль не бракуе там дзяржаўнага розуму, але працэс інтэграцыі** ***"лепшых"*** **з** ***"горшымі"*** **не выйшаў са сваіх пачаткаў і няма гарантыі на памысны яго зыход. Або: заможная Поўнач і галодны Поўдзень... Фанатызм — рэлігія галоты, ілюзій на Рай.**

**Ёсць прычыны неспакою і бяссоніцы. Дылема багацця і галытвы. Як дагэтуль, адно без аднаго не выклікае эканамічнага развіцця. Усе роўныя кепска працуюць, апускаюцца ў гультайства. Гасне прагрэс. Сітуацыя стаячай вады, мёртвай і заплываючай багнаю. Без рыб і шчупакоў, у лепшым выпадку адно з апалонікамі... Так рэагуе натура на застой і безрух. На нівеляцыю ўзроўняў, без якіх немагчымыя, скажам, рэчкі.**

**Што рабіць, каб быў той рух і чалавек не крыўдзіў чалавека? Гісторыя не ведае.**

**Мілаш супярэчлівы палякам. З аднаго боку, немалы ім гонар ад Нобелеўскай прэміі, якой ушанаваны пісьменнік, ды — з другога — суворы з яго дзядзька, непадатлівы на лісьлівыя пахвалы. Дальнабачнасць не дазваляе яму абмяжоўвацца прыемным? Напэўна, так, але... Інтэлігентнасць без маральнасці не стварае грамадска карысных якасцяў. Гэта таму атамныя фізікі ці генетыкі заклікаюць да забароны далейшых**





**Табе прызнаюся, маё жыццё не было такое, як бы хацеў.**

**І цяпер, калі прамінула, ляжыць як непатрэбная шына**
**на ўзбочыне дарогі.**

**Было такое як жыццё мільёнаў, супраць якога**
**ты бунтаваў у імя паэзіі ды ўсюдыіснага Бога.**

**Падпарадкаванае звычаям, з ведай, што яны абсурдныя,**
**і неабходнасці, якая зрывае кожнага ранку і прымушае**
**ехаць на працу.**

**З няспоўненымі жаданнямі, нават з няспоўненай ахвотай**
**крычаць і прабіваць ілбом сцяну, паўтараючы сабе самому**
**забарону "Нельга".**

**Нельга сабе паблажаць і дазваляць не-рабіць-анічога,**
**пра свой боль раздумоўваць, нельга шукаць дапамогі**
**ў бальніцы і ў псіхіятра.**

**Нельга таму, што абавязак і таксама таму,**
**што страх перад**
**сіламі, якім толькі дазволь, і выявіцца нашае блазенства.**

**І я жыў у Амерыцы Молаха, караткастрыжаны і пабрыты,**
**вяжучы гальштукі, п'ючы бурбон штовечар**
**перад сваім кінавізарам.**

**Чортавыя карлікі пажадлівасцяў куляліся ўва мне,**
**я ўсведамляў іх і пацiскаў плячыма: разам з жыццём**
**прамінуць усе.**

**Трывога падкрадалася ўсё бліжэй і бліжэй, я мусіў**
**прыкідвацца, што ніколі яе няма і што з іншымі мяне**
**злучае блаславёная нармальнасць.**

**Такая вось можа быць школа, без наркотыкаў і адрэзанага**
**вуха Ван Гога і братэрства найсвятлейшых розумаў**
**за кратамі шпіталяў.**

# ЦЫТАТНІК

<u>Мілаш пра сябе</u>

*Не зайздрошчу крытыкам, якія будуць пра мяне пісаць, таму што іграў я на вельмі многіх фартэпіянах*

*Калі б спыталіся ў мяне, адкуль паходзіць мая паэзія, я адказаў бы. з дзяцінства, з калядных песняў, з літургіі і травеньскіх набажэнстваў таксама як і з Біблії.*

**"Зямля Ульра"**

*Гледзячы на карту Еўропы, мушу адважыцца на некалькі элементарных канстатацыяў Я не нарадзіўся ў Польшчы, не выгадаваўся ў Польшчы, не жыву ў Польшчы, але пішу па-польску Ці можна быць верным польскай літаратуры яе любіць, ёй служыць але разам з тым праяўляць як бы нацыянальную абыякавасць, якая хаця б у тым, што кожны паляк для мяне крыху падазроны?*

*З прычыны індывідуальных, геаграфічных гістарычных прадвызначэнняў увесь мой дэманізм канцэнтруецца ў супраціве польскай абмежаванасці, у супраціве, але не ва ўцёках, а таму змаганне можа весціся ў межах толькі польскай мовы.*

**выпрабаванняў у галіне сваіх жа адкрыццяў. Адчынілі скрынку Пандоры? Агульначалавечы вопыт паказвае, на жаль, што гэта — пераважна — спознены плач ды шкадаванне. Паяўляецца прытым просценькае апраўданне: не будзь я адкрыўцаю, быў бы нехта іншы... Калі так, дык куды імкне свет і шэсць мільярдаў людзей у ім? Жахлівае пытанне.**

**Людзей мноства, а чалавек адзін. Ва ўсіх. І ў гэтым сэнс мастацтва: зразумеўшы сябе, зразумееш чалавецтва. Літаратура — гэта не тэхніка, яна не развіваецца (лінеарна), а пульсуе, цвіце і пераквітае. Ізноў квітнее. Як натура. Умельства пісаць верш, хоць і неабходнае, не абумоўлівае саму паэзію. Слова заўсёды таямніца. Спачатку было Слова...**

**Бяда беларускай культуры — далёка не лакальная праблема. Учынены духоўны генацыд над ёю збядняе духоўны сусвет. Больш таго — спараджае прэцэдэнт, што менавіта т а к м о ж н а. Безадказна і беспакарана. Мілаш абураецца. Ён ведае, што гэта не пачуты дзе трэба піск. Няхай. Найгорш, калі ўсе да апошняга маўчаць. Моц маральнага пратэсту не ў яго прагматычнай эфектыўнасці, а ў тым, што ён** ***застаецца*** **і да яго потым** ***вяртаюцца,*** **нярэдка праз пакаленні або і тысячагоддзі. Быт гэты вечны, як Бог і ягоныя запаветы; хто б ні парушыў іх, немінуча прападаў**

**Інтэлігентным можа быць і савецкі чалавек, а вось маральным?.**

**Сакрат ЯНОВІЧ**

*Прызнаюся, што маю алергію на польскасць. Мае дачыненні з чужымі задужа плыткія, задужа павярхоўныя для таго, каб быў закрануты жывы нерв і каб азваўся той неспакой, для якога дае прычыну нашая прыналежнасць да людскога роду А ў палякаў дастаткова мне дробнага знака, як ужо ўзнаўляю ўсё, што ў іх сядзіць, бо гэта не толькі ў іх, па-за мною, але таксама і ўва мне. Іхнія паводзіны раздражняюць мяне, бо дэмаскуюць схільнасці, якія ў самім сабе я стараюся розумам і воляй утаймаваць.*

**"Прыватныя абавязкі"**

*Я адчуваў моцна, што нічога не залежыць ад мяне, што калі нешта рэалізую ў жыцці, то гэта будзе дадзенае мне, а не здабытае. Час раскрываўся перада мною, як туман, праз які, калі заслужу, прарвуся і тады зразумею. Увесьчасна заглыблены ў вялікім цэлым, я быў, як гаворыцца, натурай да глыбіні рэлігійнаю.*

*Адною з маіх літаратурных забаваў было клікаць чытача ў нейкім кірунку і пасля блытаць яму сцежкі так, каб ён страціў упэўненасць, – што, зрэшты, выклікала шмат непаразумен няў*

**"Родная Еўропа"**

*Такі чалавек, як я, увесь час выстаўлены на спакусу крайняга*

**Я быў інструментам, я слухаў, вылоўліваючы галасы**
**з балбатлівага хору, перакладаючы на простыя сказы,**
**з коскаю і кропкай.**

**Я зайздрошчу табе, смеласці абсалютнага выкліку,**
**палаючых слоў, бязлітаснага праклёну прарока.**

**Збянтэжаныя посмехі тваіх іраністаў адасланы ў музеі,**
**не вялікае гэта мастацтва, але ж памятка няверы.**

**У той час, калі твой крык блюзнерчы далей чуецца**
**ў неонавай пустыні, па якой блукае чалавечае племя,**
**асуджанае на нерэчаіснасць.**

**Уолт Уітмен слухае ды кажа· так, так менавіта трэба,**
**каб целы мужчын і жанчын завесці туды, дзе ўсё**
**станецца здзейсненым і дзе жыць згэтуль будуць**
**у кожнай зменена хвілі.**

**А твае банальнасці журналіста, твае барада і пацеркі**
**ды адзежына бунтара тае эпохі прабачаюцца.**

**Таму што не шукаем таго, што дасканалае, шукаем таго,**
**што застаецца з безупыннага імкнення.**

**Памятаючы, колькі значыць шчаслівы выпадак,**
**спалучэнне**
**слоў і акалічнасцяў, раніцы з аблокамі, якія пазней**
**здадуцца непазбежнымі.**

**Не дамагаюся ад цябе манументальнага твора, які быў бы**
**нібы сярэдневяковы касцёл над французскай раўнінай.**

**Я сам меў такую надзею і працаваў, аднак ужо напалову**
**ведаючы, што незвычайнае пераменяецца ў звычайнае.**

**І ў планетарнай мешаніне моў і веравызнанняў памятаюць**
**нас не даўжэй чымсьці вынаходцаў калаўротка**
**ці транзістара.**



**Прымі гэту пашану ад мяне, кагосьці, хто быў іншы,**
**але ў той самай неназванай службе.**

**З недахопу лепшых азначэнняў называючы яе толькі**
**як справа пісання вершаў.**

***Пераклаў з польскай Ян ЧЫКВІН.***

## МАЯ ВЕРНАЯ МОВА

**Мая верная мова,**
**служыў я табе,**
**штоночы стаўляў прад табою місачкі, поўныя колераў,**
**каб мела ты коніка з поля, бярозку й гіля,**
**захаваных у памяці мною.**

**Гэта доўжылася шмат гадоў.**
**Была бацькаўшчынаю маёй, бо другой не ставала.**
**І я думаў, што ты пасярэдніцай станеш таксама**
**паміж мной і людзьмі дабрыні,**
**хаця б іх было дваццаць, ці дзесяць**
**або не нарадзіліся шчэ.**

**Прызнаюся цяпер у сумлевах сваіх.**
**Надараюцца моманты, што мне здаецца, —**
**жыццё змарнаваў.**
**Бо ты мова зняслаўленых,**
**неразумных, якія адзін аднаго ненавідзяць,**
**можа, больш нават, як чужаніцаў,**
**ты даказнікаў мова,**
**ты мова вар'ятаў,**
**хварбітоў на нявіннасць сваю.**

**Але хто без цябе я?**
**Шкаляр недзе ў краі далёкім,**
**а success, ані страху, ані прыніжэнняў.**
**Так, ды хто без цябе я?**

*скептыцызму, чуе ў сабе голас, які вінаваціць у недастатковасці ўласнага існавання як сапраўднай прычыне ўнутраных маніпуляцыяў чалавека, то бо ў прымушэнні да веры пры адсутнасці сапраўднай веры.*

*Калі магу мець надзею, што мая рука будзе свабоднай, што пісанне будзе радасцю, а не прымусам, толькі пару польскіх чытачоў павінен я ў думцы мець перад сабою.*

**"Зямля Ульра"**

**Пра Мілаша**
**і ягонае мастацтва**

*Мілаш увесь гэта незастылая, арыгінальная думка ў развоі.*

**Артур Мендзыжэцкі**

*Мілаш — гэта ўсведамленне абранасці, гэта пачуццё рангу паэзіі; гэта вызначэнне месца народу ў плане гісторыі і ў плане збаўлення, гэта наблiжэнне да сябе гістарычнай плоскасці і плоскасці збаўленчай; гэта памкненне да цэнтральнага пункта чалавечай свядомасці. гэта мета-літаратура, то бо слова, якое не паведамляе, а ачышчае*

**Анджэй Кіёўскі**

*Мілаш аднавіў рамантычны ўзор паэта, увасабляючыся ў*

# "Весці чытача..."

**Мілаш не спрошчвае сваім чытачам кантакту, наадварот, не раз выводзіць іх у поле. Мы паспрабуем апісаць некаторыя прынцыпы гэтай гульні і возьмем увагу на найважнейшыя правілы ўспрымання Мілашавай паэзіі.**

**Найперш, "трэба дапрацавацца да ведаў аўтара" — такое пажаданне выказвае Ян Блоньскі. Перцэпцыя Мілаша не можа абмяжоўвацца чытаннем ці аналізам тэксту. Першарадную ролю адыгрывае мова кантэксту. Мілашава паэзія хоча кампетэнцыі чытача, які сапраўды жыве ў "роднай Еўропе", пачуваецца асвоеным у свеце культурніцкіх сімвалаў старажытнай хрысціянскай традыцыі, у еўрапейскай філасофіі і мастацтве. Пажаданне роўных з аўтарам ведаў мусіць (асабліва ў школе) застацца не да канца пачутым заклікам, трэба аднак мець гэты заклік на ўвазе. Мілашава паэзія патрабуе ведаў.**

**Другі парог цяжкасці — гэта падманлівая яснасць і празрыстасць мовы. Паводле Блоньскага, у Мілашавай паэзіі дзівяцца адно з аднаго не словы, а слоўныя адзінствы. Чытач мусіць разумець не толькі "мову кантэксту", але і ўнутрытэкставыя судачыненні паміж адносна простымі складнікамі, значыць, умець знайсці сувязі паміж вобразамі і ўжо толькі з гэтых сувязяў вычытаць сэнс. Затым добра, калі ён валодае ўмельствам чытання паводле правілаў структурнай паэтыкі.**

**Мілаш не выказваецца наўпрост: прынцып шматгалосся — гэта чарговы бар'ер пры ўспрыманні ягонай паэзіі. Беручы гэты бар'ер пад увагу, заўсёды варта распачынаць чытанне Мілашавага твора з пытання — хто гаворыць у вершы, у дадзеным фрагменце верша, ці ў паасобнай страфе — каб па чарзе вызначыць стаўленне аўтара да моўнікаў-суб'ектаў. Іранічнае дыстанцыяванне аўтара навяваецца далікатна, так, што адкрыць яго нялёгка. Напрыклад, кожны верш з цыкла "Свет" гучыць вельмі сур'ёзна, і толькі ўвесь суплёт вершаў — іранічна, у чым прыглушана пераконвае аўтар у загалоўку "наіўная паэма".**

**Вобразны канкрэтны прадмет, нават дэталь, драбніца, заўсёды выступае ў вершах Мілаша знакам чагосьці, адсылае да універсальных сэнсаў і каштоўнасцяў — "паэзія не можа быць вобразам і больш нічым". Пачуццёвая краса жыцця, якая дыктуецца ўяўленню ў творах Мілаша, не павінна засланяць эсхаталагічнага і метафізічнага маштабу гэтай паэзіі: яна запрашае да развою філасафічных рэфлексіяў, хоча "сфіласафічненага" чытача.**

**З гэтага праектаваны чытач і павінен быць эрудытам,**

*ролю мудраца, прарока, выхавальніка народу, ён — мараліст, як Норвід, містык і гностык, як Славацкі і Міцкевіч.*

**Ежы Квяткоўскі**

*Адкрытая на трансцэндэнцыю Мілашава паэзія, поўная іранічнай дыстанцыі адносна цывілізацыйных працэсаў, адначасова глыбока закарэненая ў традыцыях .. Паэтычнае ўяўленне Мілаша характарызуецца культурным сінкрэтызмам. паэт злучае і складае адзін з адным вобразы, сімвалы, знакі, што паходзяць з розных культураў Прастора-час Мілашавых вершаў ахоплівае ўвесь чалавечы досвед.*

**Бажэна Хшанстоўска**

*Ягоная творчасць асабліва пасляваенная гэта як бы паэтычная фабрыка культурніцкіх сэнсаў, бо яна правакуе, нават змушае да ўвесьчаснай інтэрпрэтацыі і рэінтэрпрэтацыі сваіх складнікаў .. Яна паказвае як бы свой перадтэкст і пасттэкст.*

**Ян Блоньскі**

*Хвалі дзікасці Мілаш намагаецца проціпаставіць крохкі шчыт Розуму, Праўды, Дабра. Эпосе, што пакланяецца перад рэлятывізмам, проціпастаўляе Каштоўнасці. Гэтая пазбаўленая ілюзіяў прывязанасць да спадчыны юдзейска-*

**Філосаф такі, як і кожны.**

**Разумею, гэта, пэўна, маё выхаванне:**
**арэолу індывідуальнае славы пазбыты.**
**Грахаводніку з маралітэ**
**Вышні Збаўца дыван падсцілае чырвоны,**
**а тым часам магічны ліхтар**
**абразы чалавечых і боскіх пакутаў усё кідае на палатно.**

**Мая верная мова,**
**можа, я менавіта павінен цябе ратаваць.**
**Так і буду далей прад табою стаўляць місачкі,**
**поўныя колераў**
**і найсветлых, і чыстых, як гэта магчыма,**
**бо ў няшчасці патрэбныя нейкія лад ці краса.**

## *Задача*

**Стрывожаны, з дрыготкаю падумаў, што ўласнае**
**я спраўдзіў бы жыццё,**
**Адно калі б адважыўся на споведзь,**
**Публічна выкрываючы ашукі і нашае эпохі, і свае:**
**Рыпець маглі мы карлікам ці д'яблам,**
**Бо словы чыстыя забаранілі нам**
**Пад грозьбаю такой суровай кары, што той,**
**які адно з іх смеў прамовіць,**
**Ужо лічыў загубленым сябе.**

## *Не так*

**Даруй. Быў я стратэгам, як многія з тых, што мільгаюць**
**поначы каля людскіх будынкаў.**

**Вылічаў, дзе варты стаяць, перш як адважыўся падысці да**
**замкнёных граніцаў.**

**Ведаўшы больш, рабіў я выгляд, што хопіць менш,**
**не так, як тыя,**

**знаўцам еўрапейскай культуры, знаўцам літаратуры, асабліва польскай паэзіі, выдзяляцца філасафічнаю культурай, умельствам германеўтычнага і структурнага чытання... Пералік гэтых чаканняў можна працягваць аж да галавакружэння... Ян Блоньскі пісаў, што Мілаш прыводзіць у дзеянне ўсю інтэрпрэтацыйную здольнасць чытача. І вызначаў гэта як "патрабаванне максімальнай кампетэнцыі пры ўспрыманні: патрабаванне, якое павінна схіляць да рэфлексіі і каментару. Пэўна, так заўсёды ў літаратуры, але тут гэтая перадумова дасягае рангу фармальнай адметы".**

**Аднаразовага кантакту з Мілашавай паэзіяй недастаткова. Трэба вяртацца да гэтых вершаў шматкроць, каб учытацца ў іхнія тайніцы, пераадолець усе бар'еры, што не даюць доступу, вычытаць праўду, утоеную ў накладаных адзін на адзін вобразах і галасах, паддацца надзеі, што праменіць з гэтай паэзіі, знайсці збаўленне... І ўпарта дадамо — знайсці красу, хоць так бароніцца ад спакушэння ёю мастак...**

**Адно з найдаўнейшых правілаў перцэпцыі вызначыў Гётэ: каб пазнаць паэта, трэба пабываць у ягонай краіне. У выпадку Чэслава Мілаша гэта досыць складана, бо наведваць мы можам адно краіну думак і памяці Прафесара з Бэрклі праз ягоныя эсэістыку і паэзію. У іх жыве малая і вялікая бацькаўшчына паэта — родная Еўропа і Літва.**

**Бажэна ХШАНСТОЎСКА**





**якія сведчаць,**

**Абыякавыя да стрэлаў, пагоні ў гушчарах і здзеку.**

**Хай мудрацы й святыя, думаў я, усёй зямлі дар**
**прынясуць,**

**але не мове.**

**Я бараню імя добрае, бо мова ёсць маёю мерай.**

**Дзіцячая, з ідыліі, мова, якая ўзнёсласць ператорыць**
**у пяшчоту.**

**І распадаецца гімн ці псальма запеўніка хору,**
**застаецца кантычка.**

**Няпоўны заўсёды быў мой голас, інакшую выказаць**
**хацеў бы падзяку.**

**Шчодра, без іроніі, гэтай гордасці нявольных.**

**За сямю граніцамі, пад заранiцаю,**

**У мове агню і вады, і ўсякіх стыхіяў.**

## *Дар*

**Дзень удаўся шчаслівы.**
**Туман рассеяўся рана, я працаваў у гародзе.**
**Калібры ўзляталі над кветкаю капрыфолю.**
**Не было на свеце рэчы, якую хацеў бы я мець.**
**Не ведаў нікога, каму варта было б пазайздросціць.**
**Што кепскага здарылася, забыў**
**Не пасаромеўся думаць, што быў я і хто я.**
**Не адчувалася ў целе ніякага болю.**
**Прастаўшыся, бачыў блакітнае мора ды ветразь.**

*хрысціянскага свету трывалых каштоўнасцяў робіць яго побач з Эліётам вялікім самотнікам сучаснай сусветнай літаратуры.*

**Ян Прокап**

*Збаўленчую мэту паэзіі — ураТаванне — Мілаш бачыць у яе вызваленні з калектыўна засвоеных эмоцыяў, з падлегласці нацыянальным міфам.*

**Рышард Матушэўскі**

*Мілашаў лірычны герой змяняе касцюмы, маскі, ролі, няўлоўны і пратэеўскі, ён свабодна пераадольвае час і прастору, прымаючы розныя імёны: вучня, майстра, чарадзея, паэта, блазна, сведкі, пілігрыма. У няспыннай гульні атаясненняў і прыпадабненняў выяўляецца няўстойлівы і падманлівы статус ведаў пра сябе і іншых.*

**Аляксандр Фют**

*Мілашаў катастрафізм азначае абарону каштоўнасці індывідуальнага чалавека не толькі ад бессэнсоўнай вайны, але таксама ад ідэі, якая можа знішчыць універсальныя каштоўнасці ў імя дактрыны "рамантычнай утопіі"*

**Яцак Тшнадаль**

# Сакрэт мастака

**Як жа шмат вобразатвораў гэтага паэта перад намі, як жа шмат ягоных літаратурных роляў. Такім чынам, ёсць Мілаш — найчысцейшы лірык і Мілаш, які адраджае непрызнаную традыцыю паэзіі з нагоды, грамадзянін і мараліст, філосаф, што выдае сакрэты свайго часу. Ёсць Мілаш — тэасоф і містык, катастрафіст і паэт, які складае па-старасвецку оды "на славу адданым зоркам сезонаў", дыфірамбы ў гонар "зямлі чараў", іншым разам ізноў іранічны рацыяналіст, цывілізатар, паэт, які піша "простаю мовай", і цёмны, няясны, раздвоены ў сабе "сакрэтны пажыральнік атрутаў маніхейскіх". Здавалася б, даволі ўвасабленняў, як на адно жыццё. Аднак жа не: "галасоў незапісаных столькі...", "ведаўшы больш, рабіў я выгляд, што хопіць менш, не так, як тыя, якія сведчаць...", "так мала сказаў я, не паспеў...". Падобныя жальбы і прызнанні сустракаем раз-пораз, як толькі разгорнем нейкі з томікаў Мілаша.**

**Гэтую патрэбу ў знаходжанні сабе ўсё новых увасабленняў, нязгоду на самога сябе, вечны стан вандроўніка можна тлумачыць па-рознаму. Можна як прычыну разглядаць**

## *Прызнанне*

**Спадару Божа, любіў я клубнічны джэм**
**І цёмную саладзіню жаночага цела,**
**Гарэлкі марожанай смак, селядцы ў алеі**
**І пах цынамону й гваздзікі.**
**Дзе ж выйсці з мяне мог прарок? Скуль жа дух**
**Такога наведваць бы меў? Столькі іншых**
**Праўдзіва абраных было, верагодных.**
**А мне хто б паверыў? Бо бачылі ўсе,**
**Як кідаюся на яду, спаражняючы шклянкі,**
**Юрліва ўглядаюся ў шыю афіцыянткі.**
**Заганы свае ўсведамляю. Вялікасці прагнучы,**
**Умеючы распазнаваць яе, дзе толькі ёсць,**
**Пры бачанні свету не вельмі каб ясным,**
**Я ведаў, што меншым, як я, застаецца**
**Турнір гарбуноў, баль нядоўгіх надзеяў,**
**Пыхліўцаў паседжанні, літаратура.**

***Пераклалі***
***Юрась БУШЛЯКОЎ***
***і Андрэй ХАДАНОВІЧ.***

## *Так мала*

**Так мала сказаў.**
**Кароткія дні.**

**Кароткія дні,**
**Кароткія ночы,**
**Кароткія леты.**

**Так мала сказаў.**
**Не было калі больш.**

**Змучылася маё сэрца**
**Надзеяй,**
**Трывогай,**
**Роспаччу,**
**Парываннем.**

**На мне замыкалася**
**Пашча левіяфана.**

**У бездань**
**Зацягваў мяне**
**Белы кіт акіяна.**

**Знясілены,**
**Спаў я на берагах**
**Незаселеных выспаў.**

**І вось цяпер**
**Не ведаю, што было,**
**Не ведаю, што было**
**Наяве са мною.**

***Пераклаў***
***Алесь РАЗАНАЎ.***

**тэмперамент паэта; ненасытнасць, увесь час прысутны голад уражанняў, прагнасць свету, якія ў спалучэнні з эсхаталагічным неспакоем, станамі прарочага натхнення спрычыняюцца да таго, што творчасць напамінае тут выгнанні д'ябла з сябе самога. Можна таксама шукаць выясненняў, застаючыся на грунце прафесійных падставаў, на грунце Мілашавай канцэпцыі паэзіі. У гэтым выпадку мноства лірычных персонаў, імкненне да абнаўлення самога сябе былі б наступкам няспыннага пошуку мовы, здольнай панесці пажаданыя зместы і адначасна ўратаваць непаўторнасць уласнай экзістэнцыі, адметнасць індывідуальнага досведу. (...)**

**Адным з найважнейшых прынцыпаў светапогляду Мілаша заўсёды заставалася перакананасць у тым, што належыць адкінуць фарысейскае пытанне “што такое рэчаіснасць?”. Бо вось свет існуе, і маюць сілу ў ім колькі простых праўдаў дэкалогу, насуперак спекуляцыям філосафаў ці ідэолагаў, якія гэты парадак хацелі б бесперастанна ставіць пад сумнеў, змяняць яго і паляпшаць, увасабляючы ў жыццё свае праекты, найчасцей як панурыя антыўтопіі. Паэту варта быць хутчэй у згодзе са светам, чым атакаваць яго з пазіцыяў ненавісніка або блюзнера. Мілаш ахвотна падкрэслівае, што задача паэзіі – умацоўваць “традыцыйныя повязі civitas”, повязі, якія існуюць паміж людзьмі арганічна, як бы самі з сябе, і падтрымліваюцца рэлігіяй, сям'ёй, сябрамі, суседзямі, супольнаю спадчынай, прадвызначаюць укара-**





# СВЕДЧАННЕ ПАЭЗІІ*

## ПАЭТЫ І СЯМ'Я ЛЮДЗЕЙ

У першай палове XX ст быў французскі паэт, дарэшты нязгодны з паўсюдна прынятым тады разуменнем паэзіі. Пры жыцці — вядомы толькі малому колу сяброўпаэтаў На працягу дзесяцігоддзяў, якія прамінулі ад яго смерці вясною 1939 г., яго словы знайшлі значна большае прызнанне і яго творы былі перакладзены на іншыя мовы. Застаўся ён, аднак, паэтам для адносна абмежаванай публікі ў розных краінах. Гэты паэт, Оскар Мілаш або, як пісаўся, O V. de L.Miłosz, паходзіў з Вялікага Княства Літоўскага і быў маім далёкім сваяком Успамінаю яго тут, бо хачу прадставіць ягоныя погляды на паэзію з-за іх, як мне здаецца, значнай актуальнасці.

На жаль, у краінах англамоўных пра гэтага паэта амаль ніхто не ведае, і я змушаны найперш нешта пра яго сказаць. У Амерыцы, што была айчынай яго сардэчнага сябра Хрысціяна Гаўса з Прынстана, выйшла толькі адна кніга ягоных вершаў у перакладзе Кенета Рэксрота, выдадзеная ў 1955 г і стаўшая сёння бібліяграфічнай рэдкасцю.

Оскар Мілаш меў экзатычнае паходжанне, як і Гіём Апалінэр Народжаны ў 1877 г., ён быў пад час свайго дэбюту ў 1899 г. залічаны да другой хвалі сімвалістаў Тым нечаканейшым падаецца выбар, ім зроблены' ён, можна сказаць добраахвотна, пасяліўся ў еўрапейскай гісторыі недзе на пераломе XVIII і XIX стст., і з недаверам ставіўся да таго, што адбывалася пазней Магло пасадзейнічаць гэтаму касмапалітычнае выхаванне, бо добра ведаў некалькі моваў і ў маладосці знаходзіўся ў арбіце нямецкай паэзіі — Гейне, але насамперш Гётэ, затым Гёльдэрлін, якога адкрыў у 1914 г Так ці інačай ягоныя стасункі з часам, у які яму выпала жыць, былі непрыязныя, свой век называў векам “з'едлівага выродства” і вобразы сучаснасці ў ягоных вершах не больш лагодныя, чым у Т.С Эліота або Эзры Паўнда Нешта, аднак, радыкальна адрознівае Оскара Мілаша ад згаданых сучаснікаў — найперш ягоны міленарызм, вера ў набліжэнне новай эпохі, усё роўна, як яе ні называй — ці новым Ерусалімам Блейка, ці, як яе акрэслівалі кантынентальныя сучаснікі ангельскага паэта, Эпохаю Духа. Паводле філасофскіх сачыненняў Оскара Мілаша, мусіла тое наступіць у выніку вялікай апакаліптычнай катастрофы, якая мела адбыцца, на яго думку, дзесьці каля 1944 г. Ці спраўдзіліся яго прадказанні — не буду тут разважаць. Тое, што ён называў la conflagration universelle, пачалося, магчыма.. і было дапоўнена выбухам атамнай бомбы, значыць здарэннем неймаверным, якое цяжка было ўявіць у 20—30-х гг. А вялікага аднаўлення мы ўсё яшчэ чакаем. На думку Оскара Мілаша яго здзейсніць толькі новая навука, калі вызваліцца ад ньютанаўскай фізікі і зробіць досыць далёка ідучыя высновы з адкрыццяў Эйнштэйна Але, паўтараю, тут мяне не цікавіць пытанне,

**неласць чалавека. Прызнае ён таксама, што існуе “таямнічае супольніцтва паміж паэзіяй, рухам, розумам, жыццём, здароўем” і што вершы, незалежна, ці яны аптымістычныя, ці песімістычныя, напісаныя супраць смерці, нігілізму, адмаўлення памяці.**

**Гэты круг прызнаных каштоўнасцяў, асвойтанасць у культуры, прадэклараваны супраціў паэзіі “цьмяных узрушэнняў”, увесьчасны клопат пра тое, каб заставацца з боку праўды, захоўваючы пашану да свайго рамяства, — усё гэта пераконвае, што перад намі паэт класіцызму XX стагоддзя. Мілаш – класіцыст? Але тады трэба было б забыцца на Мілаша, які голасам адной са сваіх лірычных персонаў прызнаваў: “Што са зла майго вынікла, то толькі праўдзівае”, забыцца пра тое, што ён і сам не раз паддаваўся спакусе: “Я спрабаваў разгадаць іншую зямлю і не мог. Спрабаваў разгадаць іншае неба і не мог”.**

**У паэзіі няма прагрэсу – сцвярджаюць абаронцы класіцызму – бо ў ёй няма месца для гісторыі, паколькі бытуе яна ў рэгіёнах Вялікага Часу, належыць да вечнага Цяпер культуры. Мілаш ніколі не ганіў ані сябе, ані сваіх равеснікаў за тое, што “здарэнняў і прозвішчаў пыл падымалі словамі”, і не вабілі іх, як трэба, “ані вечная тэма, ані чысціня”. (...)**

**Мілаш як класік... Якое ў гэтым сэнсе меў бы ён апірышча ў польскай паэзіі? Гістарычны класіцызм быў у нас усяго толькі літаратурнаю школай без вялікага значэння і нават у найбольшых сваіх дасягненнях не застаўся трывалаю сістэмай суаднясення. Класіцызм XX стагоддзя ў польскім выданні**

наколькі меў рацыю і наколькі памыляўся ў сваіх прадказаннях Оскар Мілаш. Дастаткова зазначыць, што ён быў родзічам польскіх рамантыкаў, як і У Блейк, праз сваю аптымістычную веру Верыў, што яго будуць чытаць і разумець наступныя пакаленні, шчаслівейшыя за ягоных сучаснікаў, бо іх жыццё прыпадзе на эпоху зноў адшуканай гармоніі між чалавекам і сусветам Да паэзіі яму сучаснай захоўваў дыстанцыю, бачачы ў ёй дакладны вобраз сітуацыі поўнай разгубленасці

Я ніколі не ўтойваў, што колішняе прачытанне ягоных твораў, калі я быў маладым чалавекам, як і асабістыя кантакты, у значнай ступені прадвызначылі, якім я стаўся паэтам і асабліва тое, што выпрацавала ўва мне супраціўленне літаратурнай модзе Канстатуючы гэта, я цалкам усведамляю сабе, што ад яго ідзе найперш мой "антымадэрнізм". Таму хачу тут прааналізаваць тэкст Оскара Мілаша "Некалькі слоў пра паэзію", датаваны 30-мі г., але апублікаваны значна пазней, пасля смерці аўтара. Тут у сціслай форме Оскар Мілаш выказвае погляды, якія можна знайсці ў іншых ягоных кнігах

Ва ўступнай частцы паэзія акрэсліваецца як спадарожніца чалавека ад самага пачатку, ад магічных рытуалаў / ./, як "парадкуючая архетыпы", як — што лічу за найважнейшае — "страсная пагоня за Рэчаіснасцю" Далей цытую

" гэтае сакральнае мастацтва слова, дзякуючы менавіта таму, што мае свой пачатак у самай сарцавіне Паўсюднага Быцця, на нашу думку, звязана мацней за любы іншы від экспрэсіі з душэўным і фізічным Рухам, які апладняе і якому вызначае шлях. Таксама па гэтай прычыне ўжо на золку пангеленізму яно аддзялілася ад музыкі, мовы насамперш пачуццёвай, і брала ўдзел у безупынных пераменах рэлігійнай, палітычнай і грамадскай думкі, увесь час дамінуючы над імі Жрэцкае ў архаічных эпохах, эпічнае ў перыядзе каланіяльнай грэцкай экспансіі, псіхалагічнае і трагічнае, калі дыянісіі хіліліся да заняпаду, хрысціянскае, тэалагічнае і сентыментальнае ў сярэднявеччы, неакласіцыстычнае ад пачатку першай духоўнай і палітычнай рэвалюцыі, якой быў Рэнесанс, урэшце, рамантычнае, значыць адначасова містычнае і грамадскае, як перад, так і пасля 1789 г , яно заўсёды цалкам усведамляла сваю вялізную адказнасць і заўсёды паслухмяна ішло за таямнічымі жаданнямі вялікай народнай душы"

Паэзія ёсць мастацтвам рытму, аднак не моваю насамперш пачуццяў, як музыка Мова дазваляе ёй браць удзел у "безупынных пераменах рэлігійнай, палітычнай і грамадскай думкі". Мадэль часу — дынамічная, як і ў У Блейка, а рух прымае формулу тройцы час нявіннасці, час заняпаду і час нанова знойдзенай цнатлівасці І яшчэ адным момантам гэты французскі паэт застаецца адданым рамантычнай эпосе, якую лічыў сваёй паэзія мусіць усведамляць сваю "страшную адказнасць", бо не з'яўляецца гульнёй чыста індывідуальнай, але надае кшталт запатрабаванням "вялікай народнай душы" Тут, відавочна, хаваюцца прычыны адасаблення Оскара Мілаша ад свайго літаратурнага асяроддзя У вышэйшай ступені патрабавальны, арыстакратычны, позні сімваліст хаця б з-за свайго стылю самотнага жыцця, ён не шукаў грамадскіх праграм, якія, магчыма, далі б яму саюзнікаў Гэтаксама, аднак, ён не думаў, што паэзія можа





беспакарана павярнуцца плячыма да публікі Цытую далей. "Пасля Гётэ і Ламарціна — вялікага, вельмі вялікага Ламарціна ў "Смерці Сакрата" — паэзія пад уплывам чароўных нямецкіх рамантыкаў другога раду, а таксама Эдгара По, Бадлера і Малармэ як бы паддалася збядненню і звужэнню, яна скіравалася ў абшары падсвядомасці, да пошукаў цікавых, напэўна, часам нават вартых здзіўлення, але амаль выключна індывідуальных адзнакаў эстэтычнай натуры Гэтыя дробязныя практыкаванні не прынеслі, зрэшты, дзевяцісот дзевяноста дзевяці паэтам з тысячы нічога акрамя моўных адкрыццяў / /. Гэтая жалю вартая дэмаралізацыя мела той вынік, што выкапала прорву спаміж паэтам і вялікай чалавечай сям'ёй ды спрычынілася да шматлікіх непаразуменняў Яны доўжацца і цяпер і закончацца не раней, чым з'явіцца напраўду натхнёны паэт, сучасны Гамер, Шэкспір або Дантэ, які — выракаючыся малога "я", часта пустога і заўжды цеснага, — разгадае найглыбейшыя сакрэты працоўных мас, найбольш чым калі-небудзь жывых, чуйных і поўных нутраных пакут".

У цытаваным уступе я выдзеліў некаторыя выказванні і зараз на іх затрымаюся. Паэзія паддалася "збядненню і звужэнню" таму, што яе зацікаўленні абмежаваліся тым, што належыць эстэтыцы або абсягу "амаль выключна індывідуальнага". Інакш кажучы, адбыўся яе сыход са сферы супольнай усім людзям у замкнёнае кола суб'ектывізму Гаворачы пра гэта, я ўсведамляю неадэкватнасць тэрміналогіі, бо аўтар, несумненна, адчуванні суб'екта супрацьпастаўляе свету, існуючаму аб'ектыўна Аднак мы больш-менш разумеем, пра што ён выказваецца Оскар Мілаш асуджае паэзію, якая ёсць не больш чым "дробязнае практыкаванне", і патрабуе, каб верш быў выразам таго, што называе "нутраной аперацыяй" — што, відавочна, абазначае такое перастварэнне асабістых досведаў, калі яны стаюцца універсальнымі, даступнымі для ўсіх. Аўтар, такім чынам, выступае супраць адной з асноў сучаснай паэтыкі — той, што была скадыфікаваная французскімі сімвалістамі і ад таго часу праяўлялася ў разнастайных кшталтах. Яна абапіраецца на думку, што праўдзівае мастацтва не можа быць зразуметым пасрэднымі людзьмі Але хто гэтыя пасрэдныя людзі? Уся грамадская структура адлюстроўваецца ў дадзенай тэорыі У Францыі XIX ст. ні рабочыя, ні сяляне не лічыліся спажыўцамі мастацтва Заставалася буржуазія з яе пампезным густам, тая, што пакінула па сабе надмагільныя помнікі на кладах Пэр-Ляшэз. Гэта яна сталася аб'ектам нянавісці багемы, супраць яе пісалі, і калі Оскар Мілаш назваў Малармэ ініцыятарам эстэтызму, то не менш падстаў меў ён, каб так назваць і Флабэра, у якога адмаўленне буржуазіі з'яўляецца сарцавінай творчасці. Але пісьменнік адмаўляе буржуазію ці ўвогуле жыццё? У гэтай матэрыі няма яснасці, бо пасрэдныя людзі служаць прыкладам жыцця ўвогуле, "шэрага, як жыццё становжак" З таго часу і адбылася сепарацыя мастацтва і публікі Разнастайныя школы і маніфесты XX ст не аспрэчваюць гэтай асноўнай перадумовы З'яўляюцца як бы два лагеры з аднаго боку, тыя, што зарабляюць і выдаткоўваюць, з іх культам працы, рэлігіяй, патрыятызмам, з другога — багема, рэлігіяй якой ёсць мастацтва, а маральнасцю — адчуванне агіды да ўсіх каштоўнасцяў, важных для першага лагера Некаторыя рухі, як, скажам, Flower

**быў хутчэй спекуляцыйнаю літаратурнаю пазіцыяй, школай эрудытаў, аргументам у змаганні з нацыяналізаванымі авангардамі, быў больш маніфестам і светапогляднай метафарай, чым выразнаю дыкцыяй, якая б вынікала з дынамікі развіцця паэтычнай мовы. (...)**

**Дык жа ў чым сакрэт Мілаша? Чытача павінна змусіць задумацца пашана, якую Мілаш выказвае да Міцкевіча. Чаму гэты двухзначны рамантык стаў Мілашу такі блізкі як паэт? Ужо ў 1939 годзе, у чытані, прысвечаным "жывой традыцыі сённяшняй паэзіі", Мілаш сцвярджаў, што Міцкевіч павінен чытацца як сучасны паэт, Мілашавы ж равеснікі тым часам на ўзор мадэрністаў схіляліся да "чыстай" паэзіі Славацкага. Без сумневу, стаўленне Мілаша да Міцкевічавай паэзіі выглядала б іначай, калі б не тэрор гістарычных эксперыментаў, лёс абаронцы нацыі і яе выгнанца. Міцкевіч блізкі Мілашу як класік, то бо нехта — як гэта сцвярджаў Малармэ, а пасля Эліот — каму ўдалося трывала ўзбагаціць мову свайго народу. Міцкевіч — спадкаемца рафінаванасці еўрапейца Трамбэцкага і капрызлівага барокавага ўяўлення ананімных паэтаў Барскай Канфедэрацыі, творца выстаўленага ў "Пану Тадэвушу" помніка мове "роднай вёскі", Божы шаляніца, інтэлектуал, лірык і паэт, што карыстаецца стыхіяй гутарковай мовы, прадаўжальнік грамадзянскага разумення мовы — трактаваў яе як прыладу паразумення раўнапраўных чальцоў супольнасці. Выгнанец, які з мовы адбудаваў, стварыў сабе айчынупальшчыну, ды так, што ў Польшчы гаварылі штодня ягонаю мовай.**

**Падобным чынам і Мілаш. І ён, шчыруючы над адбудоўваннем канона, над "апрацоўкай голасу" нанова, вяртаецца, каб заняць месца класіка. Мілаш, творачы сваю паэзію "новай дыкцыі", звярнуўся да Міцкевічавай дыкцыі. "Замак на плячах наваградскай гары"... Гэта ад Міцкевіча, стараннага вучня лацінскіх паэтаў, пераняў Мілаш галосную плынь верша, павагу да сінтаксісу, зацікаўленне канкрэтным прадметам. Міцкевічавы "бачу і апісую", тыя два атрыбуты паэзіі, як падкрэслівае Мілаш, — "хцівасць вачэй і прага апісання" — заўсёды знаходзіліся ў аснове ягонай паэтыкі. (...) Мілаш ашчадна ўжывае палачку Праспэра — метафару, але ж ахвотна звяртаецца да параўнання, супастаўлення, якія набліжаюць разуменне прыроды рэчаў, адкрываюць іхнюю сутнасць, робяць магчымымі філасафічнае абагульненне і дакладнасць думкі, спрыяюць сузіранню, чыняць паэзію органам спазнання. Таму Мілаш і неахвочы да мовы, што жывіцца сама сабою, і да тых канцэпцыяў паэзіі, якія апраўдваюць яе статус як інтэлектуальнай забавы, як абсягу чыста эстэтычных перажыванняў...**

**Мілаш, класіцызм якога не месціцца ў энцыклапедыі навук пра літаратуру, — гэта чарговы паэт з клана тых, каму ўдалося насуперак зменлівасці лёсу збудаваць у мове свой міфічны polis. "За няўдачы свае дастанеш узнагароду. На знак, што толькі мова бацькаўшчынаю тваёй".**

**Марак ЗАЛЕСКІ**
**Пераклаў**
**Юрась БУШЛЯКОЎ.**

Children у Амерыцы, з'яўляюцца цудоўным прыкладам размнажэння багемнай ідэі. Паэт у Еўропе ад паловы XIX ст становіцца чымсьці антыграмадскім, у найлепшым выпадку, толькі ўдзельнікам субкультуры. З гэтага і ўзнікла прорва паміж паэтам і вялікай чалавечай сям'ёй Аўтар "Некалькіх слоў пра паэзію" быў надзвычай далёка ад марксізму, таму не трэба ягоныя словы інтэрпрэтаваць як заклік да грамадска ангажаванай паэзіі Тым не менш ён уяўляў, што будучыня належыць рабочым, а культура вышэйшых класаў счэзне. Праўдзіва натхнёны паэт будучыні выйдзе па-за сваё малое "я" (spectral — сказаў бы Блейк) і, у адрозненне ад элітарных паэтаў, назаве сваімі імёнамі неўсвядомленыя духоўныя жаданні эмансіпаванага чалавека "нізоў", або, гаворачы словамі Оскара Мілаша, прасякне і разгадае "найглыбейшыя сакрэты працоўных мас, больш, чым калі-небудзь, жывых, успрымальных і поўных нутраных пакут"

Pro domo mea дадам тут, бо хоць у бок левых мяне скіроўвала агульная атмасфера 30-х гадоў, але ж і погляды майго сваяка на будучыню еўрапейскіх грамадстваў таксама ў тых настроях умацоўвалі Аднак ізноў вернемся да цытавання. "Дык вось, больш-менш ужо сто гадоў дзейнасць літаратараў, што пішуць вершы або рытмізаваную прозу, адбываецца амаль цалкам пад знакам пошукаў "чыстай паэзіі" Гэтыя два тэрміны — само іх спалучэнне сведчыць адразу пра крыху дзіцячыя зацікаўленні — варта было б акрэсліць дакладней На жаль, яны стаюцца збольшага зразумелымі толькі пасля працяглай элімінацыі I маюць сэнс, калі абазначаюць адно паэзію, якая выдаляе са свайго абсягу рэлігію, філасофію, навуку, палітыку і нават уплывы, што маглі б зрабіць на паэта іншыя галіны мастацтва сваімі метадамі і тэндэнцыямі "Чыстая паэзія" застаецца свайго кшталту стыхійным парываннем, з якога павінна ўзнікнуць "найбольшая глыбіня і найбольшая непасрэднасць"

У гэтым фрагменце атака скіравана супраць найсвяцейшага пераканання эліты, якая прыпісвала сабе здольнасць разумець "чыстае мастацтва" а для філістэраў была пакінута сфера мастацтва тэматычнага, сентыментальнага, меладраматычнага Прыблізна ў такім сэнсе Артэга-й-Гасэт пісаў пра "дэгуманізацыю мастацтва", а "чыстая паэзія" была нібыта кананізавана, калі пад купалам Французскай акадэміі Анры Брэмон прачытаў у 1925 г лекцыю на тэму, у якой галоўнай прыкметай паэзіі аб'явіў адно гукавыя слоўныя спалучэнні, і як прыклад чыстага мастацтва прывёў радок з Расіна:

La fille de Minos et de Pasiphae.

Адбывалася таксама эмансіпацыя жывапісу, што азначала адыход ад перадачы "сцэн з жыцця" і "змястоўных" элементаў У імкненні да "чысціні" паміж сабою супернічалі розныя галіны мастацтва, досыць часта з нечаканымі вынікамі Музыцы тут лёгка стаць паперадзе, ды і жывапісу нескладана скіравацца ў абстракцыю, цяжэй уявіць сабе "чыстую" фабульнасць у тэатры, аднак у тэорыі і часткова ў практыцы гэта было прапраблена двума эксцэнтрыкамі, якія дзейнічалі ў тым самым часе, нічога не ведаючы адзін пра аднаго — палякам Станіславам Ігнацы Віткевічам і французам Антуанам Арто.

Мой французскі кузен не быў прыхільнікам паэзіі, якая "выключала б са свайго абсягу рэлігію, філасофію, навуку, палітыку". А бясспрэчна, што "чыстая паэзія" так робіць, бо калі нават карыстаецца паняццямі і вобразамі, узятымі з пазапаэтычнай дзейнасці чалавечага розуму, дык тады гэта нагадвае архітэктурны чарцёж будынка на палатне станковага жывапісца. Паэты мінулага, аднак, не былі "чыстымі", а гэта значыць, што не вызначалі для паэзіі вузкай прасторы / /

Але вернемся да тэксту Оскара Мілаша "Чыстая паэзія", паводле ягоных меркаванняў, не паддаецца акрэсленню і абазначае нешта накшталт "чыстага лірызму" Можа, трэба адмовіцца ад спробаў яе вызначыць? Цытую "Можна было б нам на гэта адказаць, што чыстая паэзія, хоць здаецца немагчымаю для акрэслення, існуе фактычна і што дастаткова быць надзеленым густам, каб яе адчуць Мы запыталіся б тады пакорліва — дзе яе шукаць, у якіх творах яе знаходзяць тыя арыстакратычныя розумы і тыя элітарныя душы, якія напэўна не цытуюць Гамера як насільшчыкі Наўкраціс або Мілету, ці Дантэ рабочыя Фларэнцыі альбо гандальеры Венецыі, ці Шэкспіра публіка вулічных валацугаў Лондана. А можа чыстая паэзія — гэта бой Адысея з залётнікамі, сыходжанне ў пекла Энея, неба ў "Боскай камедыі" / ../, "Сон у летнюю ноч", пяты акт "Беранікі", заканчэнне "Фаўста"? Альбо Ulalume, Элегія да Дыятымы, "Пасляабедзенны адпачынак фаўна"? Ці прасцей, можа, гэта паэзія нашага часу, пазбаўленая публікі, паэзія "непрызнаных", паэзія пасрэдных, якімі з'яўляемся ўсе мы без вынятку, не чытаючы нават адзін другога?"

Думка Оскара Мілаша тут крыху больш складаная, чым гэта падаецца на першы погляд. З сарказмам ён адзываецца пра "арыстакратычныя розумы" і "элітарныя душы", аднак не таму, што атакаваныя ім не хочуць пісаць паэзіі, якая была б сёння даступнаю грэцкім насільшчыкам, італьянскім рабочым ці лонданскім валацугам. Такой паэзіі ніхто пісаць, мабыць, не патрапіць, бо паэты XX ст. з'яўляюцца ізаляванымі з натуры рэчаў, пазбаўленымі публікі, "непрызнанымі", а "вялікая народная душа" спіць і нічога не ведае аб сабе самой і пазнае сябе толькі ў паэзіі мінуўшчыны (Хто чуў простых людзей у Італіі, якія чытаюць па памяці строфы Дантэ, той знае, якая вялікая жывучасць той даўняй паэзіі.) Затое сённяшнія паэты — гэта "сераднякі", усе, не выключаючы самога аўтара тэксту, які выносіць суровы прысуд таксама і сабе, але зусім не корміцца ілюзіямі, як "элітарныя душы".

Тут закранута праблема таго неспакою, што ахопліваў паэтаў XX ст пры кожнай сустрэчы з "чалавекам вуліцы": у адносінах з ім паэты адчувалі сябе рафінаванымі, замкнёнымі ў сваёй "культуры" і гэтым самым незразуметымі, патэнцыяльна ім абсмеянымі як той, хто займаецца "немужчынскаю справаю". Калі паэты спрабавалі здабыць ягоную ласку праз "зніжэнне да яго ўзроўню", то ўсё роўна не мелі станоўчых вынікаў, бо паэзія не вытрымлівае такой надуманай аперацыі Уступ, які разглядаю, не ёсць нарматыўным — у ім даецца дыягназ з'явы Яна ў Амерыцы і сёння актуальная, бо і аўтары, і чытачы паэзіі амаль выключна складаюцца з жыхароў універсітэцкіх кампусаў Павелічэнне шэрагаў паэтаў і зацікаўленне паэзіяй студэнцкага асяроддзя не павінны засланяць факта, што на другім плане існуе тая самая ўзаемная варожасць эліты і звычайных спажыўцоў культуры / ./. Зрэшты, наклады зборнікаў выходзяць смяхотна невялікія, што і ёсць сапраўдным паказчыкам цікавасці да яе.

Ад часу напісання "Некалькіх слоў пра паэзію" мінула ўжо звыш паўвека. Гістарычныя падзеі пацвердзілі сэнсоўнасць змешчанага ў гэтым эсэ дыягназу, і толькі ў выпадку няшчасця, кранаючага ўсю супольнасць, як, напрыклад, нямецкая акупацыя Польшчы, знікае "прорва паміж паэтам і вялікай чалавечай сям'ёй" і паэзія становіцца неабходнай чалавеку, як хлеб штодзённы. Чую на гэта адказ, што цяжка прымаць за норму надзвычайную сітуацыю, як вайна і рух Супраціўлення Аднак жа якраз у час нямецкай акупацыі ў польскім падполлі адбывалася пераадольванне класавых бар'ераў, пачынаўся працэс, які пазней узмацніўся пад камуністычным урадам і даў у выніку цалкам іншае грамадства, якое раптоўна заявіла пра сябе здзіўленаму Захаду забастоўкай рабочых у жніўні 1980 і сфармаваннем "Салідарнасці" У гэтым новым грамадстве высокія наклады паэтычных кніг, якія знікаюць з кнігарняў на працягу пару гадзін, не з'яўляюцца нечым анамальным, бо танчэюць перагародкі паміж рабочым і інтэлектуалам.

Цытую далей· "Можна сцвярджаць без аніякіх прадузятых думак, без найменшага памкнення да парадоксаў, што свет амаль за сто гадоў не даў ні аднаго паэта, гэта значыць, праўдзівага паэта, вартага павагі, каб яго можна было параўнаць з магутнай ракою / /, якая велічна коціць у сваіх бурлівых і глыбокіх водах горшае і лепшае, але заўсёды ў сваім уладарным рытме, заўсёды ў такім разліве, які разам дае нам вобраз боскіх спраў у чарадзе пакаленняў. Што засталося ад парнасцаў і сімвалізму? Што застанецца праз дваццаць гадоў з аграмаднай і пустой паэтычнай прадукцыі нашых дзён?"

Чытач гэтых слоў, што скіраваныя супраць "чыстай" паэзіі і ўхваляюць паэзію "нячыстую", не можа не ўспомніць У Уітмена, які, здаецца, адпавядае выказаным патрабаванням Разам з тым, наколькі бліжэй Оскар Мілаш тут нашым уяўленням, чым уяўленням трыццатых гадоў!

Наступная цытата адразу патрабуе каментарыя. Оскар Мілаш быў вельмі маладым чалавекам, калі пазнаёміўся ў Парыжы са старым тады Оскарам Уайльдам, які названы ім, паводле паходжання сям'і Уайльдаў, ірландскім паэтам. Што датычыць Байрана, то ён не меў тады больш прыхільнікаў сярод паэтаў, чым мае сёння Але Оскар Мілаш знаў мноства строф Байрана на памяць.

"Па сутнасці пошукі чыстай паэзіі пачынаюцца з маньерызму школаў, званых

"эстэтычнымі" Выкарыстоўваючы іншыя тэрміны, мы дыскутавалі пра гэта блізу 1895 г у "Калізеі", першым амерыканскім бары ў Парыжы, сталымі наведвальнікамі якога былі мае сябры Оскар Уайльд і Марэас. І не забуду ніколі абурэння, з якім глядзеў на мяне ірландскі паэт, калі аднойчы ў размове пра Шэлі, гэтым вялікім продку эстэтызму, я выказаўся на карысць вершаплёта Байрана, вучня класічнага Попа, за таго Байрана, які ў сваім узвышаным "Манфрэдзе", найбольш чалавечай і найменш рамантычнай з паэм, не завагаўся, каб паразважаць яшчэ раз на бязмежную і вечную тэму Праметэя"

Паэзія таго часу была, паводле аўтара "Некалькіх слоў пра паэзію", "нашчадкам сусветнай буржуазіі, што перажывае свой заняпад", і таму, калі паэзія ў будучыні мае існаваць, яна адродзіцца толькі праз поўны разрыў са сваёй непасрэднай папярэдніцай. Зрэшты, не ад самой паэзіі будзе гэта залежаць. Аўтар прадбачыў вялікія перамены ва ўсіх абшарах чалавечай дзейнасці — новы Рэнесанс можна сказаць, што ён быў міленарыстам. Гэты новы Рэнесанс меў быць найперш творам пасляэйнштэйнаўскай фізікі

"Паэзія заўтрашняга дня народзіцца з навуковай і грамадскай трансмутацыі, якая адбываецца на нашых вачах. Вялікая вайна, апошні або перадапошні ўсплёск капіталізму і імперыялізму — усё чакае свайго паэта-прарока. Няхай жа паэзія ўзброіцца цярплівасцю. Не адно падзеі, але і духоўныя вынікі падзеяў паклікаюць натхнёных людзей. Расейская рэвалюцыя хацела штучна стварыць свайго песняра. Аднак не праз механічнае прымяненне матэрыялістычнай дактрыны паклікаецца да жыцця новы грамадскі лад, а тым больш паэт".

Адзначым, Імануіл Сведэнборг, ад якога так шмат узяў У Блейк, лічыў, што дата Апошняга Суда прыпадае на 1757 год, хоць знешне нішто не кажа аб тым, быццам гэты суд ужо адбываецца. Блейк нарадзіўся якраз у год сведэнборгскага Суда, і ў сваіх прарочых кнігах ён аб'яўляў, што millennium адбываецца ў таямніцы, пад паверхняй з'яў, а сабе Блейк вызначаў ключавую ролю ў яго падрыхтоўцы. Оскар Мілаш ведаў англійскую паэзію, але паколькі Блейк не належаў яшчэ тады да яе канона, то Мілаш, здаецца, ніколі не сустрэў ягонае імя. Тым не менш блізкасць паміж ім і Блейкам — выразная У значнай ступені яе можна вытлумачыць супольным для абодвух паэтаў знаёмствам з творамі Сведэнборга "Навуковая і грамадская трансмутацыя", як сцвярджаў Оскар Мілаш, адбывалася ўжо пры ягоным жыцці і падрыхтоўвала новы Рэнесанс Аднак з сённяшняй перспектывы мы павінны дадаць — падзеі, якімі распачынаўся XX век і першая сусветная вайна, не знайшлі свайго барда, як не знайшлі яны свайго барда і дваццаць гадоў пасля, калі ўспыхнула другая вайна Гэта надта кароткі перыяд. Акрамя таго, паэзія не была і да гэтага часу не з'яўляецца падрыхтаванай, каб ахапіць розумам памеры злачынстваў, якія ў нашым стагоддзі былі здзейснены, і таму "душэўныя вынікі падзей" дагэтуль не з'яўляюцца відавочнымі і зразумелымі Затое цалкам спраўдзілася тое, што сказана Оскарам Мілашам пра расейскую рэвалюцыю Яе бард, Маякоўскі, скончыў жыццё самагубствам, у чым трэба бачыць нешта большае, чым прыватны выпадак. І ў творчасці Маякоўскага, і ў ягонай смерці спалучаны супярэчнасці, уласцівыя расійскай інтэлігенцыі папярэдняга стагоддзя і вынесеныя рэвалюцыяй на бязлітаснае святло жыцця.

Аўтар "Некалькіх слоў пра паэзію" аб'яўляў пра хуткае задзіночанне "малой планеты Зямля", новую навуку ды новую метафізіку Ён імкнуўся нават уявіць сабе, як будзе выглядаць будучая паэзія "Формай новай паэзіі будзе, напэўна, форма Бібліі: свабодна плывучая проза, выкаваная ў версэтах"

Хаця Оскар Мілаш быў міленарыстам, ён дапускаў магчымасць радыкальнай катастрофы, канца чалавецтва, прынамсі чалавецтва, нам вядомага

"Магчыма, што нічога з гэтага не адбудзецца і што скурчаная, ссохлая паэзія нашых дзён ёсць балбатнёю канчатковага знясілення і старэчай прыдуркаватасці. Было б гэта прыкметаю не зношанасці адной з галін мастацтва, але сімптомам канца чалавецтва. Хто ведае? Можа мы з'яўляемся значна старэйшымі, больш зморанымі і далейшымі ад Бога, чым думаем, чым думаў сам Timaios Платона Калі так ёсць — застаецца нам толькі хацець, каб з'явіўся новы Іезекііль і каб змог таксама голасна, як той даўні, крыкнуць сярод бліскавіц: ужо канец! Набліжаецца пагібель на чатыры канцы свету. Цяпер вось, да цябе ідзе пагібель".

Такім чынам, стан паэзіі пэўнай эпохі можа сведчыць пра жыццядайнасць або





змарненне жыватворных крыніц цывілізацыі. З назіранняў за сучаснай для яго паэзіяй Оскар Мілаш зрабіў песімістычныя высновы, і цікава было б параўнаць ягоныя ацэнкі з ацэнкамі Т С Эліота і Эзры Паўнда / . /, гэта значыць, паэтаў, якія больш-менш у тым самым часе выносілі песімістычныя прысуды сучаснай тэхнічнай цывілізацыі Здаецца, асноўнае адрозненне паміж імі палягае ў адносінах да міфа пра вяртанне, амаль абавязковага ў паэтаў кансерватыўнай арыентацыі. Мой кузен, называючы імёны Дантэ, Шэкспіра, Гамера, на першы погляд, таксама хварэў на настальгію — распаўсюджаную ў розных перыядах цывілізацыі усё мінулае ідэалізуецца, папярэднікі былі лепшыя, нашчадкі змарнелі Гэтаксама ў Эліота, і ў Паўнда норма месціцца ў мінулым часе і адхіленнем ад яе тлумачыцца ліхалецце сучаснага спосабу адчування Паводле іх, паэты, злоўленыя сучасным пеклам вялікага горада, la cité infernale Бадлера, могуць, аднак, бараніцца, спрабуючы прытрымлівацца даўняй нормы Мадэль часу з'яўляецца рэгрэсіўнай, будучыня не абяцае нічога добрага Інакш у Оскара Мілаша. У яго ніякае вяртанне да даўнішняга спосабу адчування немагчыма праз сам акт выбару і "дэвальвацыя" паэзіі застаецца непазбежнай да моманту, пакуль вялікая навуковая і грамадская перамена не пакліча да жыцця новую паэзію — або гэтай перамены не будзе і тады ўсё чалавецтва чакае катастрофа. Дык вось, мадэль часу ў Оскара Мілаша ёсць з'яваю прагрэсіўнаю, позірк скіроўваецца ў будучыню з надзеяй або боязью, што сведчыць пра ўсвядомленае падабенства гэтага паэта з паэтамі XVIII—XIX стст , засяроджанымі на будучыні

На пачатку "Некалькіх слоў пра паэзію" сустракаем загадкавы сказ. Паэзія ёсць "звязаная мацней, чым які іншы від экспрэсіі з душэўным і фізічным Рухам, які апладняе і якому вызначае шлях" Заўважце, што аўтар не ўжыў слова Прагрэс, але Рух (з вялікай літары), а гэта розныя імплікацыі, бо "прагрэс" абазначае ўзыходзячую лінейнасць, а ў слове "рух" націск прыпадае на самую безупынную перамену і дыялектычную гульню супрацьлегласцяў Паэзія па самім сваім характары пачынае Рух, гэта значыць, перамену, і калі не непасрэдна, то ўскосна садзейнічае навуковым адкрыццям Яна таксама выконвае функцыю "праваднiка" Руху, што можна тлумачыць так: мова кожнага гістарычнага перыяду атрымлівае і фіксуе свой кшталт дзякуючы паэзіі.

Паколькі чалавечая рэчаіснасць падпарадкаваная безупыннаму руху, гэта значыць, пераменлівасці, то, здаецца, Оскар Мілаш у сваіх фармуліроўках хутчэй прыпадабняецца да такіх паэтаў, як Бертольд Брэхт ці Пабла Нэруда, чым да сучасных насмешнікаў, для якіх існуючая грамадская структура з'яўляецца нечым непразрыстым і нерухомым. Я падазраю, што знаёмства з творамі Оскара Мілаша, а таксама размовы з ім выпрацавалі ўва мне пэўны метад засвойвання марксізму, доўгі час не да канца ўсвядомлены Оскар Мілаш быў перакананы, што марксісты дакрануліся да найбольш істотных праблем нашага стагоддзя і таму нельга прайсці абыякава паўз іх тэорыі Адначасова не трэба надта ім давяраць, бо зачаста з відавочных прадпасылак яны робяць памылковыя высновы, паддаючыся націску сваіх уласных жаданняў і падтасоўваючы пад іх факты. Ва ўсякім выпадку, распавядаючы тут пра Оскара Мілаша, я хачу пазбегнуць магчымага непаразумення· калі ёсць праўдаю, што ў юнацкіх гадах я быў левым, то як можа быць, што ў тым самым часе я паддаваўся ўплывам містыка, бо такую этыкетку насіў мой кузен? Тады, у трыццатых гадах, паміж гэтымі паняццямі, здаецца, існавала сур'ёзная супярэчнасць З перспектывы часу гэтай супярэчнасці я не бачу.

У 1931 г у Вільні, якая тады належала Польшчы, узнікла літаратурная група Жагары, і я быў адным з яе заснавальнікаў Адбывалася гэта неўзабаве пасля краху нью-ёркскай біржы ў 1929 г , які страсянуў не толькі Амерыку. У еўрапейскіх краінах расло беспрацоўе, у Нямеччыне яно дасягнула васьмі мільёнаў, толькі рэвалюцыя, здавалася, была ў сілах уратаваць свет ад голаду і вайны, паколькі капіталізм увайшоў у стадыю заняпаду На жаль, рэвалюцыя, што рыхтавалася ў Нямеччыне, мела быць нацыянал-сацыялістычнай. Другі прыметнік быў уступкаю дзеля распаўсюджанай сярод працоўных масаў веры ў сацыялізм, які, абапіраючыся на думку Маркса, неўзабаве прадыктуе надпіс на варотах Асвенціма Arbeit macht frei Нічога дзіўнага, што ў гэтай аўры нашая група была левая, аднак чаканне рэвалюцыі адбывалася ў нас разам з чаканнем апакаліптычнай катастрофы, гэтыя чаканні былі інтуітыўныя, прарочыя, яны не павінны былі адбыцца рэальна ex post, і нават аўра жорсткасці падчас пераняцця ўлады Гітлерам не дазваляла нам разгадаць іх магчымыя наступствы Проста кажучы, для

чалавека ўражлівага жах вісеў у паветры. Нашая група атрымала назву "катастрафісты", што наводзіць мяне на рэфлексіі над разнастайнымі іпастасямі, у якіх праяўляецца "прынцып надзеі", як гэта назваў Эрнст Блох. Гэты "прынцып надзеі" паказвае на рамантычнае радаслоўе марксізму, бо ўсё-такі філасофія Маркса фармавалася ў Век Уздыму, а дата з'яўлення Камуністычнага маніфеста (1848) — сама па сабе дастаткова красамоўная. "Прынцып надзеі" дзейнічае паўсюль, дзе прадчуваецца катаклізм, які будзе канцом існуючага парадку дзеля з'яўлення новай рэчаіснасці, ачышчаная — рэвалюцыяй, патопам ці праз conflagration universelle Інакш кажучы, няма вялікай неадпаведнасці паміж чаканнем радасным і трывожным. Можна было б гэта даказаць на прыкладзе пісьменніка, які належаў да Веку Розуму і Веку Уздыму — Дастаеўскага. У сваім спелым узросце ён прадказваў хуткі канец свету, гаварыў пра Зорку Палын Апакаліпсіса. Аднак жа застаўся верны сваёй сацыялістычнай маладосці, бо і далей шукаў ідэальнае грамадства, заснаванае на добраахвотным адрачэнні кожнага чалавека ад свайго "я" на карысць супольнасці, і змяшчаў гэтае Боскае Каралеўства на зямлі, праўда, у заканчэнне чалавечай гісторыі Я думаю, што такім жа чынам у нашай групе "катастрафістаў" два значэнні надзеі межаваліся адно з адным і пераходзілі адно ў адно.

Ці ёсць магчымаю паэзія, ізаляваная ад Руху, пра які гаворыць Оскар Мілаш? Гэтае пытанне фармулюецца і іначай. ці ёсць магчымаю паэзія неэсхаталагічная? Тады, пэўна, гэта была б паэзія абыякавая да восі "мінулае — будучыня" і да "дзеі апошняй", значыць, да Збавення і Вечнага мучэння, да Суда, да Божага Каралеўства, да мэтанакіраванасці Гісторыі, а значыць, да ўсяго, што злучае час, дадзены аднаму жыццю, з часам чалавецтва? Цяжка на гэтае пытанне знайсці адказ Неэсхаталагічнай, як мне здаецца, была старакітайская паэзія, але мы можам падмануцца, абыходзячыся празмерна павярхоўна з цывілізацыяй, у многіх сваіх складанасцях нам не даступнай. У нашай цывілізацыі, падпалай l'accélération de l'histoire, сувязь паміж паэзіяй і Рухам праўдападобна з'яўляецца няўхільнай і надзея, свядомая або несвядомая, падтрымлівае паэта. Можа быць, панылаць паэзіі XX ст. вынікае з таго, што мадэль паэзіі, узнікшы з "непаразумення паміж паэтам і вялікай чалавечай сям'ёй", супярэчыць прыродзе нашай цывілізацыі, якая была сфармавана Бібліяй і таму з'яўляецца ў самой сваёй сарцавіне эсхаталагічнай

**Пераклаў Ян ЧЫКВІН.**

# ЛЕКЦЫЯ БІЯЛОГІІ

Пісалі шмат пра паэта як пра чалавека, які розніцца ад іншых тым, што дзяцінства ў яго не канчаецца і ён цягам усяго жыцця захоўвае ў сабе нешта ад дзіцяці Ёсць у гэтым багата праўды, у тым, прынамсі, сэнсе, што дазнанні дзяцінства ў паэта вельмі трывалыя і ўжо ў першых яго вершах, напаўдзіцячых, залучаныя галоўныя рысы яго пазнейшай творчасці Хвіліны шчасця або хвіліны страху, перажытыя дзіцём, прадвызначаюць усю індывідуальнасць гэтага чалавека. Але таксама думка паэтава залежыць ад веды пра свет, якую дзіцём атрымаў ад бацькоў і настаўнікаў

Падумаем толькі, колькі год жыцця мінае ў нас у школе Там, і нідзе больш, адбываецца падрыхтаванне нас на ролю ўдзельнікаў у пэўнай цывілізацыі Штодня нас апрацоўваюць у духу пэўнай дактрыны для таго, каб нашыя паняткі не розніліся ад паняткаў нашых сучаснікаў і каб не прыходзілі нам у галовы сумлевы ў аксіёмах, напрыклад, што Зямля варочаецца наўкола Сонца Існуюць адрозненні прапагандавання дактрыны ў залежнасці ад палітычнай сістэмы, аднак таму што ўся планета ўжо ахоплена культам навукі, то тое, што ўзнікла ў XVI—XVII стагоддзях на малым лапіку Заходняй Еўропы, кітайскае, амерыканскае ці расійскае дзіця атрымлівае ў разрэджанай і папулярнай форме, пры распрацоўцы якой бяруцца адкрыцці Каперніка, Ньютана ці Дарвіна. Даволі цяжка ўсвядоміць сабе дзіўнасць гэтага факта, то бо поўную паразу вобразаў свету, якія маглі б спадужнічаць з вобразамі, навязанымі навукаю, знакам тым, паразу інакшых, як адзін, заходні, спосабаў думання І толькі саркастычны розум парадаксальніка, такога, як расійскі філосаф Леў Шэстаў, здольны даць нам хвіліну роздуму пра розніцу паміж выхаваннем, прыкладам, маладога дзікуна, які верыў у духі й чары, і выхаваннем дзіцяці новае пары (Шэстаў пісаў гэта на самым пачатку XX стагоддзя) "Інакш з дзіцем у нашым грамадстве Яго розум не абцяжараны казкамі, і яно ведае, што не існуюць дэманы й чараўніцы, і настройвае свой розум не верыць у такую ману, нават калі сэрца цягне яго да цудоўнага. Але з другога боку, змалку ён атрымлівае праўдзівую інфармацыю, якая верагоднасцю сваёй чыста пераўзыходзіць усялякую лухту, апавяданую найарыгінальнымі аўтарамі казак Напрыклад, гавораць яму — і так аўтарытэтна, што не застаецца ніякага сумневу, не можа застацца, — што Зямля не нерухомая, што Сонца не варочаецца наўкола Зямлі, што неба не цвёрдае цела, што кругавід — гэта толькі ілюзія й гэтак далей" Такім чынам узнікае, паводле Шэстава, "у кожным з нас тэндэнцыя да прыняцця за праўду толькі таго, што мы адчуваем усёй сваёй істотаю як фальш"

Не будзе вялікім перабольшаннем, калі скажам, што паэзія ў многіх паэтаў — гэта працяг школьных сшыткаў, магчыма, пісаная таксама на іхніх палях. Паняткі геаграфіі, гісторыі, фізікі, першы раз сустрэтыя і таму асабліва жывыя, ствараюць асноведзь многіх значных і слынных паэтычных твораў, як, напрыклад, "П'яны карабель" Рэмбо Значэнне паасобных навучальных прадметаў, зрэшты, увесь час змяняецца У пару Рэмбо дамінавалі геаграфія й гісторыя, пасля саступаючы ўсё больш месца дакладным навукам, перадусім біялогіі

Працiўнікі тэорыі эвалюцыі, зважаючы на тое, што яна супярэчыць Бібліі, добра адчувалі небяспеку, бо ўяўленне, якое падпала пад вобраз эвалюцыйнага ланцуга, становіцца згубленым для рэлігійных вераванняў Адкрыццё Каперніка пазбавіла Зямлю яе цэнтральнага месца ў сусвеце, але паяўленне звестак пра жывёльныя пачаткі чалавека страсянула не менш. Не толькі таму, што падпала пад сумнеў сама апрычонасць існасці чалавецтва, але таксама й таму, што ўскосна прадметам атакі стаў сэнс чалавечай смерці Прырода з яе неймаверным марнаваннем більёнаў існаванняў, патрэбных для захавання тыпу, абсалютна абыякавая да індывіда Улучаны ў яе чалавек перамяняецца таксама ў статыстычную лічбу. Эрозіі падлягае вера ў асаблівае пакліканне кожнага, выражанае ў катэгорыях збаўлення й асуджэння. Так, як бы на адзін, традыцыйны, вобраз жыцця наклаўся другі, навуковы, несумяшчальны з першым, і выклікаў несціханы неспакой, які ўзнікае, калі розум не можа справіцца з супярэчнасцямі і сам сябе дакарае адсутнасцю паслядоўнасці У школе супярэчнасці падтрымліваюцца такімі прадметамі, як літаратура або гісторыя, у якіх прысутнічае закадаваная сістэма каштоўнасцяў, цяжка сумяшчальная з навуковым аб'ектывізмам

Што да паэзіі, якая звычайна пачынаецца на школьнай лаве, то яна мусіць даваць сабе рады, як толькі можа ў новых умовах, калі ўяўленне страчвае свой падмурак, то бок перакананне пра цэнтральнае месца чалавека, паасобнага чалавека, у прасторы й часе. У паэзіі апошняе пары нам удалося б знайсці розныя тактыкі дачынна памянёнага, і іхняя гісторыя, мабыць, будзе некалі напісаная. Калі б я сам (але я не важуся) узяўся за гэта, то браў бы школьныя праграмы паасобных дэкадаў, ведаючы наперад, што знайду ў іх усё большую дозу біялогіі за кошт гуманітарных прадметаў, значыць моваў і гісторыі, а пасля гэтага шукаў бы сувязі паміж прыродазнаўча зарыентаванай адукацыяй і філасофіяй, якая праглядае з вершаў Мне здаецца што й амерыканская школа, і амерыканская паэзія выйшлі б тут найбольш "прыродазнаўча". Але й іншыя краіны не засталіся б далёка ад Амерыкі.

(.. )Польшча — гэта краіна інтэлектуальна рафінаваных паэтак. У шасцідзесятыя гады ўзялі маю ўвагу вершы вельмі маладой паэткі Галіны Пасвятоўскай У іх быў кранальны тон роспачы з прычыны смяротнасці цела і з прычыны поўнае замкнёнасці ў тым смяротным целе, адсюль асабліва інтэнсіўнае адчуванне кахання, якое ўвесь час пад пагрозаю, на мяжы нябыту Па малым часе дазнаўся, што тая маладая жанчына цяжка хворая на сэрца У сямідзесятыя гады, калі яна памерла ў веку крыху больш як трыццаці гадоў, яе таварышы стараліся падтрымліваць яе легенду. Гэта тады знаная паэтка Віслава Шымборска прысвяціла яе памяці верш Назоў яго "Аўтатомія" ўзяты з падручнікаў заалогіі, азначае бясполае размнажэнне Тут маецца на ўвазе марская істотачка, галатурыя, якая называецца яшчэ марскім агурком

### АЎТАТОМІЯ

*Памяці Галіны Пасвятоўскай*

**У небяспецы дзеліцца галатурыя напалам:**
**адну сябе аддае з'есці свету,**
**другой сабой уцякае.**

**Распадаецца імпэтна на загубу й ратунак,**
**на кару й нагароду, на тое, што было, і на тое, што будзе.**

**Пасярэдзіне цела ейнага расчыняецца бездань**
**з двума чужымі зразу ж адзін аднаму берагамі.**

**На адным — смерць, на другім — жыццё.**
**Тут — роспач, там — надзея.**

**Калі йснуюць вагі, не хістаюцца шалі.**
**Калі ёсць справядлівасць, вось яна –**

**Памерці, колькі неабходна, не перабраўшы меры.**
**Адрасці, колькі трэба, ад засталага цела.**

**Умеем, о праўда, і мы дзяліцца таксама.**
**Але толькі на цела й перарваны шэпт.**
**На цела й паэзію.**

**З аднаго боку горла, з другога смех,**
**лёгкі, ён хутка моўкне.**

**Тут цяжар на сэрцы, там non omnis moriar,**
**толькі тры слоўкі, як тры пёркі ўзлёту.**

**Бездань нас не перацінае.**
**Бездань нас абкружае.**

Калісьці даўно інакшае назіранне прыроды, штодзённа-звычайнае, ненавуковае, забяспечвала філосафаў і паэтаў метафарамі пераходу з жыцця ў смерць. Было гэта назіранне ператварэння лярвы ў матыля, цела, пакінутага душой пры вывальненні Гэты дуалізм душы й цела спадарожыў нашай цывілізацыі цягам многіх стагоддзяў Няма яго ў прыведзеным вершы Бездань расчыняецца ў целе галатурыі, наступае падзел на два "я" цела. Пачынаючы з пары Рэнесансу, інакшым дуалізмам падтрымліваўся падзел душы і цела Гэта быў дуалізм забыцця й славы, выражаны максімай ars longa, vita brevis, і ён быў вялікім, каб стымулам зафіксафаць сябе нейкім чынам у памяці нашчадкаў· не ўсё памірае, non omnis moriar. Можна сказаць, гэта была дадатковая сістэма страхавання, паралельная хрысціянскай, яна адпавядала, зрэшты, няяснаму, двухзначнаму суіснаванню антычнай спадчыны з пасланнем Евангелля на ўсёй тэрыторыі, дзе універсальнаю мовай была лаціна Вядома, забяспечыць сабе славу маглі толькі нешматлікія, максіма пра кароткасць жыцця і доўгасць мастацтва, атрымліваецца, арыстакратычная, прычым націск робіцца на грамадскае ўспрыманне, на розгалас, а не на сам твор Прызнанне і ўдзячнасць нашчадкаў, нават запозненыя, не пры паэтавым жыцці, становяцца адным з вялікіх cliches заходняй цывілізацыі У сіле яно, аднак, застаецца датуль, пакуль захоўваецца повязь паэта з "вялікай чалавечай сям'ёй" Дзіўныя рэчы дзеюцца ў паэзіі другой паловы XIX стагоддзя: самотнікі, збунтаваныя супраць "дабрамысных" грамадзянаў, заместа таго, каб падкрэсліваць даўгавечнасць мастацтва — ars longa, ставяць яго настолькі высока, што адымаюць у яго ўсякія мэты і пачынаюць услаўляць мастацтва само ў сабе, l'art pour l'art. Пры паўсюдным аслабленні каштоўнасцяў, што трацяць свой метафізічны падмурак, узнікае канцэпцыя паэзіі, якой гэты крызіс не датычыць, бо яна мае быць адметна самадастатковаю, падданіцай толькі сваіх правоў, своеасаблівым антысветам. Ужо не





прызнанне нашчадкаў будзе тады ўзнагародай, а рэалізацыя індывідуальнасці паэта, які быццам пакідае назаўжды адбітак свайго твару·

Tel qu'en lui meme enfin l'eternite le change, як гаворыць Малармэ ў "Эпітафіі Эдгару По" (Такі, у якога ператварае яго ўрэшце вечнасць.)

Прыведзены мною верш Віславы Шымборскай прадстаўляе перыяд нашмат пазнейшы за той, што характарызаваўся культам высокае паэзіі. Мы былі сведкамі паступовага згасання гэтага культу, адпаведна таму, як чалавечая індывідуальнасць траціла сваю непаўторную форму, саступаючы перад сацыяльнымі і псіхалагічнымі заканамернасцямі дэтэрмінантаў і ператвараючыся ў менавую лічбу У Шымборскай мы ўжо дзелімся не на цела й пакінуты твор, а на цела й перарваны шэпт, паэзія — не больш, чым перарваны шэпт, смех, які адразу моўкне. Калі й не ўсё памірае, дык толькі на кароткі час, і non omnis moriar паэзіі набывае крыху іранічнае значэнне.

Мы ўсе ўдзельнічаем у не залежных ад нашае волі пераменах светапогляду і спрабуем змякчаць іхнюю радыкальнасць, не дадумваючы сэнсаў да канца Толькі нямногія маюць дастаткова мужнасці, каб адважыцца на брутальна простыя сцверджанні. Уільям Блейк быў адным з першых, хто заўважыў знішчальны ўплыў дакладных навук на "The Divine Arts of Imagination", "боскія мастацтвы ўяўлення", і палічыў ворагамі таго, што называў Разумовым Дарам, з чаго прызнаў д'ябальскай тройцу Бэкана-Лока-Ньютана. Ці ж не ён пісаў:

**Відзежа — гэта рэзанёрства ў чалавеку. Як толькі аддзеліцца**
**Ад Уяўлення і замкнецца, як у залі, у Рацыё**
**Запомненых Рэчаў, складае там Маралі й Правы,**
**Каб знішчыць Пакутніцтвам і Войнамі Уяўленне, Цела Божае.**

Пісаў зусім не для таго, каб выкараняць навуку і агалошваць тэорыю плоскае Зямлі, але для таго, каб паказаць канфлікт ува ўсёй яго вастрыні Працытую яшчэ Блейкаву абарону наіўнага ўяўлення

**І ўсякая Прастора, якую бачыць Чалавек наўкола дома,**
**Калі стаіць на сваім даху або ў садзе на горцы,**
**Паўтара сажня вышынёю, такая прастора яго Сусветам.**
**.......................................................... ...................**
**А што да выстаўлянай рэзанёрам вонкавасці падманлівай**
**Шара, які ў Пустцы абарачаецца, то гэта ілюзія Ульра.**

Стаўкай, як гэта добра Блейк зразумеў, было ўратаванне чалавека ад вобразаў як мага больш "аб'ектыўнага", халоднага, абыякавага свету, у якім адчужаецца "Божае ўяўленне" Яго прароцтвы спраўдзіліся Праз паўстагоддзя пасля яго смерці якраз хуткая эрозія веры ў які-колечы іншы, чым падпалы пад матэматычны дэтэрмінізм, свет становіцца ў цэнтры творчасці Дастаеўскага і Ніцшэ Нават больш, вымалёўваецца магчымасць таго, што эрозія ўсякіх каштоўнасцяў, якім няма месца ў навуковым светапоглядзе, дасягне гэтаксама панятка праўды, то бо яе крытэрыі будуць прызнаныя сапраўднымі толькі ў межах адвольна прынятай сістэмы суадносінаў Ніцшэ, антыцытуючы, так вызначае стан розуму ў людзей недалёкае будучыні, тых, у якіх распазнаем сябе.

"Чым ёсць вераванне? Якія яго пачаткі? Усякае вераванне ёсць прызнаннем чаго-колечы праўдаю

Найбольш скрайняю формай нігілізму быў бы погляд, згодна з якім у с я к а е вераванне, усякае прызнанне чаго-колечы сапраўдным мусіць быць памылковым, бо ўвогуле няма с а п р а ў д н а г а с в е т у Адсюль — п е р с п е к т ы ў н а я і л ю з і я, крыніца якой — у нас (бо ўвесь час патрабуем вышэйшага, скарочанага, спрошчанага свету)".

Прачытаны мною верш Шымборскай прадстаўляе паэтыку, якая адпавядае скрозь адчуванай няўстойлівасці ўсякіх мераў. Не належыць ужо да рэпертуару XX стагоддзя ні Платонаў дуалізм душы й цела, ні вечная слава (бо несумяшчальная яна з веданнем пра наканаваную зменлівасць стыляў і ўпадабанняў), ні творчасць-для-сябе, гэты, мабыць, апошні высілак уратавання абсалютных крытэрыяў. Застаецца пасля нас "перарваны шэпт", "смех, што моўкне". І гэтую ясную жорсткую свядомасць мы не маем права прыніжаць, бо яна недалёкая ад гераічнага дабрачыну Ці й тут мае

спраўдзіцца Ніцшэва прадказанне пра звышчалавечасць, на якую будзе змушаны чалавек? Невядома. Але словы ягоныя варта прыпомніць.

"...Вось мера сілы: да якой ступені здолеем перад самімі сабою прызнаць, што ёсць толькі ўяўнасць, што мана непазбежная, — і не загінуць. У гэтай ступені нігілізм, як адпрэчванне сапраўднага свету, быту мог бы быць б о с к і м с п о с а б а м д у м а н н я".

Ці можам мы "не гінучы" зносіць сітуацыю, у якой навакольныя рэчы перастаюць існаваць, таму што няма "сапраўднага свету"? Паэзія XX стагоддзя адказвае на гэтае пытанне адмоўна. Яе гераізм стомлены і не сведчыць пра тое, што мы даспелі да звышчалавечасці Усведамленне, што словы аднесеныя да словаў, а не да рэчаіснасці, якую належыць як мага дакладней апісаць, уздзейнічае на паэтаў гнятліва, і тут, відаць, ляжыць галоўная прычына тону сучаснай паэзіі Дадаецца таксама паэтам клопат ізаляцыйнае пагрозы Яшчэ ў пару рамантызму повязь паміж імі і "вялікай чалавечай сям'ёй" не была разарванай, значыць, па-ранейшаму абавязваў рэнесансавы ўзор славы, удзячнасці й прызнання блізкіх. У момант, калі паэзія сышла ў падмосце і багема з пагардай адвярнулася ад "філістэра", сур'ёзнаю для яе апорай была вера ў абсалютны сэнс мастацтва, пісанага праз вялікае М З гэтым перакананнем, якое характарызавалася прынцыповым антаганізмам паміж Мастацтвам і светам, паэзія ўвайшла ў XX стагоддзе, але цвердзь яе пакрысе ўжо бурылася і пачуццё вышэйшасці паэта над сярэднімі смяротнікамі траціла сваё найважнейшае абгрунтаванне. Бо слабае суцяшэнне для аўтара малазразумелых публіцы і нячытаных томікаў вершаў, што змяшчаецца ў іх толькі "перарваны шэпт" і "смех, што моўкне", і нічога больш.

Лекцыя біялогіі спрычыніла шматлікія змены нашага ўяўлення, не толькі тыя, якія датычаць лёсу паасобнага чалавека. Неўпрыкмет было змушанае змяняцца нашае стаўленне да вялікіх катастрофаў, што закранаюць тысячы ці мільёны людзей. Цяжка сёння зразумець, чаму землятрус у Лісабоне ў 1755 годзе зрабіў такі вялікі ўплыў на людзей Асветніцтва і даў нагоду для ключавой дыскусіі. Колькасць ахвяраў, блізка 60000, была невялікаю ў параўнанні з колькасцямі стратаў у войнах новага часу, але ж невялікаю таксама і ў параўнанні, напрыклад, з колькасцю жыхарства, страчанага ў сярэднявеччы ад чумы Тыя даўнейшыя бядоты трактаваліся, аднак, як Божая кара Знішчэнне ж Лісабона прадставіла аргумент дэістам, якія сцвярджалі, што Найвышэйшая сіла не мяшалася ў трагедыю, таму што Бог, Вялікі Гадзіннікар, пакінуў свет на аўтаномнае існаванне. У адваротным выпадку, сцвярджалі яны, належала б абвінаваціць Яго ў бяздумнай жорсткасці. Мабыць, тыя разважанні — у нейкай ступені выглядаюць залішне адцягненымі для нас, паколькі архіпелаг ГУЛАГ ці здарэнні, аб'яднаныя найменнем Халакост, вырываюць з нашых вуснаў не абстрактныя рэфлексіі, а крык пратэсту Н е х т а мусіць быць за гэта адказны, але, калі мы шукаем разумовага выяснення, нам застаецца адно прызнаць за эпікурэйцамі, што багі або ўсёмагутныя, але не добрыя, або добрыя, але не ўсёмагутныя Тым не менш, лекцыя біялогіі азначае трыумф навуковага светапогляду, згодна з якім адказным ёсць толькі ланцуг прычынаў і вынікаў Ясная рэч, не мела б сэнсу вінаваціць навуку ў тым, што яе практычныя здабыткі інакшыя, чым намеры вучоных Аднак варта ўразумець, што навука не толькі спрычыняецца да ўдасканалення ўсё больш смертаносных сродкаў вядзення вайны Яна таксама пранікае ў самую тканку калектыўнага жыцця, выклікаючы там перамены, маштабу якіх мы шчэ ясна не ўсведамляем. Засмечванне розумаў вобразамі — вытворнымі навукі — знаходзіць аналогіі ў засмечванні натуральнага асяроддзя з той жа навукі ўзятаю тэхнікай Так, напрыклад, прынцып the survival of the fittest (выжывання мацнейшых) у сваёй вульгарызаванай форме падахвоціў брутальны натуралізм у літаратуры, але таксама стварыў агульны клімат, у якім магла ўзнікнуць ідэя безумоўнай ліквідацыі мільёнаў людзей у мэтах уяўнай грамадскай гігіены. Разам з тым навука забяспечыла генацыд тэхнічнымі магчымасцямі гэткім самым чынам, як забяспечыла трохі раней прыладамі разні пад час вайны ў акопах 1914—1918 гадоў

Ніколі дагэтуль паэт не мусіў трываць такі напор фактаў, несумяшчальных з яго крыху дзяцінаю натурай, як у XX стагоддзі Зрэшты, кожны з нас змушаны рана, у першыя гады жыцця, адкрываць на сваю рызыку цвёрдыя законы існавання, супярэчныя нашым памкненням. Полымя, настолькі прыгожае, калі глядзіш на яго, апякае, як хопіш; шклянка, скінутая са стала, не завісае ў паветры, а падае на падлогу і трушчыцца. Прага цудоўнага патрабуе цяжкіх выпрабаванняў так званым натуральным парадкам рэчаў, з якім паступова пазнаёмяць сям'я і школа, рыхтуючы да жыцця ў грамадстве. Мабыць, паэты - гэта істоты, якія асабліва супрацівяцца гэтаму рыхтаванню, таму яны й становяцца голасам сапраўднай людской мроі пра вызваленне з таго, што халоднае, як два ў два — чатыры, цвёрдае і бязлітаснае. Пэўныя абсягі рэчаіснасці доўгі час усё ж





выключаліся рэлігіяй з-пад улады сляпых законаў, і, відаць, таму паміж рэлігіяй і паэзіяй існаваў як бы саюз. Заключаліся ў тыя абсягі лёсы гарадоў і народаў, а таксама ўсяго чалавечага роду, з гэтага аргумент дэістаў пасля знішчэння землятрусам Лісабона не здолеў разбурыць моцна ўкаранелай веры ў Найвышэйшую сілу. Усё Стагоддзе Парыванняў было поўнае месіянскіх летуценняў пра асаблівае пакліканне таго ці іншага народу або тых ці іншых народаў, пра пакліканне, загадзя ўпісанае ў Божыя Кнігі. Але й пазней, у цвярозую эру пары і электрычнасці, панятак Прагрэсу нёс у сабе ўсе адзнакі Найвышэйшаю сілай наканаванага ўстанаўлення, што рыхтуе шляхі, якімі пойдзе чалавецтва Істотнае адрозненне XIX стагоддзя ад XX, бадай, у тым, што рэчы, пра якія раней страшна было нават падумаць, станавіліся рэальнасцю, пачынаючы з 1914 года. Было здзейсненае адкрыццё, што "цывілізацыі смяротныя", а знакам тым, нішто не ахоўвае заходняй цывілізацыі ад апушчэння ў хаос і варварства. Стан дзікасці, які, здавалася, застаўся ў даўно мінулым часе, вярнуўся ў якасці племянных рытуалаў таталітарных джяржаваў. Лагер смерці стаў цэнтральным фактам стагоддзя, а калючы дрот — яго сімвалам Томас Ман, відавочна, не памыляўся, бачачы ў апавяданні Джозэфа Конрада "Ядро цемры" твор, які адкрыў XX стагоддзе. Еўрапейцы эфектыўна хавалі цягам доўгага часу жахі на сваім заднім каланіяльным двары, пакуль тыя з лішкам не адведалі й іх Якраз Еўропа стала арэнай падзелу краінаў паміж імперыямі, дзе было так, як пры дзяльбе пажытку ў пагалоўі быдла, толькі што гаворка тут не пра быдла, а пра людзей, іхнія гарады і іхнія айчыны. Надышла таксама эскалацыя татальнай пагрозы, бо атамная зброя прынесла магчымасць нечага, што здавалася зусім непраўдападобным, то бо знішчэння ўсёй Зямлі Як дзіця, якое пераконваецца, што агонь апякае, а востры кант стала, калі выцяцца аб яго, прычыняе боль, чалавецтва стала перад голымі фактамі, спалучанымі на аснове прычынаў і наступстваў, ужо без Божай апекі, якая б гарантавала паспяховы вынік

Думанне пра чалавецтва ў прыродазнаўчых катэгорыях дадаткова было падтрымана статыстыкай шпаркага павелічэння колькасці насельнікаў планеты Зямля Ніколі да XX стагоддзя размова, пра якую раскажу, не была б магчымаю. Адбылася яна ў Варшаве падчас апошняй вайны, пад нямецкаю акупацыяй, паміж мною і адным інтэлектуалам, чальцом камуністычнага падмосця Я выказваў сумнеў адносна "або — або" майго сумоўніка Паводле яго, той, хто хацеў дзейсна супрацiўляцца нацызму, не меў іншага выбару, як выказацца на сто працэнтаў за савецкі лад. Мае пярэчанні датычылі масавага тэрору, распачатага расійскім дыктатарам. На гэта мой суразмоўца сцепануў плячыма і сказаў "На мільён людзей больш, на мільён — менш, якая розніца?"

Сапраўды, якая розніца? Гэты голас пратэсту, які адзываецца ў нас, калі мы дазнаёмся пра месцы ўсмерчання, дзе людзі катуюць людзей, — фактычна бяздомны, пазбаўлены іншага ўгрунтавання, ён усяго толькі — голас пратэсту Калі са скрухай успамінаем вялікую колькасць мужчын, жанчын і дзяцей, страчаных у газавых камерах, цяжка не паддацца думцы, што аднычасна памацняецца з дня ў дзень тэндэнцыя да параўнання людскіх істотаў з мухамі або прусакамі і што нейкая мэта, адпаведна ўзнёслая, змагла б абгрунтаваць знішчэнне адных вусякоў пры абсалютнай абыякавасці другіх, тых, якіх пакінулі ў спакоі

Паэт XX стагоддзя — гэта дзіця, якое настаўляюць у пашане да голых фактаў надзвычай жорстка ўведзеныя ў іх дарослыя. Ён хацеў бы абаперці свае "так" і "не" на нейкія асновы, але каб гэта зрабіць, мусіў бы прыняць, што, апрача гульні феноменаў, існуе правільная структура свету і што наш розум і сэрца застаюцца з ёю ў звязе. Але ўсё павярнулася так, каб знішчыць гэтае перакананне, як рэлікт веры ў цудоўнае. Няўжо гэта азначала, што людскі род, абраўшы навуку за правадніка, становіцца дарослым? Гэта магчыма. Але існуе таксама іншая магчымасць Грамадская тканка засвойвае вытворныя навукі са спазненнем, толькі нядаўна пранiклі ў яе панятк і уяўленне, народжаныя навукай XIX стагоддзя, але сапраўды новы вобраз свету, што нясмела вырысоўваецца ў навуцы, той, у якім цудоўнае мае сваё паўнапраўнае месца, яшчэ не здолеў распаўсюдзіцца

Калі так ёсць, то XX стагоддзе — гэта чысцец, у якім уяўленне мусіць абыходзіцца без палёгак, што дагэтуль задавальнялі адну з важных патрэбаў чалавечага сэрца — патрэбу апекі Існаванне паўстае як аддадзенае неабходнасці і выпадку, без Божай інтэрвенцыі, якая яшчэ да нядаўняга часу прыходзіла з дапамогай пабожным валадарам і прыносіла кару валадарам няправедным, без гарантыяў, што прадстаўляла ідэя Прагрэсу, які быў секулярызаванаю Найвышэйшаю сілай Паэты, заўжды схільныя, з прыроды свайго мастацтва, да пахвалы і ганьбавання, спыняюцца перад механізмам, які зазнае дзеянне сляпых сілаў, і змушаныя сваё "так" або "не" падвешваць у пустцы.

Дык жа нічога дзіўнага, што некаторыя шукаюць праваднікоў, думанне якіх было б у маштабе вялікай рэдукцыі, але якія разам з тым ахвяравалі б новае адкрыццё і новую надзею. Нашае стагоддзе нарадзіла некалькіх выдатных мысляроў, значэнне якіх расце з кожнаю дэкадай, і, называючы тут аднаго з іх, Сімону Вайль паддаюся спакусе аўтабіяграфізму, хаця я ў сваім стаўленні да гэтай пісьменніцы не адзіны

"Бог даверыў усе з'явішчы без вынятку механізму свету" "Неабходнасць ёсць заслонай Бога" Гэта Сімона Вайль. Дэтэрмінізм яна расцягвала на ўсе з'явішчы, таксама й псіхалагічныя Гэта быў абсяг таго, што яна называла La Pesanteur (сіла прыцягнення) Разам з тым верыла, што той, хто просіць хлеба, не атрымае камянёў, бо існуе яшчэ абсяг — Ласка Раўналежнае існаванне гэтых двух абсягаў вядзе ў самую сутнасць яе філасофіі, якая ўзаконьвае супярэчнасць там, дзе немагчымае ніякае развязанне, узаконьвае супярэчнасць, якая ўзнікае паміж неабходнасцю і Божай інтэрвенцыяй, а таксама апекай Аднак таму, што я займаюся цяпер лёсамі паэзіі, хацеў бы прыпомніць тэкст Сімоны Вайль, які адносіцца непасрэдна да літаратуры Гэта ліст у рэдакцыю часопіса "Cahiers du Sud", напісаны, як здаецца, летам 1942 года, значыць, пад ураджаннем падзення Францыі (апублікаваны ў памянёным часопісе толькі ў 1951 годзе)

"На маю думку, пісьменнікі перыяду, які закончыўся, адказныя за няшчасці нашага часу Тут маю на ўвазе не толькі паразу Францыі Няшчасці нашага часу распасціраюцца нашмат далей. Закрануты імі ўвесь свет, то бок Еўропа, Амерыка і іншыя кантыненты у той меры, у якой паддаліся заходнім уплывам ( )

Асноўная асаблівасць першай паловы XX стагоддзя — гэта аслабленне і амаль знікненне панятку каштоўнасці. Гэта адно з тых рэдкіх з'явішчаў, якія сапраўды здаюцца навіной у гісторыі людскога роду. Натуральна, такое з'явішча магло існаваць у перыяды, якія пасля ўпалі ў забыццё, што, мабыць, напаткае і нашую эпоху Гэтае з'явішча праявілася ў розных абсягах, чужых літаратуры, нават ува ўсіх абсягах Яго можна назіраць у прамысловай прадукцыі, дзе якасць замененая колькасцю, у страце сярод работнікаў павагі да кваліфікаванай працы, у замене агульнай культуры дыпломамі, як гэта відаць у студэнтаў Нават навука не мае ўжо крытэрыя каштоўнасці з той пары, як скончылася класічная навука І толькі пісьменнікі былі, з прыроды сваёй прафесіі, захавальнікамі страчанага сёння скарбу, але цяпер некаторыя з іх пра гэтую страту выказваюцца з гордасцю"

Я ўсведамляю сабе, што цытаванне Сімоны Вайль небяспечнае Яе думка цаляе ў звычайнае, якое прызнанае нечым найзвычайнейшым, і паняткі, якія яна ахвотна ўжывае — "дабро" і "ліха", могуць лёгка наклікаць на цытавальніка ўпіканне ў рэакцыйнасці. Тым больш, што дадаізм і сюррэалізм, кірункі якія асабліва высока каціруюцца ў мастацкай хроніцы нашага стагоддзя, Сімона Вайль памяшчае сярод чыннікаў, адказных за разлажэнне духу Францыі, што можа многіх абурыць

"Дадаізм, сюррэалізм — гэта крайнія выпадкі Яны выражаюцца нястрымнасцю поўнага самавольства, нястрымнасцю, у якую ўпадае розум, калі, адкідаючы ўсякі клопат пра каштоўнасць, цалкам аддаецца таму, што беспасярэдне дадзенае Дабро — гэта скрань, што непазбежна прыцягвае чалавечы розум, не толькі ў дзеянні, але й пры кожным высілку, уключаючы й высілак чыстай інтэлігенцыі Сюррэалісты далі мадэль неарыентаванай думкі, выбралі як найвышэйшую каштоўнасць супольную адсутнасць каштоўнасці Самавольства заўсёды прываблівала людзей, і таму цягам гісторыі рабаваліся гарады Але рабаванне гарадоў не заўсёды мела адпаведнік у літаратуры. Сюррэалізм ёсць такім адпаведнікам"

Я ўжо чую голас, што гэта параза Францыі вырвала з вуснаў Сімоны Вайль такія горкія вінавачанні. Зважайма аднак, што параза тая была класічным выпадкам аслаблення волі супраціўлення таталітарызму з боку дэмакратыі і што дадаісты і сэррэалісты мелі да дэмакратыі толькі пагарду, у чым, зрэшты, былі годнымі наступнікамі багемы Хто ведае. ці адхіленне "сапраўднага свету", што, паводле Ніцшэ, магло быць пачаткам "боскага спосабу мыслення", не пацягне за сабою, ускосна, сур'ёзных палітычных наступстваў, хоць наступствы тыя могуць паяўляцца ў розных сітуацыях, неабавязкова ў такіх, як у Францыі падчас II сусветнай вайны Апрача часовага значэння крытыкі сюррэалізму, прадыктаванай, мабыць, гаркотаю паразы, мы мусім прачытаць у Сімоны Вайль найбольш актуальны сёння змест, асабліва ў наступным абзацы яе ліста.

"Іншыя пісьменнікі гэтага самага перыяду і перыяду, які яму папярэднічаў, не ішлі так далёка, але ўсе яны, з трыма ці, мабыць, чатырма выняткамі, былі пазначаныя той





самай нястачай, нястачай пачуцця каштоўнасці Такія словы як спантаннасць, адкрытасць, самаадвольнасць, багацце, узбагачэнне, словы, якія прадугледжваюць амаль поўную абыякавасць да проціпастаўлення каштоўнасцяў, паяўляліся часцей пад іхнім пяром, чым словы, якія адносяцца да дабра і ліха. Зрэшты, гэты апошні тып словаў зазнаў дэградацыю, асабліва тыя словы, якія адносяцца да дабра, як гэта некалькі гадоў таму заўважыў Валеры"

Сімона Вайль была адважнаю. Калі нешта лічыла за праўду, гаварыла гэта, не задумваючыся, ці паставіць сябе пад крытыку побач з кансерватарамі і з рэакцыянерамі, бо якраз яны ў нашым стагоддзі застаюцца ар'ергардам, што абараняе сістэмы каштоўнасцяў Сённяшні паэт, які падпадае пад розныя прафесійныя рытуалы, занадта засаромлены, каб адважыцца на гэткую шчырасць Чаго ён саромеецца? Дзіцяці ў сабе, якое, мабыць, хоча, каб Зямля была плоскаю, замкнёнаю купалам неба і каб існавалі пары ясна абрысаваных проціглегласцяў· праўды і маны, дабра і ліха, красы і брыдкасці На жаль, яго навучылі ў школе, што гэта наіўны вобраз свету, які належыць мінуўшчыне Адсюль узнікаюць розныя абаронныя тактыкі, каб арганізаваць сваю ўласную суб'ектыўную прастору..

Гэтая мая ацэнка выглядае фаталістычнаю, і таму я адчуваю дакоры сумлення, бо маю ў сабе шмат надзеі і павінен усё ж неяк яе паказаць. Па-першае, паэзія, без сумневу, ёсць жарстліваю пагоняй за Рэчаіснасцю, і ніякая навука, і ніякая філасофія не змогуць змяніць факта, што паэт стаіць перад рэчаіснасцю, штодзень новай, складанай, невычарпальнай, і спрабуе як мага больш з яе выкласці ў словах. Гэты факт элементарны, правяраецца пры дапамозе пяці пачуццяў, ён важнейшы за якія-колечы разумовыя канструкцыі. У ніколі не спраўджаным жаданні mimesis, то бо вернасці дэталі, ёсць здароўе паэзіі і шанец, што ператрывае яна неспрыяльныя перыяды Сам акт называння рэчаў залучае ў сабе веру ў іхняе існаванне, значыць, у сапраўдны свет, што б ні сказаў пра гэта Ніцшэ Відавочна, ёсць паэты, якія словы адносяць да словаў, а не да іхніх першаўзораў у рэчах, але мастацкая гульня тых паэтаў сведчыць пра тое, што ідуць яны супраць нязменнага правіла паэзіі

Па-другое, рух, які нас нясе, настолькі ж нішчыць, наколькі рыхтуе сродкі супраць знішчэння Дарэмныя мроі пра зямлю, з якой былі б выгнаныя навука і тэхніка. Якраз наадварот, толькі далейшае развіццё навукі і тэхнікі можа прадухіліць забруднение натуральнага асяроддзя і выратаваць ад голаду насельнікаў планеты Падобна і з вульгарызаваным навуковым светапоглядам, прышчапленнем якога займаецца школа. Аналогія тут няпоўная, бо непараўнаўча цяжэй уявіць сабе засцерагальныя захады супраць паўсюднага сёння спосабу думання, чым ахоўныя захады супраць забруднення рэк і азёраў Аднак ёсць знакі, якія дазваляюць спадзявацца на грунтоўную перамену ў самой крыніцы, гэта значыць, што тэхнічная цывілізацыя пачне глядзець на рэчаіснасць, як на люстраны лабірынт, не менш магічны за той, які бачылі алхімікі і паэты Гэта была б перамога Уільяма Блейка і ягоных "Боскіх мастацтваў уяўлення", але таксама й трыумф у паэту дзіцяці, надта доўга муштраванага дарослымі

**Пераклаў**
**Юрась БУШЛЯКОЎ.**

*** У навучальным годзе 1981/1982 Чэслаў Мілаш быў запрошаны універсітэтам Гарварда прачытаць на кафедры паэзіі (Charles Eliot Norton chair of Poetry) шэсць лекцый.**

**Паэт падрыхтаваў для сваіх слухачоў наступныя тэмы:**

**I. Пачынаючы ад маёй Еўропы**
**II. Паэты і сям'я людзей**
**III. Лекцыя біялогіі**
**IV. Спрэчка з класіцызмам**
**V. Руіны і паэзія**
**VI. Пра надзею**

**У Польшчы лекцыі Ч. Мілаша былі выдадзены ў 1990 г. асобнай кнігай пад загалоўкам: Świadectwo poezji. Sześć wykładów o dotkliwościach naszego wieku**

**Невялікія скарачэнні, пазначаныя дужкамі, зроблены перакладчыкамі.**

# ЗНАКІ НАДЫХОДЗЯЧЫХ ЧАСОЎ

*З Чэславам МІЛАШАМ гутарыць Павел ЛІСІЦКІ*

**Павел Лісіцкі.** У вашых выказваннях часам з'яўляюцца супярэчлівасці, якія датычаць месца чалавека ў грамадстве і значэння чалавечай натуры. З аднаго боку, Вы залічаеце сябе да левай традыцыі, а з другога, Вы гаворыце аб сваім недаверы да чалавека і таксама да чалавечай натуры. Але якраз левае мысленне схільнае да пераацэнкі вартасці чалавечай істоты і да веры ў нашы крэатыўныя магчымасці

**Чэслаў Мілаш.** Калі я адказваю на такое пытанне, я заўсёды адчуваю неадэкватнасць адказу і чаканняў, паколькі я даю адно часовы адказ Грунтоўны адказ мусіў бы сягаць да глыбокіх пачуццёвых суплётаў, якія і я сам магу толькі старацца разблытаць у сваёй творчасці Як вядома аднак, ёсць рэчы, якія выходзяць за ўзровень размовы Нават калі гэта найбольш інтэлігентная размова. Зрэшты, я заўсёды прызнаваўся ў супярэчлівасці і сам хацеў бы разумець гэтыя супярэчнасці Але, мабыць, для гэтага недастаткова нават эсэістыкі

Апрача гэтага, я мушу зрабіць пэўнае прызнанне Дык вось, я сам дзівуюся супярэчнасцям ува мне Можа дзякуючы гэтаму выяўляецца тое, што датычыць увогуле чалавека, а менавіта, што раз ён бывае дурнаватым, а раз мудрым. У адну часіну я мудры, а ў іншую дурны. Гэтае пачуццё змяняецца ў залежнасці ад асяроддзя, ад пачуццёвых рэакцый, якія глыбейшыя, чым нашы рацыянальныя меркаванні

**П.Л**. Пойдзем далей распачатым шляхам. З аднаго боку, вы крытыкуеце польскі касцёл за традыцыяналізм, а з другога боку, падкрэсліваеце сваю прыхільнасць да традыцыяналізму ў літургіі, да пэўных старых узораў Як суаднесці гэтыя пазіцыі паміж сабой?

**Ч.М.** Гэта, пэўна, сведчыць аб глыбокай кансерватыўнасці маёй натуры Гэты кансерватызм набывае розныя формы. Напрыклад, такая дробязь, як купля новай кашулі, купля пінжака або ботаў ствараюць пасля для мяне цэлыя праблемы прысваення сабе гэтых рэчаў Тое, што новае, падаецца мне невыгодным Таму ў глыбіні я на самай справе такі шляхцюк, які сядзіць недзе вельмі далёка ад чыгуначнай станцыі, і традыцыяналіст Але вельмі часта бывае так, што мінаюць гады і ўся мая тая кансерватыўная пазіцыя аказваецца правільнай, спраўджваецца.

Што да прыхільнасці да традыцыйнай літургіі, то я ўжо ў інтэрв'ю для "Tygodnika Powszechnego" гаварыў, што нядаўна быў на імшы, адпраўленай па-лацінску Гэта была традыцыянальная імша, г.зн ксёндз стаяў тылам да вернікаў І дарма што я дагэтуль з'яўляюся прыхільнікам лаціны ў літургіі, мармытанне святара, які стаяў тылам да вернікаў, было для мяне тым, што вельмі цяжка прыняць. Хаця, пастава святара тылам да вернікаў і тварам да аўтара падаецца мне глыбока абгрунтаванай Таму, што гэта правадыр хору, які ад імя ўсіх звяртаецца да Бога А святар, звернуты тварам да вернікаў, пакліканы паказваць існаванне супольнасці Гэтая супольнаснасць (togetherness) шмат каго раздражняе ў Амерыцы Ёсць там такое новаўвядзенне

Вы спыталіся тут у мяне пра супярэчлівасць Так, я напісаў, што можа лепей было б, каб польскі касцёл захоўваў літургію і займаўся ёй больш, чым прапагандай, скіраванай супраць ужывання кантрацэптыўных сродкаў У гэтай справе, як вядома, маральная тэалогія падзялілася Існуе кніга прафесара Нуны, які з'яўляецца адным з найбольшых спецыялістаў кананічнага права і выкладае ў нас у Бэрклі, кніга пад назвай "Contraception" Гэтая кніга не выдавалася па-польску, не ведаю, ці з прычыны вялізнага памеру, ці далікатнасці тэмы Нуна, безумоўна, не ліберальны каталік, яго хутчэй можна акрэсліць як кансерватара Гэта цікавая кніга, паколькі яна паказвае, якім чынам мэтай шлюбу было прызнана першастварэнне Першапачаткова гэта было выклікана хрысціянскай рэакцыяй на вельмі магутныя маніхейскія тэндэнцыі Варта памятаць, што для маніхейцаў першастварэнне было злом А ў сучасныя часы, у XX стагоддзі ўся контраверсія, якая датычыла мэты шлюбу і мэты сексуальнага акта, ужо даўно страціла значэнне Бальшыня спецыяльнай царкоўнай камісіі, створанай з мэтай вызначэння таго, што згодна з каталіцызмам уяўляе сабой мэту шлюбу, прызнала: мэтай не з'яўляецца толькі першастварэнне Іншай не менш важнай мэтай ёсць любоў, умацаванне любові паміж сужэнцамі. Такая пазіцыя была ў пэўным сэнсе апраўданнем ужывання кантрацэптыўных сродкаў Павел VI адкінуў такую пастанову камісіі і з той пары пануе — назавём гэта так — старасвецкая пазіцыя.

**П.Л.** Вы сказалі, што царква павінна займацца кансервацыяй літургіі і традыцыі Аднак для шматлікіх сучасных хрысціянскіх мысляроў адным спосабам уратавання хрысціянства якраз і ёсць адмаўленне ад традыцыйных тэалагічных і літургічных формулаў Напрыклад, на думку Тыліха або Бонгёфэра, чалавек XX стагоддзя — гэта даспелы чалавек. І таму ён не патрабуе падпорак для веры, якія былі неабходныя яго папярэдніку ў ранейшыя вякі На думку гэтых тэолагаў, для сучаснага чалавека няма вяртання да мінуўшчыны, да ўспадкаванай тэалогіі і заснаванай на ёй літургіі

**Ч.М.** Тут неабходна разрозніць тэалогію і літургію Вы спасláліся на пратэстанцкіх тэолагаў, але яны папросту не маюць літургіі Ці тэалогія выражаецца ў літургіі — гэта значыць па сутнасці тэалогія Святой Тройцы і боскасці Ісуса — ці яна можа быць адмоўлена, таму што чалавек змяніўся? Вельмі сумнеўна Але, натуральна, мова тэалогіі мусіць змяняцца Як? Не ведаю Гэта несупыннае блуканне навобмацак З часу Сабора вядуцца несупынныя пошукі Я некалі быў у кляштары Сан Бэнойт і спытаўся ў законніка, які займаецца навучаннем новых законнікаў, на якіх філосафах ён робіць акцэнт Ён адказаў: на Арыстоцелю і Хайдэгеру. Абнаўленне мовы тэалогіі — гэта справа, якая мяне асабіста глыбока кранае і цікавіць. Якраз ёй у вялікай ступені прысвечана перакладзеная мной кніга Оскара Мілаша "Storge" "Storge" азначае любоў да нашчадкаў, да дзяцей, да новых пакаленняў. У гэтай кнізе робіцца спроба прыстасавання тэалагічных паняццяў да новай карціны свету паводле новай пасляэнштэйнаўскай навукі Як гэта зрабіць? Не ведаю Я знайшоў тую самую думку ў ксяндза Гелера, які таксама пісаў у часопісе "Знак", што трэба ўзяць пад увагу змену касмалогіі, што тэалогія мусіць прыстасавацца да зменена касмалогіі. Адмаўленне ад канцэпцыі Ньютана выклікае велізарныя наступствы. Адмаўленне канцэпцыі Ньютана — гэта адмаўленне паняцця вечнай прасторы, у якой усё адбываецца і якая бясконца працяглая, і — часу як рэзервуара, які вечна доўжыцца ўперад і наадварот.

Уся сістэма, ці, — скажам так — канцэпцыя Оскара Мілаша заснавана на тым, што было зусім незразумела ў 1916—1924 гг., калі ён пісаў сваю кнігу. Але цяпер, калі атрымала вядомасць тэорыя Вялікага Выбуху, гэта стала відавочным Прастора і час не існавалі, пакуль не было сусвету

**П.Л.** Ваш сталы прытулак у Злучаных Штатах, у Каліфорніі, дзе змешваюцца паміж сабой розныя культурныя, рэлігійныя і цывілізацыйныя плыні Ці не ўзнікае ў Вас часам уражання, што Вы накшталт паганца, які жыве ў апошнія стагоддзі рымскай імперыі? Вы бачыце занепад старой рэлігіі, якая выцясняецца рознымі новымі плынямі і новымі багамі, напрыклад, рухам New Age, які імкліва развіваецца

**Ч.М.** Так, толькі я не лічу розныя рухі New Age сапраўдным прадвесцем новых часоў Я маю магутнае пачуццё заканчэння нечага, але ў гэтых рухах, дзе ўсё сплялося Political Corectness, гноза, усходнія містыцызмы, я бачу адно нешта накшталт храма Розэнкрэйцэраў у Сан-Хасэ ў Каліфорніі, які з'яўляецца пародыяй так званай таемнай веды Вяртаючыся да пытання — я гляджу на ўсё гэта, паціскаючы плячыма Але я заўважаю сапраўдныя знакі надыходзячых часоў, якія ўсё ж такі існуюць.

**П.Л.** А якія гэта знакі?

**Ч.М.** Мне здаецца, што гэта спробы апафатычнай тэалогіі, якія ў чымсьці апелююць да майстра Экгарта, спробы дыялога паміж будызмам і хрысціянствам і, мабыць, найбольш важнае, — гэта доследы, здзейсненыя ў паэзіі У паэзіі XX стагоддзя, якая наогул у сваёй вялізнай масе поўніцца нонсенсам, што выяўляе разнастайныя паэтычныя рухі. Асобная справа — гэта колькасць Колькасць паэтаў, колькасць раманістаў У Польшчы можна налічыць страшэнную колькасць людзей, якія пішуць вершы. Да таго ж дысцыпліна пісання вершаў, як дысцыпліна правільнага малюнка ў жывапісе, знікла, і людзям падаецца, што гэта вельмі лёгка. Нягледзячы на ўсю гэту масу, існуюць, аднак, вельмі

грунтоўныя пошукі. Паэзія як пошук. Гэта нешта іншае, чым шуканне выйсця, шуканне ратунку пры замене рэлігіі культам мастацтва. Мне здаецца, што мой калега Іосіф Бродскі такім чынам і прыхінуўся да культу мастацтва, вартасці слова. Хаця ён і не зусім ХІХ-стагодні ў гэтым сэнсе. Можа быць, на яго тут мае ўплыў расійская традыцыя, надзвычайны культ слова ў Расіі

Пошук, аб якім я гавару, лепей, аднак, будзе паказаць на прыкладзе іншага паэта. Я нядаўна быў на прадстаўленні "Бясплоднай зямлі" ў Кракаве, у маім перакладзе і ў выкананні вучняў Штура. Гэта вельмі мяне закранула Гэта было двухмоўнае прадстаўленне. Са здзіўленнем я пераканаўся, што мой пераклад, зроблены ў 1944 годзе, добры Я ўспрымаю "Бясплодную зямлю" як класічны твор XX стагоддзя Таму я мяркую, што тут пачынаецца гэты пошук і доўжыцца ён усё наша стагоддзе. Ён штосьці прадвяшчае Калі мы возьмем польскую паэзію XX стагоддзя, то заўважым, што атэізм або агнастыцызм прасякнуў яе значна больш і сягае глыбей як рэлігійна, так і метафізічна — чым вершы каталіцкіх паэтаў Мне здаецца, што з гэтага пункту гледжання Ружэвіч вельмі дакладны, калі кажа "Жыццё без бога магчыма, жыццё без Бога немагчыма" Тое самае і Ганна Сьвіршчыньска, якая перакладае на ангельскую мову У нявыдадзеным папольску пасляслоўі да ангельскага выдання яе вершаў я задумаўся над метафізічным словам паэткі, якая была атэісткай, і нават матэрыялісткай

Што цікава, значная частка амерыканскай паэзіі — будысцкая Гэта азначае, што колькасць будыстаў або навернутых у будызм сярод паэтаў досыць значная

**П.Л.** За адзін са знакаў цяперашніх часоў вы палічылі дыялог хрысціянства і будызму Што будызм можа ахвяраваць хрысціянству? Што Усход можа ахвяраваць хрысціянству? Калі — як Вы кажаце — значная частка амерыканскіх паэтаў — будысты, то з гэтага вынікае, што будызм лепш адпавядае іх ментальнасці, чым хрысціянства Чаму?

**Ч.М.** Як я ўжо казаў, я адрозніваю ў New Age разнастайныя нонсенсы ад спаважных справаў. Уплывы будызму ў Амерыцы маюць таксама літаратурны аспект. Амерыканская паэзія з пачатку стагоддзя, з Эзры Паўнда, які першы перакладаў кітайскіх паэтаў, захоплена паэзіяй далёкага Усходу Яна мае шмат добрых перакладчыкаў і таму можа аказваць моцны ўплыў Я мяркую, што гэта наогул звязана са "змяншэннем" планеты і з немінучым спатканнем разнастайных цывілізацый

Апрача таго, будызм не ўступае ў супярэчнасць з навуковым светапоглядам, нават традыцыйным. Прычына ў тым, што будызм — гэта атэістычная рэлігія. Буда ніколі не даваў адказаў на пытанні, якія б датычылі боства, стварэння свету і г.д. Наўмысна не даў ніводнага адказу. І якраз тое, што ў будызме не існуе паняцця асобавага Бога, падаецца мне найбольш выдатным Гэта азначае, што можна мець навуковы светапогляд і адначасна быць будыстам. Гэта па сутнасці рэлігія для навукоўцаў, якія сёння ўяўляюць вялікую сілу Сёння ніводны чалавек не можа пазбегчы навуковага светапогляду, бо ён гартуецца не пры дапамозе паняццяў, а пры дапамозе ўсёй нашай сістэмы адукацыі, усяго нашага стаўлення да свету, сфармаванага тэхнікай, якая ёсць плёнам гэтага светапогляду Я маю якраз гэта на ўвазе, калі кажу аб эрозіі рэлігійных уяўленняў

**П.Л.** А што хрысціянства можа атрымаць ад дыялога з будызмам?

**Ч.М.** Калі я выкладаў ва універсітэце ў Бэрклі і казаў пра дабро і зло, і што я рэакцыянер, бо веру, што паміж імі існуе розніца, то мае студэнты смяяліся Відавочна, што для іх паняцце зла і паняцце граху — нейкая абстракцыя. Калі, аднак, я гавару аб цярпенні, то яны вельмі адкрытыя. Значыць, катэгорыя цярпення, якая вельмі моцная ў будызме, трапіла ў свядомасць сённяшніх людзей Тут бы я хацеў згадаць аб яшчэ адным элеменце, які таксама прысутнічае ў будызме У каталіцызме існавала паняцце чалавека, зрэшты, дасканала абгрунтаванае ў Бібліі, які ўжо ў раі рабіў агляд відаў жывёл, называў іх і г.д. Такім чынам выражалася прынцыповае адасабленне чалавека ад прыроды Для Картэзія жывёлы былі жывымі машынамі Сёння, у XX стагоддзі, адбылася велізарная рэвалюцыя Магчыма, яна распачалася ў XIX стагоддзі, калі з'явіўся дарвінізм, тэорыя эвалюцыі Раптам мяжа паміж чалавекам і іншымі жывымі істотамі была пераадоленая У каталіцызме жывёлы не мелі неўміручай душы. Але ў будызме сувязь цярпення ў людзей і жывёл была вельмі моцная

Буда хацеў выбавіць чалавека з інфернальнага кола цярпенняў, вырваўшы яго адтуль. Тэалогія не дае ніводнага вырашэння гэтай дылемы, каталіцкая тэалогія стаіць тут перад своеасаблівай сцяной Яна не можа атрымаць вырашэння праблемы цярпення ўсяго, што жывое У сучаснай паэзіі я назіраю пошук іншага выйсця ў параўнанні з тым, якое замацавала падзел на смяротныя і несмяротныя істоты Мы, людзі, з'яўляемся свядомасцю Мы маем свядомасць — у адваротнасць ад усёй несвядомай прыроды Ёсць такі верш Шымборскай, які я выкарыстаў на семінары са старшымі студэнтамі англістыкі ў Бэрклі, дзе яна кажа аб "чыстым сумленні піранні" Мяне гэта вельмі зацікавіла як спроба новага ўстанаўлення мяжы паміж жывымі істотамі. Гэта, аднак, не дае канчатковага вырашэння праблемы цярпення

**П.Л.** Ці не з'яўляецца ў пэўнай меры хрысціянскім адказам на пытанне пра цярпенне ўсіх жывых істот паняцце apokatástasis, адраджэння ўсяго?

**Ч.М.** Так, гэта спроба адшукаць выйсце Для ўсяго майго разумовага жыцця вырашальнае значэнне мела біялогія, урокі біялогіі ў школе Магчыма, таму я так моцна адчуваю некаторыя вершы Шымборскай, што ў іх гэтулькі развагаў над біялогіяй Справа цярпення ў прыродзе была ключавой для маіх маніхейскіх схільнасцяў Адсюль мне вельмі блізкая канцэпцыя Оскара Мілаша, для якога — як відаць у "Stroge" — акт стварэння раўназначны з укрыжаваннем. Свет як цярпенне Бога.

Вы спыталі мяне пра apokatástasis Можна і ў гэтым шукаць уцехі Але як сабе гэта можна ўявіць, я не ведаю.

**П.Л.** Для Дантэ, Мільтана або Сведэнборга сфера тагабочнага свету была нечым рэальным Яны пранікалі ў яе сваёй фантазіяй і апісвалі яе так, нібы яны апісвалі любую іншую рэальнасць.

**Ч.М.** Сведэнборг бачыў гэтыя светы, як ён сцвярджае Таму гэта не было ўяўлена, але ўбачана Пад вялікім уражаннем ад твораў Сведэнборга быў Оскар Мілаш Надзвычай цікавымі з'яўляюцца тыя маргіналіі, якія Оскар Мілаш рабіў на палях яго твораў на некалькіх мовах, па-французску, паангельску, па-польску Ён вельмі шмат браў ад Сведэнборга Для яго гэта быў выхад з цяжкасцяў, якія палягаў у стварэнні нематэрыяльнай матэрыі

Далей вяртаюся да Вашага пытання. зусім інакш было ў Дантэ Касмалогія Дантэ была такой, што выправа ў пекла ўяўлялася нечым вельмі рэальным, так што ў выпадку неабходнасці сваіх ворагаў можна было змясціць у пекле Прычым мяне найбольш уразіла, і я ўжо аб гэтым пісаў ненатуральнае спалучэнне старажытнай міфалогіі, тагачаснай касмалогіі і хрысціянства. Прынята лічыць, што Дантэ — гэта сярэднявечны паэт Наколькі ж моцнымі былі гэтыя элементы старажытнасці ў сярэднявеччы, калі ў такім хрысціянскім творы, як "Боская камедыя", Адысей з'яўляецца рэальнай постаццю! Адысей быў змешчаны ў пекле таму, што Дантэ ганарыўся сваім рымскім паходжаннем, а Адысей вынайшаў траянскага каня, дзякуючы чаму была знішчана Троя, паводле "Энеіды", папярэдніца Рыма. Далёкасяжная помста

**П.Л.** Вы, аднак, у сваіх вершах таксама пішыце аб тагабочных светах. Ці рэальныя яны для Вас?

**Ч.М.** Найлепш будзе ўстрымацца ад адказу на гэтае пытанне Паколькі, і я мушу вельмі выразна гэта падкрэсліць, фантазія наша, усіх нас, сучасных людзей, якія вераць і не вераць, — аднолькавая У гэтым і палягае ўся цяжкасць. Таму што ў момант, калі знік верх і ніз, калі знікла неба і пекла, у сапраўднасці ўсё разбурылася У гэтым і палягае дослед, здзейснены сённяшняй паэзіяй Якраз той атэістычнай або агнастычнай Гэты дослед сфармаваны не толькі людзьмі, якія, як гаворыцца, не вераць, і чужы тым, хто верыць, але гэта супольны дослед, які можна падагульніць у выразе Ружэвіча "Жыццё без бога магчыма, жыццё без Бога немагчыма" Таму існуе вымярэнне, скажам так, вымярэнне фантазіі, іншае чым фармулёўкі expliicite нават для чалавека, які глыбока верыць.

**П.Л.** Вы сказалі, што манера Вашага мыслення была сфармавана пад уплывам уражанняў ад цярпення, прыроды З другога боку, у шмат якіх вашых вершах навідавоку замілаванне Як гэта спалучаецца замілаванне да свету, асуджанага на цярпенне?

**Ч.М.** Баюся, што ў межах гэтай размовы я не дам здавальняючага адказу Трэба прызнацца ў супярэчнасці. Некалькі разоў я нават вызначаў сябе як экстатычнага песіміста. Сімона Вайль, якая вельмі глыбока займалася праблемай цярпення, сказала, што прырода поўніцца болем і бязлітаснасцю,

але з'яўляецца вельмі нявіннай. На ўзроўні якраз гэтага дыскурсу можна сказаць, ідучы за Сімонай Вайль, што перш-наперш існуе прырода, якая абсалютна нявінная, вышэй існуем мы, гэта значыць, чалавечыя істоты, дзе змешана жывёльнасць, прырода, свядомасць і думка, а вышэй ідуць істоты, якія з'яўляюцца чыстай думкай, гэта значыць, анёлы. Для Сімоны Вайль прырода была невымоўна бязлітаснай і асуджаная на сляпы дэтэрмінізм Зрэшты, Сімона Вайль ішла ў дэтэрмінізме вельмі далёка, далей, чым сучасная фізіка зычыла б сабе. У ёй ёсць нешта ад Спінозы. Але тая прырода, якая бязлітасная, адначасна невымоўна харошая. Для Сімоны Вайль харашыня была надзвычай важнай катэгорыяй.

Мае заняткі Сімонай Вайль былі данінай, сплачанай Калібанам эфемернай істоце, з якой бы я, відаць, не вытрымаў нават паўгадзіны Яна была дэтэрміністкай, гэта значыць, што для яе свет падлягаў уладзе Князя гэтага свету Чаму Князь гэтага свету ёсць валадаром неабходнасці, валадаром ланцуга прычын і наступстваў? Гэта нешта надзвычай маніхейскае Але гэта, безумоўна, вынікае са спачування Для Сімоны Вайль адным вызваленнем з гэтага ланцуга, у якім адны жывёлы жаруць іншых, была ласка Або гарчычнае зерне дабра ў гэтым сляпым свеце Панясце д'ябла, або Князя гэтага свету, тут, аднак, вельмі істотнае

Я тут паслугуюся, як вы бачыце, не вельмі шляхотным прыёмам. Бо замест таго, каб гаварыць, аб сабе, я спасылаюся на прачытанае Так часта здараецца, што мы адыходзім ад адказу і спасылаемся на нейкага філосафа.

**П.Л.** Але хто тады Бог, калі ён не можа быць Празорнасцю, бо прырода не была ахоплена яго ўладай?

**Ч.М.** У Вайль няма пераадолення гэтай супярэчнасці, і яна сама гэта падкрэслівае. Таму, што трэба думаць аб свеце як аб асуджаным на сляпую неабходнасць і адначасна бачыць у ім Празорнасць. На платонаўскі капыл яна інтэрпрэтавала яе як інтэрвенцыю той сілы, якая незразумелым чынам патрапляе дзейнічаць са свайго трона Так, што ў яе выпадак, неабходнасць і інтэрвенцыя Празорнасці стаяць не як супярэчнасці, а вертыкальна, адначасна Яны не ўзаемадзейнічаюць.

**П.Л.** У шматлікіх эсэ Вы крытыкуеце заходнюю цывілізацыю Калі нешта крытыкуецца, то належыць мець пэўную мадэль, дзякуючы якой крытыка становіцца карэктнай Чым павінен быць такі ўзор, лепшы за прапанаваны Захадам?

**Ч.М.** Я магу тут сказаць тое, аб чым я ніколі, па сутнасці, не гаварыў і амаль не пісаў. Я, безумоўна, меў левыя погляды, бо гэта было вельмі эмацыйна падчас маіх студэнцкіх гадоў у Вільні Гэта факт, што сацыялістычныя інстынкты былі ўва мне моцныя, аднак перад вайной мяне ахапілі жудасныя супярэчнасці. Я ўжо сёе-тое ведаў аб савецкім камунізме і ведаў больш, чым мае калегі. Але левыя схільнасці былі ўва мне моцнымі і я несупынна шукаў нейкай "новай зямлі і новага неба" Я з агідай ставіўся як да капіталізму, так і да савецкай сістэмы. У 40-я гады, ужо пасля вайны, калі я апынуўся ў Вашынгтоне, я ўсведамляў, што служу гэтай д'ябальскай і жудаснай сістэме, але адначасна думка аб тым, каб жыць у Амерыцы, была для мяне нязноснай Што б я рабіў? Само фізіялагічнае жыццё не здавалася мне каштоўным і дастатковым. І тады я нейкі час песціў намер эмігрыраваць у Прыма Вэра Прыма Вэра была камунай, калектывам гутэрытаў у Парагваі, і, такім чынам, хрысціянскай сектай, якая мела старыя традыцыі Сучасныя гутэрыты распачалі дзейнасць у Вроцлаве ў 20-я гады. Секта пры гэтым падкрэслівала пераемнасць са старымі гутэрытамі Творцам секты быў у XVI стагоддзі нейкі Гутэр, які быў як ерэтык спалены ў Цыролі. Гутэрыты абвяшчалі вяртанне да прынцыпаў першапачатковай хрысціянскай грамады Спачатку яны мелі свае структуры ў Нямеччыне, але потым, праследаваныя Гітлерам, уцяклі на Захад. Пасля шматлікіх прыгодаў яны адчынілі вялікую камуну ў Прыма Вэра. Гэта быў для мяне шанец на ўцёкі і ад камунізму, і ад сацыялізму

**П.Л.** Чаму Вы ўрэшце не наважыліся?

**Ч.М.** Я б сам урэшце наважыўся, але мая жонка паставілася да гэтай задумы абсалютна скептычна Яна была цвярозай і іранічнай, і таму гэта не ўдалося. У любым выпадку, гэта больш-менш дае ўяўленне аб маім стаўленні да Захаду. Я жыву на Захадзе, ставячыся да яго амаль як да дома вар'ятаў

**Пераклаў**
**Валерка БУЛГАКАЎ.**



# Кастусь ЕЗАВІТАЎ | НАШ



*Пасьля таго, як існаваньне аснаўных беларускіх школ у Латвіі было забясьпечана, у Т-ве паднялося пытаньне аб далейшай асьвеце для беларускага жыхарства.*

## *Пра Кастуся Езавітава*

**Аб'ём жыцця Канстанціна Барысавіча Езавітава стаўся акрэсленым дзвюма крэпасцямі. Нарадзіўся ён 17(5) лістапада 1893 года ў Дзвінскай фартэцыі, дзе ў пяхотным палку служыў яго бацька, палацкага паходжання. А загінуў, замучаны ці расстраляны, 23 траўня 1946 года ў менскай турме. Тытулаў у генерала Езавітава за апошні час з'явілася шмат: нацыяналіст, "отъявленный реакционер", "вядомы белагвардзеец", "палкоўнік-балаховец", "опасный военный преступник", "вораг народа", здраднік радзімы, агент НКВД пад мянушкай "Озал"...**

**На іншым полюсе досведу К. Езавітаў ацэньваецца як змагар беларускага нацыянальна-дзяржаўнага Адраджэння, дэмакратычны асветнік. На шляху да "Праўды Сьветлай" ён заслужыў і такія азначэнні: настаўнік, вучоны, вайсковы і палітычны дзеяч. Найлегендарнейшая для свайго часу асоба ў беларускай гісторыі сапраўды мае ў сваёй біяграфіі нямала "белых плям" Даследчыкі сыходзяцца на тым, што Езавітаў безумоўна чалавек таленавіты, шматгранны, складаны, супярэчлівы. Таму такая неардынарная постаць не можа быць ацэнена адназначна станоўча або толькі негатыўна, пакуль не**

**Кастусь ЕЗАВІТАЎ**



# БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРНА-АСЬВЕТНАЕ ТАВАРЫСТВА "БАЦЬКАЎШЧЫНА" Ў ЛАТВІІ

"Беларускае Культурна-Асьветнае Таварыства "Бацькаўшчына" у Латгаліі" закладзена было ў Дзьвінску 25 сакавіка 1921 году У гэты дзень група ініцыятараў сабралася на кватэры ў Яна Восіпавіча Харлапа для заслуханьня дакладу аўтара гэтых радкоў на тэму· — "Гісторыя беларускага адраджэнчага руху" Пасьля дакладу быў заслуханы прапануемы дакладчыкам праэкт статуту "Беларускага Культурна-Асьветнага Т-ва "Бацькаўшчына" у Латгаліі" і ўхвалена было падаць гэты статут на зацьверджаньне Падпісаць статут згадзіліся грамадзяне. 1) Канстантын Барысавіч Езавітаў, 2) Ян Восіпавіч Харлап, 3) Ян Максімавіч Белікаў, 4) Мікола Мітрафанавіч Хмялеўскі, 5) Вольга Аляксандраўна Васільева, 6) Пётра Пятровіч Дзяменьцеў, 7) Якаў Фёдаравіч Кастылюк, 8) Аўгіньня Фёдараўна Чапля і 9) Марыя Ільінішна Сасноўская Праз чатыры дні, 30-га сакавіка, першыя сямёра з вышэйпералічаных грамадзян падпісалі статут у нотара, а 6-га красавіка статут быў здадзены ў Латгальскі Акруговы Суд у Дзьвінску на зацьверджаньне

У працягу часу, пакуль статут праходзіў праз усе фармальнасьці рэгістрацыі, ініцыятыўная група распрацавала праэкт далейшае працы, намеціла склад часовага Цэнтральнага Праўленьня і першыя арганізацыйныя крокі яго Вось чаму, калі статут быў нарэшці зацьверджаны, праца Праўленьня пачала разьвівацца надзвычайна шпарка і прадукцыйна па раней распрацаванаму пляну

Праца Т-ва "Бацькаўшчына" ўлетку 1921 году разьвівалася, галоўным чынам, у трох аснаўных кірунках па-перш — у кірунку пашырэньня сваіх уплываў на беларускае грамадства ў Латвіі, шляхам стварэньня філіалаў Т-ва ў розных мясцовасьцях, каб аб'яднаць наўкола "Бацькаўшчыны" ўсе сьвядомыя беларускія сілы і праз іх згуртаваць і пастунова ўсьвядоміць усю беларускую меншасьць, па-другое — у кірунку інфармацыі латвійскага грамадзтва і Ураду аб становішчы беларускае меншасьці і яе культурна-асьветных патрэбах, а па-трэцяе — у кірунку арганізацыі беларускіх школ у Латвіі, найперш-жа ў беларускіх вёсках Латгаліі.

Трэба канстатаваць, што ва ўсіх трох пералічаных кірунках праца мела даволі задавальняючыя посьпехі. — У працягу лета 1921 году было закладзена некалькі аддзелаў Т-ва, з якіх галаўнейшымі былі: Люцынскі, Краслаўскі і Стара-Слабодзкі. Латвійскаму Ураду, Міністэрству Асьветы і Устаноўчаму Сойму Латвіі былі пададзены абшырныя мэморыялы аб агульным стане беларускага жыхарства, а мяйсцовым Латгальскім самаўрадам і інспэктаром народных школ у Латгаліі былі накіраваны мотываваныя заявы аб патрэбе стварэньня беларускіх школ у некаторых валасьцёх`і гарадох Латгальшчыны Каб падрыхтаваць з восені 1921—22 навучальнага году адкрыцьце беларускіх школ, Т-ва правяло рэгістрацыю настаўнікаў-беларусаў, якія скончылі расейскія вучыцельскія інстытуты, вучыцельскія сэмінарыі і восьмыя клясы жаночых гімназій, або вытрымалі адпаведныя испыты — у даваенныя часы ці пры Латвійскай уладзе — і ужо мелі права выкладаць у школе. Такіх настаўнікаў-беларусаў аказалася вельмі значная лічба у Дзьвіншчыне і ў Люцыншчыне і нават у самым м. Дзьвінску; шмат хто з іх меў ужо і пасады ў расейскіх і польскіх школах; і вось для іх, каб падрыхтаваць іх да працы ў беларускай школе, Т-ва пачало дамагацца ад Міністэрства Асьветы дазволу на стварэньне летніх курсаў Беларусазнаўства ў Дзьвінску і ў Люцыну

Захады Т-ва "Бацькаўшчына" аб курсах беларусазнаўства ў Дзьвінску закончыліся памысна 28 ліпеня 1921 году, на аснове паведамленьня Міністэрства Асьветы ад 27 ліпеня за № 3076, — у Дзьвінску былі адкрыты першыя летнія шасьцітыднёвыя курсы Беларусазнаўства для настаўнікаў-беларусаў Лектарамі на курсы былі прызначаны грамадзяне. К. Езавітаў і Ігнат Дварчанін, выпісаны з гэтаю мэтаю Т-вам з Вільні. Агульнае кіраўніцтва курсамі было ўскладзена на інспэктара аснаўных школ Дзьвіншчыны, гр. Луку Азоліня, які кіраваў гаспадарчаю часткаю і рабіў аплату лектароў з пераведзенай у яго распараджэньне кіраўніком школьнага дэпартаманту Міністэрства Асьветы, гр Мэлналкснісам, невялічкай дапамогі на беларускія курсы — здаецца ўсяго ў памеры 5000 рублёў.

Слухачамі на Дзьвінскія летнія курсы Беларусазнаўства запісаліся 73 асобы.

Умовы заняткаў на курсах былі даволі цяжкія — слухачы былі перагружаны працаю, бо адначасна з беларусазнаўствам слухалі і курсы латыскае мовы, якія адбываліся ў Дзьвінску для меншасьцёвых настаўнікаў, — але агульны настрой і ўздым большае часткі слухачоў быў надзвычайна высокі: яны з захопленьнем слухалі курс гісторыі Беларусі, гісторыі беларускае літаратуры, гісторыі беларускага адраджэньня, геаграфіі Беларусі і старанна падганялі і ўдасканалівалі веданьне беларускае мовы, аб граматыцы і слоўніку якой многія з курсантаў да паступленьня на курсы, нават, і ня ведалі

Курсы Беларусазнаўства закончылі сваю працу 31-га жніўня Тыя настаўнікі, якія акуратна адведвалі заняткі і выказалі задавальняючыя посьпехі ў праслуханым курсу, атрымалі пасьведчаньні за подпісам лектароў і загадчыка курсаў Пасьпяхова скончылі курсы 20 грамадзян

Шмат працы на гэтых першых курсах Беларусазнаўства ў Латгаліі прышлося

---

**развеюцца міфы і ідэалагічны туман. І, можа, прарочымі акажуцца словы Ларысы Геніюш, выказаныя "сябру К. Езавітаву да 50-годзьдзя":**

*Ня раз яшчэ будзеш дажынкі спраўляць.*
*Зь вянком і народнаю стужкай*
*Мы прыйдзем ня раз Змагара прывітаць*
*Ад вернай сям'і беларускай.*

**І ўсё ж вернемся да тых азначэнняў гэтай асобы, якія ўсімі бакамі ўспрымаюцца бясспрэчна. Кастусь Езавітаў быў паэтам, публіцыстам, перакладчыкам. Падпісваўся як Кастусёнак, М. Зінук, Прысутны, Кангрэсавец, К-нак, К.Е., К. Ез.**

**Ацэньваючы шматгранную спадчыну К. Езавітава, мы можам назваць яго не толькі разважным палітыкам, але і педагогам, рэдактарам, крытыкам, выдаўцом, вучонымдаследчыкам, арганізатарам-збіральнікам, бібліяфілам, музейнікам. А таксама энцыклапедыстам — згадаўшы хаця б "Беларускі біяграфічны слоўнік", над якім ён працаваў у апошнія гады жыцця ў Латвіі. Каштоўнымі даследаваннямі з'яўляюцца і такія кнігі К. Езавітава, як "Беларусы ў Літве", "Беларусы ў Латвіі", "Беларусь у мінулым і сучасным", "Становішча беларускае школы ў Латвіі", "Беларусы і палякі".. Засталася незакончанай праца "Беларусь ад Керанскага да Пілсуцкага". Шмат было ў К. Езавітава "летуценьняў аб нашай будучыне".**

**У дзяржаве, якую ён называў "Дэмакратычная Рэспубліка Латвія", Канстанціну Барысавічу ўдалося рэалізаваць шмат якія свае мары, хаця і давялося два разы пасядзець у яе турмах. Адзін з удзельнікаў абвяшчэння БНР, народны сакратар ваенных спраў у складзе першага нацыянальнага ўрада Беларусі, К. Езавітаў у 1919—1920 гг. служыў шэфам Беларускай ваенна-дыпламатычнай місіі ў Латвіі і Эстоніі. Тое, што прыбалтыйскія дзяржавы, у тым ліку і Фінляндыя, першымі прызналі БНР, яго несумненная заслуга, уганараваная пазней званнем генерал-маёра. Пасля змушанага адыходу ад палітыкі, Езавітаў прыняў латвійскае грамадзянства і распачаў вялікую — 23-гадовую! — культурна-асветную дзейнасць сярод этнічных беларусаў Латвіі, абудзіўшы дзесяткі талентаў, паклікаўшы на "сьветлы сьлед" нацыянальнага самавыяўлення тысячы людзей. Дзеля гарманічных узаемадачыненняў беларускай меншасці з тытульнай нацыяй звяртаўся па дапамогу да "калегі" Яніса Райніса, каб стварыць "моцны падмурак будучай, так нам неабходнай дружбы".**

**Пятро Сакол, Мікола Талерка, Віктар Вальтар, Пётра Мірановіч, Эдвард Вайвадзіш, Міхась Калінін сталі творцамі толькі дзякуючы такім Настаўнікам, як К. Езавітаў, С. Сахараў, А. Якубецкі, І. Краскоўскі, П. Мядзёлка...**

**На падмурку культурна-нацыянальнай аўтаноміі, закладзенай Езавітавым, дзеяць сёння беларускія суполкі Латвіі. Пасля езавітаўскага "Голаса Беларуса" ёсць газета "Прамень". Наўзамен ягонае "Бацькаўшчыны" — працуюць суполкі "Ćьвітанак", "Прамень", "Уздым". Нядаўна пісьменніцкія білеты атрымалі 40-гадовы Station Станіслаў Валодзька з Даўгаўпілса і 100-гадовы Эдвард Вайвадзіш з-пад Індры.**

**Пакліканыя Краінай Беларусь ідуць поруч.**

**Сяргей ПАНІЗЬНІК**

пакласьці лектаром, асабліва гр. Ігнату Дварчаніну, які бязвыездна працаваў у Дзьвінску праз увесь час курсаў і трымаўся ў самым цесным кантакце з курсантамі, аддаючы ім увесь свой вольны час і кіруючы рознымі гурткамі, якія з яго ініцыятывы закладзены былі на курсах. З гэтых гурткоў асабліва значную працу правёў Драматычны гурток, які потым, пасьля зачыненьня курсаў, паклаў аснову Драматычнай Дружыны пры Т-ве "Бацькаўшчына"

20 настаўнікаў, выпушчаных Першымі Летнімі Курсамі Беларусазнаўства ў Дзьвінску, аказаліся, хаця і насьпех, але даволі добра падрыхтаванымі вучыцялямі для першых беларускіх вясковых школ на Дзьвіншчыне. Таму Т-ва пачало дамагацца адчыненьня некалькіх беларускіх школ у Дзьвінскім павеце, у першую чаргу ў Пустынскай і Прыдруйскай валасьцёх, дзе больш за 90% жыхарства зьяўляецца беларусамі

Вымогі Т-ва былі задаволены Дзьвінскаю павятоваю Школьнаю Радаю — і з восені 1921 году ў памянёных двух валасьцёх адчыніліся першыя 16 беларускіх аснаўных школ у Латвіі, у якія былі прызначаны настаўнікі, праслухаўшыя летнія курсы беларусазнаўства ў Дзьвінску

Захады Т-ва "Бацькаўшчына" аб стварэньні гэткіх жа курсаў беларусазнаўства ў Люцыну для настаўнікаў-беларусаў Люцыншчыны, па невядомых для нас прычынах, ня былі прыняты пад увагу, і, такім чынам, — Люцыншчына, перад пачаткам 1921—22 навучальнага году, аказалася без падрыхтаваных настаўнікаў-беларусаў Гэта дужа шкодна і балюча адбілася потым на агульным стане беларускае культурна-асьветнае працы ў Люцыншчыне і асабліва на стане і жыцьцю беларускіх аснаўных школ, якія, ня гледзячы на тое, што падрыхтаваных настаўнікаў не было усё-ж-ткі ў працягу 1921—22 навучальнага году былі аснаваны ў Люцыншчыне Усё, што змагло ў 1921 годзе зрабіць для настаўнікаў-беларусаў Люцыншчыны Цэнтральнае Праўленьне Т-ва "Бацькаўшчына" і яго Люцынскі аддзел — гэта арганізаваць у верасьні месяцы некалькі паасобных лекцый і рэфэратаў-гутарак, праведзеных гр.гр І Дварчанінымі К. Езавітавым на актуальныя тэмы беларускага адраджэнчага жыцьця

Тым часам, узварушанае летнімі курсамі беларускае грамадзтва ў Дзьвіншчыне пачало выяўляць сваю ініцыятыву — моладзь і праслухаўшыя курсы настаўнікі шукалі магчымасьці ўнесьці і сваю долю працы ў беларускі адраджэнчы рух Найбольш актыўныя з іх, пры ідэёвай дапамозе гр Ігната Дварчаніна ды пры некаторай грашовай дапамозе з боку аўтара гэтага артыкулу, заклалі ў Дзьвінску першую Беларускую Драматычную Дружыну пры Т-ве "Бацькаўшчына".

Рэжысуру ў дружыне ўзяў на сябе гр Сьцяпан Ніканавіч Заліўскі, які аказаўся здольным і належна падрыхтаваным артыстай Артыстычная грамада дружыны склалася з аматараў, якія раней удзельнічалі ў расейскіх і польскіх спэктаклях, а ўлетку праслухалі курсы Беларусазнаўства.

Драматычная дружына старанна працавала над падрыхтоўкай сваіх пастановак, як з боку ўдасканаленьня артыстычнае гульні, гэтак і з боку мовы Апошнюю галіну працы кантраляваў гр І Дварчанін, ён-жа быў і суфлёрам дружыны Рэпэтыцыі адбываліся на сцэне былой гімназіі Браерскай, у будынку якой працавалі і курсы Беларусазнаўства. У сваей унутрашняй арганізацыі і працы дружына кіравалася асобным статутам, які быў распрацаваны самімі артыстамі і можа аж дагэтуль быць прыкладам таго, як павінны разумець свае задачы і грамадзкія абавязкі артысты Беларускага Народнага Тэатру.

Адначасна з Драматычнаю Дружынаю арганізаваўся і першы Беларускі Хор, пачатак якому быў пакладзены на тых-жа курсах Беларусазнаўства Кіравалі хорам гр. Мікіта Сапега і М. Малько, а сьпеўкі хору адбываліся на Варшаўскай вуліцы, у будынку 3-й расейскай аснаўной школы, якою кіравала гр. Вольга Васільева, адна з слухачак курсаў і сябра Т-ва "Бацькаўшчына" Хор заўсёды выступаў разам з Драматычнаю Дружынаю.

Першы спэктакль адбыўся 1-га верасьня 1921 году ў зале Дзьвінскага мястовага клюбу. Стаўлена была камэдыя-опэрэта Ф Аляхновіча — "На Антокалі". Першы спэктакль адразу паказаў, што артысты маюць безумоўныя здольнасьці і шчырае закаханьне да тэатральнае працы: ролі праведзены былі надзвычайна ўдала, прадумана





і жацьцёва-праўдзіва. Пьеса выклікала агульнае задаваленьне і артыстаў шмат разоў выклікалі. Найбольшым посьпехам у публікі карысталіся — сам С. Заліўскі (Язэп) і гр. К. Сямёнава (Зоська).

За першаю пастаноўкаю адбыўся цэлы шэраг іншых: паўторывалі пьесу "На Антокалі", разучылі і паставілі "Маньку" — Ф. Аляхновіча і "Паўлінку" — Янкі Купалы, рыхтавалі новыя пастаноўкі, рабілі выезды ў Рэжыцу, Краслаўку і Бароўку На аднэй з паўторных пастановак "На Антокалі" — 15 верасьня, у зале чыгунковага тэатру — быў прысутны тагачасны міністр асьветы, прафэсар Даўгэ, які быў дужа задаволены спэктаклям, хадзіў за сцэну, дзякаваў артыстых і абяцаў беларусам усялякую падтрымку.

Распачаўшы працу рэгістрацыі і падрыхтоўкі вучыцялёў для працы ў беларускіх школах і заручыўшыся прынцыповаю падтрымкаю Дзьвінскае і Люцынскае павятовых школьных упраў у справе арганізацыі з восені 1921—22 навучальнага году беларускіх школ у валасьцёх, заселеных беларускім жыхарствам, — Т-ва "Бацькаўшчына" адначасна распачало захады перад Міністэрствам Асьветы і перад Радаю Міністраў аб стварэньні пры Міністэрстве Асьветы, па прыкладу іншых меншасьцяй, асобнага Беларускага Аддзелу, які ўзяў бы на сябе справу кіраваньня беларускімі школамі. На пасаду кіраўніка беларускага Аддзелу Т-ва выставіла кандыдатуру гр Сяргея Пятровіча Сахарава, які ў той час кіраваў расейскай гімназіяй у г. Люцыну

Першыя захады Т-ва аб стварэньні Беларускага Аддзелу, зробленыя яшчэ ў сярэдзіне траўня месяца 1921 году, скончыліся непамысна. у Міністэрстве Асьветы былі мала інфармаваны аб беларускіх справах, а таму абмежаваліся канцалярскім запросам, ад 8 чэрвеня 1921 году, за № 1561, у якім патрабавалі ад Т-ва вестак аб пэрсанальным складзе праўленьняў Т-ва, аб лічбе сяброў, аб лічбе школ, якія ўжо працуюць на беларускай мове, аб лічбе беларускае інтэлігэнцыі і вучыцельства, а таксама ўсякіх іншых дадатковых данных, якія абмалёўвалі-б тагачаснае культурна-асьветнае становішча беларусаў у Латвіі

Т-ва дало Міністэрству Асьветы патрэбныя весткі і 24 чэрвеня паўторна ўзняло пытаньне аб хутчэйшым стварэньні Беларускага Аддзелу. Аднак, задаволіўшы паданую значна пазьней, а іменна — 16 ліпеня, просьбу аб вышэй успамінаных ужо Курсах Беларусазнаўства, Міністэрства Асьветы зноў не знайшло магчымым задаволіць захады аб арганізацыі Беларускага Аддзелу На гэты раз былі высунуты з боку Міністэрства чыста фармальныя матывы

Справа ў тым, што закон аб арганізацыі школ нацыянальных меншасьцяй у Латвіі, прыняты Народнаю Радаю 8 сьнежня 1919 году, у сваім § 8-ым гавора наступнае: "Кіраўнікі Аддзелаў часова прадстаўляюцца на зацьверджаньне прадстаўнікамі партый меншасьцяй Народнае Рады, пакуль ня зьявіцца законнае прадстаўніцтва ад нацыянальных меншасьцяй Дзеля таго, што свайго прадстаўніка ў беларусаў ня было ні ў Народнай Радзе Латвіі ні ў Устаноўчым Зборы, дык па літары закону выходзіла, што няма каму, з боку фармальнага, выставіць кандыдата на пасаду кіраўніка Беларускага Аддзелу, а тым самым немагчыма стварыць і самы Беларускі Аддзел пры Міністэрстве Асьветы.

Беларускае грамадзтва і Т-ва "Бацькаўшчына" паспрабавалі знайсьці выхад з гэтага зачараванага кола шляхам звароту да іншых нацыянальных меншасьцяй з просьбаю аб дапамозе: думалася, што адзін з меншасьцёвых дэпутатаў зможа часова ўзяць на сябе абарону і прадстаўніцтва інтэрасаў беларускае меншасьці. Найбольшыя надзеі ў гэтым сэнсе ўскладаліся часткаю беларускага грамадзтва на дэпутатаў-расейцаў Паведзены былі адпаведныя перагаворы, заняўшыя даволі многа часу. Ніхто не даваў адразу выразнага і рашучага адказу, — усе абяцалі "падумаць", "парадзіцца" і затым — "паведаміць" З першымі гутарылі з расейцамі. Яны, працягнуўшы шмат часу, адмовілі беларусам у падтрымцы, праслаўшы ад імя сваей фракцыі дужа войстрае і агіднае пісьмо. Затым гутарылі з немцамі — тыя далі некалькі добрых парадаў, але самі выступіць з захадамі аб адчыненьні Беларускага Аддзелу — "не знайшлі зручным" Потым вяліся перагаворы з жыдамі, якія накіроўвалі беларусаў ад аднаго дэпутата да другога, і, урэшце, таксама ўхіліліся ад рашучых фармальных захадаў. Паспрабавалі было беларусы дагутарыцца з латгальскімі групамі, але ў гэтых было шмат сваіх клопатаў і ніхто з іх дапамагчы беларусам не пажадаў

У другой палове ліпеня і ў пачатку жнівеня 1921 году канчаткова высьветлілася, што ў справе стварэньня Беларускага Аддзелу, беларусы ня могуць разьлічваць ні на падтрымку меншасьцёвых груп, ні на дапамогу латгальскіх партый Адзіная надзея аставалася на падтрымку ў гэтай справе з боку самой латыскае большасьці і ў першую чаргу на падтрымку з боку сацыялістычнага сэктару Латвійскага Установчага Збору Перагаворы з латыскімі партыямі былі даручаны аўтару гэтых радкоў

Першым з латыскіх культурнікаў і палітычных дзеячоў, хто прыхільна і горача адгукнуўся на просьбу беларусаў аб дапамозе, быў вядомы латыскі поэта Ян Райніс-Плекшан Ён здаўна ўжо цікавіўся беларускім нацыянальна-адраджэнчым рухам і сачыў за разьвіцьцём беларускае літаратуры, а калі ў Латвіі паўстала Т-ва "Бацькаўшчына" і паднялася справа аб утварэньні Беларускага Аддзелу — ён ахвотна згадзіўся дапамагчы беларусам у гэтай справе і, са свайго боку, каб падтрымаць захады Т-ва прад Міністэрствам Асьветы, ужо ў ліпені месяцы меў з міністрам адпаведныя гутаркі Аднак, гэтыя першыя гутаркі, ведзеныя Я. Райнісам, як і першыя захады Т-ва "Бацькаўшчына", разьбіліся аб фармальную пазыцыю Міністэрства Асьветы, якое вымагала спаўненьня літары закону· каб захады аб Беларускім Аддзеле былі зроблены "прадстаўніком беларускае меншасьці"

У поўнай роспачы ад гэтых няўдач, зайшоў неяк аўтар гэтага нарысу да нашага прыхільніка Яна Райніса, каб адведаць яго і падзяліцца беларускім горам. Ян Райніс пад той час моцна нядужаў і адпачываў ад працы ў парку Дзіцячае Бальніцы на Мітаўскай шасы, дзе ў адным з будынкаў пасяліўся на лета. Ён уважліва і ўсхвілявана выслухаў маё апавяданьне і, нарэшці, на маю просьбу, каб ён згадзіўся зусім фармальна ўзяць на сябе абарону беларускіх меншасьцёвых нацыянальна-культурных інтарэсаў у Латвійскім Установчым Сойме, — адказаў: "Добра! — я вазьмуся за гэтую справу і пастараюся дапамагчы вам!" Я пацісьнуў яго руку, шчыра падзякаваў за прыязнь і, папрасіўшы выбачэньня за ўскладзеныя на яго турботы, зараз-жа накіраваўся проста на вакзал Праз два дні, 18 жніўня 1921 году, я ўжо прывёз яму ад Цэнтральнага Праўленьня Т-ва "Бацькаўшчына" з Дзьвінску афіцыйную просьбу і ўпоўнаважаньне абараняць інтэрасы беларускае меншасьці ва ўсіх установах Латвійскае Рэспублікі.

Вось зьмест гэтага дакумэнту·

"Яго Міласьці, Высокапаважанаму Грамадзяніну Дэлегату Установчага Сойму Латвіі, Яну Райнісу.

Высокапаважаны Грамадзянін Дэлегат!

Беларускае Культурна-Прасьветнае Таварыства "Бацькаўшчына" з вялікаю прыемнасьцьцю даведалася аб ласкавай згодзе Вашай узяць на сябе абарону культурна-асьветных інтарэсаў беларускай меншасьці ў Латвіі, якую Вы гэтак добра ведаеце і з якой жылі разам з самых малых Дзён Вашага жыцьця

Выказваючы сваю глыбокую падзяку за выяўленыя Вамі цікавасьць і прыхільнасьць да нашай нацыянальнай школы і асьветнай працы, мы, ня маючы ў Установчым Сойме свайго дэпутата, гэтым лістом маемо вялікі гонар і адвагу фармальна прасіць Вас і даручыць Вам абарону нашых нацыянальных інтарэсаў прад Латвійскім Урадам і, у першую чаргу, прадпрыняць патрэбныя фармальныя крокі да стварэньня пры Міністэрстве Асьветы Латвіі Беларускага Аддзелу

Прыміце, Высокапаважаны Грамадзянін Дэпутат, запэўненьня ў вялікай і шчырай да Вас пашане

Старшыня Цантральнага Праўленьня Т-ва "Бацькаўшчына" — Ян Харлап

За сакратара — Канстантын Езавітаў

Ян Райніс прыняў гэта даручэньне і, ня гледзячы на хворасьць, тут жа накідаў праэкт афіцыйнае заявы на імя Міністра Асьветы, у якой, асьветліўшы са свайго боку становішча беларускае меншасьці, паведамляў Міністра аб тым, што прыймае абарону беларускіх культурна-асьветных інтэрасаў на сябе і падтрымоўвае просьбу Т-ва "Бацькаўшчына" аб стварэньні беларускага Аддзелу пры Міністэрстве Асьветы Перапісаўшы праэкт сваей заявы начыста, Ян Райніс у той жа дзень пэрсанальна накіраваўся на прыём да Міністра Асьветы

Дапамога Яна Райніса на гэты раз дала вынікі — справе дан быў афіцыйны ход і 13 верасьня 1921 году, пастановаю Рады Міністраў было ўхвалена задаволіць просьбу беларусаў аб стварэньні Беларускага Аддзелу пры Міністэрстве Асьветы.





Нажаль, прайшло яшчэ больш месяцу, пакуль Беларускі Аддзел змог, нарэшці, прыступіць да працы Але тутака вінаваты ўжо былі самі беларусы, бо затрымка выйшла толькі таму, што выстаўлены Т-вам "Бацькаўшчына" на пасаду кіраўніка Аддзелу кандыдат, гр С. Сахараў, у апошні момант перад зацьверджаньнем пачаў адмаўляцца ад пасады. Толькі ў сярэдзіне кастрычніка былі закончаны, нарэшці, перагаворы з С Сахаравым і 18 кастрычніка ён быў зацьверджаны на пасадзе кіраўніка Аддзелу. З гэтае даты Беларускі Аддзел і прыступіў да працы

З адкрыцьцем Беларускага Аддзелу справа беларускае школы і асьветы фармальна перайшла да яго, аднак — і ў фактычнай штодзённай працы і ў важнейшыя моманты беларускага асьветнага жыцьця — беларускаму Аддзелу прыходзілася лічыцца з пажаданьнямі і ініцыятывай Цэнтральнага Праўленьня Т-ва "Бацькаўшчына" і з праўленьнямі яго аддзяленьняў у правінцыі Часта-густа і сам Аддзел зьвяртаўся да Таварыства з просьбаю аб грамадзкай падтрымцы ў робленых ім захадах перад Міністэрствам Асьветы, а таксама за рознымі спраўкамі ды інфармацыямі, бо Т-ва стаяла бліжэй да беларускага грамадзтва, чым новастворыны Беларускі Аддзел.

З далейшых крокаў Т-ва "Бацькаўшчына" у справе арганізацыі беларускіх школ, асабліва трэба адзначыць ягоную ролю 1) у справе адчыненьня беларускіх сярэдніх школ ў Латвіі, 2) у справе сельска-гаспадарчае асьветы для беларусаў і 3) у справе адчыненьня дарогі да вышэйшае асьветы беларусам, скончыўшым сярэднюю школу

Пасьля таго, як існаваньне аснаўных беларускіх школ у Латвіі было забясьпечана, у Т-ве паднялося пытаньне аб далейшай асьвеце для беларускага жыхарства Першаю думкаю ў гэтым напрамку было — стварыць Беларускую Настаўніцкую Сэмінарыю, якая дала-б дарогу беларускай вясковай моладзі на пасады настаўнікаў у беларускіх вясковых школах. На гэтым праэкце меў намер спыніцца і беларускі Аддзел, які нават зрабіў ужо аб гэтым абвесткі ў сваім першым выданьні — "Зорка" Аднак, пасьля шэрагу нарад у Цэнтральным Праўленьні Т-ва, высьветлілася, што шлях узгадаваньня новага беларускага настаўніцтва праз арганізацыю вучыцельскае сэмінарыі — вельмі доўгі, а таму вызнана было больш адпаведным выкарыстаць для стварэньня беларускіх вучыцельскіх кадраў тую беларускую моладзь з сярэдняй адукацыяй, якая ў 1921 годзе ўжо была ў Латвіі (з ліку скончыўшых старыя расейскія сярэднія школы), стварыўшы для іх адпаведныя Пэдагогічныя Курсы, а для падрыхтоўкі новае беларускае інтэлігенцыі ўхвалена было закласьці беларускія гімназіі ў Дзьвінску і ў Люцыну

У адпаведнасьці з гэтымі пастановамі, 1-га сьнежня 1921 г аўтарам гэтага нарысу закладзены былі ў Дзьвінску Беларускія Дзяржаўныя Аднагадовыя Вучыцельскія Курсы і адначасна прыступлена было да падрыхтоўчае працы па стварэньню ў Дзьвінску беларускае гімназіі. У выніку гэтае працы ўжо 25 студзеня 1922 г. Т-вам "Бацькаўшчына" была накіравана ў Беларускі Аддзел калектыўная просьба 44 бацькоў-беларусаў аб адчыненьні ў Дзьвінску беларускае гімназіі Яшчэ праз некаторы час Цэнтральнае Праўленьне адшукала для гімназіі адпаведнае памешканьне і высунула на пасаду дырэктара-арганізатара гімназіі вядомага беларускага пэдагога і грамадзкага дзеяча — Яна Ігнатавіча Краскоўскага, які і давёў гэтую справу да памыснага канца

Гімназія была адчынена адразу ў поўным складзе клясаў· двух падгатоўчых (адпавядалі пятай і шостай клясам аснаўнай школы; зара такіх клясаў пры гімназіях у Латвіі больш ня існуе) і чатырох старэйшых клясаў

Памешканьне пад гімназію было абарудавана ў доме Бруднага на Варшаўскай вул , 16, дзе да вайны зьмяшчалася 2-е Дзьвінскае гарадзкое 6-ціклясовае вучылішча. Дом гэты ў свой час быў пабудаваны спэцыяльна пад школу і зьяўляецца адным з лепшых у Дзьвінску школьных будынкаў Гімназія перастроіла залю і пабудавала ў ёй добрую сцэну, што адразу дало дзьвінскім беларусам сваю добрую залю для пастановак і ўсялякіх грамадзкіх сходаў

У гэтае-ж памешканьне былі з восені 1922 г перанесены Беларускія Дзяржаўныя вучыцельскія курсы і аснаўная школа

Адначасна Люцынскі Аддзел Т-ва "Бацькаўшчына" распачаў працу над арганізацыяй

беларускае прыватнае гімназіі ў Люцыну Гэтая праца таксама закончылася памысьнымі вынікамі і з 1-га верасьня 1922 году Люцынская Беларуская прыватная гімназія Т-ва "Бацькаўшчына" прыступіла да працы Гімназія гэтая разьвівалася дужа добра і ўжо праз год — 1-га жніўня 1923 году — была зроблена другой дзяржаўнай беларускай гімназіяй і ўзята на поўнае ўтрыманьне Ураду Ніхто не чакаў, што — з пераходам на ўрадовае ўтрыманьне — гімназію гэтую чакае ў будучыне страшэнная небясьпека, інакш Т-ва "Бацькаўшчына", напэўна, ніколі-б не згадзілася перадаць яе ў рукі ўрадовых устаноў, і гімназія, у якасьці прыватнае беларускае гімназіі, існавала бы да сёнешняга дня.

Патрэбнасьць спэцыяльнае сельска-гаспадарчае асьветы для беларускага жыхарства, на 80% вясковага і прытым дужа адсталага ў спосабах гаспадараваньня на зямлі, — войстра адчувалася з першых дзён працы Т-ва "Бацькаўшчына" І таму Т-ва не магло прайсьці міма гэтае справы. Ужо ў самым пачатку 1922 году зрабіла яно адпаведныя захады перад Міністэрствам Земляробства і дабілася згоды яго на арганізацыю Беларускае прыватнае двух-гадовае сельска-гаспадарчае школы Т-ва "Бацькаўшчына" у Дзьвінску Была падпісана ўмова з Міністэрствам, на аснове якой Т-ва "Бацькаўшчына" давала памешканьне, а Міністэрства Земляробства аплачвала агранома-настаўніка ў школе і давала дапамогу на набыцьцё навучальных прыладаў ды інвэнтару.

Кіраўніком-арганізатарам Беларускае сельска-гаспадарчае школы быў зацьверджаны высунуты Т-вам кандыдат, беларускі аграном гр Аляксей Ластаўкін, які дужа энэргійна павёў справу і ўжо ўвясну 1922 году падрыхтаваў памешканьне, у будынку Мельнікава на Шасейнай вуліцы, распачаў абарудаваньне яго інвэнтаром, зарэгістраваў вучняў і павёў з імі падрыхтоўчыя групавыя заняткі Увосені 1922-23 навуч. году ў школе пачаліся заняткі адразу на двух курсах, і Міністэрства Земляробства запрапанавала аплаціць яшчэ аднаго агранома, з вышэйшаю агранамічнаю адукацыяй У зьвязку з гэтым Т-ва запрасіла на працу ў школу вучонага агранома, гр Абэле, які адначасна з гэтым прыняў на сябе кіраваньне школаю і выкладаньне дзяржаўнае мовы. Выкладчыкам беларускае мовы, гісторыі Беларусі і гісторыі беларускае літаратуры была запрошана гр Паўліна Вікенцьцеўна Мядзёлка-Грыб, якая прарабіла ў школе вялікую ўзгадаваўчую працу

Праца беларускае сельска-гаспадарчае школы ішла ў працягу двух год у Дзьвінску, а затым была перанесена бліжэй да беларускае вёскі, у г Краслаўку.

Другую беларускую сельска-гаспадарчую школу Т-ва намячала закласьці ў Люцынскім павеце пры Залескай беларускай аснаўной школе, якая зьмяшчалася ў дужа выгадным для гэтае школы мейсцу і мела адпаведны будынак Нажаль, зьдзейсьніць гэтае думкі Т-ву не давялося з-за адсутнасьці сродкаў і па іншых, незалежных ад Т-ва варунках.

Справа з вышэйшаю асьветаю для беларускае моладзі стаяла ў 1921 годзе надзвычайна трагічна Тая беларуская моладзь, што скончыла ў гэтым і папярэдніх гадох расейскія сярэднія школы, ня мела магчымасьці вучыцца далей, бо ў Латвійскі Унівэрсытэт, ня ведаючы латыскае мовы, паступіць не магла, а выехаць вучыцца замежы ня мела магчымасьці па эканамічных прычынах Каб даць моладзі гэтага пакаленьня выхад, Т-ва "Бацькаўшчына" навязала зносіны з беларускімі грамадзкімі арганізацыямі ў Празе-Чэскай і, праз іх, дабілася для беларускіх абітурыэнтаў з Латвіі некалькіх стыпэндый у вышэйшых школах Чэха-Славацкае Рэспублікі.

Пачынаючы з восені 1921 году, беларуская студэнцкая моладзь з Латвіі, штогод, у працягу некалькіх гадоў, выяжджала ў Прагу, дзе з дапамогаю Праскае Беларускае Рады, яе старшыні Міколы Вяршыніна і паўстаўшых у Празе беларускіх студэнцкіх арганізацый, разьмяшчалася на вольныя вакансыі ў чэскіх вышэйшых школах Зара, на дзесятыя ўгодкі, мы ўжо маемо шэраг маладых беларускіх інжынэраў і дахтароў, якія з посьпехам закончылі курс вышэйшых навук у Празе і зьвярнуліся працаваць у Латвію.

Тым часам новае пакаленьне беларускае моладзі, што заканчывала ў апошнія гады беларускія гімназіі, ужо ў належнай меры асвоілася з латыскаю моваю і можа трымаць конкурсныя іспыты ў Латвійскі Унівэрсытэт

Шырокая асьветная праца Т-ва "Бацькаўшчына", праведзеная ім у 1921 годзе,





заваявала яму агульныя сымпатыі беларускае меншасьці і вызнаньне латвійскіх грамадзкіх і ўрадовых устаноў, як у правінцыі так і ў Рызе. Трэба тутака адзначыць, што Т-ва ў працягу ўсяго 1921 году працавала выключна на тыя сродкі, што зьбірала сярод сваіх сяброў і ніякае дапамогі ні ад Ураду, ні ад самаўрадаў не атрымоўвала, ды і не прасіла (за выключэньнем невялічкае дапамогі на першыя Курсы Беларусазнаўства) Вось чаму, калі 4 сьнежня 1921 году Цэнтральнае Праўленьне Т-ва "Бацькаўшчына" зьвярнулася да Культурнага Фонду з просьбай аб грашовай дапамозе, дык яму даволі хутка прысуджана была дапамога ў суме 1000 латаў

Першую палову 1922 году Цэнтральнае Праўленьне Т-ва было вельмі занята арганізацыяй Люцынскай гімназіі і Дзьвінскай сельска-гаспадарчай школы, а таксама клопатамі, зьвязанымі з арганізацыяй Дзьвінскае гімназіі і Дзьвінскае аснаўное школы, ды змаганьнем за лёс беларускіх аснаўных школ у Люцыну і Краслаўцы Таму чарговы Агульны гадавы сход сяброў Т-ва змог адбыцца толькі ў восені, 17 верасьня, калі ўсе арганізацыйныя справы былі ўжо закончаны і ў беларусаў у Дзьвінску ўжо аказалася адрамантаваным сваё ўласнае памешканьне ў будынку Беларускае гімназіі на Варшаўскай вуліцы № 16

Агульны сход 17 верасьня 1922 году аказаўся вельмі многалюдным, бо лічба сяброў у працягу 1921-22 году працы Т-ва значна ўзрасла і праца Т-ва ахапіла ўжо ня толькі Дзьвінск, але і іншыя гарады ды шмат валасьцей Латгаліі Старое Цэнтральнае Праўленьне, зрабіўшы даклад аб сваей працы, склала паўномоцтвы і папрасіла замяніць яго новымі сіламі.

Агульны Сход дзякаваў Цэнтральнае Праўленьне за ўдала праведзеную значную працу і абраў новае Цэнтральнае Праўленьне ў гэткім складзе· старшыня — Я Краскоўскі, заступнік старшыні — К Езавітаў, сакратар — П. Мядзёлка-Грыб, скарбнік — Ул. Корці, заступнік скарбніка — А. Якубецкі Заслухаўшы даклад аб дапамозе, зробленай беларускай меншасьці з боку гр Яна Райніса, Агульны Сход ушанаваў яго прывітальнай тэлеграмай і, на знак пашаны і падзякі, адначасна абраў яго ганаровым сябром Т-ва "Бацькаўшчына".

Вельмі цікавым, для ацэнкі агульнага ўзросту беларуска-нацыянальнае сьвядомасьці сярод сяброў Т-ва "Бацькаўшчына" ў 1922 годзе, было няўдалае выступленьне на Агульным Сходзе 17 верасьня вядомага ў Дзьвінску грамадзкага дзеяча, агранома Садоўскага. Гэты грамадзянін, вызнаючы сябе беларусам і зьяўляючыся сябрам Т-ва "Бацькаўшчына", адначасна лічыў магчымым браць удзел у працы расейскіх арганізацый і актыўна выступаў супроць закладзінаў у Дзьвінску беларускае мястовае школы на роднай беларускай мове Каб адзначыць ідэёвую рожніцу сваей пазыцыі ад пазыцыі сьвядомых беларускіх адраджэнцаў, ён называў сябе "беларусам 2-й катэгорыі" і вёў прапаганду за адмову беларусаў ад сваей мовы ў школе на карысьць мовы расейскай. З гэтымі сваімі здрадніцка-ассіміляцыйнымі ідэямі зьявіўся ён і на Агульны Сход сяброў Т-ва, але тутака спаткалі яго такім дружным адпорам і далі такую войструю адповедзь, як здрадніку, што ён павінен быў пакінуць сход, а за ім і Т-ва

З уваходам у Цэнтральнае Праўленьне Т-ва "Бацькаўшчына" дырэктара гімназіі, гр. Я. Краскоўскага, і трох вучыцялёў гэтае гімназіі, — П Мядзёлкі-Грыб, А. Якубецкага і Ул Корці, — базаю Т-ва зрабілася Дзьвінская Дзяржаўная Беларуская гімназія. Былі ў гэтым некаторыя тэхнічныя выгады, бо лягчэй і часьцей магчыма было зьбірацца на сходы, але былі і значныя заганы, якія хутка аслабілі энэргійную напружанасьць працы Т-ва. Галаўнейшым заганам было тое, што дырэктар і настаўнікі гімназіі, занятыя арганізацыйнай гімназыяльнай працай дужа хутка страцілі маштаб працы Т-ва і перасталі адрожніваць, дзе канчаюцца гімназіяльныя інтарэсы і пачынаюцца інтарэсы Т-ва і ўсяе беларускае меншасьці.

Дзеля таго, што галоўнаю тэмаю гэтага артыкулу зьяўляецца разгляд ролі Т-ва "Бацькаўшчына" ў справе арганізацыі беларускіх школ у Латвіі, дык аўтар ня лічыць магчымым у гэтым нарысе больш падрабязна спыняцца на далейшай працы Т-ва, а таксама і на тых падзеях і абставінах, якія паўсталі ў жыцьцю беларускае меншасьці ў зьвязку з вядомым Беларускім Працэсам 1924-25 году, і якія прывялі да заняпаду і спыненьня працы Т-ва "Бацькаўшчына" ў Латгаліі

ЯНЫ | Стэн Стэнсэн БЛІХЭР

# НЕРАЗЛУЧНЫЯ

Я неаднойчы імкнуўся паверыць у роўную долю шчасця і няшчасця, але бачыў людзей настолькі без віны вінаватых, а іншых, наадварот, настолькі аблашчаных шчасцем, якое, здавалася, само клапатліва адводзіла іх ад пастак уласнай неасцярожнасці. Абураны, я прыйшоў да высновы: шчасце настолькі ж вынік выпадку, наколькі ўзнагарода за дабрадзейнасць. Хаця што ёсць шчасце? дзе яно? у чым? Ці шчасце настолькі ж рознае, як і самі людзі? Для некаторых шчасце ў грукаце ваеннай выправы, у бразганні зброі; для іншых у аднастайнасці жыцця, у "абы дзень да вечара!", што, аднак, неабавязкова вынікае з абыякавасці, а, хутчэй, народжана пагардай да зямных рэчаў

Я не ведаю нічога прыгажэйшага за гісторыю пра хворага персідскага шаха, якому лекары параілі як апошні сродак ад невылечнай хваробы — трыццаць дзён насіць кашулю шчаслівага чалавека. Дарма шукалі шчаслівага па ўсіх гарадах і мястэчках, сярод розных саслоўяў· урэшце знайшлі на ўскраіне Ісфагана аднаго круцяля, у пень п'янага і ў лахманах; ён быў адзіным шчаслівым чалавекам на ўсю Персію. Ну дык цяпер шаху можна вылечыцца? Дзе там! Адзіны шчаслівы чалавек на ўсю Персію — не меў кашулі!

Чалавек часта мяняе шчасце на раскошу, аднак раскоша падманлівая. Я бачыў багатых, толькі на самой справе няшчасных людзей, аточаных зайздрасцю, але яны шкадавалі тых, якія, я ведаў, былі шчаслівыя. Натоўп без супраціву праходзіць праз розныя жыццёвыя перамены і глядзіць на іх з большым або меншым адчаем, калі бесперапынна змяняецца смутак на радасць, нэндза на раскошу Але што нам казаць пра тых выбранцаў няшчасця, якіх страшны лёс вызначыў быць ахвярамі свайго дрэннага настрою? Слухайце далей!

Луіджы і Убэрта, два маладыя рымляніны, разам вучыліся ў Падуанскім універсітэце. Калі яны вярнуліся ў родны горад, то прысвяцілі сябе штудыям прыгожых мастацтваў: Луіджы заняўся музыкай, Убэрта — жывапісам, іх называлі за вернае сяброўства "неразлучнымі"

Луіджы меў сястру Яна і Убэрта пакахалі адзін аднаго, і неўзабаве сябры зрабіліся шваграмі. Шчасце абсыпала іх сваімі прыгажэйшымі дарамі: Гартэнзія, ашчасліўленая жонка і сястра, стала таксама і шчаслівейшай маці; двое прыгожых дзяцей, плод яе і Убэрта кахання, раслі на вачах радасных бацькоў Знаўцы захапляліся карцінамі Убэрта; а ў тэатры авацыямі сустракалі оперы Луіджы

Луіджы атрымаў запрашэнне ад тэатральнага антрэпрэнёра з Фларэнцыі; Убэрта ў той жа час быў запрошаны выканаць некалькі карцін для багатага пана ў Неапалі. Абодва ад'ехалі — апошні з жонкай і дзецьмі — па сваіх прызначэннях, дамовіўшыся, што пэўнага дня праз паўгода яны сустрэнуцца ў Рыме.

Той дзень настаў. Луіджы, крайне задаволены сваім побытам і заробкам у Фларэнцыі, прагны навін, вярнуўся дахаты Убэрта яшчэ не было. Дзень канчаўся; насунуўся вечар, і толькі як апоўначы Луіджы прылёг, пачуўся стук у дзверы. Луіджы ўскочыў, каб абняць швагра і сястру — на жаль, швагер быў адзін, і ў якім стане? Акрываўлены, бледны, яго падтрымлівалі, амаль неслі, два незнаёмцы. Беспрытомны, ён зваліўся на рукі сябра.

Адзін з суправаджаючых распавёў Луіджы, што пад Рымам на іх напалі зладзеі, усе спадарожнікі паўцякалі, Убэрта падчас адчайнай абароны быў пасечаны, ягоных жонку і дзяцей звялі.

Пасля доўгага і балючага лячэння, скарочанага і аблегчанага клопатам сябра, да Убэрта вярнулася фізічнае здароўе, але крывавіла сардэчная рана. Жонка і дзеці былі адзінай яго думкай; знайсці іх адпомсціць яго адзінай надзеяй Убэрта вырашыў абшукаць усю паўднёвую Італію, каб або знайсці самых дарагіх яму людзей, або памерці, Луіджы пажадаў суправаджаць Убэрта.

Не знаходзячы нават найменшага следу зніклых, яны шмат разоў перасякалі Апеніны і кідалі безнадзейныя позіркі то на Тырэнскае, то на Адрыятычнае мора. Урэшце яны спыніліся ля руін горада, што быў навекі ўслаўлены перамогай Ганібала, імя якога стала адпаведнікам слову "няшчасны". На месцы, дзе некалі стаялі Каны, яны сустрэлі альпійскага стралка без зброі ў руках і паспрабавалі атрымаць ад яго хоць якія звесткі. "Паслухайце маёй парады, — сказаў стралок, — як мага хутчэй пакіньце гэтую мясцовасць. Гэтыя руіны небяспечныя. Уначы тут чуюцца цяжкія ўздыхі і сцішаныя крыкі. Лепш не падыходзіць надта блізка да жыхара руін" "Хто ён такі?" — спытаў Убэрта. "Таямнічая асоба, — адказаў стралок, — яго завуць Радольфа, і ён жыве тут так даўно, што ніхто не можа сказаць, з якой пары. Мой бацька, мой дзед, мой прадзед распавядалі пра яго, старога жыхара падземных сутарэнняў Аднак застаюцца нязменнымі ягоны выгляд і адзенне, ён заўжды аднолькава малады або аднолькава стары, — як хто хоча, — а вось і ён уласнай персонай! Вунь ідзе, захінуты ў сваю цёмна-чырвоную мантыю ужо шыбуе да нас Панове! Хадземце лепш са мной" "Тут або нідзе", гукнуў Убэрта сябру, ліхаманкава бліснуўшы вачыма. Луіджы кіўнуў згодна, потым павярнуўся да альпійскага стралка, падзякаваў яму за тлумачэнні і папярэджанне, узяў Убэрта пад руку, і яны рушылі насустрач жыхару руін. Павітаўшыся, яны папрасіліся да таго на начлег, дадаўшы, што на наступны дзень збіраюцца агледзець бліжэйшае наваколле

Радольфа, які падаўся ім чалавекам у росквіце сіл, меў вельмі падазроны, нават зладзейскі выгляд: доўгія цёмна-рудыя бровы навісалі над глыбока запалымі вачыма, вострая бародка вусы таго ж колеру хавалі ягоныя вусны. Ён быў моцнага целаскладу, ганарлівы і ўладарны ва ўсёй сваёй істоце. На іх просьбу ён толькі кіўнуў галавой і павольным, размераным крокам пайшоў наперад сярод перакуленых мармуровых блокаў да парослай зелянінай галерэі. У канцы яе ён ціха пастукаў па муры Мур расчыніўся, і дзве замаскаваныя асобы сустрэлі прыбыўшых. "Калі вы хочаце застацца тут на ноч, — сказаў Радольфа, — то трэба здаць зброю, раніцай яе вернуць вам" Сябры пераглянуліся, але раздумваць было позна: справа зайшла надта далёка. Яны здалі шпагі і пісталеты, якімі былі ўзброены, і рушылі далей за праваднікам. Той правёў іх цераз многія падземныя хады да вялікай залы, упрыгожанай барэльефамі і мазаікай, мэбляванай двума крэсламі, сталом і ложкам. Праваднік запаліў лямпу, што стаяла на стале, паабяцаў прыслаць вячэру, пажадаў добрай ночы і сышоў

Неўзабаве з'явіўся чалавек у масцы з халоднымі стравамі і бутэлькай віна, ён акінуў гасцей хуткім позіркам выйшаў Яны няшмат пакаштавалі запрапанаваных страваў· жаданне есці і піць не надта каб спалучалася з цікаўнасцю, смуткам і страхам.

Луіджы першы парушыў маўчанне "Тут, здаецца, нешта не так", сказаў ён. "Я, адказаў Убэрта, — пераканаы, што мы ля мэты нашых пошукаў". "Магчыма, — адразу адгукнуўся Луіджы, — але мы зусім бяззбройныя" Убэрта ўскочыў з крэсла, на якім сядзеў насупраць сябра. "Перад смерцю я хачу яшчэ раз пабачыць іх — так я вырашыў!" — закрычаў ён і схапіўся за грудзі. "Ага! — працягнуў ён. — Тут у мяне засталіся яшчэ два пістолі; мы іх возьмем і будзем па чарзе пільнаваць!" Ён даў адну пістолю сябру

"Слушна! — сказаў той. — Але спачатку трэба агледзець пакой!" Яны так і зрабілі: агледзелі столь, падлогу і сцены — тут быў толькі адзін выхад, ніякіх сакрэтных дзвярэй, ніякага люка. Ложак таксама не выклікаў падозры. Аднак яны пагадзіліся, што не стануць карыстацца ім, а па чарзе будуць спаць апранутымі ў крэслах. Зноў расселіся адзін насупраць аднаго Убэрта падахвоціўся на першую варту.

Луіджы хутка заснуў; ягоны самотны ў сваім няшчасці сябра паглыбіўся ў тужлівыя думкі.

Глянь! Раптам сцяна насупраць адсунулася, павольна ад'ехала ўглыб, і пакой падоўжыўся да памераў агромністай залы, асветленай незлічонымі крыштальнымі лямпамі люстрамі. Доўгі, накрыты стравамі стол стаяў перад ім; ён зіхацеў золатам і срэбрам, оніксам яспісам усімі магчымымі відамі каштоўных камянёў Вакол стаялі замест крэслаў антычныя трыклініі, накрытыя пурпурнымі тканінамі. Форткі дзвярэй рэзка расчыніліся.

Праз іх увайшлі павольна і ўрачыста, пара за парай дванаццаць ліктараў з насаджанымі на пукі прутоў бліскучымі ліктарскімі сякерамі на плячах; за імі дванаццаць консулаў, а далей яшчэ доўгі шэраг высокіх саноўнікаў, афіцэраў сенатараў саслоўных коннікаў з бліскучымі пярсцёнкамі. Затым з'явіліся дванаццаць дэкламатараў з вялікімі папірусавымі скруткамі і дванаццаць маладых прыгожых жанчын, чые доўгія вопраткі (stolae longae) амаль затульвалі іхнія абкручаныя раменьчыкамі ногі; і ўрэшце дванаццаць увенчаных маладых рабоў, чые доўгія валасы рассыпаліся на плячах. Усе размясціліся ля стала: дванаццаць консулаў першымі; ліктары сталі за іхнімі спінамі. Рабы ўнеслі аблупленае яйка на чорным этрускім блюдзе, абкладзеным свежымі ружамі. Потым увайшла грэчаская рабыня, прыўкрасная, як Венера, калі тая выходзіла з мора; вэлюм, белы і лёгкі, як пена хваляў, ахутваў яе; у ейныя цёмныя локаны былі ўплецены стракатыя кветкі. У адной руцэ яна трымала сасуд з пеністым віном, у другой чэрап. З паклонам і чароўнай усмешкай яна падносіла абодва прадметы да кожнага з гасцей са словамі: tuton horeôn, pine te kai terpeu, apotneskôn gar eseai toiutos![1] (Глянь на гэты чэрап, спявай весяліся, бо калі памрэш, станешся такім самым). Госці сапраўды пачалі весяліцца; рабы напаўнялі кубак за кубкам.

Потым з'явіліся яшчэ слугі паставілі на стол мурэну, вустрыцы, галовы дзікоў, духмяную цыбулю і фаршыраваныя свіныя страўнікі, якія зноў напоўнілі залу прывабным пахам ежы, — а пазней дадалося яшчэ шмат іншых антычных страваў. Усе елі і пілі, і добра бавіліся

У пэўны момант адбылася змена страваў Яблыкі найпрыгожых жоўтых і чырвоных фарбаў, складзеныя пірамідамі ў шкляных кошыках, упрыгожылі стол. Каля кожнага кошыка стаяў гляк з старым фалернскім віном.

Тады наперад выйшаў адзін з дэкламатараў, разгарнуў скрутак і прадэкламаваў грэчаскую трагедыю з шляхетным пафасам, спакойнай сілай і стрыманым запалам Госці адказалі яму крыкамі захаплення, а многія з іх паднялі свае цяжкія галовы з падушак, каб паляскаць у ладкі. Толькі консулы вытрымалі гордую веліч свайго высокага становішча. Другі дэкламатар заспяваў застольную песню Анакрэона, і ўсе падпявалі яму

Тым часам першы дэкламатар наблізіўся да Убэрта і спытаў яго: ці ён ведае консулаў. На адмоўны адказ ён сказаў· "На правым баку сядзіць патрыцый Эміліюс, прыгожы, дастойны чалавек; ягоны твар — сама ўсмешка; ён — сама ветлівасць. Ты не паверыш, але ён надзвычайны ваяр; заўтра ты ўбачыш яго, поўнага непахіснай рымскай мужнасці, у баі за выратаванне сваіх і свайго недарэкі — военачальніка легіёнаў Паглядзіш хоць раз на гэтага дзікага ваяра! Ён плебей, але ганарыцца сваім нізкім паходжаннем высокім

[1] Паводле Герадота.

уладным пастом, якім узнагародзіў сябе праз уласныя заслугі. Заўтра Цэрэнціюс Варо галоўнакамандуючы, і ён адважыцца атакаваць жахлівага Ганібала — ага! а вось і сам фінікіец!"

Як толькі ён са страхам выкрыкнуў гэта, форткі дзвярэй зноў расчыніліся. Малы, непрыкметны чалавек з жоўта-смуглым тварам і слязлівымі ў чырвоных кругах вачыма падбег да стала, узняў пагрозліва правую руку і закрычаў грамавым голасам: "Хаэдраэнэх!"[2]

Ад яго слова стол рассыпаўся: залатыя і срэбраныя сасуды, крыштальныя вазы, яспісавае блюда, рубінавыя кошыкі — усё абярнулася ў чарапкі, якія са звонам апалі на зямлю. Каштоўныя бліскучыя строі гасцей разляцеліся, як лахманы ці павуцінне; людзі вокамгненна ператварыліся ў шкілеты, якія з грукатам забегалі па зале. Толькі Ганібал стаяў нерухома і глядзеў на танец касцякоў.

Калі ўсе мерцвякі супакоіліся, Ганібал падышоў да Убэрта, і той раптам пазнаў у ім свайго гаспадара Радольфа. "Ты бачыш у маёй асобе, — сказаў Радольф глухім і самотным голасам, — нешчаслівейшага з усіх смяротных — о! маё няшчасце якраз у тым, што я не магу залічыць сябе да іх, бо дагэтуль, ужо дваццаць стагоддзяў, я не магу дасягнуць апошняй мэты чалавека — смерці. Ты магчыма чуў, што ў Біцініі я прыняў атруту, каб не патрапіць жывым у рукі рымлян? Гэта ўсё праўда, але яна мне не дапамагла, багі прыгаварылі мяне да жыцця. За-тое, што пасля сваёй апошняй вялікай перамогі я не выкарыстаў яе для разбурэння Рыма, багіня – патронка маёй радзімы, высокая, валавокая Гэрэ прысудзіла мне такое пакаранне: я павінен жыць і кожную ноч паўтараць з маімі смяротнымі ворагамі гэтую гульню, якой ты быў сведкам, — да пары, пакуль не знойдзецца рымлянін, які падорыць мне дастойную ваяра смерць." "Няшчасны! — сказаў Убэрта. Той, каго ты шукаеш, перад табой; я — рымлянін пазбаўлю цябе ад закляцця!"

Ён прыставіў пістоль да грудзей карфагенца. Прагрымеў стрэл. Ганібал, шкілеты, вялікая зала зніклі. Убэрта сядзеў, ахутаны парахавым дымам

Дым рассеяўся, Луіджы ляжаў нежывы, акрываўлены — насупраць яго: у сне ён забіў свайго лепшага сябра.

Праз некалькі гадоў адзін з землякоў знайшоў Убэрта ў шпіталі для вар'ятаў у горадзе Тоджыа. Гартэнзію і яе дзяцей не адшукалі ніколі.

[2] Карфаген (паводле "Фенулуса" Платона).

# ЗАЛАТАЯ ВЫСПА

*Паўдзённы сон*

Колькі гадоў назад прыгожым днём у сярэдзіне лета я пайшоў паляваць качак. За вярсту ад маёй хаты было балота, якое з трох бакоў абкружала невялікую выспу; на яе вяршыні я разглядзеўся, ці можна адсюль пастраляць па вывадках. Часу было яшчэ досыць, каб пахадзіць па балоце і задаволіць мой і майго чатырохногага сябра паляўнічы імпэт. Таму мы падышлі да стога сена пасярод выспы, каб адпачыць і аднавіць сілы; там мы сустрэлі селяніна, нашага суседа, які, не зважаючы на сабачы брэх і частую страляніну, уладкаваўся ў стозе і спакойна драмаў у паўдзённай спёцы. Толькі я падышоў, як ён прачнуўся, я прысеў побач, каб завязаць размову. Нейкі час яна круцілася вакол ягонага ўдалага сенакосу, спрыяльнага для касьбы на выспах надвор'я, багатага ўраджаю збожжа, што стаяла па навакольных палях, г.д., потым ён спытаў мяне, ці я ведаю, што было некалі на гэтай выспе Я адказаў, што не "Некалі, — сказаў ён, — тут быў маёнтак, які называўся Гюльдэнхольм[1]. Мой прадзед распавядаў, са слоў ягонага прадзеда, што некалі тут выкопвалі камяні муроўкі; той аднойчы нават знайшоў тут старую заіржавелую шаблю і некалькі розных жалязяк" Я агледзеўся вакол, як чалавек, які ўпершыню аказаўся на такім знаным месцы, і падзівіўся, што колькі тут хадзіў, а ніколі не заўважаў прыкмет былога. Мае вочы нібы раптам расплюшчыліся, і я выразна распазнаў, што пагорак сярод гэтага балоцістага наваколля мог быць створаны толькі чалавечымі рукамі вузкі праход з сушы на выспу быў верагодней за ўсё пракладзены праз замкавы роў на тым месцы, дзе некалі знаходзіўся пад'ёмны мост Нават зямля адрознівалася ад той, што была ў наваколлі, і сведчыла пра сваё штучнае паходжанне. Я паглыбіўся ў думкі Селянін, які, відаць, палічыў, што Оле Лукое таксама завалодаў мной, пакінуў мяне, гукнуўшы: "З Богам! Прыемных сноў!" І пайшоў да працы.

"Вось сядзіш ты тут, — думаў я, — на старым замчышчы, нават руіны якога зніклі! Ні адзін камень не сведчыць аб былой пыхлівасці гэтага стварэння чалавечага. Ад той скалападобнай забудовы нічога не засталося, акрамя аднаго імя Памяць аб магутным родзе, некалі квітнеючым валадарстве, аб яго подзвігах і яго падзенні звязана толькі са словам, што сёння можа ў апошні раз з'явілася на чалавечых вуснах. Робіцца вусцішна, калі азіраешся на хаду часу, які не задавальняецца разбурэннем і зніштажэннем, а, здаецца, заспакойваецца толькі, калі цалкам абрыне сваю ахвяру ў забыццё Над гэтым магутным замкам, што так хутка знікнуў з твару зямлі і нават з памяці, селянін наладжвае сваю касу; ён спявае, а тым часам Смерць махае **сваёй** касой над ім самім і скора скосіць і яго, як ён — траву. "На надмагіл-лі, — спявае Асіян, раскладае паляўнічы ў

[1] Залатая выспа (дацк.).





паўдзённы час свой харч Хто можа спачываць тут? — кажа ён і йдзе далей з бяспечным свістам. Не раз пытаўся я пра тое, чаму час не пакінуў табе магілы, безыменны чалавеча! Але — чым ты быў побач з каралём Сэльмам, героем і песняром герояў? І хіба ўжо нават ягонае існаванне не пад пытаннем у нашчадкаў? Толькі твая арфа выратавала ягоны меч ад забыцця, скальд абяссмерціў караля" Пад гэтыя разважанні я задрамаў і прысніў сон, фантастычныя трызненні якога могуць заняць месца сапраўднай гісторыі, якая цяпер незваротна пахавана ў бяздонным моры часу

Я стаяў на пляцоўцы высокай вежы, адкуль адкрывалася большая частка Гадс-Герэда аж да мора, да самых Самсё і Гэльгэнэса. Навокал пада мной віднелася, як люстранае возера, балота, дзе я нядаўна паляваў Я пазнаў навакольныя вёскі, але бракавала цэркваў, нешта падобнае на іх бачна было толькі ў Торыльдзе і Рандлеве. Абедзве яны стаялі без званіц, а апошняя была, як падалося мне, пакрыта дошкамі. "Няўжо, — закрычаў я, гэта сапраўды рандлеўская царква?" "Пра якую гэта ты царкву трызніш? — пачуў я побач голас -Тое, што ты бачыш, ёсць капішча багіні мора, жудаснай Ран. Ты не ведаеш, што менавіта тут маракі пасля караблекрушэння ўскладаюць свае дары за выратаванне ад бяды на моры? Там выява багіні абпырскваецца крывёю марака, якога штогод выбіраюць па жэрабю?"

Я азірнуўся ўбачыў старога з белымі валоссем і барадой, апранутага ў доўгую і прасторную апранаху такога ж колеру, падпяразаную шырокім скураным пасам. На грудзях у яго вісеў чорны крыж. "Хто ты?" — спытаў я здзіўлена. "Слуга суса Хрыста, — адказаў ён, кланяючыся — Віліброд Брытанскі" "Не смяшы мяне, стары! — сказаў я — Віліброд жа памёр тысячу гадоў назад" "Сапраўды так, — адказаў ён, — тысячу гадоў назад я памёр чацвёрты раз як сямідзесяты тлумачальнік у Александрыі; але цяпер я нарадзіўся ў пяты раз як брытанец Віліброд" "Гэта яшчэ большая бязглуздзіца! — крыкнуў я. — Ты мяне за дурня маеш? Скажы мне які цяпер год?" "Год васьмісоты ад нараджэння Збаўцы!" адказаў ён. "Наша летазлічэнне, гукнуў я са смехам, супадае амаль цалкам, толькі ёсць маленькая розніца ў тысячу гадоў!" "Ты сніш, маладзён! — запярэчыў ён з усмешкай — Або ты зазірнуў надта глыбака ў рог з брагай". "Калі я п'ю, то п'ю са шклянкі, а не з рога. Брага мне не да смаку; гэта напітак сялян. Але ты, бацька, можа, і прыклаўся да бутэлькі з гарэлкай!" "Гарэлка? — крыкнуў ён — Такога віна я не ведаю, гэта, мусіць, нейкі старасвецкі лікёр, я гатовы паверыць, што ты згадваеш якраз тыя часы". "Я ўспамінаю пра патоп грэшнікаў? Колькі мне можа быць гадоў, як ты думаеш?" — спытаў я. "Нешта каля дваццаці, адказаў ён, — ад твайго пятага існавання. Але тваё здзіўленне і смех я магу добра патлумачыць, таму што ты, вядома, нічога не ведаеш пра перасяленне душы?" "Чаму не! — сказаў я. — Піфагораў летуценнік Гіпатэс не чужы для мяне, як і яшчэ больш шалёныя егіпцяне" "Слухай, слухай! — закрычаў ён. — Зноў успаміны! Гэта проста цуд. Але калі ты сапраўды думаеш так, чаму ты тады сумняваешся ў перасяленні душ? Я кажу табе: той паганскі філосаф быў сапраўды на шляху да ісціны Ягонае вучэнне было падобным да сапраўднага хіліязму Я якраз пераконваю цябе, што цяперашні свет будзе існаваць у цэлым сем тысяч гадоў; ў гэты перыяд часу кожны чалавек сем разоў народзіцца і сем разоў памрэ, перш чым ачысціцца для ўваскрашэння Але толькі нямногім дадзена, як табе, даведацца нешта пра будучыя жыцці", "Павер, — адказаў я, — бо гэта праўда. у мяне такое ўражанне, быццам я ўпершыню на гэтым свеце" "І ўсё ж, працягваў ён, ты быў тут чатыры разы раней" "У чатыры разы больш, чым я лічу! крыкнуў я — Да чаго ж вясёлы атрымаўся шпацыр Якім, пэўна, монстрам я выглядаў, калі першы раз хадзіў па гэтай дзіўнай кулі?" "Паспрабую, — сказаў ён, — высветліць" Ён дастаў кнігу з халдзейскімі пісьмёнамі пачаў узірацца то ў яе, то ў мяне, а пасля некаторага роздуму згарнуў кнігу і сказаў: "Першы раз ты ўбачыў святло на беразе Тыгра, калі я вычытаў слушна, і зарабляў на хлеб прадказальнікам у Джубала" "Ага, — перапыніў яго я, — адсюль, відаць, мая прага да музыкі; ну, а другі раз?" — "Ты быў служкам на паляваннях Німрода". — "Кіньце кпіны, ваша экселенцыя! — закрычаў я. — Што гэта вы балбочаце пра маю страсць да палявання? Хіба лепш забіваць звяроў, чым людзей? Застрэліць дзікага звера, ці гэта меншы грэх, чым забіць прыручанага? Ці не больш жахліва ўсадзіць кулю ў сэрца аленя, чым перарэзаць горла ягняці, якое ліжа руку забойцы, варыць жыўцом ракаў, вырываць язык у індычкі? Але я заўважыў, што вы належыце да сентыментальных душ, якія плачуць над мёртвай лісой, і захапляюцца бітвай, у якой забіты і скалечаны тысячы людзей — ну, што далей!" "Праз тысячу гадоў, — працягваў ён, — ты ўзнік у Грэцыі як падмайстра ў Амфіёна" — "То быў дастойны будаўнік, сказаў я, — ён не карыстаўся ні вугольнікам, ні адвесам, а толькі вуснамі і лірай: і так камяні і калоны ў танцы забудоўвалі знакаміты горад Фівы То было мастацтва — шкада, што я цяпер зусім забыў яго! Прынамсі, твая выдумка ёсць адной з папулярных цяпер алегорый, паветраныя замкі я магу будаваць лепш за ўсё іншае" "У чацвёрты раз, — сказаў Віліброд, — ты быў шатландскім друідам". "Слушна! — падхапіў я. — Гэтым я магу патлумачыць маё захапленне спевамі горных каралеўскіх скальдаў. Але ў пяты раз, пасля ўсёй гэтай пышноты, пабыўшы белетрыстам, царскім паляўнічым, архітэктарам і, здаецца, прыдворным жрацом у шатландскага ўдзельнага князя, я ўсяго толькі студыёзус тэалогіі". Віліброд спалохаўся: "Пачуць лацінскія словы з тваіх паганскіх вуснаў — гэта напаўняе мяне панічным жахам Але ты сам не ведаеш, што кажаш; дух, хаця ніякім чынам ён не належыць да добрых

духаў, — прамаўляе тваімі вуснамі прарочыя словы, а гэта відавочна паказвае, што табе прадвызначана яшчэ адна тысяча гадоў Каб ты быў больш дастойны іх, я найперш вырву з цябе злы дух" "Што? — крыкнуў я. — Ты сапраўды лічыш мяне апантаным?" "Безумоўна!" адказаў ён і адразу прамовіў лацінскую формулу заклінання. "А цяпер, — працягнуў ён, — цябе трэба пахрысціць". "Ты што, з баптыстаў? — спытаў я. — Ці ты не верыш, што я ўжо хрышчаны адзін раз?" "То было паганскае хрышчэнне, сын мой! — адказаў ён. — Твой бацька Асмунд, які згінуў у пякельным агні, праліў ваду на тваю галаву і назваў цябе Торстэнам". "Мяне завуць Торстэн?" — спытаў я "Не саромся больш, хлопча! закрычаў ён — А хадзі за мной хрысціцца!" З гэтымі словамі ён схапіў мяне за руку і паляцеў да мора. "Апошнюю частку свайго паганскага імя ты захаваеш, — сказаў ён — Яно азначае Петрус"[2]. І ён акунуў мяне ў ваду. Калі я вынырнуў, то адчуў ўздзеянне, адваротнае ўздзеянню водаў Леты; гэта значыць, я згубіў нязмытыя ўспаміны аб мінулым, а забыўся пра ўсё маючае адбыцца.

Мне больш у галаву не прыходзіла сумнявацца, што я быў селянінам Торстэнам на Залатым Астраўку, або што там быў крывавы ахвярнік Раны, які я бачыў на поўнач ад свайго маёнтка. Мяне больш не здзіўляла, што Одэр, — родны горад славутага Одэра Магутнага, і Фалінг, ад якога паходзіць прозвішча Свэна Фэлдзінга, не мелі цэркваў; што ў храме Тора ў Торыльдзе бракавала званіцы, а караблі плавалі пад ветразямі ў заліве, дзе цяпер дрыгва, і які амываў мясцовасць Гад і ўтвараў там возера Гацісё; што я то біў па струнах арфы, то ваяваў; што ў мяне звінеў на баку доўгі двухручны меч па імені Скрэп работы знакамітага Ваўлундура; што на мне быў кафтан са скуры аленя, доўгія, шырокія штаны з грубога сукна, лапці на нагах і скураны шлем на галаве — усё было як трэба пасля майго хрышчэння "Слухай, ты, незнаёмец! — пачаў я. — Я патрабую ад цябе кампенсацыі за тое, што ты кінуў мяне ў ваду; ты, відаць, моцны дзяцюк, але заслужыў, каб я табе ўсыпаў пару разоў Аднак спачатку ты павінен пакаштаваць брагі маёй маці і яе прагорклага сала!" "За брагу дзякуй, — адказаў ён А сала не ем" "Можна і каніны", — перапыніў яго я "Каніну, крыкнуў ён, — я не ем ніколі, і наогул па пятніцах нічога мяснога" "Смешна! — сказаў я — Ці не смакуе мяса таксама ж добра ў дзень Фрайра, як і ў дзень Тора?[3] Але вунь ідзе з палявання мая нявеста Сванвідэ[4] Я бачу, яна настраляла дзічыны нам на вячэру — ці ж не прыгожая яна, як валькірыя? Ці не выдатна пасуе ёй вузкая паляўнічая куртка і гэтая кароткая спадніца? Толькі паглядзі, як лёгка яна валодае дзідай, проста жах! За яе я перамог пяць ваяроў — сёння ўвечары ты будзеш баляваць за маім сталом, а раніцай мы будзем біцца" "Я ніколі не б'юся, о, малойча!" сказаў ён "Недарэка! закрычаў я — Тады сядзі і мерзні ў Рагнарокра ў Ніфльгайме і забаўляйся з прыгожай дачкой Сігюна ці бледнатварай Гэлай!" "Тое, што гэта не баязлівасць забараняе мне змагацца з табой, — сказаў ён спакойна, ты хутка зразумееш" З гэтымі словамі ён схапіў мяне за грудзі, некалькі разоў пакруціў над галавой і паставіў на месца. "Я заўважыў, закрычаў я, — што ты чараўнік; але мая маці Гунільда таксама чаруе на магутных рунах, толькі пра гэта пасля! Хадзі за мной ў замак!"

Каля пад'ёмнага моста мы сустрэлі Сванвіду Яна стукнула мяне дзідай: "Гэта табе пакаранне за тое, што цябе не было тры дні без майго дазволу! — сказала яна з усмешкай. — Можа ты зноў паслаў якога суперніка ў Вальгалу?" "У Гальдзе, — сказаў я, — яны цяпер без адпачынку насыпаюць зямлю і камяні на курган маладога Сівальда. Але ці бачыш ты гэтага незнаёмца? Ён наш госць сёння ўвечары" "Сярдэчна запрашаем! сказала яна. Ты адзін з жрацоў Тора? Здаецца мне, ты носіш на грудзях знак ягонага молата" "Гэта не молат Тора, — адказаў ён, — а Крыж, якому, я спадзяюся, вы скора будзеце пакланяцца" "Я пакланяюся Фрэі!" — крыкнула яна з хітрай усмешкай. Потым падхапіла мяне пад руку, і, прытанцоўваючы, мы разам увайшлі ў замак.

Можна меркаваць, што ніхто з паважаных чытачоў не меў такога шчасця, як я, і не бачыў пакояў паганскіх продкаў, прыкмет іхняй гасціннасці: спадзяюся, што кароткае апісанне абедзвюх карцін будзе прынята добразычліва. Пакоі вельмі адрозніваліся ад сучасных: столі не мелі ні размалёвак, ні рэльефаў; з неачэсаных дошак, чорныя, яны ільсніліся ад курадыму; вялікія адкрытыя ачагі (каміны, як іх назвалі потым) рабілі печы лішнімі. Сцены без шпалер і завешаныя не замежнымі гравюрамі, а шчытамі, мячамі, лукамі, панцырамі і іншай зброяй для нападу і абароны Дарма было шукаць дываноў, крэслаў і сталоў з чырвонага дрэва або кедру; замест гэтага стаяў адзіны доўгі, шырокі, цяжкі дубовы разны стол, вакол яго драўляныя лавы, накрытыя мядзведжымі і воўчымі скурамі. Што больш за ўсё павінна было б абражаць вытанчаны густ, дык гэта тоўсты слой саломы, які закрываў усю падлогу; і хаця гэта было зручна і ўтульна для гуляк, але не дазваляла не тое што танцаваць, а нават зрабіць рэверанс Адпаведна гасцёўні былі і стравы. на адным канцы стала стаяла драўляная міса з прагорклай шынкай; на другім такая ж міса з канінай, паміж імі вялізны гляк з півам і гляк з брагай, а яшчэ кубкі, каб чэрпаць і піць. Размова, што служыла прыправай да страваў, была такой жа аднастайнай і круцілася вакол банальных тэмаў вайны і кахання. Гукі арфы і спевы, выклікі паядынкі вяршылі кожны паважны баль.

Неяк у мяне атрымалася праціснуцца паўз стол і гасцей да ачага, дзе сядзелі мая маці Гунільда разам з Вілібродам, які, як мы ўжо чулі, быў зацятым ворагам каніны і сала па пятніцах. Іх дыскусія аб праблемах рэлігіі і да таго падобным, прамаўлялася ва ўсё горла і з усёй магчымай злосцю з абодвух бакоў; кожны быў перакананы ў сваёй выключнай рацыі ва ўсіх яе аспектах. Кожны лічыў сябе адзіным абаронцам бажаства і сцвярджаў гэта праклёнамі і абвінавачаннямі, а пры выпадку — траўмамі як плоці, так і душы, як цяпер, так і навекі. Яны адсылалі адзін аднаго ў пекла таго бажаства, якому верылі. Маю маці ўсё ж скора ўзялі ў абарот; была даказана абсурднасць яе дагматычнай сістэмы; і калі яна больш была не ў стане абараняць яе аргументамі, то ўсчала крык ды лаянку (амаль як Гунільда з Ангольта, тая дама, — калі нешта ёсць у перасяленні душ Віліброда, безумоўна, была яе папярэдніцай). Урэшце, яны скончылі дыспут сапраўдным выклікам — на цуды Мая маці сказала, што яна можа словам затупіць меч, згатаваць любоўнае пітво, прымусіць гаварыць нябожчыкаў, паклаўшы ім пад язык рунічныя пісьмёны, і прапанавала суперніку паказаць тое ж самае. Але ён замест адказу выняў з каміна распаленыя да чырвані шчыпцы і самкнуў на сваёй назе Маці Гунільдзе трэба было канстатаваць паразу; але яна не хацела яе прызнаць, тым больш прыняць думку пераможнага праціўніка. Яна выбегла з залы ў крыўдзе, не сказаўшы ні слова.

На мяне гэты фокус наадварот аказаў рашаючы ўплыў. Я прысеў на свабодны трыножнік і папрасіў магутнага незнаёмца растлумачыць ясней веру, праўдзівасць якой ён здолеў паказаць так пераканаўча. Ён адразу задаволіў маё жаданне, і хаця я быў не ў стане ўсвядоміць ці ўпарадкаваць усе ягоныя догмы і тлумачэнні, галоўныя іх рысы зрабілі на мяне такое моцнае ўражанне, — яны, відаць, яшчэ не былі пабудаваны паводле афініскай сістэмы, — што на ўсё жыццё і ўсей душой я абвясціў сабе хрысціянінам Аснова асноў хрысціянскага Храма, што Бог — гэта Любоў, захапіла мой дух маё сэрца. Сэнс гэтай рэлігіі ёсць любоў да Бога, і калі ўсе людзі будуць прытрымлівацца гэтага грунтоўнага прынцыпу, то вынікам мы будзем мець усеагульную Боскую ласку Прасякнуты, распалены гэтым новым нябесна чыстым святлом, я выйшаў да гасцей і выступіў з прамовай пра абарачэнне ў веру Мяне напачатку слухалі ў маўклівым здзіўленні, потым

[2] Тор стэн камень Тора (дацк.); Петрус — лацінізаванае ад арамейскага слова "камень"

[3] Назвы дзён па-дацку: Фрэдаг (пятніца) Торсдаг (чацвер) паходзяць ад імёнаў паганскіх багоў

[4] Белая Лебедзь (дацк.).



*Руіны Канузіума.*

*Замест пасляслоўя*

# ПАЎНОЧНЫ ЛЕТУЦЕННІК

**Пякучае сонца выядала прыжмураныя вочы, мармуровыя калоны дваіліся-траіліся, надаючы антычнаму гарадзішчу прывідны, мройлівы выгляд. Гэта не Данія, гэта Канузіум на поўдні Італіі, у вобласці Пулія. На задворках Вялікай Грэцыі (як называлі сучаснікі антычнасці Апенінскі паўвостраў), куды яшчэ ў часы Нерона і Траяна ссылалі дысідэнтаў пакутаваць ад спёкі і дзікасці. Нам пашанцавала больш, чым Стэну Бліхэру. Ён так і не даехаў ніколі да цяперашняй Канозы, не прайшоў слядамі сваіх герояў. Але правінцыяльны пастар быў адным з адукаванейшых людзей свайго пакалення, паліглотам, сапраўдным еўрапейцам, выхаваным на класічнай традыцыі і Энцыклапедыі, творчая сталасць якога супала з эпохай Рамантызму. Сюжэт навелы "Неразлучныя" ён пазычыў у французскага аўтара Жуі "Пустэльнік у Італіі" Шырыня інтарэсаў, палёт фантазіі Бліхэра не ведалі абмежаванняў. Ён — класік нацыянальнай літаратуры. Аднак чамусьці ягоны погляд на свет не пераймаюць дацкія пісьменнікі нашага стагоддзя. Чытаеш Ганса Кірка, Марціна Гансэна, Вілі Сёрэнсэна: рыбачыя сеткі, гул ветру ў коміне, пясчаныя дзюны, бясконцыя дыялогі сялян закалыхваюць, кніжка выдавецтва "Гюльдэндалс" з калень ляціць на падлогу, і ты разумееш, што славутая беларуская флегма — гэта яшчэ не мяжа.**

**"Паўночнае ззянне" (так называўся часопіс, які выдаваў Бліхэр) было пуцяводным святлом пісьменніку і ягоным чытачам у драматычных падарожжах па Саксоніі часоў Вялікай сялянскай вайны, па Іспаніі ў жалезных абдымках інквізіцыі, па руінах месінскага землятрусу. Італія была мэтай паломніцтва для многіх скандынаваў XIX стагоддзя, з датчан дастаткова прыгадаць знакамітых Ганса Хрысціяна Андэрсена і Бертэля Тарвальдсэна. Абодва доўгія гады жылі ў Рыме. Першы напісаў там свой цудоўны раман "Імправізатар", другі стварыў большую частку сваіх скульптурных работ (для іх перавозкі давялося рыхтаваць цэлы карабель, аўтара і творы сустракаў увесь Капенгаген на чале з каралеўскай сям'ёй). Вікінгі зноў скаралі Еўропу, толькі цяпер не меч і шчыт, а мастацтвы служылі непераможнай зброяй экспансіі. Яе хвалі дасягнулі і Беларусі. На палацавым пагорку ў Гомелі паўстаў велічны конны помнік апошняму каралю Рэчы Паспалітай Юзэфу Панятоўскаму, выкананы Тарвальдсэнам Пазней помнік перавезлі ў Варшаву, дзе ён быў знішчаны нямецкімі акупантамі падчас апошняй вайны, і цяпер там перад радзівілаўскім палацам узвышаецца ягоная копія. А ў гомельскім парку да 70-х гадоў стаяў пастамент з адбіткамі бронзавых капытоў, пакуль руплівае начальства не загадала разбіць яго.**

**На руінах Канузіума мы не сустрэлі нікога, але, надыхаўшыся гарачага, наэлектрызаванага таямніцай паветра, праз пару гадзін усё ж трапілі ў злавесную прыгоду. У Бары (антычны Барыюм) у некалькіх кроках ад грабніцы Св. Міколы Цудатворцы на графіню Саляра дэль Борга, якая была нашым гідам, наляцеў дужы дзяцюк і выхапіў сумачку Я паспеў толькі разгледзець ягоную ўскудлачаную фінікійскую бародку і пабег следам з недарэчным крыкам: "Стой, страляць буду!" А, мабыць, трэба было гаркнуць "Хаэдрэанэх!" Закляцце Ганібала пэўна і па сёння не пазбылася сваёй сілы!**

**Постаць няшчаснага Ганібала заняла пачэснае месца сярод іншых ваяроў у пантэоне Рамантызму, побач з Гарацыямі, Напалеонам, Пікаломіні,**

адказалі лёгкімі кпінамі, спачувальна пацепваючы плячамі, а ўрэшце — злымі і пагардлівымі словамі.

У гэты момант увайшла мая маці з дванаццаццю жрацамі Раны, і калі яна пачула, як я прапаведую новае вучэнне, то закрычала: “Схапіць гэтых богазневажальнікаў і аддаць іх на заслужанае пакаранне! Хаця адзін з іх мой сын і я насіла яго пад сэрцам, але я вырву яго са свайго сэрца ўласнымі рукамі!” Я маўчаў ад жаху не мог вымавіць ані слова, але яшчэ большым стаўся жах, калі Сванвідэ, мая нявеста, сказала жрацам “Дазвольце мне правесці цырымонію ахвярапрынашэння і ўзрэзаць грудзі гэтаму злодзею!”

Уся грамада кінулася на нас і звязала нам рукі Супраціў быў дарэмны і акрамя таго супярэчыў новаму вучэнню, якім я быў прасякнуты. Віліброда і мяне звязалі разам, і працэсія рушыла да храма Раны: жрацы са спевамі спераду, мае маці і нявеста з лаянкай за імі, а ўсе госці вакол нас, прытанцоўваючы і б’ючы дзідамі па звонкіх шчытах. Падчас гэтага журботнага шэсця Вілібрpremier, — на цудоўныя здольнасці якога я марна пакладаў надзею, — спрабаваў суцешыць і натхніць мяне. “Ты бачыш, — казаў ён сярод іншага, — з якога страшнага зману ты вызвалены. Рэлігія, якую ты раней вызнаваў, ненатуральная, таму што яна нішчыць найсвяцейшыя пачуцці прыроды: мяцярынскую любоў і любоў жанчыны да мужчыны. Радуйся! Ты пампрэш смерцю пакутніка, а ўсе твае забойцы будуць вечна гарэць у пекле” Гэты апошні сказ падаўся мне больш адпаведным маім ранейшым паганскім прынцыпам, чым добраму духу хрысціянства; але не было часу спрачацца, таму што мы ўжо знаходзіліся ў храме адразу ж былі пакладзены на два шырокія камяні перад самай выявай багіні, вобраз якой пакінуў у маёй памяці непазбыўны след зялёныя космы спадалі, як бліскучае багавінне, з яе галавы, увенчанай вянком з ракавін. Серабрысты рыбін хвост выгінаўся ад пояса і канчаўся стракатымі залацістымі плаўнікам У адной руцэ яна трымала каралавую чашу, у другой рыбацкую сетку Яе вялікія, зялёныя, як мора, вочы страхавіта глядзелі на мяне. Сванвідэ, крыважэрна ўзіраючыся, ужо падняла нада мной нож, як раптам... Адбылася перамена, якую можна ўявіць толькі ў сне.

Жахлівая Ран ператварылася ў бледную і прыгожую жанчыну з дзіцём на руках. Жрацы сталіся манахамі ў расах і з танзурамі; Гунільда і Сванвідэ ўзніклі высокімі мужчынамі, апранутымі ў чорныя, вузкія бліскучыя строі і з аднолькавым маскамі на тварах Храм ператварыўся ў катоўню з чорнай абіўкай на сценах, дзе не было ніякага абсталявання, акрамя стала для катаванняў, на якім я быў распасцёрты, бізуна з пяццю абабітымі жалезам канцамі, якім інквізітар адным рухам наносіў пяць удараў па касцях; варонкі (старажытная eqvuleus), якую ўсоўваюць у рот і заліваюць вадой, што адначасна катуе і душыць; тонкіх вяровак, на якіх чалавека ўздымаюць пад столь, а потым рэзка апускаюць — і ён падае ўсім цяжарам цела амаль да падлогі, каб вяроўкі мацней урэзваліся ў ногі. Акрамя таго я ўбачыў на сценах лічы поўны гардэроб з іспанскіх ботаў; фланелевую начную кашулю, што доўга захоўвае цяпло, калі ў яе заліць кіпень алею, карокі і санбеніты[5], прыгожа размаляваныя полымем постацямі д‘ябла. “Дзе я?” — закрычаў я ад страху “Сярод сяброў! — адказаў мяккім голасам манах з салодкай усмешкай. — Мы ўсе ёсць Ісус і мы ўсе — твае сябры” “Але навошта, — спытаў я, калі сэрца трошкі супакоілася, — гэтыя пачварныя прылады? Імгненне назад мае паганскія супляменнікі хацелі забіць мяне таму, што я прыняў хрысціянства, а цяпер, калі я ваш адзінавернік...” “ ..мы хочам, — перапыніў другі манах, — толькі ўдасканаліць тваю святасць, наколькі гэта магчыма” “Чым, — спытаў я ў адчаі, мог я так хутка сапсаваць яе, ды яшчэ не маючы ўласнага намеру?” “Вось якраз пра гэта мы, — адказаў трэці, — з дапамогай гэтых прыладаў цябе распытаем Чытаў ты Біблію альбо Лютэравы пісанні, ці еў мяса па пятніцах, ці не забыўся зняць капялюш і ўкленчыць перад духоўнай асобай ды пакрапіць сябе свянцонай вадой, уваходзячы ў царкву, ці не выказваўся двухсэнсоўна пра свяшчэннае права альбо пра намесніка Бога, а можа ты выказваў богазневажальныя думкі, напрыклад, што няхрышчаныя дзеці могуць быць блажэннымі альбо што Бог можа адвесці вечны праклён ад таго, хто памёр не ў лоне адзінай святой каталіцкай царквы?.. Калі ты цяпер прызнаешся і пакаешся, мы аддамо тваю плоць у агонь, каб выратаваць тваю душу, і ўсё абыдзецца паўтузінам мільёнаў гадоў у полымі чыстца, але калі ты не прызнаеш добраахвотна свае правіны, тады мы ў славу Гасподнюю, на радасць святых анёлаў і ў навучанне ўсім прававерным хрысціянам будзем катаваць цябе па ўсіх сямі вымерах, а потым вернем тваю плоць свецкай уладзе, а тваю бессмяротную душу ў вечнае полымя” На гэтыя мілыя суцяшальныя прамовы я не знайшоў, што сказаць, толькі, зірнуўшы ў неба, уздыхнуў· “Ці я сярод хрысціян?” “Добрых, прававерных хрысціян, мой дарагі сын!” — ветліва адказаў стары з беласнежнай барадой. “О, — закрычаў я, сабраўшы ўсе сілы, — дык Локэ ягоныя дзеці, светлыя эльфы, супраць вас! Хто ты, добры Бальдур?” “Называй мяне Бальдурам! — адказала добрая істота. Называй мяне, як хочаш Праўдай, Дабрадзействам, Свабодай ці Любоўю! Я пасланнік бясконцасці і вучу людзей паміраць У тваё ахопленае страхам сэрца я ўвальлю дванаццаць кропель суцяшэння. Той, хто кіруе мільёнамі сонечных сістэмаў, хіба не можа ўнесці згоду і суладдзе ў чалавечыя душы, апантаныя барацьбой і зманам?

Ты і сам яшчэ не дасягнуў мэты, дык не асуджай тых, хто далей, чым ты, або думае, што далей! Памры з надзеяй і ты будзеш жыць!” Сказаўшы гэта, анёл узляцеў у неба. Сванвідэ выразала на маіх грудзях крыж, і я — прачнуўся

Сонца стаяла нізка ў небе. Было ціха і душна. Незлічоныя камары акружылі мяне з піскам, падобным на глухія спевы жрацоў ля ахвярніка, адзін камар сядзеў на маіх аголеных грудзях: ягонае джала было нажом жрыцы Доўга яшчэ я ляжаў узрушаны, аглушаны гэтым вычварным сном

Толькі на наступны дзень я падабраў рушніцу і паляўнічую сумку, забытыя мной на месцы, дзе духі памерлых усё яшчэ, здаецца, наведваюць тых, хто спіць.

[5] Канічныя каўпакі і балахоны, у якія інквізітары апраналі сваіх ахвяр перад пакараннем.

**Пераклаў з дацкай**
**Валеры БУЙВАЛ.**

*St. St. Blicher Gyldholm. – Noveller fra Nordlyset. København, 1963, т 1*



***Стэн Стэнсэн Бліхэр***
*выдатны дацкі празаік і паэт эпохі Рамантызму. Нарадзіўся ў 1782 г. у мястэчку Віум, у сям‘і лютэранскага пастара. У 1799 г. скончыў лацінскую школу ў Рандэрсе. У 1799 1809 гг. з перапынкамі вывучаў тэалогію ў Капенгагене. У 1810 г. малады ад‘юнкт прыязджае ў Рандэрс, бярэ шлюб з 17-гадовай удавой свайго дзядзькі. З 1811 г. пастар парафіі ў Рандлеве, дзе раней служыў ягоны бацька. З 1819 г. пастар у Торнінгу, з 1825 г. у Спэнтрупе каля Рандэрса. У 1847 г. выходзіць на пенсію. Памёр у 1848 г. у Спэнтрупе.*

***1807 09*** *пераклаў на дацкую мову вершы старажытнаірландскага паэта Асіяна.*

***1827—29*** *выдаваў газету “Нордлюсэт” (“Паўночнае Ззянне”), дзе надрукаваў шэраг сваіх артыкулаў і навел.*

***1829*** *выдаў зборнік навел “Паўночнае ззянне”*

***1838*** *выйшаў зборнік вершаў “Пералётныя птушкі”*

**Валенродам. Шаснаццаць гадоў Ганібал блукаў па Італіі, двойчы, у 216 і 209 г. да н.э., разграміў легіёны непадалёк ад Канузіума, падступаў пад муры ненавіснага Рыма, дамогся перамог, стратэгію і тактыку якіх дагэтуль вывучаюць ува ўсіх ваенных акадэміях. Згубіў свае войска, быў выкляты на радзіме, і ў сваёй апошняй бітве камандаваў рымскім флотам супраць суродзічаў-карфагенян. Вычварная фантасмагорыя ягонага жыцця падказала Бліхэру формы і вобразы, што натхнілі б любога сюррэаліста. Пераўтварэнне пышнага, велічнага Pax Romana ў танец касцякоў гучыць дысгарманічным memento mori не толькі для людзей, а для цэлых эпох. На рымскіх форумах я бачыў раструшчаныя рэшткі мёртвай імперыі: абломкі капітэляў, архітраваў, разрабаваны Калізей. Дацкі пісьменнік аднавіў усё гэта ў сваім уяўленні, у маўклівых дыялогах з класікамі.**

**Вельмі шкада, што нельга паслухаць казанне Бліхэра-пастара. Толькі аднойчы, даўно, у Рызе я стаў сведкам пастырскага слова ў лютэранскім храме. Латышскай мовы я тады яшчэ не разумеў, але назаўжды захаваў успамін пра сардэчную танальнасць голасу святара, дабрыню, якой свяціўся ягоны твар, пра сямейную цеплыню, што аб‘ядноўвала паству. Чытаючы навелы Бліхэра, я міжволі вяртаюся да гэтага ўспаміну, не адганяю яго. Наадварот, баюся неасцярожным жэстам парушыць грызайльны вітраж, праз які фонам прабіваецца святло стагоддзяў.**

**Чытаць па-дацку не больш складана, чым на якой іншай скандынаўскай мове. Бліхэр — майстар роднага слова, ягоны стыль не набыў банальнасці ні ад хрэстаматыяў, ні ад школьных праграм. Як Багушэвіча, Дуніна-Марцінкевіча, яго немагчыма зашмальцаваць. Зусім іншае – дацкая фанетыка. Нават ас лінгвістыкі і перакладу Зміцер Колас прызнаецца, што дацкая – “гэта немагчыма”. Самі датчане кажуць, што ў іх не мова, а хвароба горла. Мой сябра Карстэн Стэр на гэта смяецца... Вуха не прымае часам цэлыя блокі словаў, моўную плынь ніяк не ахрысціш мілагучнай. Але які характар, якая собская канструкцыя, што не паддалася ні магутнаму нямецкаму суседу, ні прывабнаму англійскаму сваяку!**

**XIX стагоддзе стала, як вядома, часам нацыянальнага ўздыму “малых народаў” Еўропы. Збіраюць сілы ў імкненні да незалежнасці нарвежцы (пад шведамі), фіны (пад рускім царом), датчане вядуць дзве абарончыя вайны супраць нямецкай агрэсіі. Не забытыя нацыянальныя каштоўнасці набываюць для новых пакаленняў абсалютнае значэнне. Усё гэта разам атрымлівае назву — “скандынавізм” Архітэктура і мастацтва старажытнай паўночнай цывілізацыі, сагі, арыгінальная рунічная культура падпадаюць пад інтэлектуальную пераацэнку, заваёўваюць сэрцы навукоўцаў і мастакоў далёка па-за абшарамі Скандынавіі. Датчане, вымкнуўшы з ролі аб’екта еўрапейскай гісторыі, шмат у чым займаюць авангардныя пазіцыі: тут закладаюцца падмуркі новай навукі — перадгістарычнай археалогіі, дзейнічае рэвалюцыйная “дацкая лінгвістычная школа”, ззяе філасофскі геній Керкегара. І хаця цені дацкай мінуўшчыны дарылі натхненне і значна раней (успомнім Шэкспіра), менавіта з эпохі Рамантызму іх лятучы сон пачынае хваляваць літаратараў і мастакоў у многіх краінах. На гамлетаўскае “быць або не быць?..” нашчадкі данаў і ютаў па-скандынаўску развážліва фармулююць станоўчы адказ.**

**Навелу “Гюльдхольм” (“Залатая выспа”) можна разглядаць у пэўным сэнсе як праграмны твор эпохі. Бліхэр дае бліскучы мастацкі каментар гісторыі свайго народа. Ад часоў паганскага варварства, калі, паводле выразу храніста, “дан прадаваў у рабства дана”, праз інквізіцыйную цемру каталіцызму да... Фінальны вобраз сну галоўнага героя не паддаецца канчатковай расшыфроўцы. Але ў ім зноў гучыць шчырая рыторыка лютэранскага святара, носьбіта новай, гуманнай культуры, якой ён прысвячае свой душапастарскі і пісьменніцкі талент У неназойлівай недаказанасці, фантастычнай загадкавасці апавядання ёсць апеляцыя да чытача, імкненне захапіць ягоную душу ў вір узнёслай паэтычнай плыні. І яшчэ... Ці не нагадвае нам, беларусам, санлівы паляўнічы з ваколіц Гюльдхольма палясоўшчыка Тараса на гары Парнаскай? Ад гэтай асацыяцыі Бліхэр становіцца яшчэ больш блізкім і развітваешся з ім як з добрым сябрам.**

**Валеры БУЙВАЛ**

**КРЫНІЦА № 7**

**1997**

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СТУДЗЕНЯ 1988 ГОДА

**Заснавальнікі:**
**СП Беларусі, калектыў рэдакцыі**

**Рэгістрацыйны нумар 630**



**Выдаецца на беларускай мове**

**Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца**

**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП, вул. Кісялёва, 11**

**Званіце:**
**366-071, 366-142**

Падпісана да друку з арыгінала-макета 27 06. 97. Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера друкарская № 2. Ум.друк.арк. 13,02. Ум.фарба-адб. 14,35.
Ул.-выд.арк. 14,52.
Тыраж 2000 экз.
Кошт дагаворны. Зак. 1333.

**Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў друкарні выдавецтва**
**«Беларускі Дом друку», 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.**